"ТЭАТРАЛЬНАЯ ТВОРЧАСЦЬ"

# Культура

## БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

## 3

**Пад рэдакцыяй**
**АНАТОЛЯ САБАЛЕЎСКАГА**

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА»
1998

УДК 008(=826)(100-87)
ББК 71
К 90

Складанне і прадмова А. Сабалеўскага

Над падрыхтоўкай рукапісу да друку працавалі:
Я. Міклашэўскі, І. Стадольнік — рэдактура і пераклад з рускай мовы;
Л. Карамазава — стыльрэдактура і зверка тэкстаў;
М. Жукоўская — машынапіс

Навуковае выданне

**КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА**

**Кніга 3**

Складанне і прадмова А. Сабалеўскага

Рэдактар *Н. А. Дашкевіч.* Мастак *А. А. Кулажэнка.* Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец.* Тэхнічны рэдактар *С. А. Курган.* Карэктар *І. Л. Дзмітрыенка*

**Здадзена ў набор 16.01.98. Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 12.03.98. Фармат 84×108¹/32. Папера афсетная. Гарнітура Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 10,08. Ум. фарб.-адб. 10,08. Ул.-выд. арк. 9,81. Тыраж 800 экз. Заказ 444.**

**Дзяржаўнае прадпрыемства выдавецтва «Беларуская навука» Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. ЛВ № 13 ад 31.12.97 г. 220141. Мінск, Купрэвіча, 18.**

**Набор і вёрстка выкананы на камп'ютэрах выдавецтва «Беларуская навука».**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат ВПП імя Я. Коласа. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.**

**Культура** беларускага замежжа. Кн. 3 / Пад рэд.
К90 А. Сабалеўскага; Склад. і прадмова А. Сабалеўскага. — Мн.: Беларуская навука, 1998. — 192 с.
ISBN 985-08-0230-8.

Расказваецца пра беларускую эміграцыю ў блізкім і далёкім замежжы. Разглядаюцца праблемы адукацыі, захавання роднай мовы, аналізуюцца літаратурныя творы найбольш вядомых пісьменнікаў беларускай дыяспары. Апавядаецца пра культурнае жыццё суайчыннікаў у Амерыцы, Канадзе, Сібіры і інш.

Выданне разлічана на шырокае кола чытачоў.

**УДК 008(=826)(100-87)**
**ББК 71**

ISBN 985-08-0230-8 (Кн. 3)
ISBN 985-08-0209-X

## ПРА ПАЧЫНАННІ І ПРАЦЯГ

Для чытачоў, хто ўпершыню ўзяў у рукі выданне «Культура беларускага замежжа» — а такіх можа стацца пераважная большасць, — патлумачу мэты і задачы задуманай серыі, а таксама нагадаю хроніку некаторых падзей.

Падрыхтоўка гэтага выдання распачалася ў 1991 годзе — у перыяд, калі асабліва шырылася, набірала моц беларускае адраджэнне, калі панаваў вялікі імпэт, уздым духоўных сіл. Якраз тады згуртавалася хоць і не асабліва вялікая, але здольная, мабільная група навукоўцаў, якая распачала падрыхтоўку рукапісу першай кнігі. Фінансавую падтрымку аказвала наша Міністэрства культуры. Пад яго патранажам і задзейнічаў Часовы творчы калектыў, існаванне якога, згодна статутным правілам, доўжыцца да адзінаццаці месяцаў.

У 1992 годзе быў нанава створаны Часовы творчы калектыў, хоць склад яго не надта адрозніваўся ад першага, як і накірунак дзейнасці. За час яго існавання была падрыхтавана да выдання другая кніжка «Культура беларускага замежжа».

Асноўнае, што ставілі перад сабой калектывы, — пазнаёміць чытачоў з найбольш значнымі з'явамі на культурнай ніве, якую апрацоўвала беларуская дыяспара ў замежжы. Такая акцыя была асабліва важная для таго часу (актуальнасць не змяншаецца і цяпер), бо ў метраполіі мала што ведалі ці не ведалі зусім пра сапраўдную вартасць творчых набыткаў нашых далёкіх суайчыннікаў. Гэта можна сказаць і пра такіх славутых майстроў, як Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Алесь Салавей, Хведар Ілляшэвіч, Мікола Куліковіч-Шчаглоў. Як гаворыцца ў такіх выпадках, пералік імёнаў можна

было б доўжыць і доўжыць. Пра гэтых дзеячаў і пісалі аўтары першых выданняў. Нават быў уведзены спецыяльны раздзел «Постаці», якім адкрываюцца першыя дзве кніжкі.

У замежжы, асабліва з пасляваенных гадоў, выпускалася шмат беларускіх выданняў — газет, часопісаў, кніг, у якіх знаходзілі асвятленне самыя разнастайныя бакі нацыянальнага жыцця. У прыватнасці, публікаваліся грунтоўныя даследаванні па нашай гісторыі, культуры, змяшчаліся матэрыялы аб шматграннай дзейнасці беларускай дыяспары, даваліся ацэнкі тых ці іншых праблем, фактаў, з'яў нашай савецкай рэчаіснасці з пункту погляду, так бы мовіць, другога, замежнага, свету і г. д. Апошнім часам перыядычных выданняў, здаецца, крыху паменшала, але найбольш значныя атрымалі сталую прапіску, і цяпер цяжка ўявіць культурнае жыццё без беластоцкіх газет «Ніва» і штогодніка «Беларускі каляндар», без нью-йоркскай газеты «Беларус», штогодніка «Запісы», які рыхтуе і выдае ў Амерыцы Беларускі інстытут навукі і мастацтва. Накірункі і змест перыёдыкі аналізаваліся ў спецыяльным раздзеле, які ў «Культуры беларускага замежжа» так і называўся — «Выданні».

У трэцім раздзеле змешчаны артыкулы пра асяродкі нашых эмігранцкіх суайчыннікаў, што выконваюць аб'яднаўчую, гуртавальніцкую ролю, як Кліўлендскі грамадска-асветніцкі цэнтр «Полацак», служаць распаўсюджванню ведаў пра нашу нацыянальную культуру, як кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

З такіх і ім падобных матэрыялаў складзены папярэднія два зборнікі. Першы з іх пабачыў свет у пачатку 1993 года. Другі рыхтаваўся да друку ў вельмі паскораным тэмпе — было вялікае памкненне выдаць яго да Першага з'езду беларусаў свету ў Мінску. Дзякуючы асаблівай рупнасці і высілкам Людмілы Пятровай, якая ў той час працавала загадчыцай рэдакцыі выдавецтва (тады яно мела назву «Навука і тэхніка»), задуманае ўдалося здзейсніць. Кніга выйшла, пабіваючы рэкорды паліграфічных магчымасцей, на пачатку ліпеня 1993 года, акурат падчас работы з'езда, і, як і першы выпуск «Культуры беларускага замежжа», была прэзентавана дэлегатам і гасцям міжнароднага форуму.

Мяркуючы па шматлікіх водгуках, праца Часовага творчага калектыву ацэньвалася станоўча, і, абнадзееныя, ён намерваўся рушыць далей — прыкладна ў тым жа накірунку, натуральна, пашыраючы тэматычныя абсягі і паглыбляючыся ў змест культурна-мастацкіх з'яў. У гэтым плане аптымізмам поўніцца і прадмова да другой кнігі.

Але рэальнасць зрабіла свае папраўкі, і зусім не ў лепшы бок. Прытым пры даволі выпадковым збегу акалічнасцей: было ўзбуйнена, г. зн. рэарганізавана, Міністэрства культуры, пры якім, як адзначалася, функцыянаваў Часовы творчы калектыў, памянялася там кіраўніцтва. І яно, не зацікаўленае ў далейшай працы калектыву, не заключыла, кажучы канцылярскай тэрміналогіяй, новую дамову, і ўсё спынілася. Бо без фінансавай падтрымкі падрыхтаваць калектыўную кнігу, а тым больш яе выдаць у нашых умовах практычна немагчыма.

Распачатая справа ўсё ж доўжылася, але ўжо ў іншай форме. Рэч у тым, што Першы з'езд беларусаў свету вырашыў перыядычна раз у два гады праводзіць міжнародныя навуковыя канферэнцыі, уласна, на тую ж, што і раней даследавалася, тэму і нават пад аднолькавай назвай — «Культура беларускага замежжа». Першая такая канферэнцыя адбылася ў чэрвені 1994 года. Матэрыялы яе дзякуючы намаганням супрацоўнікаў Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны і найперш яго дырэктара прафесара Адама Мальдзіса былі падрыхтаваны да друку і апублікаваны разам з дакладамі, паведамленнямі, зробленымі на міжнароднай навуковай канферэнцыі «Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні: традыцыі, сучасны стан, перспектывы» ў пятым выпуску выдання «Беларусіка. Albaruthenica» (1995 г.).

5—6 кастрычніка 1996 года ў Мінску прайшла Другая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Культура і адукацыя беларускага замежжа», якую, як і першую, арганізавала Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». У ёй бралі ўдзел многія навукоўцы Беларусі, блізкага і далёкага замежжа. Тэматыка іх дакладаў і паведамленняў вельмі шырокая і шматстайная — гэта праблемы гісторыі, адукацыі, літаратуры, мовы, культуры, асобных відаў мастацтва і т. п.

Дык вось, у аснове трэцяга выпуску «Культуры беларускага замежжа» — матэрыялы апошняй канферэнцыі. І таму ён істотна адрозніваецца ад папярэдніх кніг і па структуры і па характары аналізу тых ці іншых з'яў, і, калі хочаце, нават па танальнасці. Але, нягледзячы на пэўную стракатасць, вартасць выдання ад такой акалічнасці, лічу, не паменшылася. У зборніку, значна больш, чым папярэднія, прадстаўнічым і на аўтараў і на ахоп падзей, культурных з'яў, падаецца і асэнсоўваецца шмат цікавых малавядомых ці зусім невядомых матэрыялаў, якія закліканы мацаваць нашу гістарычную памяць, пашыраць веды пра беларусаў па-за метраполіяй, пра іх жыццёвыя і творчыя здзяйсненні.

Рукапісы дакладаў, паведамленняў, зразумела, тых, што былі прадстаўлены прамоўцамі, ці тых з іх, хто не здолеў удзельнічаць у канферэнцыі, але затым даслаў матэрыялы для публікацыі, літаратурна апрацаваныя. Рускамоўныя тэксты перакладзены, падаюцца па-беларуску. Зроблена таксама спроба тэматычна згрупаваць артыкулы, размясціць іх у пэўнай паслядоўнасці. А ахвярна ўзяліся рыхтаваць гэтую кнігу да друку супрацоўнікі рэдакцыі часопіса «Тэатральная творчасць».

*А. САБАЛЕЎСКІ,*
*галоўны рэдактар часопіса «Тэатральная творчасць»*

*А. Сабалеўскі*

*(г. Мінск)*

## СУАЙЧЫННІКІ Ў ЗАМЕЖЖЫ

Гістарычна склалася так, што беларусы складаюць адну з самых раскіданых нацый у свеце. Яны жывуць у многіх краінах, уласна, на ўсіх кантынентах зямлі.

Пачнём з былога СССР, цяпер так званага блізкага замежжа. Перасяленне ў неабжытыя Сібір, на Далёкі Усход пачалося з XIX стагоддзя. У большасці выпадкаў яно было гвалтоўным, асабліва пасля паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Тады людзей з «гарачых кропак» высялялі цэлымі вёскамі ці нават рэгіёнамі. Некаторыя пазней, прачуўшы, што ёсць многа вольнай зямлі, добрыя прыродныя багацці, у пошуках лепшай долі выязджалі самі. Як і ў першым, так і ў другім выпадку звычайна сяліліся кампактна, разам працягвалі ладзіць беларускае жыццё. Доўга захоўвалася родная мова, нацыянальныя традыцыі, народны побыт. Нават і цяпер, у перыяд інтэнсіўнай інтэграцыі, можна выявіць выразныя адзнакі беларускай самабытнасці. Пра гэта сведчаць матэрыялы нядаўніх фальклорна-этнаграфічных экспедыцый, хоць па запісах у пашпартах, зробленых яшчэ ў даваенныя гады, жыхары лічацца рускімі.

Вялікі адток насельніцтва з Беларусі быў у час першай сусветнай вайны, калі наш край некалькі разоў акупавалі чужынцы. Людзі, ратуючыся, падаваліся на ўсход, многія там і заставаліся жыць. У 30-я гады рэпрэсіраваных з Беларусі ссылалі на Поўнач, у Сібір.

У пасляваенны і больш позні час працэс рассялення працягваўся. Людзей пасылалі на лесараспрацоўкі ў Карэлію, на асваенне цалінных зямель у Казахстан, на шматлікія новабудоўлі. Выпускнікоў-беларусаў, як і выпускнікоў другіх нацыянальнасцей, што заканчвалі наву-

чальныя ўстановы ў Маскве, Ленінградзе, іншых гарадах Расіі ды і з самой Беларусі пры размеркаванні на працу нярэдка пасылалі ва ўсе куткі Саюза. Так нашы суайчыннікі апынуліся ледзьве не ў кожнай з былых саюзных рэспублік.

Даволі вялікая колькасць насельніцтва патрапіла па-за межы цяперашняй тэрыторыі рэспублікі ў выніку дзяржаўных перадзелаў, калі этнічна беларускія землі перадаваліся іншым рэспублікам і краінам, прытым без згоды і нават без ведама іх жыхароў.

У пэўнай ступені інакш складвалася далёкае замежжа нашых суродзічаў. Эміграцыя з Беларусі пачалася з канца XIX стагоддзя, затым працягвалася ў пачатку нашага веку. Асабліва вялікія эміграцыі прыпадаюць на 10-я гады. Выязджалі шматтысячнымі групамі, але звычайна не сем'ямі, а ў адзіночку. Найчасцей маладыя людзі, якім дома не хапала зямельных надзелаў, увогуле кавалка хлеба, выпраўляліся ў далёкі свет — на Захад, пераважна на Амерыканскі кантынент — у пошуках лепшай долі. Гэта былі эканамічныя эміграцыі, і людзі, што траплялі ў зусім чужое асяроддзе, з цягам часу нярэдка трацілі свой этнас, тым больш што праваслаўных беларусаў прымалі за рускіх, а католікаў — за палякаў.

Была эміграцыя і ў час першай сусветнай вайны. Тады ў заходнія краіны выехалі і прадстаўнікі культуры, навукі, палітычныя дзеячы — вельмі значны інтэлектуальны патэнцыял рэспублікі. У даваенныя гады эканамічная эміграцыя працягвалася з Заходняй Беларусі, якую акупавала Польшча.

Розныя шляхі вялі суайчыннікаў у заходнія краіны ў час другой сусветнай вайны. Адны траплялі ў палон, іншых вывозілі на прымусовыя працы ў Германію, і далёка не ўсе потым вярталіся на радзіму. Была і даволі вялікая хваля палітычнай эміграцыі — дзеячы, інтэлектуальна найбольш моцная і нацыянальна свядомая частка нашага насельніцтва.

Дзесьці на рубяжы 40—50-х гадоў эмігранты ваеннага часу рассяляліся па многіх краінах свету: хто застаўся ў Германіі, хто патрапіў у Бельгію, Францыю, Англію, іншыя краіны Заходняй Еўропы. Найбольш жа выехалі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, у Канаду, Аўстралію.

Сёння ніхто не можа даць дакладную лічбу — колькі беларусаў жыве па-за межамі Бацькаўшчыны. Апошні перапіс насельніцтва, які адбыўся ў 1989 годзе на тэрыторыі былога СССР, выявіў значна больш двух мільёнаў, хоць гэты паказчык яўна заніжаны: многія этнічныя беларусы па самых розных прычынах цяпер не пачуваюць сябе такімі. Вельмі супярэчлівыя даныя і па краінах нашых суседзяў, што звязана, відаць, з палітычнымі ці якімі-небудзь іншымі амбіцыямі: то жыло каля шасцісот тысяч, то раптам стала дзесьці сто пяцьдзесят, і г. д. Няма хоць прыблізных звестак і па многіх краінах далёкага замежжа, асабліва па Паўднёвай Амерыцы, дзе асела вялікая колькасць беларусаў з эканамічных эміграцый. І наўрад ці можна будзе дакладна падлічыць усё гэта ў будучым.

Але і цяпер можна з упэўненасцю сцвярджаць, што па-за межамі нашай рэспублікі жыве, прынамсі, кожны трэці беларус. А навукоўцы мяркуюць, што калі б не шматлікія разбуральныя войны, якія знішчалі генафонд народа (у апошнюю вайну ў Беларусі, як вядома, загінуў кожны чацвёрты жыхар, у мінулым былі і такія бойкі, што насельніцтва скарачалася на трэць, а то і напалову), ды не рэпрэсіі, у выніку якіх таксама мільёны склалі галовы, ды не раскіданасць па ўсім свеце, то цяпер на этнічнай тэрыторыі Беларусі магло б жыць 25—30 мільёнаў чалавек.

Па-рознаму ідзе нацыянальнае жыццё ў замежжы. Асабліва змястоўна яно разгортваецца ў ЗША, дзе дзяржава стварыла адпаведныя ўмовы і дзе беларусы гуртуюцца ў розных аб'яднаннях, суполках, выдаюць цэлы шэраг перыядычных выданняў, іншай друкарскай прадукцыі і г. д. Актыўна дзейнічаюць беларусы ў Канадзе, Польшчы, Аўстраліі. Плённа працуюць грамадска-культурныя і навуковыя цэнтры ў Англіі, Германіі і інш.

Прыкметна ажывілася, асабліва ў апошнія гады, нацыянальнае жыццё беларусаў у блізкім замежжы. Арганізаваны суполкі, таварыствы ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Літве, Латвіі, Эстоніі, якія аб'ядноўваюць вакол сябе многіх этнічна свядомых людзей. Аналагічнага характару аб'яднанні ўзніклі і ў Казахстане, на Украіне, у Малдове, шэрагу іншых былых саюзных рэспублік.

З'явілася патрэба паяднаць высілкі і намаганні ў наладжванні агульнага нацыянальнага жыцця, першнаперш у галіне асветы, культуры, у абмене і распаўсюджванні яе здабыткаў, дзеля чаго — стварыць адпаведны каардынуючы цэнтр. Гэтую задачу і ўсклала на сябе новая грамадская арганізацыя — Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Зроблены ў абраным накірунку вельмі прыкметныя, значныя крокі. У канцы 1992 года быў праведзены Сход беларусаў блізкага замежжа, якія апынуліся ў вельмі цяжкім становішчы. На сходзе было ўзнята шмат балючых праблем, якія патрэбна вырашаць і кіраўніцтву рэспублікі, і ўсім нам, каб аказаць рэальную дапамогу суайчыннікам.

Летам 1993 года быў праведзены ў Мінску Першы з'езд беларусаў свету, які, без перабольшання, стаўся гістарычным. Сам час вымагае ад усіх нас духоўнага паяднання з тым, каб весці адраджэнне Беларусі і беларускасці ва ўсіх сферах жыцця, каб агульнымі сіламі змагацца з чарнобыльскай катастрофай, ладзіць лепшую будучыню, якой заслугоўвае народ.

*А. Нарбут*

*(г. Масква)*

# МАГНАЦКІЯ РОДЫ БЕЛАРУСІ І ЗАМЕЖЖА

Магнаты — гэта буйныя свецкія феадальныя землеўладальнікі, члены знакамітых родаў, якія займалі вышэйшыя пасады ў дзяржаве. Фарміраванне магнацкіх латыфундый пачалося ў Вялікім княстве Літоўскім пры вялікім князю Вітаўце (каля 1352—1430 гг.). Каб умацаваць баяраў, Вітаўт раздаваў ім землі.

Каля 1440—1548 гадоў на Літве і ў Беларусі сфарміраваўся і разросся клас шляхты (дваран), а таксама сфарміраваліся і магнаты. Паводле вайсковага перапісу 1528 года, шляхта Вялікага княства Літоўскага выставіла ўсяго 19 842 конныя воіны. З іх 23 магнацкія роды ці асобныя магнаты выставілі амаль 30 працэнтаў коней. Усяго ў Вялікім княстве Літоўскім у той час было каля трынаццаці тысяч шляхецкіх фамілій, з іх шэсць тысяч чыста літоўскіх. Калі ў XIV стагоддзі пад уладай вялікага князя было 80 працэнтаў насельніцтва, то ў 1528 годзе — толькі 30, шляхце належала 65 працэнтаў і касцёлам — 5. Шляхта была моцная колькасцю, але слабая ў параўнанні з магнатамі эканамічна.

Асабліва вялікай уладай у Вялікім княстве Літоўскім карысталіся тры найбольш моцныя магнацкія, прычым не княскія, роды: Кежгайлы, Радзівілы, Гаштольды. У модзе была нават такая прымаўка: «Кароль даў, а Гаштольд узяў». Склад магнатаў Вялікага княства Літоўскага з цягам часу мяняўся, што пацвярджаюць перапісы літоўскага войска, якія праводзіліся ў 1565 і 1567 гадах. Так, з першых шасці фамілій у канцы XVII стагоддзя засталіся (і значна ўзмацніліся) толькі Радзівілы. Патухлі магутныя роды Кежгайлаў, Гаштольдаў, Алейкавічаў, Астрожскіх, Остыкаў і некаторыя іншыя.

З перадачай Польшчы Падляшша, Валыні і Падолля ў 1569 годзе асноўныя ўладанні некаторых магнатаў, у тым ліку Хадкевічаў, Сангушкаў, якія былі размешчаны на Украіне, аказаліся па-за Вялікім княствам Літоўскім.

У другой палове XVIII стагоддзя 16 магнацкіх сем'яў валодалі 30 працэнтамі ўсёй зямельнай уласнасці ў цэнтральнай і заходняй Беларусі. Самым буйным магнатам не толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй Рэчы Паспалітай быў у той час Карл (Карал-Станіслаў) Радзівіл (1733—1790), яму ў адзінаццаці паветах належала 36 000 «дымоў», гэта значыць 14 працэнтаў ад іх агульнай колькасці. Займаючы высокія дзяржаўныя пасады і валодаючы вялікімі багаццямі, магнаты не заўсёды імкнуліся толькі да іх прымнажэння. Звычайна ў маладосці яны атрымлівалі выдатную адукацыю ў лепшых універсітэтах Заходняй Еўропы. Затым у іх была своеасаблівая «стажыроўка» пры якім-небудзь двары, і таму яны былі добра падрыхтаваныя і да дзяржаўнай дзейнасці. Выдатна разбіраліся ў мастацтве і гаспадарчых справах. Яны часта станавіліся мецэнатамі, садзейнічалі будаўніцтву бабораў, школ, друкарняў, развіццю гандлю і рамёстваў. Стваралі культурныя цэнтры — Нясвіж і Оліка пры Мікалаю Чорным (1515—1565) і Міхаілу-Казіміру Рыбаньку (1702—1762) Радзівілах; Ружаны, Дзярэчын, Зэльва — пры Аляксандру-Міхаілу Сапегу (1730—1793); Пулавы — пры Адаму-Казіміру Чартарыйскім (1734—1823). Антоній Тызенгаўз (1733—1785) кіраваў каралеўскімі эканоміямі ў Беларусі і Літве. Па яго ініцыятыве ў Гродне былі заснаваны мануфактуры, пабудаваны комплекс Гародніца, створаны тэатр, капэла, школы, закладзены батанічны сад і г. д.

Радзівілы былі ў Беларусі першым па значэнні родам. Яны займалі ў XV—XVIII стагоддзях у Вялікім княстве Літоўскім вышэйшыя дзяржаўныя і ваенныя пасады. Трое з іх былі епіскапамі. Да XVI стагоддзя яны валодалі на Беларусі Гераненамі, Давыд-Гарадком, Клецкам, Койданавам, Копысем, Лахвай, Мірам, Нясвіжам і г. д. На Украіне — Олікай, у Польшчы — Шыдлоўцам і інш. У 1612 годзе да іх перайшло Слуцкае княства. Яны мелі сваё войска і крэпасці: Віржы, Кейданы, Любчу, Мір, Нясвіж, Слуцк. У XX стагоддзі валодалі маёнткамі ў Францыі і Італіі. Радзівілы — адзін са старэйшых родаў у

Вялікім княстве Літоўскім: яны паходзяць ад легендарнага роду Даўспрунгаў.

Нясвіж вядомы з 1223 года, з 1492 года належаў Кішкам. У 1513 годзе Ганна Кішка выйшла замуж за Яна Радзівіла, і пасля яе смерці Нясвіж стаў уласнасцю Радзівілаў. Мікалай Чорны з 1547 года — князь Рымскай імперыі на Оліку і Нясвіжы, з 1550 года — канцлер Вялікага княства Літоўскага, вялікі прыхільнік кальвінізму, дабіўся для Нясвіжа розных прывілей і льгот. Пры ім у Нясвіжы была заснавана першая ў Беларусі друкарня, якая выкарыстала кірылаўскі шрыфт («Катэхізіс» — 1562 г.).

Мікалай Крыштаф-Сіротка (1549—1616) — з 1590 года ваявода трокскі, з 1604 — віленскі. У 1586 годзе ён з братамі заснаваў ардынацыі (маяраты), у тым ліку Нясвіжскую. Стаў вядомым мецэнатам, апекаваў Віленскую акадэмію, шмат падарожнічаў. Міхаіл-Казімір Рыбанька — ардынат нясвіжскі з 1744 года, ваявода віленскі і гетман Вялікага княства Літоўскага. Мецэнат, заснаваў у Нясвіжы друкарню, адкрыў кадэцкі корпус. Яго жонка Францішка-Уршуля (1705—1753) з роду князёў Вішнявецкіх стварыла Нясвіжскі прыдворны тэатр, для якога напісала 16 твораў. Тэатр працаваў у 1740—1791 гадах.

Уплыў магнатаў на фарміраванне культуры Беларусі вялікі. Аднак часта быў значным і іх уклад у развіццё культуры і адукацыі беларускага замежжа. На гэта ўказвае і аналіз радаслоўных 27 магнацкіх родаў Вялікага княства Літоўскага ў «Генеологии Белоруссии» (выпуск 2—4, 1994—1996).

*У. Галуза*

*(г. Новасібірск)*

# БЕЛАРУСЫ СІБІРЫ: ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ

З'яўленне першых выхадцаў з Беларусі ў Сібіры адзначана ў канцы XVI стагоддзя. Так, у Румянцаўскім летапісе паведамляецца, што ў паходзе Ермака прымала ўдзел да 300 чалавек «літвы»[1]. Д. Садоўнікаў лічыў, што гэтая «літва» была выкуплена Строганавымі з палону ў нагайцаў[2]. Ёсць меркаванні, што паплечнікі Ермака Мікіта Пан і Чэркас Аляксандраў былі з «літвы»[3]. Чэркас Аляксандраў меў яшчэ прозвішча «Корсак» (па-беларуску — каршун), характэрнае для полацкай шляхты. «Літва» прымала актыўны ўдзел у закладцы Цюмені (1583—1584), Табольска (1587), Сургута (1593), а таксама ў будаўніцтве Тары (1594) — першага кроку рускіх у глыб Азіі[4]. Людзі «літвы» ўдзельнічалі ў разгроме войскаў хана Кучума ў 1598 годзе недалёка ад цяперашняга Новасібірска[5].

У Маскоўскай дзяржаве «літвой» называлі жыхароў шматнацыянальнага Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ), у якім дзяржаўнай мовай была беларуская, а беларусы складалі большасць насельніцтва. У 1569 годзе ВКЛ аб'ядналася з

---

1 Румянцевский летописец: Вид А // Полное собрание русских летописей. М., 1987. Т. 36. Ч. 1. С. 32.

2 Садовников Д. Наши землепроходцы: Рассказы о заселении Сибири (1581—1712). М., 1905. С. 18.

3 Скрынников Р. Г. Сибирская экспедиция Ермака. Новосибирск, 1986. С. 179; Бузукашвили М. И. Ермак. М., 1989. С. 65; Ромодановская Е. К. Погодинский летописец // Сибирское источниковедение и археология. Новосибирск, 1980. С. 58.

4 Катанаев Г. Е. Западно-сибирское казачество и его роль в обследовании и занятии русскими Сибири и Средней Азии. СПб., 1909. С. 4, 66.

5 Щеглов И. В. Хронологический перечень важнейших данных из истории Сибири: 1032—1882 гг. Сургут, 1993. С. 32, 50.

Польскім каралеўствам у федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую (РП), з якой Маскоўская дзяржава да 1795 года вяла на тэрыторыі Беларусі працяглыя войны.

Масавае перасяленне жыхароў ВКЛ у Сібір адзначана ў канцы XVI і ў XVII стагоддзі. Маскоўскі ўрад глядзеў на ссылку ў Сібір як на сродак яе засялення. П. Н. Буцінскі прагледзеў архівы Міністэрства замежных спраў і Міністэрства юстыцыі ў Сібірскім прыказе, а таксама апублікаваныя з 1593 да 1645 года выданні гістарычных актаў і выявіў да 650 чалавек ваеннапалонных, якія былі ў гэты час «иманы на бою і в языцех»[6]. Сярод іх была і «літва». Напрыклад, у грамаце ад 4 студзеня 1599 года верхнетурскаму ваяводу паведамлялася аб пасылцы да яго вялікай групы апальных людзей, сярод якіх была «літва» і «...быти им на Березове на житие и на «службе»...»[7]

Н. Н. Аглаблін піша, што ў імянных «росписях» служылых, сасланых у Сібір, фігуруюць галоўным чынам ссыльныя групы «літва», або «літоўскага спіска», «...куды заносіліся беларусы, палякі, «чаркасы», немцы і інш.»[8] Гэта былі ваеннапалонныя («вязні», «языкі»), узятыя ў працяглых войнах з РП. Так, у жніўні 1633 года ў Томск прыслалі вялікую групу «литовских людей». Большасць новапрысланых было з Беларусі, ураджэнцы «паветаў» Мсціслаўскага, Крычаўскага, Аршанскага, Магілёўскага, Прапойскага і інш.[9] Абсалютная большасць «літвы» — шляхціцы і дзеці баярскія, казакі «літоўскага спіска» — прызначалася на службу пасля прыняцця праваслаўя, астатнія — у стральцы. Яны добра ведалі ваенную справу, грамату і адразу ж прыраўноўваліся ў правах з астатнімі служылымі.

У Сібір ссылаліся і літоўскія сяляне, якія паступалі ў распараджэнне земляробаў. Так, у 1617 годзе ў Томск паслалі тры партыі літоўскіх пахалкаў (сялян): адну —

---

[6] Буцинский П. Н. Заселение Сибири и быт первых ее насельников. Харьков, 1889. С. 198.

[7] Лешчанка Г. Ф. Беларусы-перасяленцы ў Сібіры: Канец XVI—XVII ст. // Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамад. навук. 1982. № 5. С. 75—82.

[8] Оглоблин Н. Н. Обозрение столбцов и книг Сибирского приказа (1592—1768 гг.). М., 1895. Ч. 1. С. 132.

[9] Оглоблин Н. Н. Заговор Томской «литвы» в 1634 г. Киев, 1894. С. 7.

колькасцю 60 чалавек, другую — 99, і трэцюю — 75 чалавек, і ўсіх іх было загадана «раздать пашенным крестьянам для пашеннаго науку»[10]. На працягу ўсяго XVII стагоддзя «служылая літва» складала значны працэнт ад усяго служылага насельніцтва гарнізонаў Сібіры ажно да Мангазеі, Енісейска, Якуцка. У Томскім гарнізоне яна складала ад 10 да 20 працэнтаў[11], у Кузнецкім — ад 15 да 40 працэнтаў[12]. У ваеннай і палітычнай гісторыі Сібіры XVII стагоддзя добра вядомыя імёны Багдана Аршынскага (родам з Оршы), Якава Тухачэўскага (смаленскі шляхціц).

Гісторыкі адзначаюць пэўную ролю служылых людзей «літоўскага спіска» ў гаспадарчым і культурным развіцці Сярэдняга Прыоб'я. Яны будавалі замкі, мелі ворную зямлю. Па атласу Рэмізава (1701 г.) Д. Н. Белікаў налічваў 90 рускіх паселішчаў на агромністай прасторы Томска-Кузнецкага раёна[13]. Сярод іх знаходзіліся і паселішчы, заснаваныя служылымі людзьмі «літоўскага спіска». Так, у Сасноўскім стане яны заснавалі сёлы Балахіно, Гутава, Літвінава, Круглікава. У 1657 годзе Юрый Ядлоўскі кіраваў будаўніцтвам Сасноўскага астрога, у 1684 годзе Юрый Сабалеўскі — Уртамскага, а ў 1703 годзе Аляксей Круглікаў — Умравінскага. К канцу першай чвэрці XVIII стагоддзя «літва» прыняла актыўны ўдзел у асваенні амаль двух дзесяткаў вёсак з 200 вядомых у Томскім павеце і цалкам злілася з рускімі земляробамі[14].

У XVIII стагоддзі царскі ўрад прапанаваў выкарыстаць ваеннапалонных з РП для фарміравання ў Сібіры вайсковых падраздзяленняў. У 1744 годзе ў Табольску па рашэнні Сената былі сфарміраваны казацкія палкі са служылых людзей, у тым ліку і з палонных

---

[10] Буцинский П. Н. Заселение Сибири... С. 200.

[11] Люцидарская А. А. Старожилы Сибири: Историко-этнические очерки XVII—XVIII вв. Новосибирск, 1992. С. 56.

[12] Васильевский Р. С., Резун Д. Я. Воспитание историей. Новосибирск, 1987. С. 68; Резун Д. Я. «Литва» кузнецкого острога XVII в. // Казаки Урала и Сибири в XVII—XX вв. Екатеринбург, 1993. С. 37—45.

[13] Беликов Д. Н. Первые русские крестьяне — насельники Томского края и разные особенности в условиях их жизни и быта. Томск, 1898.

[14] Емельянов Н. Ф. Томские служилые люди «литва» в XVII — первой четверти XVIII в. // Проблемы исторической демографии СССР. Томск, 1982. С. 34—42.

«польскіх» канфедэратаў. У 1747 годзе з гэтых часцей сфарміравалі драгунскі полк і пяхотны батальён, якія ўрад адправіў на Сібірскую і Калыванскую лініі. У 1763 годзе для аховы паўднёвых межаў Сібіры сфарміравана некалькі палкоў, у тым ліку і з пасадскіх людзей, вывезеных з РП. У 1764—1765 гадах пачалося масавае засяленне Барабінскага стэпу выхадцамі з Магілёўскай губерні. Гэта адбылося пасля таго, як царскія войскі ў 1764 годзе разарылі раён Веткі каля Гомеля і вывелі ў Барабу да 2000 так званых палякаў — старавераў[15]. Калі ў 1763 годзе ў Каінскім павеце налічвалася 1992 мужчынскія душы, то ў 1782 — 10 245[16]. У 1813 годзе ў Сібір саслалі больш за сотню польскіх палонных, якія ўдзельнічалі ў паходзе на Маскву. Вясной 1814 года ў Томску была раскрыта змова польскіх ваеннапалонных, якія знаходзіліся пад уплывам ідэй французскай рэвалюцыі[17].

Падаўленне царскім урадам нацыянальна-вызваленчага паўстання ў Беларусі ў 1830—1831 гадах і асабліва паўстання 1863—1864 гадоў пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага суправаджалася масавым высяленнем беларусаў у Сібір. Там апынуліся ўраджэнцы Беларусі І. Агрызка, З. Мінейка (пазней стаў ганаровым грамадзянінам Грэцыі), А. Аскерка, Ф. Зянковіч, Ю. Каліноўскі, С. Грынеўскі (бацька пісьменніка Аляксандра Грына), К. Каставіцкі (бацька беларускага паэта К. Каганца, які нарадзіўся ў Табольску), мастакі А. Альхімовіч, Ю. Бергман, пісьменнік А. Вярыга-Дарэўскі, вучоныя Б. Дыбоўскі (урач, заолаг), А. Вількіцкі (гідролаг), І. Чэрскі (геолаг, палеантолаг, географ) і тысячы іншых.

Перапісам насельніцтва 1866 года ў Каінскай акрузе зарэгістравана значная колькасць католікаў мужчын і жанчын — 2440 чалавек[18]. З'яўленне такой вялікай колькасці католікаў у Барабе арганізатары перапісу растлумачылі

---

[15] Бояршинова З. Я. Западная Сибирь накануне присоединения к России // Сельскохозяйственное освоение Западной Сибири русскими в феодальную эпоху. Томск, 1967. С. 58.

[16] Колесников А. Д. Русское население Западной Сибири в XVIII — начале XIX в. Омск, 1973. С. 257.

[17] История Сибири с древнейших времен до наших дней. Л., 1968. Т. 2. С. 455.

[18] Томская губерния. СПб., 1868. С. 72, 73, 79.

наплывам «палякаў» на пасяленне пасля апошняга паўстання. Да катэгорыі «палякаў» адносілі пры гэтым не толькі этнічных палякаў, але і беларусаў-католікаў. Праваслаўныя ж беларусы перамяшаліся з рускімі.

У канцы XIX стагоддзя Беларусь уключылася ў вялікае аграрнае перасяленне. З 1896 па 1912 год з Беларусі ў Сібір добраахвотна мігрыравала 716 600 чалавек[19]. Па даных Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва 1897 года, у Каінскай акрузе жыло 1160 беларусаў (0,62 працэнта насельніцтва), а ў 1911 годзе тут было 1113 наяўных гаспадарак (18 працэнтаў) выхадцаў з Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў[20]. У 1914—1918 гадах з прыфрантавых раёнаў, у тым ліку і з Беларусі, у Томскую губерню прыбыло каля 200 тысяч бежанцаў[21]. Праўда, многія з іх пазней вярнуліся на радзіму.

У 20—30-х гадах адзначана масавае перасяленне з Беларусі ў Сібір у сувязі з голадам і разрухай, працягвалася і аграрнае перасяленне. Засяляліся галоўным чынам землі Барабінскай і Новасібірскай акруг. Па даных перапісу насельніцтва 1926 года, у Барабінскай акрузе жыло 25 413 беларусаў, а ў Новасібірскай — 37 439. У Барабінскай акрузе беларусы складалі пераважную большасць у 56 населеных пунктах, а ў Новасібірскай — у 121. За 9 месяцаў 1928—1929 гадоў у Сібір з Беларусі перасялілася 51 737 чалавек[22].

З сярэдзіны 30-х гадоў і да 1941 года характар міграцыі насельніцтва з Беларусі ў Сібір змяніўся з аграрнага на індустрыяльны ў сувязі з прамысловым і культурным развіццём гарадоў Сібіры. У гэтыя гады ў Беларусі сталінскія рэпрэсіі асабліва ўдарылі па нацыянальнай інтэлігенцыі. Так, у Новасібірскай вобласці адбываў ссылку

---

[19] Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Мн., 1973. Т. 7. С. 170.

[20] Первая всеобщая перепись населения 1897 г. СПб., 1904. Т. 79. С. 12; Сборник статистических сведений об экономическом положении переселенцев в Томской губернии. Томск, 1913. Вып. 2. С. 44.

[21] Горюшкин Л. М., Пронин В. И. Население Сибири накануне Октябрьской социалистической революции // Историческая демография Сибири. Новосибирск, 1992. С. 84—101.

[22] Всесоюзная перепись населения 1926 г. М., 1930. Т. 40. С. 121; Естественное движение населения в Сибкрае за 1925—1927 гг. Новосибирск, 1930. С. 12; Список населенных мест Сибирского края. Новосибирск, 1928. Т. 1. С. 241—315; 421—540.

беларускі паэт, драматург і празаік Тодар Лебяда[23]. Беларуская паэтэса Н. Арсеннева вясной 1940 года не па сваёй волі апынулася на Новасібірскай зямлі. Прасторы Барабы натхнілі яе да напісання верша «Толькі вясной бывае неба такое сіняе, толькі вясной бываюць далі такія чыстыя...»[24] Па даных перапісу насельніцтва 1939 года, у Новасібірскай вобласці жыло 41 713 беларусаў[25].

У гады Вялікай Айчыннай вайны ў Новасібірску на 1 снежня 1943 года налічвалася 141 тысяча эвакуіраваных людзей з Беларусі[26]. З Мінска ў Новасібірск эвакуіравалі драматычны і яўрэйскі тэатры. Воіны-сібіракі насмерць змагаліся ў Брэсцкай крэпасці, пад Оршай, Мінскам, вызвалялі Беларусь. Звання Героя Савецкага Саюза былі ўдастоены жыхары Новасібірскай вобласці беларусы А. А. Парцянка, П. Д. Юрчанка і інш.

У пасляваенныя гады, а таксама ў 50—80-х гадах з Беларусі працягваўся адток насельніцтва ў Сібір — у працэсе дэпартацыі, асваення цалінных зямель, арганізаваных набораў рабочых у прамысловыя раёны, размеркавання выпускнікоў ВНУ, тэхнікумаў, школ сістэмы працоўных рэзерваў, наступстваў чарнобыльскай катастрофы, службы ў Савецкай Арміі і г. д.[27] Па даных усесаюзных перапісаў насельніцтва 1959, 1970, 1979 і 1989 гадоў, у Новасібірскай вобласці жыло адпаведна 11 684, 12 015, 11 589 і 13 137 беларусаў, што ў сярэднім складала 0,5 працэнта ад усяго насельніцтва вобласці[28]. Па даных мікраперапісу насельніцтва 1994 года, адзна-

---

[23] Чыгрын С. «Сягоння я надоўга ад'язджаю...» // Літ. і мастацтва. 1993. № 38. С. 16.

[24] Арсеннева Н. У Казахстанскай ссылцы // Беларусь. 1993. № 6. С. 22—23.

[25] Всесоюзная перепись населения 1939 г.: Основные итоги. М., 1992. С. 63.

[26] Алексеева В. В., Исупов В. А. Население Сибири в годы Великой Отечественной войны. Новосибирск, 1986. С. 147.

[27] Пешкова А. И. Миграция населения Белорусской ССР: Автореф. дис. ... канд. геогр. наук. Ростов-на-Дону, 1968; Матюнин С. В. Расселение белоруссов: Опыт этнодемографического исследования: Автореф. дис. ... канд. геогр. наук. СПб., 1991.

[28] Население Новосибирской области: По данным Всесоюзной переписи населения на 15 января 1970 г. Новосибирск, 1979. С. 78; Национальный состав населения Новосибирской области (1989 г.). Новосибирск, 1990. С. 6.

чаны адток беларусаў на 25 працэнтаў у структуры нацыянальнага складу насельніцтва Новасібірскай вобласці ў параўнанні з данымі перапісу 1989 года. Толькі 266 беларусаў з тысячы лічаць сваёй роднай мовай беларускую і 27 з тысячы дома размаўляюць на беларускай мове[29]. У той жа час у тых жа сёлах Новасібірскай вобласці, дзе жывуць пераважна выхадцы з Беларусі і іх нашчадкі, захоўваюцца асаблівасці беларускага быту, беларускай народнай культуры (фальклор, абрады і г. д.).

Сёння беларусы вобласці за тысячы вёрст ад сваёй Айчыны падтрымліваюць гонар беларуса і Беларусі. Яны ганарацца сваімі землякамі Героем Сацыялістычнай Працы, ганаровым грамадзянінам горада Новасібірска акадэмікам А. А. Трафімуком, старшынёй Прэзідыума Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук, Героем Сацыялістычнай Працы, ганаровым грамадзянінам горада Новасібірска акадэмікам В. А. Капцюгом і многімі іншымі. Беларусь таксама не забывае сваіх сыноў і дачок. У 1992 годзе ў Мінску адбыўся Сход беларусаў блізкага замежжа, у 1993 — Першы з'езд беларусаў свету. Дэлегаты гэтых з'ездаў заклікалі ўсіх беларусаў да нацыянальнага яднання.

У чэрвені 1995 года ў Новасібірску адбылася сустрэча беларусаў Сібіры (Омск, Томск, Новасібірск, Барнаул, Кемерава, Новакузнецк, Краснаярск). Удзельнікі сустрэчы звярнуліся да беларусаў-землякоў са зваротам, у якім выказалі неспакой у сувязі з заняпадам беларускай традыцыйнай культуры ў Сібіры і заклікалі ствараць свае культурна-асветніцкія аб'яднанні з мэтай вывучэння, засваення, адраджэння, захавання, распаўсюджвання і развіцця беларускай культуры ў Сібіры. Расшыраецца і актывізуе работу Новасібірскае культурна-асветніцкае таварыства «Беларусы Сібіры» (зарэгістравана ў 1994 годзе). Беларусы-сібіракі пачынаюць вывучаць свае карані, гісторыю, культуру і мову. Яны заахвочваюць да гэтага сваіх дзяцей, унукаў, выхоўваюць у іх любоў і павагу да сібірскай зямлі і да зямлі сваіх продкаў.

---

[29] Национальный состав населения Новосибирской области: По данным микропереписи населения 1994 г. Новосибирск, 1995. С. 3, 16, 19.

*Л. Яновіч*

*(г. Новасібірск)*

# У «СІБІРСКІМ ХРАНОГРАФЕ» — І ПРА БЕЛАРУСАЎ ТАКСАМА

Гісторыкі Сібіры, пачынаючы з дзяка Савы Есіпава і акадэміка Герарда Фрыдрыха Мілера і канчаючы сучаснымі даследчыкамі, асвоілі немалую колькасць самых розных крыніц пра развіццё Усходу Расіі. Але публікацыя гэтых крыніц яшчэ вельмі далёкая ад свайго завяршэння, шэраг публікацый мінулых стагоддзяў не адпавядае сённяшнім патрабаванням, многія сотні тысяч старонак дакументальных і апавядальных помнікаў гісторыі Сібіры чакаюць свайго выяўлення — яны да гэтага часу невядомыя навуцы. Пошукі ў архівах, рукапісных аддзелах музеяў і бібліятэк, а таксама археаграфічныя экспедыцыі штогод прыносяць новыя знаходкі і адкрыцці. Таму ўжо даўно ўзнікла патрэба публікацыі серыі, у рамках якой можна было б рэгулярна выдаваць даволі значны аб'ём сібірскіх крыніц Усходу Расіі.

З гэтай мэтай у 1991 годзе ў Новасібірскім Акадэмгарадку быў створаны навукова-выдавецкі цэнтр «Сібірскі хранограф». Рэдакцыйна-выдавецкі савет цэнтра ўзначаліў акадэмік РАН М. Пакроўскі, заснавальнік школы новасібірскіх археографаў. У склад савета ўвайшлі вядучыя спецыялісты. З 1992 года «Сібірскі хранограф» пачаў выдаваць серыю «Гісторыя Сібіры. Першакрыніцы» пад кіраўніцтвам акадэміка Пакроўскага. У кнігах серыі публікуюцца самыя разнастайныя дакументальныя і апавядальныя крыніцы, якія ўтрымліваюць звесткі па гісторыі асваення рэгіёна, яго ўзаемасувязяў з цэнтрам краіны, па стварэнні і змяненні структур дзяржаўнай улады і мясцовага земскага самакіравання, матэрыялы пра гісторыка-культурныя працэсы, пра развіццё сібірскай літаратуры; значная ўвага таксама ўдзелена гіс-

торыі сібірскай царквы, а таксама літаратурнай, гістарычнай, дагматычнай творчасці мясцовых старавераў.

Некалькі тамоў серыі прызначаны пад выданне самых старажытных сібірскіх актаў канца XVI — першай трэці XVIII стагоддзя. Больш як сем тысяч такіх актаў было скапіравана па ўказанні Г. Ф. Мілера ў час яго сібірскай экспедыцыі ў 1733—1743 гадах. Копіі гэтыя, зробленыя ў архівах розных сібірскіх гарадоў, складаюць зараз трыццаць пяць аб'ёмных тамоў, матэрыялы якіх толькі часткова ўведзены ў навуковы ўжытак у асобных разрозненых выданнях. У двух тамах нашай серыі апублікаваны складзены ў XVIII стагоддзі падрабязны вопіс усіх гэтых дакументаў з указаннем іх цяперашніх архіўных шыфраў.

Пачата сістэматычнае выданне тэкстаў сібірскіх актаў XVI—XVIII стагоддзяў са шматлікіх фондаў цэнтральных і мясцовых архіваў. У першую чаргу гэта, вядома, фонд Сібірскага прыказа, дзе лік такім актам ідзе на многія сотні тысяч. Да гэтага часу не было апублікавана і тысячнай часткі гэтага багацця. Тамы серыі, прысвечаныя гэтым актам, будуюцца па тэматычным прынцыпе. У першых двух тамах публікуюцца дакументы аб узнікненні, пачатковым этапе развіцця сібірскіх гарадоў і акты, звязаныя з дзейнасцю свецкіх органаў самакіравання ў XVII стагоддзі. Далей на чарзе найбагаты матэрыял па гісторыі міжнацыянальных адносін у Сібіры; у гэтай сферы асабліва важна ведаць прадстаўнічы, аб'ектыўны падбор тэкстаў, якія сведчаць аб самых розных, падчас палярных тэндэнцыях у гістарычным развіцці.

Яшчэ адзін том старажытных сібірскіх дакументаў з фондаў Сібірскага прыказа ўтрымлівае акты і асабістыя пісьмы, якія адлюстравалі ход першага агульнасібірскага вышуку, праведзенага па ўказанні юнага Пятра Першага. Гэта была маштабная спроба барацьбы з карумпіраванасцю сібірскага апарату ўпраўлення, з незаконнай прадпрымальнасцю бюракратыі.

Змест двух іншых тамоў серыі звязаны з гісторыяй дзейнасці ў Сібіры XVII стагоддзя Рускай праваслаўнай царквы. У першым з гэтых тамоў выдадзены шырокія апісанні рухомай і нерухомай маёмасці Табольскага архі-

рэйскага дома першай паловы XVII стагоддзя і службовая перапіска па справах царквы. Гэтыя матэрыялы ўтрымліваюць багатыя звесткі пра дынаміку царкоўнага землеўладання, пра рускае прыкладное мастацтва таго часу, пра царкоўны жывапіс, кнігі. У другім томе публікуюцца тэксты ранняй сібірскай літаратуры, напісаныя ў XVII стагоддзі ў табольскім архірэйскім доме. Яны ўключаюць славуты сінодзік Ермаковым казакам (1622), галоўную крыніцу па гісторыі паходу Ермака, якая лічылася доўгі час страчанай; яшчэ выдаецца адзін з галоўных сібірскіх летапісаў — Есіпаўскі (1636); Паданне аб Абалацкой і Казанскай іконах Багародзіцы, іншыя літаратурныя помнікі.

З экспедыцыяй Г. Ф. Мілера звязаны матэрыялы яшчэ трох тамоў серыі. Акадэмік у час сваіх дзесяцігадовых вандровак па Сібіры, а таксама ў другой камчацкай экспедыцыі, рабіў дэталёвыя падарожныя апісанні, сабраўшы такім чынам унікальны матэрыял па гісторыі засялення краю, будаўніцтве першых гарадоў і астрогаў, па этнаграфіі, геаграфіі, тапаніміцы. З аднолькавай скрупулёзнасцю ён фіксаваў гісторыю, культуру, быт як рускага, так і абарыгеннага насельніцтва Сібіры. Яго лінгвістычныя матэрыялы даюць найстарадаўнія пісьмовыя фіксацыі асноўных сібірскіх моў, усё яшчэ амаль не выкарыстаныя пазнейшымі даследчыкамі. Умелая праца з мясцовымі інфарматарамі з ліку казакоў, ямшчыкоў, сялян, гараджан прывяла, напрыклад, да таго, што вучоны па шэрагу сібірскіх рэгіёнаў зафіксаваў у паўтара-два разы больш пасяленняў, чым афіцыйная статыстыка таго часу. Многія матэрыялы Г. Ф. Мілера напісаны на нямецкай мове цяжкім гатычным хуткапісам з элементамі тайнапісу, так што яны аказаліся недаступнымі не толькі для цікаўных мясцовых чыноўнікаў, але і для пазнейшых даследчыкаў. Толькі нядаўна новасібірскія вучоныя здолелі ўпэўнена дэшыфраваць гэтыя запісы знакамітага вучонага. Асаблівую цікавасць выклікаюць упершыню апублікаваныя матэрыялы Г. Ф. Мілера пра вераванні, звычаі, жыллё, харчаванне, сістэму выхавання абарыгенных народаў Сібіры.

Новасібірск — сусветна прызнаны цэнтр па вывучэнні рускага стараверства за ўвесь час яго існавання з сярэдзіны XVII стагоддзя і да нашых дзён. Творам на-

роднай літаратуры, створаным у асяроддзі ўрала-сібірскіх старавераў, адводзіцца два тамы нашай серыі (у далейшым, як і для іншых тэм, магчымы працяг). Тут будуць апублікаваны творы сялянскага пісьменніка XVIII стагоддзя Мірона Галаніна, якія зрабіў першую спробу ўсведамлення гісторыі стараверства на Усходзе Расіі. У ходзе навасібірскіх археаграфічных экспедыцый быў упершыню выяўлены новы жанр старавераскай літаратуры — «родословия» асобных старавераскіх згодаў. Галоўнае з гэтых «родословий», створанае ў XIX стагоддзі, будзе цалкам апублікавана. Публікуюцца таксама творы старавераскай апакаліптыкі, якія ўтрымліваюць роздум народных мысліцеляў пра лёсы светабудовы, пра перыядызацыю сусветнай гісторыі, пра Страшны суд. Апошнім часам нам сталі даступныя таксама шматлікія старавераскія творы, прысвечаныя гісторыі стараверства з пятроўскіх часоў да нашых дзён. Аўтары іх — пустынажыхары і сяляне Урала, Заходняй і Усходняй Сібіры. Гэтыя творы да самага апошняга часу былі тайнай, падпольнай літаратурай, бо яны ўтрымлівалі непрыемныя народныя ацэнкі палітыкі савецкіх улад наконт жорсткага ўціску веры, «рассяляньвання», калектывізацыі і інш. Старавераскія пісьменнікі апавядаюць пра разгром войскамі НКУС скітаў, аб катаваннях манахаў, знішчэнні старажытных кніг і ікон. Публікуюцца пастановы тайных старавераскіх сабораў аб адносінах да антыхрыставых улад, аб пагардзе да «свету Антыхрыста».

Сібір была шырока і сумна вядомая ва ўсім свеце як месца найцяжкой катаргі і ссылкі. Сібірскія катарга і ссылка аказвалі прыкметны уплыў як на Расійскую імперыю ў цэлым, так і на Сібір. Дакументам аб жудаснай Нерчынскай катарзе (1825—1917) прысвечаны два выпускі серыі. Яны даюць звесткі аб знаходжанні на катарзе прадстаўнікоў розных рускіх партый і грамадскіх плыняў, польскіх паўстанцаў і інш. Дакументы малююць катаржны рэжым і побыт, грамадскую і навуковую дзейнасць ссыльных. Публікуюцца таксама зарубежныя пратэсты супраць рэпрэсій.

У нашай серыі мы не змаглі мінаваць такой з’явы ў грамадскім жыцці краю, якой з’яўлялася сібірскае «областничество». Марксісцкай гістарыяграфіі заўсёды было цяжка справіцца з ацэнкамі гэтага важнага руху.

Адназначных ацэнак яго не можа быць і сёння. З аднаго боку — утапічныя заклікі «областников» да поўнага аддзялення Сібіры ад Расіі, а з другога — цвярозая і аб'ектыўная ацэнка «областниками» каланіяльных метадаў эксплуатацыі ўскраіны ўладамі цэнтра. Тым важней сёння шырокая публікацыя дакументаў аб «областниках». Гэтаму прысвечаны два тамы серыі. У першым з іх выдаюцца матэрыялы, звязаныя з судовым працэсам над сібірскімі «областниками» (1865—1867), калі былі арыштаваны дзесяткі ўдзельнікаў руху, уключаючы яго кіраўнікоў, вядомых вучоных Р. М. Патаніна, М. М. Ядрынцава, А. П. Шчапава. У другім томе выдаецца, бадай, галоўная манументальная праца ўсяго руху — манаграфія М. М. Ядрынцава «Сібір як калонія ў геаграфічных, этнаграфічных і гістарычных адносінах». Сённяшняму даследчыку цікавы не толькі канцэпцыі гэтай кнігі, але і вялікі фактычны матэрыял пра Сібір, сабраны Ядрынцавым.

Мяркуецца таксама выдаваць мемуары па гісторыі Сібіры, пачата падрыхтоўка да публікацыі ўспамінаў сучаснікаў пра славутага сібірскага адміністратара, генерал-губернатара Усходняй Сібіры графа М. М. Мураўёва-Амурскага, з імем якога звязана асваенне і засяленне Далёкага Усходу.

У шэрагу названых публікацый, такіх, як «Актавыя крыніцы па гісторыі Расіі і Сібіры XVI—XVIII стагоддзяў у фондах Г. Ф. Мілера. Вопісы копійных кніг» (у двух тамах), «Табольскі архірэйскі дом у XII стагоддзі», «Палітычная ссылка ў Сібіры. Нерчынская катарга», выдадзеных у серыі «Гісторыя Сібіры. Першакрыніцы», змешчаны матэрыялы, якія адлюстроўваюць жыццё беларусаў у Сібіры. У матэрыялах, якія адносяцца да XVI—XVIII стагоддзяў, утрымліваецца значная колькасць персаналій «літоўскіх людзей». Беднасць звестак, якія суправаджалі гэтыя персаналіі, не заўсёды дазваляе з дастатковай пэўнасцю гаварыць пра іх нацыянальную прыналежнасць. Для гэтага патрабуюцца дадатковыя пошукі. Цяпер па гэтых персаналіях можна адзначыць наступнае:

а) выключна прымусовы характар іх жыцця ў Сібіры;

б) дастаткова высокі сацыяльны статус, які выдзяляецца на агульным фоне культурнага ўзроўню;

в) больш высокая ступень адаптацыі.

У матэрыялах, якія адносяцца да XIX стагоддзя, знайшлі сваё адлюстраванне працэсы, звязаныя з карнай палітыкай царскага рэжыму; са стыхійнымі перасяленнямі беларусаў у Сібір у другой палове XIX стагоддзя; з арганізаваным і масавым перасяленнем беларусаў у Сібір у пачатку XX стагоддзя.

*А. Люцыдарская*

*(г. Новасібірск)*

## «СЛУЖЫЛАЯ ЛІТВА»

За абагульненым, звычным для звестак XVII стагоддзя паняццем «літва» хаваюцца складаныя лёсы людзей паўднёва-заходніх ускраін Рускай дзяржавы, Рэчы Паспалітай і Літвы. Большасць «служылай літвы» складалі палонныя, якім жыццёвыя калізіі падрыхтавалі ролю перасяленцаў Сібіры.

Хрэстаматыйнай уяўляецца біяграфія сына баярскага (высокага ваенна-адміністрацыйнага чына ў Сібіры) Андрэя Буяноўскага, стаж службы якога ў Кузнецкім астрозе налічваў да 1678 года 13 гадоў. Шляхціц Калішскага ваяводства, А. Буяноўскі трапіў у палон пад Віцебскам, быў перавезены ў Казань, затым ва Уржум, дзе жыў 14 гадоў. Пасля А. Буяноўскі, апынуўшыся ў Маскве, «на размен не похотел идти к польскому королю» і, падаўшыся ў служылае саслоўе, накіраваўся ў Сібір.

Прадстаўнікі «служылай літвы», як правіла, былі ў кагорце «дзяцей баярскіх», якія складалі апору ваяводскай улады на месцах. Асновай для атрымання высокіх чыноў служылі ваенныя навыкі, добры ўзровень пісьменнасці, шырокі кругагляд, дасягнуты ў выніку багатага жыццёвага вопыту. «Служылая літва» ўносіла іншы, адрозны ад рускага, тып культуры. Калі для рускага насельніцтва была характэрнай традыцыя вуснай інфармацыі, дык для заходніх «іншаземцаў» — пісьмовай. Гэтае супадзенне культурных традыцый і патрэб адміністрацыйнага апарату, які фарміраваўся ў Сібіры, і вылучала «літву» на значныя ролі ў гарадах каланізуемай ускраіны.

Каланізацыя Сібіры мела сваю спецыфіку — склад новапасяленцаў быў поліэтнічным. Разам з рускімі ў ліку служылага саслоўя знаходзіліся прадстаўнікі цюрка-

моўных этнасаў (найперш казанскія татары), «літва», комі-зыране. Кожны, хто сумленна або фармальна перайшоў у праваслаўе і паважаў асноўныя каноны прынятай веры, у служылым асяроддзі лічыўся рускім. Каланісты, якія не былі этнічным маналітам, сцвярджалі на спрадвечных тэрыторыях аўтахтоннага насельніцтва не ідэю рускага ўладарства і перавагі, але царскай улады і праваслаўя.

Нягледзячы на ідэалагічную знявагу асобы царквой і дзяржавай, на сібірскай аддаленай ускраіне тым не менш дапускаліся пэўныя вольнасці, якія садзейнічалі захаванню этнічнай самасвядомасці. Вядома, што многія прадстаўнікі «служылай літвы» дома захоўвалі свае сапраўдныя імёны (Ян Валентаў, Маціас Хадзінскі, Барташ Рутжоўскі і інш.), манеру паводзін, схільнасць да лацінскага алфавіту. У выніку поліэтнічны склад «служылага саслоўя» найбольш актыўнай часткі насельніцтва Сібіры, якая, па сутнасці, з'яўлялася правадніком і выканаўцам дзяржаўнай палітыкі на месцах, не дазваляў сфарміравацца антаганістычнай пазіцыі ў адносінах да карэнных этнасаў Сібіры, заснаванай на супрацьпастаўленні «мы» і «яны». Невыпадкова XVII стагоддзе не ведала паняцця «іншародзец». Таму што пры такім падыходзе кожны дзесяты, а ў некаторых гарнізонах і пяты, лічыўся чужым па крыві. У той час для чалавека іншага веравызнання, іншага ладу жыцця агульнапрынятым было вызначэнне — «іншаземец». Гэты тэрмін выключаў якія-небудзь ганьбаванні ў адносінах да людзей іншай культуры.

Набыты ў служылым асяроддзі стэрэатып успрымання «іншаземцаў» сам па сабе распаўсюджваўся на карэнныя народы Сібіры, дазваляючы цярпіма адносіцца да праяўленняў іншакультурных традыцый і ў выніку захавання самабытных абарыгенных культур. У гэтым складаным, падчас і супярэчлівым працэсе нельга недаацэньваць пазітыўную ролю «служылай літвы».

*Н. Радзігіна*

*(г. Новасібірск)*

# ВОЛЬНАНАРОДНАЯ КАЛАНІЗАЦЫЯ СІБІРЫ

## Другая палова XIX — пачатак XX стагоддзя

Перасяленне сялян у шматзямельныя ўскраіны Расійскай імперыі ў другой палове XIX — пачатку XX стагоддзя — адна з самых яркіх і драматычных старонак айчыннай гісторыі. Прычыны сялянскіх перасяленняў з Беларусі хаваліся ў асаблівасцях аграрных адносін, якія склаліся ў выніку правядзення ліберальна-буржуазных рэформ 1860-х гадоў і характарызаваліся малазямеллем і абеззямельваннем значнай часткі сельскага насельніцтва, недахопам лясных і пашавых угоддзяў, сацыяльным расслаеннем сялян. Мінскі губернатар А. І. Пятроў у звароце да міністра ўнутраных спраў Д. А. Талстога ў 1884 годзе да ліку прычын сельскагаспадарчых міграцый адносіў народжанае рэформамі імкненне сялян да асабістай незалежнасці і жаданне «снискивать средства пропитания только от собственной земли», вынікам чаго з'яўляліся раздзелы зямельных надзелаў паміж членамі сялянскіх сем'яў і драбненне зямельных участкаў, якія «делались недостаточными для пропитания их владельцев».

Самі сяляне ў прашэннях аб перасяленні вельмі часта матывавалі сваё жаданне перасяліцца немагчымасцю існавання на радзіме з-за нястачы(«по тяжкой крайности нашей») і прыгнечання. «Если есть на свете правосудие, рыба ищет глуботу, а человек, где лучше», — пісаў томскаму губернатару селянін Е. І. Вілюга з вёскі Карцінічы Полацкага павета Віцебскай губерні.

Прыгнёт у сялянскай свядомасці трактаваўся больш шырока, чым недахоп зямельных надзелаў. Жаданне «уйти от утеснения», разам з магчымай гаспадарчай самастойнасцю ва ўмовах зямельнай прасторы, мела на ўвазе і пэўную сацыяльную незалежнасць ад паноў і чы-

ноўнікаў. У асобных выпадках бясчынствы апошніх адкрыта называліся ў якасці прычыны высялення. Так, у прашэнні 45 сялянскіх сем'яў з вёсак Белі і Локуці Нячыпараўскай воласці Гродзенскага павета Віцебскай губерні падкрэслівалася, што прычынамі, якія штурхаюць «на пересел», з'яўляюцца «крайняя нястача» і «прыгнёт» мясцовага памешчыка Крывашэіна.

Да сярэдзіны 1890-х гадоў урад перашкаджаў развіццю перасяленчага руху, прызнаючы непарушнасць пазямельнага ўладкавання сялян, устаноўленага рэформай 1861 года, і рабіў стаўку на развіццё буйных памешчыцкіх гаспадарак, для нармальнага функцыянавання якіх неабходная была танная рабочая сіла. Заходнія губерні (Мінская, Магілёўская, Віцебская, Гродзенская) былі выключаны са сфер дзеяння законаў аб перасяленні 1881 і 1889 гадоў, якія дазвалялі перасяленне сялян з малазямельных губерняў на свой страх і рызыку. У канцы 1890-х гадоў і пачатку 1900-х адбываецца пераход да палітыкі планамернага перасялення ва ўсходнія рэгіёны краіны найбольш беднага малазямельнага сялянства, у тым ліку і беларускага. На фарміраванне пазіцый урада па перасяленні сялян з заходніх губерняў уплывала барацьба дзвюх тэндэнцый: з аднаго боку, неабходнасць высялення «лішняга» сельскага насельніцтва (прычым найбольш актыўнай часткі сялянства), з другога — імкненне захаваць у краі ўсходнеславянскі элемент у сувязі з бояззю «очистить западные земли для немецкого натиска».

Такім чынам, у 1860-х — пачатку 1890-х гадоў сялянскія перасяленні з Беларусі не заахвочваліся ўрадам. За распаўсюджванне сярод сялян інфармацыі аб вольных сібірскіх землях вінаватыя караліся фізічна ці знявольваліся ў турму, а часам караліся і адміністрацыйнай ссылкай у Сібір. Напрыклад, А. Дашкевіч, жыхар вёскі Смык-Слабада Ігуменскага павета Мінскай губерні быў прысуджаны 4 мая 1884 года да пазбаўлення правоў і ссылкі ў Сібір на пасяленне «за распространение ложных слухов о льготном переселении на Амур». Чуткі «о новых местах» разам з пісьмамі ссыльных і раней пераселеных родных ці аднасяльчан былі адной з асноўных крыніц інфармацыі пра Сібір. «Царь распорядился, чтобы все переселялись, где мало земли, а начальство удерживает и

желает, чтобы мы работали панам, если желают, чтобы остались, то пускай наделяют землей, сечь не имеют права и мы этого не допустим» — так тлумачылі сяляне Ігуменскага павета забарону перасяленняў і фармулявалі свае адносіны да гэтых забаронаў.

Ёсць сведчанні, што прымяняліся войскі, каб вярнуць на радзіму сялян, якія выселіліся самавольна. Так, памочнік начальніка Магілёўскага губернскага жандарскага ўпраўлення М. М. Грамыка дакладваў 21 мая 1890 года вышэйшаму начальству аб вяртанні з дапамогай войск на ранейшае месца жыхарства і пакаранні розгамі 88 сялян Палужскай, Дубровіцкай і Брацькавіцкай воласцяў Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губерні за тое, што яны, «распродав свое имущество, двинулись в Сибирь», аб пакаранні розгамі 135 сялян за «одно намерение переселиться». Зазначым, што ў адным з папярэдніх данясенняў (ад 23 красавіка 1890 г.) Грамыка зафіксаваў адметнае выказванне перасяленца з вёскі Крупец Клімавіцкага павета М. Ларыёнава, які характарызаваў настрой сялян-перасяленцаў: «Если нас не пустят, мы сделаем мятеж, как в 1863 г., тогда паны желали подушить нас, а теперь мы их подушим и будем жить свободнее».

Нягледзячы на рэпрэсіўныя меры, якія прадпрымаліся мясцовымі ўладамі для стрымлівання перасяленчага руху, з 1884 па 1895 год у Сібір, згодна са справаздачамі цюменскага перасяленчага чыноўніка, перасялілася 3 605 чалавек у складзе 612 сем'яў з Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай губерняў. Па сведчаннях дзяржаўнага сакратара А. Куломзіна, у перыяд з 1878 па 1896 год Віцебская губерня займала семнаццатае месца сярод шасцідзесяці пяці губерняў, выхадцы якіх удзельнічалі ў перасяленчым руху ў Сібір, яе доля ў міграцыйным патоку складала 1,5 працэнта (1918 душ мужчынскага полу), Гродзенская і Магілёўская губерні займалі адпаведна дваццаць восьмае і трыццаць другое месцы. Па даных Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 года, беларусы складалі 0,2 працэнта насельніцтва Сібіры.

1896 год з'явіўся пачаткам уступлення заходніх губерняў у «большое переселение». Па падліках беларускага гісторыка П. Д. Верашчагіна, колькасць перася-

ленцаў з Віцебскай губерні вырасла ў 43 разы, з Гродзенскай — у 10, з Магілёўскай — больш чым у пяць, а з Мінскай — у 28 разоў. У 1903—1904 гадах заходнія губерні займалі першыя месцы па колькасці перасяленцаў у сібірскія губерні.

У цэлым з 1885 па 1914 год беларускія губерні давалі 12 працэнтаў усіх сібірскіх мігрантаў, займаючы адно з вядучых месцаў у агульным перасяленчым патоку.

Перасяленцы з заходніх губерняў належалі ў асноўным да бяднейшага сялянства, што падкрэслівалася назіральнікамі і даследчыкамі перасяленчага руху. Гэты вывад пацвярджаецца і матэрыяламі статыстычных даследаванняў перасяленчых гаспадарак Табольскай і Томскай губерняў. Так, у Тарскай акрузе Табольскай губерні, куды ў асноўным накіроўваліся беларускія перасяленцы ў межах Заходняй Сібіры, да ліку беззямельных і бяздомных на радзіме належала больш як адна трэць з іх. Разам з сялянамі перасяляліся мяшчане, збяднелыя дваране.

Умовы перасяленчага руху, асабліва да пабудовы Сібірскай чыгункі (пачатак 1890-х гадоў), былі неверагодна цяжкія. Смяротнасць у дарозе сярод усіх перасяленцаў, якія прыбылі ў Сібір у 1880—1894 гадах, складала 33 працэнты. Можна меркаваць, што працэнт смяротнасці беларускіх перасяленцаў быў яшчэ вышэйшы, бо яны належалі да найменш забяспечаных мігрантаў. Многія сем'і за дарогу «ополовинивались», гэта значыць страчвалі палову членаў сям'і або вымiралі цалкам.

Не менш цяжкім было ўладкаванне на новых месцах. Можна лічыць тыповай гісторыю перасяленчага пасёлка Вазнясенскі Тарскай акругі Табольскай губерні, заселенага ў 1891—1896 гадах выхадцамі з Мінскай і Гродзенскай губерняў. Перасяленцы першыя два гады пасля прыходу «на новыя месцы» жылі як работнікі ў старажылаў, зарабляючы сродкі на абзавядзенне самастойнай гаспадаркай. На момант абследавання (1896) большасць дзяцей, якія жылі ў пасёлку, пакутавала захворваннямі страўнікава-кішэчнага тракту, 20 дзяцей ва ўзросце да 5 гадоў памерлі ад розных захворванняў, а ўсяго ж у пасёлку жыло 30 сем'яў перасяленцаў.

Аднак беларускія перасяленцы пераадольвалі ўсе цяжкасці на новых месцах, засноўвалі новыя пасёлкі,

прыносілі ў Сібір новыя рамёствы і ўкаранялі новыя сельскагаспадарчыя культуры, гаспадарчыя і культурныя традыцыі свайго народа. Большасць выхадцаў з заходніх губерняў сяліліся ў таежных раёнах Сібіры, і беларусам належыць вялікая заслуга ў іх гаспадарчым і культурным асваенні. Між тым толькі ў Тарскай акрузе Табольскай губерні, дзе большасць «прышлага» насельніцтва складалі перасяленцы з Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў, трэцяя частка зямель, афіцыйна адведзеных пад перасяленчыя ўчасткі, прызнавалася няўдобіцай. Перасяленцам даводзілася «адваёўваць» у тайгі кожны метр зямлі і рабіць яе прыдатнай для земляробства: ссякаць векавыя дрэвы, раскарчоўваць, расчышчаць.

Цяжкасці асваення тайгі, нізкі эканамічны патэнцыял большасці перасяленцаў, недастатковая дапамога з боку ўрада прыводзілі да ўспышак эпідэмічных захворванняў. У 1909 годзе ва ўрманах Тарскай і Турынскай акруг успыхнула эпідэмія сыпнога тыфу. Цынга і «курыная слепата», якія сведчаць аб дрэнным харчаванні і нездавальняючым санітарным стане жылля, былі амаль пастаяннымі «гасцямі» перасяленчых пасёлкаў. На думку сібірскіх даследчыкаў, працэс асваення таежных прастораў быў адной з драматычных старонак у гісторыі каланізацыі Сібіры.

Ужо згадвалася, што беларускія перасяленцы ўнеслі пэўныя наваўвядзенні ў развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці і рамёстваў на сваёй новай радзіме. Адзін з самых аўтарытэтных даследчыкаў перасяленчага руху канца XIX — пачатку XX стагоддзя А. Каўфман пісаў пра выдатнае вядзенне гаспадаркі віцебскімі перасяленцамі 1850—1860-х гадоў — «панцырнымі баярамі», якім Табольская губерня абавязана распаўсюджаннем новых гатункаў ільну, прызнаных лепшымі ў Сібіры. Перасяленцы з Мінскай, Магілёўскай і іншых губерняў распаўсюдзілі ў раёнах пражывання саматужную вытворчасць сукна і вязаных вырабаў (шалікаў, паясоў, рукавіц).

*А. Майнічава*

*(г. Новасібірск)*

# БЕЛАРУСЫ Ў ПРЫОБ'І

## Сярэдзіна XIX — пачатак XX стагоддзя

Ад характару рассялення ў значнай меры залежыць захаванне этнічных традыцый. На спецыфіку этнічнай сітуацыі ў розных рэгіёнах уплываюць розныя фактары, такія, як памеры груп, іх сацыяльны статус, час пасялення, суадносіны часовага і пастаяннага пасялення, характар рассялення і інш. Таму важна разгледзець дынаміку і колькасныя значэнні для насельніцтва Прыоб'я ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя, у прыватнасці для выхадцаў з Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў, частка з якіх была этнічнымі беларусамі.

Насельніцтва рэгіёнаў Прыоб'я, напрыклад Томскай губерні, характарызавалася поліэтнічнасцю пры колькаснай перавазе ўсходніх славян. Згодна Спісу населеных месцаў Томскай губерні 1859 года, з 654 900 жыхароў усходнія славяне складалі 91,04 працэнта, сярод якіх трэцяе месца па колькасці пасля рускіх і ўкраінцаў займалі беларусы[1]. Па дадзеных матэрыялах для вывучэння перасялення ў Сібір, якія сталі вынікам шматгадовых даследаванняў, якія праводзіліся ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя, у 1895 годзе ў Томскую губерню для асваення казённых земляў накіроўвалася з Віцебскай губерні 11 сем'яў (54 чалавекі), для рассялення на кабінетных землях — 5 сем'яў (21 чалавек), з Магілёўскай губерні рассельвалася на кабінетных землях 28 сем'яў (175 чалавек), з

---

[1] Томская губерния. Список населенных мест по сведениям 1859. СПб., 1868. С. LXIXX.

Мінскай губерні перасялілася на казённыя землі 3 сям'і (11 чалавек)[2].

У 1896 годзе паток перасяленцаў з беларускага эканамічнага раёна вырас. Больш за ўсё ў Томскую губерню накіроўвалася з гэтага раёна выхадцаў з Віцебскай губерні — 297 сем'яў, што складала 1833 чалавекі (на казённыя землі), і 50 сем'яў — 284 чалавекі (на кабінетныя землі). У тым жа годзе перасялілася таксама з Гродзенскай губерні 9 сем'яў (41 чалавек), з Віленскай — 9 (50 чалавек), з Магілёўскай — 139 сем'яў (803 чалавекі).

У наступным, 1897 годзе, колькасць перасяленцаў некалькі знізілася, аднак з Гродзенскай губерні перасялілася 3 сям'і (20 чалавек), з Віленскай — 10 (68 чалавек), з Магілёўскай — 82 (569 чалавек), з Віцебскай — 190 (1198 чалавек), з Мінскай — 19 сем'яў (190 чалавек).

За два гады з Томскай губерні выехала 34 сям'і беларусаў (183 чалавекі), што дае малы працэнт жадаючых памяняць новае месцажыхарства. Не ўсе, хто выязджаў з Томскай губерні, намерваліся вярнуцца на радзіму, некаторыя аселі ў іншых сібірскіх і расійскіх губернях. Прычыны ад'езду былі розныя: не ўдалося добра ўладкавацца на новым месцы, зямля аказалася неўрадлівай, дрэнна прынялі старажылы, не аказалася ў суседзях землякоў, сям'я страціла галаву сям'і, у сям'і было мала мужчын і таму цяжка было весці гаспадарку, страцілі ўсе грошы, прывезеныя на абзавядзенне гаспадаркай і г. д.

Даныя шматгадовых шырокамаштабных даследаванняў пачатку XX стагоддзя, праведзеных пад кіраўніцтвам В. Я. Нагнібяды[3], дазваляюць прасачыць дынаміку рассялення і ўмовы жыцця ў Томскай губерні выхадцаў з беларускага эканамічнага раёна. Большасць іх сялілася ў зоне Барабінскага стэпу, аднак немалая частка асела і ў Прыоб'і. Так, у пераходным раёне ад лесастэпавай зоны

---

[2] Цифровой материал для изучения переселений в Сибирь в 1895. М., 1898. С. 7—16; Цифровой материал для изучения переселений в Сибирь в 1896. М., 1899. С. 28—36; Цифровой материал для изучения переселений в Сибирь в 1897. М., 1901. С. 2—12.

[3] Сборник статистических сведений об экономическом положении переселенцев в Томской губернии. 1910—11. Перепись 1911—12. С. 14—587.

да таежнай, куды ўваходзіла частка Томскага павета (Аляксееўская, Аяшынская, Кайлінская воласці і частка Марыінскага павета), з шасці гаспадарак беларусаў адна мела пасяўную плошчу 1—3 дзесяціны, дзве — 3—9 дзесяцін, тры — больш 9—10 дзесяцін. У таежным раёне (частка Марыінскага і Томскага паветаў) з 16 гаспадарак адна мела пасяўную плошчу да адной дзесяціны, дзве — 1—3 дзесяціны, чатыры — 3—9 дзесяцін, адна — больш 9 дзесяцін, не прыпісана было насельніцтва 8 сем'яў. У лесастэпавым раёне (Барнаульскі павет) пражывала сям'я, якая мела 3—9 дзесяцін.

Па даных 1910—1911 гадоў сярод перасяленцаў, якія перасяліліся да старажылаў, г. зн. атрымалі дазвол ад іх жыць у сёлах і надзелы зямлі для апрацоўкі, з 1904—1907 гадоў у лесастэпавым раёне жыла адна сям'я беларусаў. Для параўнання: там пражывала 54 сям'і рускіх, 24 сям'і ўкраінскіх перасяленцаў, прычым у другіх раёнах гэтыя суадносіны павышаюцца ў бок павелічэння долі беларускіх перасяленцаў. Па тых жа даных у пераходным раёне з 1893 года пражывала адна сям'я беларусаў, з 1893—1903 гадоў — дзве, з 1904—1907 гадоў — тры, з 1909—1910 гадоў (г. зн. менш трох гадоў) — адна сям'я. Больш усяго сем'яў пражывала ў таежным раёне: з 1893—1903 гадоў — дзве сям'і, з 1904—1907 гадоў — дзве, з 1908 года — адна, з 1909—1910 гадоў — тры сям'і. Можна таксама ўдакладніць, што перасяленцы з Віцебскай губерні пражывалі ў сёлах Плеса-Кудрынская (2 сям'і), Гутава (5 сем'яў), Мала-Жырава (1 сям'я), Нова-Кускова (2 сям'і), у вёсцы Караколь (12 сем'яў). Перасяленцы з Магілёўскай губерні жылі ў сяле Плеса-Кудрынская (4 сям'і), у вёсцы Новы Парос (1 сям'я), у сяле Гутава (3 сям'і). Прыехаўшыя з Віленскай губерні пасяліліся на станцыі Аяш (3 сям'і), у сяле Гутава (1 сям'я), вёсцы Тарбеева (1 сям'я). З Мінскай губерні перасялілася 1 сям'я на станцыю Аяш, 2 сям'і — у вёску Тарбеева. Неабходна таксама ўспомніць аб перасяленцах, загнаных на перасяленчыя ўчасткі, г. зн. у тыя месцы, дзе ніхто не жыў і дзе былі заснаваны новыя вёскі. У пераходным раёне Томскай губерні гэта катэгорыя перасяленцаў з беларускага эканамічнага раёна складала 34,6 працэнта ад агульнай колькасці прыехаўшых, у таежным

раёне — 18,5 працэнта. Даныя аб часе пражывання ў Томскім павеце сем'яў выхадцаў з розных губерняў змешчаны ў табліцы (1 — Віленская, 2 — Віцебская, 3 — Гродзенская, 4 — Мінская, 5 — Магілёўская):

| З якога года пражываюць | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|---|
| 1909—1910 | 49 | 98 | 10 | 77 | 308 |
| 1908 | 63 | 143 | 13 | 196 | 563 |
| 1904—1907 | 98 | 91 | 29 | 191 | 314 |
| 1893—1903 | 114 | 17 | 2 | 30 | 22 |
| Раней 1893 | — | — | — | — | — |

Пасля 1893 года перасяленцам пачалі адводзіць спецыяльныя перасяленчыя ўчасткі для асваення паселішчаў. Як відаць з табліцы, найбольш перасяленцаў прыбыло ў 1908 годзе з Магілёўскай губерні, на ранніх этапах засялення ў перыяд 1893—1903 гадоў першынствавалі выхадцы з Віленскай губерні, у 1904—1907 гадах — выхадцы з Магілёўскай губерні, захоўваючы колькасную перавагу на працягу ўсяго разглядаемага перыяду.

Даныя па этнічнай прыналежнасці сем'яў перасяленцаў, якія былі ўкаранёныя на перасяленчых участках у Томскім павеце, прыведзены ў наступнай табліцы:

| З якога года пражываюць | Рускія | Украінцы | Беларусы |
|---|---|---|---|
| 1909—1910 | 735 | 209 | 405 |
| 1908 | 893 | 316 | 671 |
| 1904—1907 | 1023 | 286 | 527 |
| 1893—1903 | 283 | 164 | 116 |
| Раней 1893 | 39 | — | — |

Згодна статыстычным даным, да 1910—1911 гадоў у выніку інтэнсіўных міграцыйных працэсаў беларусы ад агульнай колькасці жыхароў у пераходным раёне Томскай губерні складалі 22 працэнты, у таежным — 19,1, а ў сярэднім па губерні — 16,6 працэнта.

Розніца, якая назіралася паміж данымі аб пражыванні беларусаў і перасяленцаў з губерняў беларускага эканамічнага раёна, звязана з тым, што гэта, разумеецца, не ідэнтычныя паняцці, сярод апошніх былі рускія і палякі і

інш. Вызначэнне ж таго, якая ж сапраўдная колькасць беларусаў пражывала ў сёлах Прыоб'я, вельмі ўскладнена, таму што прамое ўказанне ў графе «Нацыянальнасць» не заўсёды дае рэальныя звесткі аб этнічнай прыналежнасці, бо этнонім «русские» ўжываўся ў двух сэнсах — у яго сучасным значэнні і як абагульненая назва трох усходніх славянскіх народаў у выпадку, калі іх прадстаўнікі размаўлялі пераважна на рускай мове. Таму ў ліку рускіх улічаны прадстаўнікі амаль усіх нацыянальнасцей, якія размаўлялі на рускай мове, хаця і не страцілі нацыянальнай самасвядомасці.

Варта таксама адзначыць, што большая частка беларусаў, якія былі праваслаўнай веры, у выніку агульнасці рэлігіі хутка інтэграваліся з рускім насельніцтвам. Перасяленцы католікі па магчымасці стараліся ствараць асобныя групы па канфесійных прыкметах з прыехаўшымі палякамі, аднак малалікасць гэтых груп прыводзіла да неабходнасці больш актыўна ўзаемадзейнічаць са старажыламі і праваслаўнымі перасяленцамі. У асноўным сяляне-беларусы лёгка сыходзіліся з рускімі, асаблівасці іх мовы ўспрымаліся імі і акаляючымі як дыялект рускай мовы. Існуючыя паміж беларусамі сувязі ўспрымаліся як зямляцкія. Усё гэта садзейнічала іх хуткай сацыяльнай адаптацыі, успрыняццю іх старажыламі на ўзроўні з рускімі перасяленцамі, а не як прадстаўнікоў другой нацыі, устанаўленню моцных гаспадарчых, а ў далейшым сваяцкіх сувязяў. Нягледзячы на адносную малалікасць беларускіх сем'яў, якія жылі ў сярэдзіне XIX — пачатку XX стагоддзяў у Прыоб'і, яны ўнеслі свой пазітыўны ўклад у фарміраванне своеасаблівай сібірскай культуры і гаспадаркі.

*А. Карповіч*

*(г. Рыга)*

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СВЯДОМАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ ЛАТВІІ

Мяне даўно здзіўляе і турбуе парадокс у нацыянальнай самасвядомасці беларусаў — гэта абыякавасць многіх з іх да сваіх гістарычных святыняў: мовы, культуры, гістарычнай сімволікі, нават самой гісторыі Бацькаўшчыны. Гэта трагедыя нацыі. Іншыя народы гэтага не могуць зразумець. Прычын гэтаму нацыянальнаму нігілізму шмат. Іх трэба, мне здаецца, даследаваць і ў сродках масавай інфармацыі абмяркоўваць.

Хачу падзяліцца думкамі, меркаваннямі аб нацыянальнай самасвядомасці беларусаў Латвіі. Па роду працы старшыні беларускай суполкі «Прамень» мне даводзілася сутыкнуцца з беларусамі, у якіх як розныя палітычныя погляды, так і розная нацыянальная свядомасць.

Беларусаў Латвіі, згодна з часам іх пражывання там, можна падзяліць на 4 групы:

1-я група — карэнныя жыхары, продкі якіх з даўніх часоў жылі ў гэтай краіне. Гэта нашчадкі даўняга насельніцтва Латгаліі.

2-я група — дзеці, якія прыехалі ў Латвію пасля вайны сумесна з бацькамі. Сюды можна аднесці і дзяцей, якія трапілі ў Саласпілскі нямецкі канцлагер з Асвейшчыны і Верхнядзвінскага раёна.

3-я група — тыя, хто прыехаў пасля вайны (у застойныя часы), скончыўшы беларускія школы, ВНУ, а таксама розныя спецыялісты па накіраваннях на камуністычныя будоўлі (Огра, Олайне, Даўгаўпілс, Рыга).

4-я група — іх дзеці, што нарадзіліся ў Латвіі, многія ад змешаных шлюбаў, якія навучаліся і навучаюцца ў рускіх школах.

Першая група — карэнныя жыхары Латвіі. У 20-я гады нашага стагоддзя ў Латвіі беларускі рух быў вельмі актыўным. Дзейнічала больш за 40 беларускіх школ, гімназія. Галоўным чынам у Латгаліі. У Рызе нават існаваў беларускі напаўпрафесійны тэатр. У той час тут працавалі слынныя беларусы, як Кастусь Езавітаў, Сяргей Сахараў, Краскоўскі, Мядзёлка. Але хутка пачаўся так званы беларускі працэс. Гэтых людзей у зняволенні доўга марылі голадам, абвінавачвалі ў тым, што яны хацелі аддзяліць Латгалію ад Латвіі, каб далучыць да БССР. Але нарэшце суд з-за адсутнасці ўлік іх апраўдаў. Хто ад'ехаў на Радзіму, трапіў у ГУЛАГ ці быў расстраляны. У 30-я гады пачалася «латышызацыя» насельніцтва, рэжым Карліса Ульманіса пазачыняў усе беларускія школы. Дзеці тых беларусаў лічаць сваёй радзімай Латвію, яны грамадзяне Латвіі. Беларускую мову не ведаюць. Нацыянальная свядомасць іх нізкая, хоць яны і лічаць сябе беларусамі — тыя, хто не захацеў «аблатышыцца» ці стаць рускімі. Веравызнанне ў іх — каталіцкае.

Другая група — дзеці, прывезеныя пасля вайны. Штосьці памятаюць пра Беларусь — ад сваіх бацькоў. На этнічную радзіму ездзілі ў госці. Яны скончылі рускія школы, ВНУ, ведаюць добра латышскую мову, культуру. Цягнуцца да беларускіх суполак, выпісваюць беларускія газеты, часопісы. Цяпер яны на Беларусь глядзяць як бы іншымі вачыма, але ж яны выхаваны ў савецкай Латвіі, і ў іх свае, асабістыя погляды. Да новага ставяцца з асцярожнасцю.

Трэцяя група — гэта розныя спецыялісты, якія прыехалі ў 70—80-я гады. Гэта самая вялікая частка беларусаў, якія гуртуюцца ў беларускіх суполках, прычым найбольш актыўная частка. Многія з вёсак, скончылі беларускія школы, тэхнікумы, ВНУ. Тыя, хто не змог ці не захацеў пераехаць на Бацькаўшчыну. У залежнасці ад таго, якія яны займалі раней пасады, складваюцца ў іх і палітычныя погляды, нацыянальная свядомасць таксама розная. Цягнуцца да культуры, цікавяцца гісторыяй сваёй Бацькаўшчыны. Ніякія палітычныя доказы так не дзейнічаюць на беларусаў, як гістарычныя звесткі пра беларускую мінуўшчыну, песні, абрадавыя святы: Купалле, Вялікдзень, Каляды. Многія на гэтых святах плачуць.

Вось наша ТБМ «Прамень» і вырашыла дзейнічаць у гэтым напрамку. Пры таварыстве створаны фальклорны ансамбль «Надзея», з дапамогай якога і ладзяцца ўсе абрадавыя святы і канцэрты. Ужо другі год таварыства выдае газету на беларускай мове «Прамень», якая даводзіць да чытача гістарычную мінуўшчыну Беларусі, паведамляе пра знакамітых землякоў, перадае навіны з Бацькаўшчыны.

Аднак беларусы ў адрозненне ад палякаў, рускіх і ўкраінцаў, для якіх створаны і цэнтры культуры, і школы, не маюць ні цэнтраў, ні бібліятэк. Рэдакцыя газеты не мае адраса. Ансамбль рэпеціруе на чыгуначнай станцыі на ўскраіне горада. Хто з беларусаў хоча звярнуцца да землякоў, ім няма куды прыходзіць, і яны шукаюць нас праз пасольства, а яно і само ўжо змяніла трэці адрас. Ёсць выпадкі, калі беларусы прымалі грамадзянства ці Расіі, ці Польшчы.

Увогуле ж беларусы гэтай групы адносяцца да сваёй культуры, мовы, гісторыі больш паважліва, я сказаў бы, пяшчотна. Хто можа размаўляць па-беларуску, пры сустрэчы размаўляюць толькі на роднай мове.

Чацвёртая група — дзеці і ўнукі спецыялістаў, якія дзякуючы змешаным шлюбам маюць ужо і грамадзянства Латвіі. Калі адзін з бацькоў у іх не латыш, хоць і нарадзіўся ў Латвіі, то ён — не грамадзянін, а проста жыхар Латвіі. Як жартуюць у нас: неграмадзянін нарадзіў грамадзяніна.

Гэта самая складаная частка. Адны з такіх грамадзян ідуць у рускія школы, другія — у латышскія. Нацыянальна свядомыя бацькі вядуць сваіх дзетак у беларускую школу. Вось за душы гэтых маладых бацькоў, іх дзяцей нам і давядзецца пазмагацца. Гэта будучыня беларускага асяроддзя ў Латвіі. Калі мы створым ім адпаведныя ўмовы: школы, бібліятэкі, цэнтр беларускай культуры, тады справа беларускага адраджэння, справа росту нацыянальнай свядомасці будзе жыць, а беларус у Латвіі не будзе перахрышчвацца ў іншародца.

*Р. Гарэцкі*

*(г. Мінск)*

# КУЛЬТУРА І АДУКАЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

Гістарычныя падзеі, агульныя абставіны і жыццёвыя ўмовы ў Беларусі часта складаліся так, што спрыялі эміграцыйным працэсам. Нават Францыск Скарына набываў адукацыю ў замежжы, а свае першыя выданні (23 кнігі Бібліі на старажытнабеларускай мове) надрукаваў не на Радзіме, а ў Празе. Ды і потым зноў эмігрыраваў у Прагу, дзе пражыў амаль 20 гадоў, там і пахаваны. Сімяон Полацкі таксама амаль 20 гадоў пражыў у Маскве, зрабіў вялікі ўклад у рускую культуру і адукацыю як выдатны грамадскі і царкоўны дзеяч, педагог, пісьменнік і публіцыст.

Забарона афіцыйна карыстацца беларускай мовай спачатку ў Рэчы Паспалітай, а затым у Рускай імперыі, войны, паўстанні, арышты і высылкі не спрыялі развіццю беларускай культуры. Каля трохсот гадоў беларускі народ жыў пад амаль поўным панаваннем польскай і рускай культур. Таму лепшыя прадстаўнікі ўраджэнцаў зямлі беларускай і іх продкі нярэдка станавіліся выдатнымі дзеячамі суседніх культур. Дастаткова ўспомніць такія імёны, як Фёдар Дастаеўскі і Адам Міцкевіч, Міхаіл Глінка і Станіслаў Манюшка, Мадэст Мусаргскі і Дзмітрый Шастаковіч, Восіп Кавалеўскі і Іосіф Гашкевіч, Мікалай Пржэвальскі і Іван Чэрскі, і многія-многія іншыя. Некаторыя з нашых суайчыннікаў сталі нацыянальнымі героямі іншых краін (Тадэвуш Касцюшка, Ігнат Дамейка). Імёнамі многіх з іх названы гарады і пасёлкі, хрыбты і залівы, іншыя геаграфічныя аб'екты, выкапнёвыя і сучасныя расліны і г. д.

Асабліва вялікая хваля эміграцыі назіралася ў пачатку нашага стагоддзя, калі з Беларусі з'ехала каля 1 млн. чалавек — галоўным чынам у ЗША, у Еўропу, і столькі ж —

у Сібір, а потым шмат беларусаў пакінулі Радзіму ў час і пасля другой сусветнай вайны. Калектывізацыя, сталінскія рэпрэсіі, эвакуацыя ў час вайны, «будоўлі камунізму» (БАМ, цаліна і інш.) выклікалі перасяленне больш як мільёна людзей. Многія этнічныя беларускія тэрыторыі адышлі да суседніх краін (Беласточчына, Віленшчына, заходнія вобласці Расіі, часткова Чарнігаўская вобласць Украіны). Калі ўлічыць і часовую міграцыю, эвакуацыю ў час вайны многіх жыхароў, творчай інтэлігенцыі, дык у выніку не менш за палову беларусаў пастаянна ці часова аказваліся за межамі сваёй Бацькаўшчыны. Большасць суайчыннікаў досыць хутка асімілявалася ў іншых краінах, але ў многіх яны стварылі моцнае нацыянальна свядомае ядро беларускай эміграцыі.

Найбольш вялікія і вядомыя суполкі склаліся ў ЗША і Канадзе, а таксама ў Чэхіі, Нямеччыне, Англіі, Аргенціне, Аўстраліі і інш. Першыя дзве і да гэтага часу застаюцца найбольш значнымі. Беларуская эміграцыя здзіўляе вялікай палітрай сваёй культурнай дзейнасці: мастацкая літаратура, літаратуразнаўства, фальклор, часопісы, газеты, музеі, бібліятэкі, тэатр, мастацтва, музыка, выдавецкая справа, харавыя і танцавальныя гурткі, радыёперадачы, шырокі спектр рэлігійнага жыцця і г. д.

Пасля развалу СССР мы змаглі нарэшце больш дасканала пазнаёміцца з набыткамі беларускай культуры ўсіх краін, і тады пачаўся працэс узаемнага ўздзеяння розных частак беларускай культуры — метраполіі і замежжа. Калі пра дзейнасць беларусаў на іх этнічных тэрыторыях у Польшчы, Літве і часткова Латвіі ёсць досыць значныя звесткі, дык пра беларусаў, якія пражываюць на этнічных заходніх землях Расіі і часткова Украіны (заходніх частак Бранскай, Смаленскай, Цвярской, паўднёвай частцы Пскоўскай і паўночнай Чарнігаўскай абласцей), вядома зусім мала. На жаль, многія з іх ужо і не лічаць сябе беларусамі, але яшчэ шмат дзе захавалася беларуская мова, а часцей змешаная — руская з вялікім уплывам беларускай. Жыхары гэтых абласцей у выніку кансерватыўнасці захавання культурнай спадчыны — ужо адзначаных моўных традыцый, фальклору, музычных спеваў і танцаў, мастацкіх вырабаў, быту, гаспадарчай дзейнасці і іншых асаблівасцей — маюць сваё непаўторнае аблічча. Тут захавалася значная

беларускасць, якая зусім мала вывучана. У гэтых мясцінах патрэбна вялікая праца не толькі па вывучэнні, захаванні, але, магчыма, і па адраджэнні беларушчыны.

Узаемнае пранікненне здабыткаў культуры замежжа і метраполіі набыло значную моц. Гэта абмен шматлікімі кнігамі, часопісамі, газетамі, выданне многіх твораў эмігрантаў на Радзіме, выхад спецыяльных кніг пра дзейнасць эмігрантаў у ЗША, Нямеччыне, абмен мастацкімі выставамі, непасрэдныя сустрэчы на нарадах, канферэнцыях і г. д. Але, праўда, гэта робіцца галоўным чынам намаганнямі не дзяржавы, а энтузіястаў. Усё ж гэта трэба лічыць толькі пачаткам вялікай справы ўзбагачэння і аб'яднання розных плыняў у адну агульнабеларускую культуру. Узнікае многа праблем па захаванні культурнай спадчыны і развіцці культуры беларускага замежжа ў сувязі з натуральным адыходам носьбітаў гэтай культуры і амаль поўнай адсутнасцю іх маладой змены.

Зараз значная колькасць беларускіх суполак, таварystваў стварылася ў краінах СНД і Балтыі — ад Эстоніі да Якуціі, ад Комі да Узбекістана. Ідзе актыўная культурна-асветніцкая праца. Вельмі цікавая старонка — беларусы-эмігранты пачатку стагоддзя, асабліва сібірскія і далёкаўсходнія, якія да гэтага часу захавалі многія рысы культуры даўніх гадоў. Пакуль што гэта слаба вывучана. Добра, што самі сібіракі пачалі займацца гэтай праблемай. Узнікаюць пытанні стварэння цэнтраў беларускай культуры, школ у месцах шчыльнага пражывання беларусаў. На жаль, дапамога ў гэтым з боку Рэспублікі Беларусь вельмі слабая. Нават раней дастаткова распрацаваная дзяржаўная праграма «Беларусы ў свеце» цяпер амаль закінута.

Найважнейшае значэнне ў захаванні і развіцці беларускасці мае адукацыя. Шырока вядома тая вялікая роля, якую мелі ў выхаванні беларускіх грамадзян і многіх дзеячаў Першая беларуская гімназія ў Вільні, латвійскія гімназіі, беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне і інш. Вядома вялікая праца па адкрыцці часовых беларускіх школ нават у вельмі цяжкіх умовах у час вайны.

Толькі праз нацыянальную адукацыю можна захаваць прысутнасць беларусаў у свеце. Таму як у Беларусі, так і ў беларускім замежжы неабходна беларусізацыя ўсёй

адукацыйнай сістэмы — ад дзіцячых садкоў да вышэйшай школы.

Хачу таксама падкрэсліць адну важную агульначалавечую праблему, якую можна вырашыць толькі праз адукацыю, навуку, культуру. У сувязі са страшэннай дэградацыяй навакольнага асяроддзя (мы на мяжы з экалагічнай катастрофай), выбухападобным узростам колькасці насельніцтва ў свеце, вялікім сацыяльным расслаеннем жыхароў свету і іншымі адмоўнымі з'явамі чалавецтва чакае катастрофа. Каб пазбегнуць гэтага, патрэбна новая парадыгма развіцця цывілізацыі — канцэпцыя ўстойлівага развіцця. Гэта вымагае неабходнасць гуманізацыі і экалагізацыі выхаваўчых і адукацыйных працэсаў на ўсіх узроўнях.

*А. Бабкоў*

*(г. Мінск)*

# ЭВАКУАЦЫЯ І ДЗЕЙНАСЦЬ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОЎ БЕЛАРУСІ Ў РАСІІ Ў ГАДЫ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ (1915 — пачатак 1917 года)

З пачаткам першай сусветнай вайны ў катастрафічным становішчы апынулася народная адукацыя Беларусі. У ходзе адступлення расійскіх войск і высялення насельніцтва многія школы спынілі сваю працу, а школьныя будынкі былі выкарыстаны для размяшчэння штабоў воінскіх часцей, шпіталяў і на іншыя мэты. Паводле даных справаздачы Віленскай навучальнай акругі за перыяд з пачатку 1914 па 1916 год сетка пачатковых школ на тэрыторыі Гродзенскай губерні скарацілася на 63 працэнты, Мінскай, падзеленай лініяй фронту, — на 40, Магілёўскай — на 28 і Віцебскай — на 22 працэнты[1]. Большасць сярэдніх навучальных устаноў Беларусі была эвакуіравана ў Расію. Паводле даных Усерасійскага з'езда бежанцаў з Беларусі, які адбыўся ў ліпені 1918 года ў Маскве, агульная колькасць навучальных устаноў, вывезеных з Беларусі ў Расію, складала 201[2]. У першую чаргу эвакуацыі падлягалі сярэднія навучальныя ўстановы Гродзенскай губерні, якая праводзілася згодна распараджэнню гродзенскага губернатара В. Шабекі ад 5 жніўня 1915 года «Аб эвакуацыі грамадзянскіх устаноў г. Гродна і губерні». Вядучыя ўстановы адукацыі Гродзенскай губерні былі вывезены пераважна ў Калужскую губерню. Так, у жніўні 1915 года ў Калугу пераехалі Гродзенская Марыінская жаночая гімназія, Гродзенскае рэальнае вучылішча і Слонімская жаночая гімназія. У Калузе такса-

---

[1] Гл.: Ильюшин И., Умрейко С. Народное образование в Белорусской ССР. Мн., 1961. С. 143.

[2] Протоколы Всероссийского съезда беженцев из Белоруссии. М., 1918. С. 30.

ма размясцілася дырэкцыя народных вучылішчаў Гродзенскай губерні. Свіслацкая настаўніцкая семінарыя была эвакуіравана ў г. Медынь Калужскай губерні. З другога буйнога цэнтра Гродзеншчыны — Брэст-Літоўска — вывезены ў Екацярынаслаўль мужчынская і жаночая гімназіі[3]. Прычым частка навучальных устаноў, як і адміністрацыйных, эвакуіравалася паўторна. Старшыня педсавета Гродзенскай жаночай гімназіі А. М. Святухін паведамляў, што першы раз канцылярыя гімназіі была перавезена ў жніўні 1914 года ў Маскву з-за пагрозы г. Гродна з боку германскіх войск, а будынак гімназіі быў заняты пад вайсковы шпіталь. Але ў канцы верасня па распараджэнні губернскіх улад гімназія была пераведзена ў г. Слонім Гродзенскай губерні, а ў снежні таго ж года з'явілася магчымасць вярнуцца назад у Гродна. У лютым 1915 года, калі пагоршылася ваенна-стратэгічная сітуацыя на расійска-германскім фронце, розныя ўстановы Гродзенскай губерні зноў былі эвакуіраваны ў Слонім. І, нарэшце, у ходзе агульнага адступлення расійскіх войск летам 1915 года грамадзянскія і палітычныя ўстановы Гродзенскай губерні былі эвакуіраваны ў глыбокі тыл[4].

Пасля акупацыі Гродзенскай губерні і набліжэння нямецкіх войск да межаў Мінскай губерні восенню 1915 года пачалася эвакуацыя навучальных устаноў Мінскай, часткова Віцебскай і Магілёўскай губерняў. Яны былі раскіданы па ўсёй Расіі. У верасні ў Маскву былі эвакуіраваны старэйшая школьная ўстанова Беларусі — Мінская мужчынская гімназія, а таксама Мінская прыватная жаночая гімназія В. І. Лявіцкай. Мінская казённая жаночая гімназія вывезена ў г. Уладзімір. А Мінскі настаўніцкі інстытут, які адкрыўся перад вайною, эвакуіраваны ў г. Яраслаўль[5]. У Смаленскую губерню былі вывезены дзве сярэднія навучальныя ўстановы Мінскай губерні: Маладзечанская настаўніцкая семінарыя ў Смаленск, а Нясвіжская жаночая гімназія ў г. Гжацк Смален-

---

[3] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей НА РБ), ф. 4, воп. 1, спр. 75, л. 21; спр. 74, л. 55; спр. 101, л. 63, 66; Справочник об эвакуированных общественных и частных учреждениях и заведениях и о должностных лицах. Пг., 1916. С. 40.

[4] НА РБ, ф. 4, воп. 1, спр. 75, л. 21.

[5] Справочник об эвакуированных... С. 104.

скай губерні. Адразу пасля адкрыцця заняткаў у навучальных установах Слуцка ва ўмовах набліжэння фронту пачалася падрыхтоўка да эвакуацыі мужчынскай і жаночай гімназій, якія былі перамешчаны ў Пензу, а іх будынкі заняў штаб III арміі Заходняга фронту. Асобныя навучальныя ўстановы Віцебскай губерні былі таксама эвакуіраваны ў глыбіню Расіі. Напрыклад, Полацкая мужчынская гімназія размясцілася ў Яраслаўлі[6]. У той жа час сама Віцебская губерня прымала навучальныя ўстановы з Заходняй Беларусі, як гэта адбылося з Нова-Вілейскай настаўніцкай семінарыяй, якая пераехала ў Невель Віцебскай губерні[7]. Прычым нярэдка былі выпадкі пераэвакуацыі навучальных устаноў на новыя месцы размяшчэння, што рабіла карціну іх знаходжання яшчэ больш заблытанай.

Навучальныя ўстановы Беларусі аказаліся ў Расіі ў бядотным становішчы. Многія з іх не змаглі арганізаваць навучанне дзяцей бежанцаў. Эвакуацыйную дапамогу атрымалі толькі настаўнікі. Шматлікія навучэнцы не змаглі аплаціць свой пераезд да новага месца навучання. Да таго ж з цягам часу Дзяржаўнае казначэйства скараціла выдаткі на ўтрыманне эвакуіраваных навучальных устаноў, а мясцовыя ўлады не аказвалі патрэбнай ім дапамогі. Пра сумнае становішча эвакуіраваных гімназій неаднаразова паведамлялі іх кіраўнікі губернскім уладам Беларусі. Так, летам 1916 года начальнік Мінскай жаночай гімназіі ва Уладзіміры хадайнічаў перад мінскім губернатарам аб вяртанні гімназіі ў Мінск на той падставе, што яму не ўдалося пачаць паўнацэнныя заняткі ні ва Уладзіміры, ні ў якім іншым горадзе. Мінская жаночая гімназія існавала выключна за кошт збораў за навучанне і невялікую субсідыю гарадской управы. У жніўні 1916 года выдача жалавання настаўнікам была спынена, а далейшае існаванне гэтай установы стала немагчымым[8]. Фактычна бяздзейнічала ў Калузе Гродзенская Марыінская гімназія, штат выкладчыкаў якой паступова раз'ехаўся. Патрэбы дзяцей бежанцаў у Калузе абслу-

---

[6] Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў (далей РДВГА), ф. 2049, воп. 1, спр. 487, л. 150, 327, 95; спр. 476, л. 67; спр. 432, л. 68.

[7] НА РБ, ф. 4, воп. 1, спр. 84, л. 18.

[8] РДВГА, ф. 2049, воп. 1, спр. 487, л. 150.

гоўвала эвакуіраваная сюды Слонімская жаночая гімназія[9]. Нягледзячы на цяжкасці, асобным навучальным установам удалося арганізаваць навучанне дзяцей бежанцаў з Беларусі. Так, Мінская казённая мужчынская гімназія функцыяніравала ў Маскве на працягу ўсіх гадоў эвакуацыі. У 1917 годзе яна працавала ў складзе васьмі класаў з персаналам настаўнікаў 25—30 чалавек. Праўда, колькасць навучэнцаў зменшылася з 700 чалавек перад эвакуацыяй да 130 пасля аднаўлення заняткаў у Маскве. На працягу двух гадоў грамадскасць Мінска клапацілася аб вяртанні гімназіі ў Мінск. Выконваючы абавязкі дырэктара Мінскай мужчынскай гімназіі В. А. Клімантовіч у дакладной запісцы на імя Галоўнакамандуючага армій Заходняга фронту таксама настойліва выказаўся за рээвакуацыю гімназіі. Аднак гэтае пытанне так і не было вырашана да канца вайны[10]. У цэлым у эвакуіраваных навучальных установах захоўвалася ранейшая афіцыйная сістэма адукацыі і выхавання.

Эвакуіраваныя рамесныя школы з іх каштоўным інвентаром выконвалі армейскія заказы. Так, вывезеныя ў верасні 1915 года з Навагрудскага павета Мінскай губерні Ракаўская і Нягневіцкая рамесныя школы ў Вязнікі Уладзімірскай губерні фактычна былі далучаны да Вязнікаўскага тэхнічнага вучылішча для выканання ваенных заказаў. З-за адсутнасці сваіх вучняў педагагічны персанал Нягневіцкай школы выконваў заказы з вучнямі Вязнікаўскага тэхнічнага вучылішча. На ваенныя патрэбы працавалі Мінская рамесная школа ў Туле, Дрысенская — у Яльцы Арлоўскай губерні і інш.[11]

Пасля эвакуацыі ў жніўні 1915 года ў Маскву Гродзенскай Духоўнай кансісторыі і Гродзенскага Епархіяльнага Вучылішчнага Савета на чале з архіепіскапам Гродзенскім і Брэсцкім, а таксама Жыровіцкага духоўнага вучылішча і іншых царкоўных устаноў там утварыўся праваслаўны цэнтр духавенства Гродзеншчыны. 27 кастрычніка 1915 года па ініцыятыве і пад старшынствам

---

[9] Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (далей ДАРФ), ф. 9509, воп. 1, спр. 81, л. 217.
[10] РДВГА, ф. 2049, воп. 1, спр. 487, л. 333.
[11] НА РБ, ф. 4, воп. 1, спр. 74, л. 46, 56.

архіепіскапа Міхаіла быў створаны Камітэт Гродзенскага Сафійскага Брацтва па аказанні дапамогі бежанцам Гродзенскай губерні. У яго працы прымалі ўдзел святары і настаўнікі царкоўных школ Гродзенскай епархіі. 1 снежня 1915 года на сродкі Епархіяльнага Ведамства ў Маскве былі адкрыты двухкласная царкоўнапрыходская школа на 30 навучэнцаў, а з 1 верасня 1916 года пачатковая школа на 9 хлопчыкаў і інтэрнат для іх. Аднак фінансавыя магчымасці Камітэта Гродзенскага Сафійскага Брацтва былі абмежаваны, на што звярнуў увагу архіепіскап Міхаіл у запісцы ад 9 кастрычніка 1915 года на імя начальніка штаба забеспячэння армій Паўночна-Заходняга фронту генерала М. А. Данілава. Ён пісаў: «Немагчымасць пашырыць дзейнасць па аказанні дапамогі бежанцам з'яўляецца асабліва цяжкай... у сувязі з тым, што іншыя нацыянальныя групы (польская, літоўская, яўрэйская) стварылі свае камітэты і маюць значныя фінансавыя сродкі»[12].

Духоўным і культурным цэнтрам бежанцаў з Беларусі ў Расіі ў першыя гады вайны быў Яраслаўль. Тут ужо ў 1915 годзе ў асяроддзі Мінскага настаўніцкага інстытута ўзнікла суполка «Наш край» на чале з У. Ігнатоўскім, якая з'явілася своеасаблівым каталізатарам абуджэння нацыянальнай свядомасці і палітычнай актыўнасці сярод вучнёўскай моладзі. У 1916 годзе па ініцыятыве нацыянальна свядомых выкладчыкаў з удзелам навучэнцаў Мінскага настаўніцкага інстытута ў Яраслаўлі была створана беларуская нацыянальная арганізацыя — Яраслаўская беларуская рада. Яна ставіла сваёй мэтай аб'яднанне беларусаў-бежанцаў на нацыянальнай аснове, пашырэнне культурна-асветніцкай дзейнасці сярод іх. Удзельнікі рады рыхтавалі на беларускай мове лекцыі і рэфераты па гісторыі і культуры Беларусі. У. Ігнатоўскі ў пазаўрочны час выкладаў беларусазнаўства ў інстытуце[13]. Паступова і ў іншых месцах найбольшага збірання бежанцаў і ўстаноў з Беларусі, такіх, як Калуга, Пецярбург, Тамбоў і г. д., сталі складвацца асяродкі беларускай асветы і культуры. У горадзе на Няве дабрачынную і культурна-

[12] РДВГА, ф. 2049, воп. 1, спр. 74, л. 253.

[13] Ляхоўскі У. В. Прадвеснік Адраджэння // Адукацыя і выхаванне. 1994. № 11.

асветніцкую справу сярод бежанцаў са студзеня 1916 года ўзначаліла Беларускае таварыства ў Петраградзе па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны на чале з Б. І. Эпімах-Шыпілам і інш. Таварыства адкрыла інтэрнаты для беларускіх студэнтаў і вучняў, наладжвала «Беларускія вечарыны»[14].

Трэба адзначыць, што новы этап у грамадска-асветніцкім жыцці бежанцаў Беларусі пачаўся пасля Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 года, якія абвясцілі ідэю нацыянальнай роўнасці і права нацый на самавызначэнне. Гэта прывяло да актывізацыі існуючых і стварэння новых беларускіх арганізацый.

У красавіку 1917 года ў г. Багародзіцку Тульскай губерні ўзнікла грамадска-асветніцкая арганізацыя Беларускі нацыянальны гурток, у кастрычніку гэтага года ў Арле — «Беларуская хатка», на пачатку 1918 года ў Арэнбургу — Арэнбургскі гурток беларусаў. Найбольш вядомай сярод бежанскай моладзі грамадскай арганізацыяй у Калузе з'яўлялася «Беларуская вучнёўская грамада», якая ўзнікла ў чэрвені 1918 года. Яна выступала за аб'яднанне вучняў-беларусаў усіх навучальных устаноў на нацыянальнай культурна-асветніцкай глебе. Пад кіраўніцтвам П. Сліжэўскага арганізоўваліся лекцыі, даклады, а таксама працавала бібліятэка і праводзіліся культурныя мерапрыемствы[15].

Такім чынам, у час першай сусветнай вайны народная адукацыя Беларусі панесла вялікія страты. Пачаўшыся з лета 1918 года, рээвакуацыя дзяржаўных і грамадскіх устаноў Беларусі, у тым ліку і навучальных, сутыкнулася з вялікімі палітычнымі і фінансавымі цяжкасцямі. Ліквідацыйная камісія, створаная ў гэты ж перыяд 1918 года пры Белнацкаме, мэтай якой з'яўлялася вызначэнне месцазнаходжання і прыняцце ў сваё распараджэнне дзяржаўных і грамадскіх устаноў, эвакуіраваных з Беларусі, адзначыла імкненне мясцовых улад гвалтоўна падпарадкаваць школы сабе, іншыя школы перайменоўваліся па месцы іх размяшчэння. Інвентар рамесных вучылішчаў пераходзіў да мясцовых школ.

---

[14] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1993. Т. 1. С. 361.
[15] Тамсама. С. 370, 417.

*Л. Лыч*

*(г. Мінск)*

# АДУКАЦЫЯ ЯК ФАКТАР КАНСАЛІДАЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ

Пасляваенная беларуская эміграцыя складалася з людзей розных узростаў, не выключаючы і самых ранніх. Тлумачылася гэта тым, што, ратуючыся ад савецкіх карных органаў, бацькі вывозілі ў чужыя краіны сваіх дзяцей. У адваротным выпадку і апошнія маглі б стаць аб'ектам пільнай увагі да сябе з боку такіх органаў.

Характэрнай своеасаблівасцю пасляваеннай беларускай эміграцыі трэба прызнаць даволі высокі працэнт сярод яе інтэлігенцыі, у тым ліку і педагагічнай.

Гэта былі асобы з высокім узроўнем прафесійнай падрыхтоўкі, шчыра апантаныя ідэяй беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Яны выдатна разумелі, якую ролю і ў эміграцыі можа адыграць адукацыя, калі павярнуць яе тварам да беларускасці. А штосьці мэтаскіраванае ў гэтым напрамку абавязкова трэба было рабіць, бо па-за межамі Бацькаўшчыны знаходзілася шмат дзяцей школьнага ўзросту. Не было сакрэтам, што з цягам часу менавіта ад іх, а не ад тых, хто дасягнуў сталага ўзросту, будзе залежаць лёс беларускай дыяспары. А карысць ёй зможа прынесці толькі тая частка моладзі, якая пройдзе сапраўдную школу нацыянальнага навучання і выхавання. За стварэнне яе неадкладна і ўзяліся найбольш нацыянальна-свядомыя прадстаўнікі беларускай эміграцыі, не спыняючыся ні перад якімі цяжкасцямі.

Велізарную актыўнасць і зайздросныя якасці арганізатара праявіў у гэтай выключна важнай справе колішні выпускнік Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Алесь Вініцкі (1891—1972). «Алесь Вініцкі, — прыгадваў той час Вітаўт Кіпель, — быў у 1945—1946 гадах у самым

цэнтры беларускага паваеннага эміграцыйнага жыцця ў Заходняй Нямеччыне, у Рэгенсбургу»[1]. У 1948/49 навучальным годзе ён стаў дырэктарам беларускай гімназіі ў невялікім старажытным нямецкім горадзе Остэргофене, дзе выкладаў матэматыку, геаграфію і маляванне. «Настаўнікі гімназіі, — паводле ўспамінаў Алеся Вініцкага, — шмат часу аддавалі падрыхтоўцы вучняў да ўрачыстых адзначэньняў Каляднай ялінкі, гістарычных гадавінаў і нацыянальных сьвятаў, сярод якіх першае месца займалі сьвяты 25 сакавіка, угодкі Слуцкага паўстаньня і дзень Каліноўскага. У праграмы адзначэньня ўваходзілі дэклямацыі, сьпевы, сцэнічныя паказы, скокі і актуальныя рэфераты»[2].

На пасадзе дырэктара беларускай гімназіі Алесь Вініцкі заставаўся і тады, калі яна ў пачатку 1949/50 навучальнага года пераехала ў горад Розенгайм (Баварыя) і аб'ядналася з такой жа навучальнай установай, што была пераведзена сюды з вёскі Віндышбергердорф (Баварыя). Аб'яднаная гімназія насіла імя Янкі Купалы. Усяго ў ёй было 85 вучняў. Час надышоў такі, што вельмі ўзмацніўся рух беларускіх эмігрантаў з Нямеччыны ў краіны Заходняга паўшар'я, і гімназія ў сувязі з гэтым пачала траціць кантынгент і ў чэрвені 1950 года спыніла сваю дзейнасць.

Заслуга Алеся Вініцкага перад беларускай нацыянальнай адукацыяй за мяжой не толькі ў яго практычнай педагагічнай дзейнасці. Яму належыць яшчэ і шэраг вельмі цікавых і змястоўных публікацый па данай праблеме.

Шчырым змагаром за беларускую нацыянальную асвету ў эміграцыі праявіў сябе і Аляксандр Орса, які карыстаўся вельмі вялікім аўтарытэтам сярод педагогаў Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд. Калі ў 1945/46 навучальным годзе ў Рэгенсбургу (Амерыканская зона акупацыі) была адчынена ў ліку адной з першых у Заходняй Нямеччыне беларуская гімназія, кіраўніцтва ёю даверылі Аляксандру Орсу. Тут працавалі яго жонка На-

---

[1] Вініцкі А. Матэр'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадах. Мн., 1994. С. 6.

[2] Тамсама. С. 131.

талля Орса (выпускніца Карлавага універсітэта ў Празе), Аўген Каханоўскі (сапр. Калубовіч), доктар навук Янка Станкевіч, доктар медыцыны Аляксандр Багдановіч, кампазітар Мікола Равенскі (пазней напіша музыку на верш Наталлі Арсенневай «Магутны Божа»), прыхільны да беларускай нацыянальнай ідэі святар Мікалай Лапіцкі.

Зайздросную актыўнасць і багатае прафесійнае майстэрства праяўляў, працуючы ў гэтай беларускай гімназіі, Аўген Калубовіч. Выкладаў беларускую мову і літаратуру і ўвесь час дамагаўся высокай паспяховасці гімназістаў. Але, бадай, галоўным трэба прызнаць у педагагічных здабытках Аўгена Калубовіча тое, што з атрыманымі ад яго прадметаў набыткамі выхаванцы не развітваліся і па заканчэнні вучобы. Для ўсіх іх без выключэння беларуская мова стала найдаражэйшым духоўным скарбам, якому яны заставаліся вернымі да канца свайго жыцця. Шмат часу аддаваў ён і пазакласнай працы з гімназістамі, імкнучыся, каб яны раслі фізічна здаровымі, усебакова развітымі.

Бясконца абрадавалася магчымасці паступіць на працу ў гэтую гімназію выпускніца гістарычнага факультэта БДУ, а затым яго выкладчыца Іна Рытар. У беларускай гімназіі яна выкладала нямецкую і англійскую мовы.

Па-бацькоўску хваляваўся за лёс дзяцей-уцекачоў з Беларусі А. Яцэвіч, які пасля прыбыцця ў жніўні 1944 года ў Вену заняўся выяўленнем і ўлікам дзяцей школьнага ўзросту з мэтай арганізацыі вучобы з імі. Вопытнаму педагогу хацелася, каб дзеці атрымлівалі не толькі адукацыю, але і раслі тут, на чужой зямлі, беларусамі. Такой мэты маглі дамагчыся толькі апантаныя беларускай ідэяй настаўнікі, для якіх школа не толькі месца, дзе вучаць дзяцей чытаць і пісаць, але дзе іх яшчэ робяць нацыянальна свядомымі людзьмі.

На адукацыю як сродак нацыянальнай кансалідацыі з належным разуменнем глядзелі і многія з бацькоў дзяцей. Дзякуючы поўнаму супадзенню пазіцый педагогаў і бацькоў на гэтую праблему адукацыя і сапраўды станавілася такой. «Заняткі ў школах, — прыгадваў той неспакойны час А. Яцэвіч, — праводзіліся кожны дзень, нават і ў суботы. На просьбу бацькоў, якія баяліся, каб у часе зімовых вакацый фабрычная адміністрацыя не

змабілізавала некаторых старэйшых дзяцей на працу, некаторыя школы калядных перапынкаў не рабілі, матывуючы гэта патрэбамі навучаньня з прычыны спозьненага адчыненьня школы.

Перад Новым, 1945 годам у Вену прыехалі прадстаўнікі з нямецкага Міністэрства асьветы для інспекцыі нямецкіх школ ды наведалі Другую беларускую школу. У школе было 28 вучняў. Настаўніца Валянціна Яцэвіч займалася адначасова з дзвюма клясамі. Даведаўшыся, што вучні 1-е клясы толькі месяц як пачалі наведваць школу ды пачалі заняткі чытаньня з першае літары лемантара, прадстаўнікі камісіі былі вельмі зьдзіўлены посьпехамі вучняў і выдалі пісьмовую падзяку настаўніцы Валянціне Яцэвіч»[3].

Акрамя належна арганізаванага навучальнага працэсу ў гэтай школе добра клапаціліся і пра нацыянальна-патрыятычнае выхаванне дзяцей. Відаць гэта было і па тым, як тут 22 снежня 1944 года святкавалі Калядную ялінку: «Абступіўшы яе і пабраўшыся за рукі, дзеці школьнага й дашкольнага веку радасна пялі свае родныя беларускія песьні.

[...] Маленькія вучні, якія не навучыліся ўсіх літараў, пад гучныя воплескі гледачоў бойка падыходзяць да ялінкі й бадзёра дэкламуюць вершы: «Ворагам беларушчыны», «Слуцкія ткачыхі», «Беларуская зямліца» й многа, многа іншых.

Вучаніцы ў беларускіх нацыянальных вопратках па-мастацку выконьваюць нашыя танцы. Хор удала прасьпяваў «Люблю наш край», «Мы бойкая моладзь», «Чаму ж мне ня пець» і іншыя песьні, а на заканчэньне разам з усімі прысутнымі Беларускі Нацыянальны Гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»[4].

Проста не верыцца, што ў спешчанай самымі выдатнымі талентамі музычнай Вене маглі загучаць і беларускія песні. Які унікальны выпадак! Ды ў такі цяжкі час ваеннага змагання дзвюх вялікіх таталітарных дзяржаў! Аднак, нягледзячы на такога неспрыяльнага характару акалічнасці, усе 28 дзетак Другой беларускай школы не

---

[3] Вініцкі А. Матэр'ялы да гісторыі... С. 57.
[4] Тамсама. С. 58.

растваралiся ў чужой шматаблiчнай Вене, а, наадварот, кансалiдоўвалiся ў пэўны этнакультурны асяродак, добра адчувалi сябе часцiнкай свайго роднага беларускага народа. I заслуга ў гэтым найперш за ўсё школы.

Ахвотна прыняла прапанову стаць за настаўнiцу ў адчыненай у 1945/46 навучальным годзе ў нямецкiм гарадку Рэгенсбургу беларускай пачатковай школе вопытны педагог Савецкай Беларусi, аўтар шэрагу навуковых i навукова-папулярных публiкацый Апалонiя Савёнак. Шкада толькi, што ў гэтай школе ёй не ўдалося выкарыстаць свой багаты прафесiйны вопыт на вялiкай колькасцi людзей, бо заняткi наведвала ўсяго толькi дванаццаць чалавек. Але i ў дадзеным выпадку праца выдатнага настаўнiка давала добры плён, бо яе навучэнцы ўзгадоўвалiся на лепшых традыцыях беларускай нацыянальнай адукацыi. Куды больш шырокi дыяпазон педагагiчнай дзейнасцi ў Апалонii Савёнак стаў тады, калi яна пачала выкладаць беларускую мову i лiтаратуру ў адчыненай у лютым 1947 года ў горадзе Остэргофене беларускай гiмназii (дырэктар Лявон Савёнак). У год адкрыцця гiмназii ў ёй навучалася 38 чалавек. Беларускую мову выкладала i тады, калi ў 1949/50 навучальным годзе гэтая навучальная ўстанова перабазавалася ў горад Розенгайм.

Вельмi важным, бясспрэчна, пазiтыўным фактарам у справе наладжвання вучобы беларускiх дзяцей у эмiграцыi трэба прызнаць тое, што на гэты адказны ўчастак працы прыйшло шмат педагогаў з багатым вопытам барацьбы за нацыянальную школу ў перыяд знаходжання Заходняй Беларусi пад уладай Польшчы. Каму-каму, а такiм педагогам добра была вядомая роля нацыянальнай школы ў лёсе народа, у яго выхаваннi ва ўмовах гвалтоўнай цi натуральнай асiмiляцыi. Першы вiд асiмiляцыi не пагражаў для маладых пакаленняў беларусаў, што апынулiся ў Нямеччыне, другi — станавiўся рэальнасцю ўжо на першым часе жыцця на чужыне.

Магчымасцi школы служыць мэтам кансалiдацыi нацыi вызначаюцца не толькi руплiвасцю педагогаў, але i тым, якiя дысцыплiны вывучаюцца з дзецьмi. З прыемнасцю можна адзначыць, што дадзенае пытанне вырашалася як мае быць на ўсiх этапах гiсторыi беларускай асветы ў эмiграцыi. Пацвердзiць гэта можна i на прыкладзе

першых беларускіх школ у Нямеччыне. У іх на родную беларускую мову адводзілася больш гадзін, чым на арыфметыку (адпаведна па 9 і 6 гадзін на тыдзень у 1-м класе, 11 і 6 — у 2-м, 9 і 6 — у 3-м, гэтулькі ж — у 4-м). Нямецкую мову вывучалі толькі з трэцяга класа па 2 гадзіны на тыдзень. З гэтага ж класа дзецям выкладалі геаграфію і гісторыю Беларусі. З нацыянальна-культурнымі традыцыямі беларускага народа былі арганічна звязаны ўрокі па спевах і маляванні, якія праводзіліся пачынаючы ўжо з першага класа.

Ярка выяўленую беларускую скіраванасць мела сетка ўрокаў у беларускіх гімназіях. Ва ўсіх іх васьмі класах беларуская мова выкладалася штодзённа, а нямецкая і англійская — праз дзень.

І такое стаўленне да вывучэння моў не выклікала адмоўнай рэакцыі ні ў вучняў і іх бацькоў, ні ў саміх настаўнікаў, бо ўсе і кожны цвёрда ўсведамляў — калі не жадаеш дэнацыяналізацыі дзяцей, трэба вучыць іх пабеларуску, на матэрыялах роднай літаратуры, гісторыі, геаграфіі і культуры, гэта значыць у поўным сэнсе слова стварыць ім нацыянальную школу. І такому статусу адпавядалі ўсе створаныя на першым часе беларускія навучальныя ўстановы. Яны адыгралі выключна важную ролю ў нацыянальнай кансалідацыі школьнай беларускай моладзі, не далі ёй узгадавацца абыякавымі, раўнадушнымі да гістарычнай і духоўнай спадчыны Бацькаўшчыны, хаця жыць і вучыцца даводзілася ў прасторавым адрыве ад яе.

Настаўнікі мелі глыбокую перакананасць у тым, што ў найбольшай ступені навучэнцам дапаможа адчуць сябе неад'емнай часткай беларускага народа толькі арганізацыя навучальна-выхаваўчага працэсу на беларускай мове, што толькі дзякуючы ёй адукацыя з'явіцца магутным фактарам кансалідацыі ў адзіную беларускую этнічную супольнасць той ці іншай краіны не толькі школьнікаў, але і іх бацькоў, настаўнікаў. І сапраўды, мова, нібы цэмент, знітоўвала, змацоўвала людзей аднолькавага нацыянальнага паходжання, незалежна ад іх прафесійнага статусу, адукацыі, узросту і веравызнання, у адзіную сям'ю, імя якой — беларуская.

Зусім заканамерна, што з цягам часу многія з тых, хто прайшоў курс навучання ў беларускіх школах і гімназіях, закончылі больш высокага тыпу навучальныя ўстановы і сталі перадавымі людзьмі ў беларускай эміграцыі, чаго нельга сказаць пра іх суайчыннікаў, што атрымалі адукацыю за мяжой у традыцыях рускай, польскай, украінскай ці іншых нацыянальных школ. Беларуская нацыянальная школа на эміграцыі з поўным правам можа ганарыцца такімі выпускнікамі, як Янка Запруднік, Вітаўт і Зора Кіпелі, Ала і Галіна Орсы, Янка Жучка, Уладзімір Бакуновіч, Уладзімір Цвірка, Павел Урбан, Галіна Ганчарэнка, якія пазней сталі вядомымі грамадскімі і культурнымі дзеячамі, навукоўцамі.

Карыснымі для беларускай справы людзьмі засталася і абсалютная большасць тых навучэнцаў, хто пасля заканчэння за мяжой беларускай пачатковай школы ці гімназіі не змог далей вучыцца. А карыснымі проста таму, што не страцілі сваёй беларускасці, пастараліся прышчапіць яе сваім дзецям, а цяпер прышчапляюць унукам.

Зусім не перабольшу, калі скажу, што беларуская педагагічная інтэлігенцыя за 1944—1951 гады здзейсніла сапраўдны цуд у Заходняй Еўропе. Нягледзячы на чужое культурна-моўнае асяроддзе, створаныя там беларускія дзіцячыя сады, пачатковыя школы і гімназіі далі столькі здаровага ў нацыянальным сэнсе чалавечага матэрыялу, што вельмі ў многім гэта прадвызначыла ўвесь далейшы лёс беларускай эміграцыі, ды яшчэ і сёння працягвае пазітыўна ўплываць на ўсе бакі яе жыцця. Без усяго таго, што было здзейснена таленавітымі, нацыянальна свядомымі беларускімі настаўнікамі на ніве адукацыі, наша эміграцыя не стала б адносна моцна скансалідаванай этнічнай супольнасцю, не мела б такіх важкіх здабыткаў у самых розных сферах дзейнасці чалавека.

Нельга, каб набыты ў тыя гады ў дзейнасці беларускіх эміграцыйных школ практычны вопыт ляжаў сёння мёртвым капіталам, бо павялічваюцца патокі беларусаў з метраполіі ў далёкае і блізкае замежжа. І самае галоўнае, трэба ўплываць на бацькоў у нацыянальна-патрыятычным духу, улічваючы асіміляцыю іх з прычыны таго, што вучыцца даводзілася ў рускамоўных агуль-

наадукацыйных школах, тэхнікумах і ВНУ. У інтарэсах беларускай нацыі вельмі важна, каб і такія бацькі, падаўшыся на сталае жыццё на чужыну, выхоўвалі там разам з настаўнікамі сваіх дзетак не на рускіх, польскіх культурна-моўных і гістарычных традыцыях ці на традыцыях краіны, якая выбрана ў якасці другой радзімы, а на ўласных, беларускіх. Яны — і толькі яны! — не дадуць дэфармавацца, знікнуць беларускай дыяспары. Не будзем забывацца, што і сёння ступень яе кансалідацыі, як і ў пасляваенныя гады, найперш за ўсё залежыць ад таго, з якім нацыянальным зарадам у жыццё будуць уступаць маладыя пакаленні. А ён жа (нацыянальны зарад) можа быць здаровым толькі ў тых, хто валодае і карыстаецца роднай мовай, шануе і садзейнічае ўзбагачэнню духоўнай спадчыны свайго народа, вызначаецца трывалай гістарычнай памяццю. Гэтыя неацэнныя каштоўнасці, чалавечыя якасці не прыходзяць самі па сабе, яны з'яўляюцца вынікам мэтанакіраванага сямейнага і школьнага выхавання і навучання.

*Я. Жучка*

*(г. Брусель)*

## ВУЧОБА
## Ў ЛЮВЕНСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

Не памылюся, калі сцверджу, што беларускія студэнты Лювенскага універсітэта адыгралі вялікую ролю ў культуры беларускага замежжа. Яны вельмі актыўна вялі культурную працу не толькі паміж беларускіх працоўных, якія ў той час знаходзіліся ў Бельгіі (у большасці працавалі на вугальных капальнях), але адначасна паміж студэнтамі Лювенскага універсітэта дый насельніцтвам Бельгіі, а таксама за яе межамі.

Да гэтага, думаю, не будзе лішнім падкрэсліць, што шмат выпускнікоў Лювенскага універсітэта, па сканчэнні студыяў раз'ехаўшыся па-за межамі Бельгіі, асабліва ў ЗША і Канаду, прадаўжалі і надалей прадаўжаюць працу на шляху беларускай культуры.

Беларускае студэнцкае жыццё ў Лювене пачалося дзесь у 1948 годзе. На вялікі мой жаль, я даных гэтага пачатку не маю. Таму мой кароткі агляд пачну ад пачатку майго прыбыцця ў Лювен у сакавіку 1950 года разам з іншымі 9 сябрамі з Вялікай Брытаніі.

13 сакавіка 1950 года, прыбыўшы ў Лювен, нас горача спаткалі беларускія студэнты, якія тут былі ўжо афіцыяльна залічаныя на розных факультэтах Лювенскага універсітэта. Перад намі стаяла вялікая праблема: мова. Каб слухаць лекцыі, трэба было ведаць мову, на якой яны выкладаліся. Мову, якую, па праўдзе сказаўшы, мы амаль упершыню чулі.

Вывучэнне мовы пачалося ад нуля, і то рознымі спосабамі. Найлепшы, магчыма, быў спосаб т. зв. «Асыміля», г. зн. падручнік з тэкстам, які перадаваўся для вымаўлення зарэгістраванымі кружэлкамі.

Хаця культурная праца праводзілася да самага пачатку заснавання Згуртавання беларускіх студэнтаў, але з-за малога ліку студэнтаў ды адсутнасці спецыялістаў праца гэтая, сказаў бы, была аматарская. Трэба, аднак, шчыра прызнаць, што на тых умовах — вялікае якасці.

Ужо адразу ж пасля нашага прыезду пачалася гарачая падрыхтоўка да арганізацыі імпрэзы ў гонар нашага нацыянальнага свята 25 сакавіка. Спадарыня Людміла Рагуля арганізавала гурток нацыянальных танцаў. Пасля некалькіх рэпетыцыяў мы выступілі, 28 сакавіка таго ж года, перад аўдыторыяй Лювенскага універсітэта. Акрамя танцаў у праграме было адначасна прадстаўлена некалькі беларускіх народных і нацыянальных песень, а таксама меладэкламацыя на беларускія матывы. Хаця ўсё было зроблена па-аматарску і даволі паспешна, аднак поспех быў надзвычайны.

Большы размах культурнае працы беларускіх студэнтаў Лювенскага універсітэта пачаўся пасля прыезду кампазітара Міколы Равенскага. Мікола Равенскі прыбыў у Лювен з Нямеччыны ў чэрвені 1950 года. Але так як гэта быў перыяд экзаменаў, а пасля канікулаў, Равенскі пачаў актыўна арганізоўваць студэнцкі мужчынскі хор у пачатку верасня гэтага года, г. зн. пасля павароту студэнтаў, якія былі да таго часу раскінутыя па Бельгіі ды нават за яе межамі. Ад гэтага часу прафесар Равенскі пачаў вельмі сур'ёзна працаваць з заснаваным хорам. Адначасна пачаў працаваць гурток беларускіх народных танцаў, які быў заснаваны, як сказана вышэй, у сакавіку таго ж года. Гурток складаўся з чатырох пар: чатырох дзяўчат і чатырох хлапцоў. Чатыры хлапцы належалі таксама да складу хору. Як хор, так і танцавальны гурток праводзілі рэгулярныя рэпетыцыі, што часамі вельмі моцна перашкаджала ў вучобе, асабліва ў перыяд экзаменаў.

Першы канцэрт быў наладжаны 18 снежня 1950 года ў вялікай універсітэцкай зале «Grande Rotonde». Хаця гэта быў першы канцэрт, час арганізацыі і падрыхтоўкі не надта вялікі, аднак поспех быў надзвычайны. У перапоўненай зале пасля кожнае песні і асабліва танцаў гучныя воплескі і выклікі «брава» і «біс» доўга прадаўжаліся. Змучаным танцорам амаль пасля кожнага танца прыходзілася «бісаваць». Поспех гэты быў дасягнуты толькі дзякуючы настойлівай і

нястомнай працы прафесара Міколы Равенскага і сур'ёзнаму падыходу да выканання харыстаў і танцораў.

Пералічваць усе канцэрты і імпрэзы, якія выканалі беларускія студэнты Лювенскага універсітэта як у самой Бельгіі, так і за яе межамі, заняло б шмат часу, ды да гэтага ў мяне не хапае шмат даных і дэталяў. Хачу толькі зазначыць, што падрыхтоўка бесперапынна і інтэнсіўна прадаўжалася з надзвычайнымі вынікамі. Ансамбль беларускіх студэнтаў Лювенскага універсітэта праз нейкіх пяць гадоў годна рэпрэзентаваў беларускую культуру за мяжой свае радзімы, у першую чаргу ў Лювенскім універсітэце ды ў Бельгіі наогул, але таксама і за граніцамі Бельгіі, як у Францыі, Ангельшчыне і Нямеччыне.

Да гэтага вельмі важна зазначыць, што, на вялікі жаль, прафесар Мікола Равенскі пражыў паміж беларускіх студэнтаў вельмі кароткі час: 1950—1953. Але за гэты кароткі час ён рэалізаваў аграмадную працу. Акрамя кіраваных ім канцэртных выступленняў, у якія ўваходзілі як свецкія, так і рэлігійныя песні, яго ж кампазіцыі, ён таксама кіраваў царкоўным хорам у адпраўленні праваслаўных багаслужбаў для беларускіх студэнтаў у Лювене, а таксама час ад часу для працоўных беларусаў у правінцыях. І апошняе, што ён здолеў яшчэ выканаць перад самай ягонай смерцю, гэта выпуск кружэлак беларускіх народных і рэлігійных песень ягонае кампазіцыі.

Пасля смерці прафесара Міколы Равенскага кіраваннем хору займаўся рэгент Кастусь Кіслы, пры дапамозе, як піяніста, кампазітара Алеся Карповіча.

У заключэнне, уважаю, што не будзе лішнім прыпомніць асобы, якія прычыніліся да заснавання беларускага студэнцкага жыцця ў Лювенскім універсітэце ды існавання і праводжання вышэйуспомненае працы на шляху распаўсюджвання беларускае культуры за межамі Беларусі. Асобамі гэтымі, на маю думку, будуць: Мікола Абрамчык; у той час студэнт Барыс Рагуля; а. Роберт ван Каўвелярт дэ Выльс, які да канца існавання ЗБС займаўся гэтай справай; сп. Баляслаў Слосканс, апостальскі візітатар беларусаў каталікоў на чужыне; а. Часлаў Сіповіч ды шмат іншых прыяцеляў нашай агульнакультурнай і нацыянальнай справы.

*У. Анічэнка*

*(г. Гомель)*

# ПРАБЛЕМЫ НАРМАЛІЗАЦЫІ ЛЕКСІКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ЗАМЕЖНАЙ І АЙЧЫННАЙ ЛЕКСІКАГРАФІІ

Вытокі сучаснай беларускай літаратурнай мовы бяруць свой пачатак з глыбокай старажытнасці, якая назапасіла моўнае багацце ў пісьмовай і вуснай формах. Мова гэтая развіваецца рознымі спосабамі, сярод якіх найбольш важны і актыўны — народна-нацыянальная моўная аснова, што з даўняга часу абслугоўвае штодзённую сферу зносін паміж людзьмі. Людзі ў працэсе сваёй працоўнай дзейнасці асэнсавалі і засвоілі лексічныя сродкі розных тэматычных аб'яднанняў. Яны зацікаўлены ў тым, каб залатыя россыпы слоў перадаць у спадчыну наступным пакаленням, задаволіць патрэбы грамадскасці ва ўзбагачэнні сваёй нарматыўнай мовы. Мовазнаўцы ўжо даўно вывучаюць дыялектную лексіку, яе ролю і значэнне ў жыцці літаратурнай мовы. Апошнім часам актывізаваліся іх намаганні па зборы, сістэматызацыі і лексікаграфічнай апрацоўцы лексічных дыялектызмаў. Складаюцца і выдаюцца слоўнікі featureнага тыпу.

Дыялектная лексіка прыцягвае ўвагу не толькі айчынных мовазнаўцаў, але і беларусаў далёкага замежжа, наогул усіх, хто шануе народнае слова і яго культурную ролю ў жыцці грамадства. Улічваючы гэтую акалічнасць, беларусы, што па розных прычынах аказаліся ў свой час за межамі Беларусі (у Злучаных Штатах Амерыкі) і не забываюць сваю Бацькаўшчыну, распачалі выданне дыялектных слоўнікаў беларускай мовы, у якіх у алфавітным парадку прыводзяцца трапныя лексічныя дыялектызмы і ўстойлівыя выразы з розных крыніц.

Так, Адам Варлыга выдаў «Краёвы слоўнік Лагойшчыны» (Нью-Йорк, 1970), у якім сістэматызаваў сваю родную мясцовую гаворку ў наступнай паслядоўнасці:

кожнае рэестравае слова забяспечана націскам, пазначана часціна мовы, пададзена яго значэнне ў літаратурнай мове; кожнае дыялектнае слова праілюстравана прыкладамі ў мясцовым вымаўленні.

Складальнік слоўніка стварыў каштоўную працу, якая выходзіць за межы вузканацыянальныя, паколькі яе фактычны матэрыял задавальняе ўсіх, хто займаецца вывучэннем гісторыі славянскіх моў. Дыялектная лексіка гэтай лексікаграфічнай крыніцы прыцягвае ўвагу найперш беларускіх мовазнаўцаў, якія дбаюць пра перспектыўнае развіццё беларускай літаратурнай мовы і яе культурную ролю на народна-нацыянальнай аснове. «Краёвы слоўнік Лагойшчыны» ў нейкай меры дапаўняе нашы існуючыя дыялектныя слоўнікі, у якіх гэты рэгіён аказаўся па-за ўвагай лексікографаў. Моўны ландшафт гэтай тэрыторыі Беларусі зззяе сваімі адметнымі лексічнымі колерамі на фоне іншых дыялектных масіваў. Тут шырока прадстаўлены аднаслоўныя лексемы, значэнні якіх у нашай нарматыўнай мове раскрываюцца адпаведнымі словаспалучэннямі, сказамі: *адродак* — прадаўжальнік роду; *акопак* — месца, дзе стаяла капа сена; *адпушчонік* — нядбалы чалавек; *асосак* — маладая свойская жывёліна, што корміцца малаком маткі; *дамокнуць* — кончыць мокнуць; *цахна* — распусная жанчына; *чужнік* — наёмны работнік. Асобнае месца ў «Краёвым слоўніку Лагойшчыны» займае матываваная лексіка, якая па сваёй унутранай форме не ўступае нарматыўным варыянтам: *гаручка* — тэмпература; *гарлата* — гарласты; *гаварэнь* — гаварун; *драпежыць* — знішчаць, псаваць, таптаць; *папсуй* — няўмека; *цёпкацца* — таптацца.

Народна-гутарковая мова беларусаў насычана незлічоным багаццем прыказак і прымавак з глыбокім зместам і вострай сілай думкі. У іх адлюстраваны дасціпны розум чалавека, яго побыт, сямейнае жыццё, светапогляд. Зборнік народных прыказак з мудрымі загадкамі, ветлівымі прывітаннямі і адказамі на іх, заклінаннямі і лаянкамі, пашыранымі ў народным асяроддзі на беларускай мове, запісаў і выдаў Адам Варлыга пад назвай «Прыказкі Лагойшчыны» (Нью-Йорк, 1996). Гэты зборнік дапаўняе запісы прыказак Лявона Вітана-Дубейкаўскага, надрукаваныя ў Нью-Йорку (1954). Зборнік Адама Варлыгі змяшчае звыш 1 700 беларускіх народных пры-

казак з уласнымі тлумачэннямі і тэкстамі да іх, якія, па словах збіральніка, адноўлены «пасля 1945 года, з памяці, з пачутага ў Лагойшчыне ў гадах 1897—1930». Ён узбагачае «Краёвы слоўнік Лагойшчыны» багаццем народна-гутарковай мовы, спрадвечнымі лаканічнымі і дасціпнымі метафарычнымі, алегарычнымі, гіпербалічнымі літаратурнымі прыёмамі. Згадаем некалькі лагойскіх прыказак: *Адной маткі дзеткі, ды неаднолькавыя песні пяюць* — хоць і аднаго краю людзі, але маюць розныя перакананні; *Адрыгнуцца ваўку авечыя слёзы* — прыйдзе час, калі і дэспаты будуць пакараны за свае злачынствы; *Бяда, калі не п'ецца вада* — гэта гаворыцца пра безнадзейнага хворага, які ўжо і вады не патрабуе; *Біцца не гадзіцца, а лаяцца не дазваляецца* — так навучаюць дзяцей і падлеткаў, каб жылі ў згодзе; *Выбірай кабылу гарбатую, а жонку лупатую* — гарбатай кабылы ніхто не ўкрадзе, а жонкі лупатай ніхто не звядзе; *Дзякуем не адбыць — трэба заплаціць; І ў вераб'я ёсць злосць* — злосць — не ганебная з'ява ў натуры чалавека, за крыўду не толькі чалавек, але і верабей можа зазлаваць; *Кату жарты, а мышы смерць* — гавораць пры фізічных спрэчках дужага са слабым; *Малы жук, ды вялікі гук* — калі малы чалавек наробіць вялікага крыку; *Не бача сава, якая сама* — калі нехта абгаворвае іншых за іхнія недахопы, а сам мае яшчэ большыя; *Не радзіся хвасліў, а радзіся шчаслів.* А вось некалькі загадак: *Цягнецца нітка, а на клубок не зматаць* (Дарога); *Коціцца кадушачка — ні звер, ні птушачка* (Яйка); *Ляжыць — няма знаку, а як устане — з сабаку* (Дуга); *Навакол носа ўецца, ды ў рукі не даецца* (Пах); *Стаіць дзед нізак, а на ім сто рызак* (Качан капусты); *У маленькім гаршчэчку кашка смачненькая* (Зерне ў арэху); *Жывуць два браты праз дарогу і адзін аднаго не бачаць* (Вочы).

Народна-гутарковай асновай беларускай літаратурнай мовы адзначаецца і часопіс «Беларускі свет», што выдаецца ў Злучаных Штатах Амерыкі з 1982 года. Яго моўная апрацоўка асабліва кідаецца ў вочы ў рубрыцы «Сёе-тое... і Яшчэ нешта...», дзе сістэматычна друкуюцца трапныя ўстойлівыя моўныя выразы, што ў пэўнай меры дапаўняе і прадаўжае традыцыю зборніка Адама Варлыгі «Прыказкі Лагойшчыны». Абмяжуемся тут некалькімі

прыкладамі павучальна-гумарыстычнага і параўнальнага зместу: *Гора лягчэй пераэюыць, калі яно чужое* (№ 5, 1979); *У кахання няма дарожных знакаў, таму на яго дарогах шмат катастроф* (№ 6, 1979); *Шануй старасць! Гэта твая будучыня* (тамсама); *Так многа піў за чужое здароўе, што аж згубіў сваё* (№ 8, 1980); *Мы пачынаем цаніць сваё здароўе тады, калі яму грош цана* (№ 10, 1981); *Золата не псуецца, аднак яно псуе людзей* (№ 11, 1982); *Лепш удар сябра, чым пацалуй ворага* (тамсама); *Сейце разумнае, добрае, вечнае, але ў добра падрыхтаваную глебу* (№ 13, 1983); *Мала даць чалавеку адукацыю, трэба яму яшчэ растлумачыць, як ёю карыстацца* (тамсама); *Слова не іголка, але, бывае, і яно колецца* (№ 15, 1984); *Часам трэба з'есці пуд солі, каб пераканацца, што жыццё — не цукар* (тамсама); *Выбіўшыся ў людзі, не рабі перашкоду іншым* (тамсама); *Каму многа дадзена, таму яшчэ больш хочацца* (№ 16, 1984); *Маўчанне — золата, але здаровая крытыка даражэй* (тамсама); *Век жыві — век вучыся!.. А жыць калі?* (№ 18, 1986); *Настолькі любіў сябе, што не жаніўся* (№ 20, 1988); *Залезь у даўгі і тады зразумееш, як ты патрэбен людзям* (тамсама); *Адвыкнуць ад курэння не так проста, як выкурыць цыгарэту* (№ 21, 1989).

Другім напрамкам лексікаграфічнай дзейнасці беларусаў далёкага замежжа было вывучэнне юрыдычнай лексікі беларускай мовы на матэрыяле некаторых старабеларускіх помнікаў (Літоўскага статута 1588 г., Кітаба-рэлігійнай кнігі, напісанай на беларускай мове арабскім пісьмом) у параўнальным плане з дыялектнымі слоўнікамі (запісамі), выдадзенымі ў розны час у Беларусі і за яе межамі (Носович И. И. Словарь белорусского наречия (СПб., 1870), Гарэцкі М. Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік (Вільня, 1921), Каспяровіч М. Краёвы слоўнік Віцебшчыны (Мн., 1927), Шатэрнік М. Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны (Мн., 1929), Станкевіч Я. Маленькі маскоўска-крывіцкі слоўнічак фразэолёгічны (Мн., 1944)). Лексічны матэрыял названых крыніц у выглядзе слоўніка сістэматызаваў Я. Станкевіч пад назвай «Некаторыя праўніцкія тэрміны беларускія» (Нью-Йорк, 1953). У слоўніку змешчаны юрыдычныя тэрміны, зафіксаваныя ў даследаваных крыніцах, іх значэнні на рускай мове з ілюстрацыйнымі прыкладамі. Прызнаючы традыцыйную

лексічную пераемнасць і эвалюцыю ў беларускай мове, некаторыя словы (яны ў слоўніку пазначаны зорачкамі) Я. Станкевіч лічыць магчымым ужываць у нашай нарматыўнай мове. Сярод іх, напрыклад, такія: *вочнік* — очевидец; *абмаўляць* — клеветать; *выступнік* — преступник; *доўжны* — должник; *падрослы* — совершеннолетний; *пазычэннік* — кредитор; *поблуд* — умопомрочение; *працавень* — работник, труженик; *сумеснік* — соучастник; *упорнік* — упрямец і інш.

Сваю лексікаграфічную дзейнасць Я. Станкевіч падагульніў у нью-йоркскім выданні капітальнага «Беларуска-расійскага (Вялікалітоўска-расійскага) слоўніка», які, па словах укладальніка, стаў працаю яго жыцця. У прадмове да Слоўніка ён пісаў: «Нацыянальна ўсведаміўшыся ў 1909 г., я пачаў усюдых запісваць словы беларускія. Паслей выпісваў таксама з фальклору і літаратуры. Такім парадкам, пададзены Слоўнік ё слоўнікам жывое народнае мовы і заразом літаратурнае мовы беларускае» (с. IX). Я. Станкевіч сабраў у адно месца лексіку жывых народных гаворак па даступных беларускіх дыялектных слоўніках (матэрыялах), а таксама рускіх, дзе зафіксавана і лексіка беларускай мовы, з этнаграфічных і гістарычных крыніц, мастацкай літаратуры і публіцыстыкі. Важнай і дзейснай крыніцай узбагачэння слоўніка з'явіліся ўласныя запісы і лінгвістычныя працы аўтара.

Рэестравымі ў слоўніку з'яўляюцца не толькі ўласнабеларускія словы, але і словы з іншых моў, якія традыцыйна ўжываюцца ў розных сферах з перакладам іх значэнняў на рускую мову па наступных меркаваннях: беларусы, акрамя роднай мовы, ведаюць і рускую мову, вывучаюць яе ў школах і вышэйшых навучальных установах. Істотнае месца займаюць указанні месца запісу кожнага слова або крыніцы, адкуль яно выпісана. Слоўнікавы артыкул заканчваецца ілюстрацыйным прыкладам.

Слоўнікавы склад беларускай літаратурнай мовы можна дапоўніць многімі лексемамі, зафіксаванымі ў рэестравай частцы слоўніка. Адны з іх удакладняюць семантыку існуючых нарматыўных слоў, пашыраюць іх значэнні (параўн. дыял. **Сякач** — железко на длинном древке рубить траву, клубнеплоды; дровосек; лесоруб — прылада, інструмент для раздрабнення, сячэння чаго-н.;

механізм для разразання торфу на кускі; дарослы самец дзіка, марскога коціка; насякомае, якое жыве ў зямлі і з'яўляецца шкоднікам сельскагаспадарчых культур; **Сакавік** — март; сок берёзы, клёна; трэці месяц каляндарнага года), другія матываваныя словы не ўступаюць нарматыўным адпаведнікам (параўн. дыял. *братан* — літ. пляменнік; *братанічка* — пляменніца; *вячорка* — вечарынка; *гнятуха (гнятучка)* — панос; *дзярун* — драпежнік; *квасіны* — закваска; *тухлець (тухліць)* — смярдзець; *шчэліцца* — трэскацца).

Праўда, не ўсё са слоўніка Я. Станкевіча можа стаць важнай крыніцай папаўнення лексічных рэсурсаў беларускай літаратурнай мовы. У яго рэестравай частцы зафіксавана немалая колькасць дыялектных слоў, якія адрозніваюцца немілагучным гучаннем і тэрытарыяльна вузкім ужываннем: *вірла* — глаз; *чмурыцца* — морщиться; *вілаводзіць* — сводить с прямого пути, путать, запутывать дело; *вілаводнік* — обманщик; *дзявушчы* — холостяк; *дзярбачыць* — скородить пружинной бороной; *марзакі* — губы; *петать* — сильно бить, колотить, тяжело работать, грузить; *сукры* — локоны.

Мовазнаўцамі нашай краіны падрыхтаваны «Слоўнік беларускай літаратурнай і народна-гутарковай мовы». Гэта новы тып слоўніка, ад існуючых слоўнікаў ён адрозніваецца зместам і прынцыпам пабудовы. У ім зведзена сінанімічная дыялектная лексіка ў адпаведныя рады, якія падведзены да пэўнага нарматыўнага адпаведніка, што выступае як апорнае слова ў такім радзе. Асаблівасцю слоўніка з'яўляецца наяўнасць у яго рэестравай частцы тых нарматыўных лексічных адзінак, якім у народным асяроддзі адпавядаюць сінанімічныя рады (ад аднаго да двухсот) з характэрнымі для іх семантычнымі, унутрыструктурнымі і акцэнталагічнымі варыянтамі, а таксама стылістычнымі паметамі.

Скажам, лексеме *жанчына* ў народным асяроддзі адпавядаюць: (маладая) *нявеста*, (старая) *корга*, (вясёлая) *вясёлка*, (мажная) *басэтля, ланка, турыца, цахна*, (слабая) *вахлячка, нядошліца*, (кволая) *хілячка*, (нездаровая) *трухлячка*, (высокая) *гальдоба, гардабэрда, гойда, грамабой, далігойда, дэрба*, (худая) *біржа, дыгля, кацубешка, падэрва, скаба, сухрынка, хударэба, шкобля*, (невысокая) *каратуха*,

*курапатка, кудра, кудрыпка, курдупля, куртка, почка,* (поўная) *жыроха, ляпёха, пампуха, тоўба,* (сытая) *гладуха, расплытуха,* (спрытная) *вужлячка, огнянка, падземніца, трапятуха,* (ліслівая) *льсцёха,* (хітрая) *вужовіца, выжла, хітрыца,* (языкаватая) *знайда, лэха, сечка, тарадэйка,* (злая) *вужачка,* (лёгкадумная) *вяртахла, завалока, махла, флюндра, шалаганка,* (абразлівая) *цытра,* (нязграбная) *надаўбня, сусла,* (дурнаватая) *галгаянка, стаўбеня,* (непатрэбная) *выляжанка,* (непрыгожая) *рапуха,* (кучаравая) *кундра,* (непрычасаная) *гірма, кошла,* (балбатлівая) *абгаворшчыца, баўтуха, лопацень, лапянда, лаханда, лахна,* (замужняя) *дружына, мужатка, сябрына,* (незамужняя) *акідзішча,* (разводная) *апушчэнка, развадуха, разводка, разжынка, разлучніца, разлучэнка, раскіданка,* (рухавая) *ажогла, груня, дрында, качолка, ласіца, раструханка,* (павольная) *клемпа,* (працавітая) *здзялуха, працавітка, старанніца, хібетніца,* (лянівая) *ацесліўка, баглайка, бінда, валяваха, журка, лянцёха, лярва, чыпчыліндра,* (непаваротлівая) *батарэя, валіза, капуха, карпуха, кепша, мяла, папіхайла, торба, чопа, рэпта, шула,* (бяздзетная) *бяздзетуха, каменніца,* (шматдзетная) *семенніца,* (стройная) *заглядуха, хібатніца,* (гаварлівая) *сакатуха, склопка, тарандоха,* (неадчэпная) *смаргуння,* (сварлівая) *буркуха, гаргара, гнусарка, грызуння, грынза, жабуха, зайдоха, заноза, кінчыба, ласкатуха, сучка,* (крыклівая) *глытаўка, смальня,* (ахайная) *хандога,* (неахайная) *абрыдніца, абрында,ануча, апускліўка, апушчоніца, ашкарэліна, бараханчыха, брудзерка, брында, бэйля, бэля, вахламоня, выдра, гідліўка, даліда, данда, дзяндзіха, дзяргуння, драпаста, дрыпса, забрындоха, зачуха, зепа, караўка, карэлка, каўмыга, каўтыга, кацмалух, кеца, кіця, комза, лахудра, мара, нікега, нэхля, нямыка, няхлюя, пацяпенька, расамаха, рахамудка, рашэціна, салодка, слімазурніца, халдзейка, чуліндa, чуліндра,* (запальчывая) *пасіянатка, хлепясліўка, шэйна,* (фанабэрыстая) *малімонка,* (удалая) *удалуха,* (няўжыўчывая) *разганіха,* (незадаволеная) *бажавальніца, бажавольніца,* (гугнявая) *мыркуння,* (разгульная) *выцірка, гайдамачка, круцяка, пляшніца,* (брудная) *брында, марцэля,* (крываногая) *клыпша,* (чорная) *жужалка, мурынка,* (глухая) *шухляндзя,* (нямая) *немка,* (сляпая) *сляпчыха,* (рабая) *рабонка, рабка,* (губатая) *губэся, лупяндзя,* (гру-

дастая) *цыцоха,* (дзыбатая) *зыгута,* (з моднай прычоскай) *маглеўка,* (з неахайнай прычоскай) *касма,* (мужчынападобная) *пахлапень,* (што поле) *палоцця,* (якая ўбірае лён з поля) *барыльніца,* (якая трэпле, трэ лён) *перацяруха, тральня, трапачка, труха, трэльніца, церая,* (якая сцеле лён) *сланніца,* (рве лён) *бралка,* (якая садзіць бульбу) *саджальніца, садзельня, садзенніца, садзілка,* (якая раскідае гной) *раскідальніца,* (якая зграбае сена) *грабенніца,* (якая пячэ каравай) *каравайніца,* (ласая да бліноў) *блінніца,* (якая збірае ягады) *ягадніца,* (якая завівае валасы нявесце) *завівальніца,* (на ўтрыманні) *бонка,* (не вартая ўвагі) *пантухлёўка,* (непаседлівая) *пасельніца, пасялуха, пахадзіха, пахатніца, пахатуха,* (якая ўзяла мужа да сябе дамоў) *прымачка,* (пявучая) *пяўчыца,* (пустая) *пусцільга.*

Слоўнік выконвае двайную функцыю — практычную і навуковую. З аднаго боку, ён паслужыць каштоўнай крыніцай папаўнення слоўнікавага складу сучаснай беларускай літаратурнай мовы. З другога — з'явіцца навуковым даведнікам па розных пытаннях нашага моваўнаўства. Яго значэнне выходзіць за межы вузка нацыянальныя, паколькі слоўнік будзе з удзячнасцю прыняты ўсімі, хто займаецца вывучэннем гісторыі славянскіх народаў і іх моў.

Наш народ зрабіў і робіць сваю справу — быў і застаецца творцам сваёй мовы, жыццё і культурную значнасць якой падтрымліваюць не толькі айчынныя, але і замежныя славісты. Яшчэ Скарына сумеў убачыць істотную пазнавальную асаблівасць слова, таму і павучаў: «Не толико жив ест человек хлебом или лекарством, но более всяким словом».

*У. Конан*

*(г. Мінск)*

# ЛЯ ВЫТОКАЎ ЛІТАРАТУРНАЙ І НАВУКОВАЙ ЖУРНАЛІСТЫКІ

Беларускае рэгулярнае кнігадрукаванне ў нашы стагоддзі адрадзілася спачатку за межамі Беларусі: першая выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў нашаваконца», як вядома, узнікла ў чэрвені 1906 года па ініцыятыве беларускіх студэнтаў у Пецярбургу пры падтрымцы прафесара Б. І. Эпімах-Шыпілы. Гэтае ж выдавецтва заснавала першы навукова-літаратурны альманах, або нерэгулярны часопіс «Маладая Беларусь» (1912, № 1; 1913, № 2, 3). Поруч з сёння класічнымі творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, іншых часткова «дазволеных» пісьменнікаў у былым Савецкім Саюзе часопіс друкаваў творы пазней «закрытых» бальшавікамі аўтараў — апавяданні Власта (Вацлава Ластоўскага), праграмны артыкул Антона Навіны (Луцкевіча) «На дарозе да новага жыцця», у якім абгрунтаваны нацыянальна-дэмакратычны прагноз беларускага дзяржаўнага і культурнага адраджэння.

Ні ў адным энцыклапедычным даведніку пакуль што не зафіксаваны дзве спробы аднавіць часопіс «Маладая Беларусь». У 1922 годзе Бюро беларускіх студэнцкіх арганізацый у Маскве стварыла сваё выдавецтва «Маладая Беларусь», якое за свой кошт выдала ў Менскім кааператыўным таварыстве «Адраджэнне» навукова-літаратурны зборнік «Маладая Беларусь. Сшытак першы». Ён жа, здаецца, быў і апошні. Памер — 83 старонкі. Подпіс — Рэдакцыйная калегія.

Пачынаецца зборнік зваротам «Ад выдавецтва «Маладая Беларусь», на жаль, без подпісаў і без пераліку сяброў гэтай выдавецкай суполкі. Мэта яе — развіццё культуры, навукі і нацыянальнай самасвядомасці беларусаў у расцярушанні, сабіранне іх у нацыянальныя ар-

ганізацыі. Між іншым, ёсць у звароце цікавая інфармацыя: «У адной толькі Маскве маецца цяпер каля 400 арганізаваных студэнтаў-беларусаў».

Зборнік складаецца з дзвюх частак — навуковай і літаратурнай. Першая частка пачынаецца артыкулам студэнта Пятроўскай (цяпер Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі ў Маскве, старшыні Беларускай культурна-навуковай асацыяцыі (існавала пры гэтай акадэміі з 14 лістапада 1920 да вясны 1923 г.) Гаўрылы Гарэцкага «На новы шлях». Будучаму бацьку нашага шаноўнага прэзідэнта Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Радзіма Гарэцкага тады было 22 гады, але думаў ён пасталаму і маштабна: абгрунтаваў праграму эканамічнага і духоўнага адраджэння Беларусі. Праўда, гісторыя Беларусі ў той час яму ўяўлялася паводле нашаніўскай публіцыстыкі, на якую ўплывала легенда афіцыйнай расійскай гістарыяграфіі пра «заваяванне» Беларусі літоўцамі. «Жывём, — пісаў Г. Гарэцкі, — як гарох пры дарозе: хто йдзе, той і скубе [...]. Склаўшыся [ў] зусім асобную нацыю яшчэ ў XII стагоддзі, беларускія плямёны аселі на вярхоўях Заходняй Дзвіны і Дняпра [...]. Не прыспела Полаччына і іншыя княствы беларускія вытварыць формы вольнага самастойнага жыцця, як ваяцкія літоўцы захапілі іх пад сваю ўладу, прымусілі дзяліць з імі іх гістарычную долю».

Але гэтая расійская канцэпцыя пераасэнсавана на беларускі, адраджэнцкі лад. Правадырамі беларускага народа Г. Гарэцкі назваў Антона Навіну (Луцкевіча) і Язэпа Лёсіка. Аўтар прадбачыў вялікія эканамічныя магчымасці Бацькаўшчыны, верыў, што ў адроджанай Беларусі закрасуюць родная мова, навука і мастацтва. Зусім верагодна, што ініцыіраваны Г. Гарэцкім зборнік «Маладая Беларусь» прычыніўся да першага тады кароткатэрміновага арышту яго органамі АДПУ ў верасні 1922 года.

У даследаванні «Першы арышт: З жыцця Гаўрылы Гарэцкага» акадэмік Р. Гарэцкі пацвердзіў гэтае меркаванне аналізам матэрыялаў па «справе Г. Гарэцкага» 1922 года (перапіска расійскага ДПУ са сваімі аддзеламі ў Мінску і з ЦК КПБ). Г. Гарэцкі быў выдатным палемістам: яшчэ студэнтам Горы-Горацкага каморніцкага вучылішча выступаў супраць русіфікатарскай прапаганды. У Пятроў-

скай сельскагаспадарчай акадэміі Г. Гарэцкі — адзін з заснавальнікаў Беларускай культурна-навуковай асацыяцыі студэнтаў гэтай навучальнай установы, арганізатараў Першай канферэнцыі студэнтаў-беларусаў у Маскве, Беларускага студэнцкага клуба і выдавецкага таварыства «Маладая Беларусь». У службовых запісах чыноўнікаў ДПУ патрыёт Беларусі ў рэзкай форме характарызуецца як «вораг савецкай улады», яго абвінавацілі спадкаемцы «чорнай сотні», бальшавіцкія шавіністы ў міфічным «беларускім шавінізме» (Літ. і мастацтва. 1993. 27 жн.). У паклёпніцкай справе ёсць копія ліста Г. Гарэцкага да Ус. Ігнатоўскага. «Напэўна чулі вы, — гаворыцца ў ім, — аб усіх здарэннях у Маскве. Усё гэта звязваецца з дзейнасцю беларускай культурна-навуковай асацыяцыі студэнтаў маскоўскіх навуковых устаноў. Да гэтага далучаецца выданне «Маладой Беларусі» [...]. Як ні цяжка, як ні сумна, але пакідаць ранейшае дзейнасці не можна. Асабліва важна пакінуць жывою здаровую Беларускую Асацыяцыю студэнтаў-пятроўцаў. Гэта грамада, маючая ў складзе 175 чалавек, можа даць вельмі значную па ўдзельнай вазе частку беларускай агранамічнай інтэлігенцыі, скрозь пранятую ідэямі Рэнесанса Беларусі, пабудаванымі на грунце найвялікшых усечалавецкіх ідэй нашага веку» (Літ. і мастацтва. 1993. 3 верас.).

З іншых матэрыялаў навуковага аддзела зборніка трэба адзначыць нарыс П. Любецкага (Паўла Каравайчыка, 1896—1937) «Беларуская культурна-нацыянальная справа ва ўсходняй Беларусі». Аўтар упершыню абгрунтаваў думку, што пачынальнікамі нашага нацыянальнага адраджэння былі пераважна выхадцы з Заходняй Беларусі, найбольш з каталіцкага асяроддзя. П. Любецкі адкрыта выкрываў бальшавіцкі псеўдаўніверсалізм, пад якім хаваўся прыкрыты дэмагогіяй маскоўска-расійскі шавінізм. У артыкуле прыведзены шматлікія факты, якія сведчылі, што з органаў асветы ў тагачаснай БССР выцясняліся не толькі адраджэнцы-беларусы, але і выдатныя расійскія беларусісты, напрыклад, вядомы этнограф І. А. Сербаў. Так, адзін з кіраўнікоў Гомельскага аддзела народнай адукацыі нехта Пістун на запытанне аб беларускіх школах у Гомельшчыне цынічна заявіў: «В моей губернии белорусов нет. Их выдумали интеллигенты».

Не страцілі сваёй навуковай цікавасці апублікаваныя ў «Маладой Беларусі» даследаванні Алеся Функа «Стварэнне беларускай народнасці» і прафесара П. Растаргуева «Беларуская мова ў святле яе навуковага пазнання».

У літаратурным аддзеле друкаваліся нарысы Цішкі Гартнага, якія ён прысылаў з Берліна, дзе выдаваў беларускія кніжкі («Шырэй крокі: Замест мовы на магіле А. Бурбіса», яго ж верш «Grünwald»). Друкаваліся вершы У. Дубоўкі («Вясна на чужыне», «На дзень разбурэння Ерузаліму Цітам: З «Гэбрэйскіх мелодый» Байрана», «Зданні»), вершы М. Чарота («Родныя птушкі», «На чужыне», «З выраю»), Я. Журбы («Кліч вясны», «У майскую ноч», «Гімн Сонцу»), урыўкі з паэмы З. Бядулі «Ярыла». Часопіс змяшчаў літаратурныя практыкаванні пачаткоўцаў, скрытых пад крыптонімам Т. З., Е. С. Агульны тон гэтых твораў — узвышанскі: аўтары хацелі надаць нашай паэзіі больш жыццёвасці і аптымізму.

У зборніку змешчана інфармацыя пра дзейнасць Беларускай культурна-навуковай асацыяцыі студэнтаў Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі (асацыяцыя аб'ядкала 160 маладых энтузіястаў-даследчыкаў) і Беларускага студэнцкага клуба ў Маскве.

Яшчэ адну спробу аднавіць «Маладую Беларусь» зрабілі беларускія адраджэнцы ў Заходняй Беларусі пад Польшчаю: у 1936 годзе яны выдалі ў Вільні першую і апошнюю кніжку пад гэтай назвай, абазначыўшы яе як літаратурна-грамадска-навуковы часопіс. Выдаўцом быў Мікіта Шчорс, а рэдактарам — Вітаўт Тумаш. У рэдакцыйным артыкуле часопіса «Вільня, люты 1936 г.» ёсць спроба стварыць свой, заходнебеларускі маладнякізм. «Нашае старэйшае грамадзянства, — гаворыцца ў ім, — думае ў значнай меры катэгорыямі перастарэлымі і неактуальнымі, узалежняючы ад іх усю сваю дзейнасць. Усякія ж свежыя і жывыя думкі і ідэі, уношаныя маладым пакаленнем, спатыкаюцца з незразуменнем, а нават з адпорам». Заснавальнікі яшчэ адной «Маладой Беларусі» спадзяваліся, што ў часопісе «будуць узгадоўвацца новыя працаўнікі», якія наблізяць грамадскую думку і літаратуру да рэальных праблемаў жыцця. У літаратуры, на думку В. Тумаша і ягоных сяброў, будзе перанесены акцэнт «на развіццё новых мастацкіх формаў і кірункаў».

Практычна ж у часопісе друкаваліся творы паэтаў-традыцыяналістаў: вершы Міхася Машары, Максіма Танка, Хведара Ілляшэвіча, Міхася Васілька, Андрэя Александровіча, апавяданні Платона Галавача і пакуль што невядомага аўтара М. Даліні.

Пра фальклорныя традыцыі і навацыі ў беларускай літаратуры расказаў Станіслаў Станкевіч у артыкуле «На шляхах новай беларускай паэзіі». Вось што пісаў гэты пазней вядомы даследчык, літаратурны крытык і грамадскі дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША, адзін з заснавальнікаў і рэдактараў газеты «Беларус»: «Навейшая беларуская літаратура, асягнуўшая даволі высокую роўню артыстычную і ідэалагічную ў перыяд «нашаніўскі», пасля вайны развіваецца ізноў з вялікай непрыкмечанай дасюль сілай і размахам у кірунку далейшага росту і дасканалення».

С. Станкевіч меў на мэце ацаніць паводле крытэрыяў эстэтыкі і беларускага светапогляду паэзію Савецкай Беларусі, мінуючы прозу і драматургію, якія, на ягоную думку, «стаяць у нас на еўрапейскай вышыні».

У артыкуле «Повесці і апавяданні беларускіх (крывіцкіх) летапісцаў» С. Станкевіч ужо тады пачаў развіваць сваю крыўскую канцэпцыю беларускай дзяржаўнасці і культуры, абнаўляў і актуалізаваў гіпотэзы Вацлава Ластоўскага 1920-х гадоў. Наватарскім уяўляецца артыкул М. Шкялёнка «Інтэлігенцыя ў беларускім культурна-грамадскім жыцці», выкладзены ў форме лаканічных тэзісаў. Аўтар крытыкаваў безаглядны нігілізм некаторых інтэлігентаў, непрыманне імі рэаліяў штодзённага жыцця. Не прымаў аўтар, паводле ягоных слоў, «незвычайна вузкі пагляд на беларускую інтэлігенцыю і народ, каторыя трактуюцца як нейкія недаспелыя арганізмы, вымагаючыя апекі і ў дадатку прымітыўнай...»

У часопісе «Маладая Беларусь» (1936 г.) Рыгор Шырма апублікаваў артыкул «Мастацкая песня ў Заходняй Беларусі», які паклаў пачатак сістэматычнаму вывучэнню гэтым руплівцам нацыянальнай культуры народнай песеннай культуры.

Сярод перыёдыкі далёкага замежжа найменш вядомы сёння ў Беларусі цікавы ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс беларускіх эмігрантаў у ЗША «Конадні».

Выдаваўся ён Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Йорку на беларускай мове ў 1954—1955, 1958 і ў 1963 гадах. Галоўны рэдактар і склад рэдкалегіі не названы. Часопіс друкаваў паэзію, прозу, літаратурную крытыку і публіцыстыку беларускіх эмігранцкіх пісьменнікаў, хроніку літаратурнага і навуковага жыцця. Апублікаваў некалькі цыклаў вершаў Наталлі Арсенневай («Вясна на бруку», «Манголія», «На пажарышчы», «Вязніца», «Цвіці, вясна», «Вера», «Вясна», «Лета», «Восень», «Зіма», «Альфа і амега», «Аджытае», «Брама», «Прывіды» і інш.), творы Масея Сяднёва (нізка вершаў «Ля ціхай брамы», драматычная паэма «Сустрэча з мёртвымі», раздзелы рамана «Раман Карзюк»), фрагменты з рамана К. Акулы «Гараватка», вершы і апавяданні М. Кавыля, Ю. Віцьбіча, К. Юхневіча, Я. Юхнаўца, А. Салаўя, Р. Крушыны, Ул. Дудзіцкага, Г. Нямігі, А. Галіны, А. Саковіча, П. Сыча, Б. Грэцкага, іншых літаратараў з эміграцыі. Зрэдку публікаваліся творы пісьменнікаў Савецкай Беларусі (падборкі вершаў Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча, узятыя з часопіса «Полымя»).

З іншых літаратурных жанраў часопіс «Конадні» апублікаваў успаміны пра Янку Купалу, Элаізу Пашкевіч-Цётку, Алеся Гаруна, Язэпа Лёсіка, пераклады з нямецкай («Затонуты звон» Г. Гаўптмана), украінскай (вершы Я. Славуціча, Л. Палтавы), польскай (вершы А. Міцкевіча) літаратур.

Цікавай атрымалася ў часопісе літаратурная крытыка. У нарысе пра паэзію Уладзіміра Жылкі Язэп Менскі (верагодна, псеўданім) грунтоўна даследаваў вытокі мастацкіх вобразаў паэмы «Уяўленне» ды іншых твораў выдатнага паэта трагічнага лёсу. Р. Склют (Антон Адамовіч) апублікаваў цікавае эсэ пра творчасць Уладзіміра Дубоўкі «З «Яснай явы» — у «Начное царства» (1954. № 1. С. 83—104). У ім раскрываецца сімволіка твораў паэта (нізка вершаў «Пярэсты букет», паэмы «Браніслава», «Штурмуйце будучыні аванпосты»), у якой зашыфравана дасціпная крытыка савецкай рэчаіснасці напярэдадні першай хвалі масавых рэпрэсій у 1929—1930 гадах. А. Адамовіч, узвышанец, сведка і ахвяра бальшавіцкага задушэння нашай літаратуры, між іншым, адзіны пакуль што крытык, які раскрываў прататыпы Дубоўкавых гра-

тэскавых вобразаў. У заключэнні свайго даследавання А. Адамовіч напомніў: Янка Купала і Уладзімір Дубоўка — кожны ў свой час — першымі ў «сэрцы трывожным пачулі за краіну радзімую жах» (М. Багдановіч).

Выяўленне скрытых сэнсаў літаратурных твораў А. Адамовіч працягваў у арыгінальным артыкуле «Мастацкая крыптаграфія ў беларускай літаратуры». Зашыфроўка сацыяльна-палітычнай рэальнасці пачалася ад Янкі Купалы і Якуба Коласа (алегорыя «зімы», «ночы», «вясны», «казкі жыцця»), таленавіта ўдасканальвалася У. Дубоўкам у паэмах. У гэтым жа ключы ствараліся апавяданні Міхася Зарэцкага «Максімалісты» (бальшавікі ў вобразах «юных піянераў»), паэмы Ю. Таўбіна «Таўрыда» і С. Астрэйкі «Бенгалія». Шырока выкарыстоўваўся метад «давання трыбуны»: праўду гаварыў не аўтар, а ягоны герой, найчасцей герой «адмоўны», у якога пераапранаўся пісьменнік (раман «Вязьмо» М. Зарэцкага), прыёмы стварэння двух і трох сэнсаў, «пераклічкі», двухсэнсавага размяшчэння твораў у зборніках (верш Янкі Купалы «Паўстань!» поруч з перакладам гімна «Інтэрнацыянал»).

У рэцэнзіі на паэтычныя зборнікі «Пад зорамі белымі» М. Кавыля і «Ля ціхай брамы» М. Сяднёва крытык А. Адамовіч, спасылаючыся на эстэтычныя канцэпцыі А. Бабарэкі і У. Дубоўкі, даследаваў узвышанскія традыцыі ў эмігранцкай беларускай паэзіі. Навуковую цікавасць захавала даследаванне С. Брагі (Вітаўта Тумаша) «Міцкевіч і беларуская плынь у польскай літаратуры» (1955. № 4. С. 53—74): беларускія тэмы і матывы тут прасочваюцца ад Яна Чачота і ягоных сяброў-філаматаў да сучаснага лаўрэата Нобелеўскай прэміі Чэслава Мілаша. У часопісе «Конадні» гэты руплівы даследчык распачаў даследаванні пра спадчыну беларускага асветніка-першадрукара, апублікаваў артыкул «Партрэт доктара Скарыны».

Сёння не страціў сваёй актуальнасці нарыс Р. Максімовіча «Важнейшыя моманты культурных працэсаў Беларусі» (1955. № 3). Гутарка ідзе пра геапалітычнае становішча Беларусі паміж Заходняй Еўропай і еўраазіяцкай Расіяй, у выніку якога тут адбывалася сутыкненне разнастайных уплываў — польскіх, нямецкіх,

італьянскіх, скандынаўскіх, візантыйскіх, расійскіх. Аўтар паказаў, што ў XVII—XVIII стагоддзях Беларусь інтэнсіўна ўплывала на духоўны клімат Расіі. Да XIX стагоддзя ўплывы Расіі на Беларусь, на думку Р. Максімовіча, вельмі праблематычныя. Урэшце, нават пасля канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе да паўстання 1831 года ў Беларусі адбывалася хутчэй паланізацыя, чым русіфікацыя. На думку аўтара, да пачатку XX стагоддзя «на беларускіх землях дамінавалі заходнееўрапейскія культурныя формы».

У часопісе «Конадні» сціпла прадстаўлены выяўленчыя матэрыялы, у тым ліку рэпрадукцыі карцін М. Сеўрука, П. Мірановіча, М. Навумовіча.

У адрозненне ад акадэмічнага (па метадзе падачы матэрыялу і памеры) часопіса «Конадні» грамадска-палітычны і літаратурны часопіс «Беларуская думка» арыентуецца на адносна шырокага чытача, пачынаўся як выданне сціплае па афармленні і памеры (у бібліятэках Беларусі ёсць камплекты да 1992 года). Выдаецца ён з кастрычніка 1960 года Беларускім выдавецкім таварыствам. Першым яго галоўным рэдактарам быў Антон Даніловіч, з 1986 года — Міхась Кавыль, у рэдкалегію ўваходзілі ў розныя гады М. Касяк, І. Касяк, протаіерэй М. Лапіцкі, М. Шчорс, Л. Гляк, М. Бахар, У. Брылоўскі, протаіерэй С. Коўш, В. Цярпіцкі і інш. Гэтае выданне заслугоўвае асобнага даследавання, а пакуль што абмяжуемся сціплай інфармацыяй пра тэматыку і аўтараў «Беларускай думкі».

У праграмным звароце «Ад рэдакцыі» зазначалася, што Беларускае выдавецкае таварыства (БВТ) «не залежыць ні ад якое палітычнае партыі ці групы як з ідэалагічнага, так і з матэрыяльнага (фінансавага) боку». Сябрамі яго «можа быць кожны дарослы беларус ці беларуска, сталыя жыхары ЗША, якія заплацяць складку ў памеры 10 даляраў». Мэта БВТ — «служыць беларускаму народу, беларускай нацыянальна-вызвольнай ідэі і справе дэмакратыі» (1960. № 1. С. 1). Значнае месца ў часопісе займала палітычная публіцыстыка. Тут друкаваліся вострыя рэдакцыйныя артыкулы «Тыдзень падняволеных народаў», «Бальшавізм і пытанне беларускай дзяржаўнасці», «Да гісторыі нацыянальных дачыненняў на Бела-

русі», «Шляхам змагання», «Сучаснае міжнароднае напружанне», артыкулы Ул. Глыбіннага (Сядуры) «Беларуская культура і таталітарызм», яго ж «Смаленшчына — адвечная зямля беларускага народа», Л. Гляка «Прыяцелі ці ворагі?» і шмат іншых матэрыялаў у абарону Беларусі і беларускай культуры.

У літаратурным аддзеле часопіс надрукаваў шмат вершаў, апавяданняў, нарысаў Янкі Золака (псеўданім першага рэдактара часопіса А. Даніловіча), У. Клішэвіча, Міхася Кавыля, Масея Сяднёва, А. Калубовіча, Л. Юхнаўца, цікавыя нарысы Юркі Віцьбіча, творы іншых аўтараў. Артыкулы навуковыя і літаратурна-крытычныя, як правіла, вызначаюцца публіцыстычнасцю, пафасам змагання за вольную і незалежную Беларусь. Сярод іх — нарысы і нататкі А. Калубовіча «Прафесар М. Доўнар-Запольскі», У. Глыбіннага «Паэт з Божай ласкі» (пра Язэпа Пушчу), «На шляху да паэтычнага мастацтва (зборнік вершаў Міхася Кавыля «Ростані» і «Пад зоркамі белымі»)», Я. Ляшчыны «Янка Золак (да саракагоддзя літаратурнай дзейнасці)», С. Коўша «Прарок беларускага адраджэння» (рэферат, прачытаны на ўрачыстай Акадэміі, прысвечанай 90-годдзю з дня народзінаў Янкі Купалы і Якуба Коласа), Б. Шчорса «Вялікая дочка Беларусі (на 800-я ўгодкі смерці святой Еўфрасінні Полацкай)», М. Кавыля «О, Беларусь, мая шыпшына...» (рэферат, прачытаны на Акадэміі, прысвечанай памяці Юркі Віцьбіча), С. Коўша «Ідэя беларускага адраджэння ў творах Янкі Купалы і Якуба Коласа».

Навуковую вартасць захавалі артыкулы Яўхіма Кіпеля «Смаленск у 1919 годзе» і Вітаўта Кіпеля «Другі Усебеларускі Кангрэс», публікацыі пра дзейнасць беларускіх грамадска-палітычных і культурна-асветніцкіх арганізацый за мяжой. У нататках «Перадачы на Беларусь» Арсень Загорны, між іншым, адзначаў: уся праца па выданні «Беларускае думкі» робіцца задарма, па грамадскім абавязку (1983. № 27—28. С. 37—38).

Часопіс «Беларуская думка» зрэдку друкаваў пісьменнікаў і сваіх карэспандэнтаў з былой БССР, у тым ліку фрагменты з даследавання Алега Бембеля «Што мы думаем пра цябе, родная мова?» з пасляслоўем Уладзіміра Караткевіча (1987. № 32) і невялікую паэму Ан-

таніны Хатэнка «Здзічэлае рэха вясны» (1991. № 36). Публікавалася інфармацыя пра першы міжнародны Кангрэс беларусістаў 25—27 чэрвеня 1991 года.

Праблемы навукі, літаратуры, нацыянальнай культуры занялі паважнае месца ў газеце «Беларус» і часопісе «Веда»[1]. Ім прысвечаны мае ранейшыя публікацыі, да якіх адсылаю зацікаўленага чытача.

Сёння вельмі патрэбна ўвесці беларускія літаратурна-мастацкія і навуковыя часопісы блізкага і далёкага замежжа ў кантэкст гісторыі нашай літаратуры, журналістыкі, філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі. Бо ў змрочныя часы бальшавізму, сталінізму, «ліберальнага» таталітарызму і нават у гады гарбачоўскай перабудовы яны ратавалі гонар беларускай нацыі і нацыянальнай дэмакратыі.

---

[1] Нацыянальная ідэя ў замежным беларускім друку: Па матэрыялах газеты «Беларус» // Беларусіка-Albaruthenica. Кн. 5. Мн., 1995. С. 9—16; Конан У. Гартаючы старонкі «Веды» // Голас Радзімы. № 38—42, 22 верас. — 20 кастр.

*А. Ліс*

*(г. Мінск)*

# ВЯРТАННЕ ДА ПЕСЕНЬ МАЛАДОСЦІ

## Аб паэзіі Анатоля Бярозкі

Пачну з матыву суб'ектыўнага. Паэтам Анатолем Бярозкай зацікавіўся даўно: як першы раз убачыў яго на здымку паэтаў і арганізатараў «Вечара беларускай паэзіі і песні», змешчаным у часопісе «Беларускі летапіс» за 1936 год[1]. Як вядома, успомненыя культурныя імпрэзы адбываліся ў непрадвоенай Вільні. У першым радзе групы інтэлігенцыі адразу пазнаваліся Рыгор Шырма, Міхась Машара, Міхась Васілёк. У другім радзе побач з маладзенькім Максімам Танкам у вочы кідалася постаць гэткага ж рослага, стройнага юнака, з тонкімі інтэлігентнымі рысамі твару. Подпіс пад фотарэпрадукцыяй абазначыў толькі прозвішча без імя — «Бярозка». Пазней, дабраўшыся да заходнебеларускай перыёдыкі даваеннага часу (мы, здаецца, яшчэ не ацанілі яе як крыніцу-летапіс культурнага і грамадска-палітычнага жыцця Беларусі неардынарнага перыяду нашай гісторыі), натрапіў і на вершы Анатоля Бярозкі. Пачынаючы з часу заснавання літаратурна-навуковага часопіса «Калоссе» ў 1935 годзе, ён стала друкаваўся на яго старонках, а з 1936 года быў уведзены ў склад рэдакцыі гэтага выдання. Паэтычны голас Бярозкі быў нягучны, але вылучаўся роздумнай інтанацыяй, культурай верша. Траляліся радкі, што міжволі запаміналіся, у якіх думка была ўвасоблена зрокава-пластычна, адметна. Як, напрыклад, з верша «Поле, далёка шырокае поле»...

Гэтта, на гэтых курганах,
вякамі здабычу дзялілі чужыя багі і цары
і крывавыя іх аўтары
дыміліся доўга — нашай крывёю.[2]

---

[1] Беларусі летапіс. Вільня. 1936. № 4—8.
[2] Калоссе. Вільня. 1936. Кн. 2. С. 89.

Мяне зацікавіў лёс паэта. Ведаў, што жыццё многіх з беларускіх літаратараў ды і простых інтэлігентаў крута абарвалася. Шмат хто з іх пайшоў у невядомасць. Рэжымы, што панавалі на беларускай зямлі ў суровым нашым стагоддзі, усе без выключэння, былі зацікаўлены, каб нацыянальна свядомыя адзінкі не памаглі народу асэнсаваць яго сілу і слабасць, годнасць і месца сярод іншых народаў у свеце.

Дзе дзеўся Анатоль Бярозка, як склаўся яго лёс — ніхто не мог адказаць. Дасведчаная ў жыцці нашай даўнейшай, даваеннай інтэлігенцыі Людвіка Антонаўна Войцік успомніла адно, што ў канцы 20-х гадоў, калі яна выдавала дзіцячы часопіс «Заранка», Бярозка карэспандэнтаваў з выданнем, а сапраўднае прозвішча паэта Смарчок, па прафесіі ён лекар і яшчэ падчас вайны працаваў доктарам не то ў Баранавічах, не то ў Ляхавічах — у тых краях, адкуль і быў родам.

Яўген Іванавіч, незабыўны Максім Танк, цёпла адазваўся пра Бярозку як паэта і чалавека, пашкадаваў, што невядомасць, час забралі, скралі ад нас так многа. Успомніў, як недарэчна загінуў яшчэ адзін літаратар-медык, што друкаваўся ў заходнебеларускай перыёдыцы, доктар Ус. Шыран.

Апошнім часам, калі свет нам шырэй адкрыўся і мы яму бліжэй сталі, загаварыў я з Лявонам Казырам, ці не чуў ён што-небудзь у сваіх падарожжах па Канадзе і Амерыцы пра паэта Анатоля Бярозку. Аказваецца, чуў. Сказаў, што паэт яшчэ жывы, а праз пару дзён прынёс і падараваў невялічкі зборнік «Адзінаццаць вершаў», дзе змешчана сапраўды 11 тэкстаў паралельна на беларускай і ангельскай мовах. Выдадзены зборнічак у 1989 годзе ў Мінесоце самім аўтарам, з дапамогай Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў ЗША. Светла падумалася: новыя вершы. Ажно высветлілася, амаль усе тыя, што некалі, гадоў 60 таму, друкаваліся ў «Калоссі». З апублікаваных у «Шляху моладзі» не ўзята амаль нічога: строгі адбор. Практычна паэтава муза змоўкла даўно, хоць сам Смарчок-Бярозка жыў-здароў на дзевятым дзесятку веку і, як сведчыў «Беларускі дайджэст» М. Прускага, карыстаецца вялікай пашанай у суграмадзян і землякоў на чужыне.

Дзякуючы руплівасці светлай памяці Барыса Сачанкі, выдадзенай ім анталогіі паэзіі беларускай эміграцыі,

публікацыям Анатоля Белага ў «ЛіМе» і Ірыны Багдановіч у дадатку да біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі», напісанае Анатолем Бярозкай становіцца здабыткам калі не шырэйшай чытацкай публікі, то, прынамсі, літаратуразнаўцаў, аматараў паэзіі. Тым часам пара вершатворчасць таленавітага паэта ўвесці ў кантэкст нацыянальнай беларускай мастацкай культуры. Сённяшняе маё паведамленне — адна з такіх спроб.

Вершы васемнаццацігадовага Анатоля Бярозкі ў часопісе «Шлях моладзі» навеяны перажываннямі, звязанымі з кругазваротам у прыродзе. У адрозненне ад большасці пачаткоўцаў юны вершатворца ўдала пазбягае апісальніцтва. Яму часам больш, часам менш самастойна ўдаецца асэнсаваць і перадаць у вобразах асаблівую праяву, нейкі момант жыцця прыроды: поступ вясны ў палях, зімовую стынь, задуменнасць восені. Характэрна, што прыродны матыў, нават часам разгорнуты, здавалася б, у самастойную карціну аказваецца толькі настройкай, разгорнутай экспазіцыяй для перадачы грамадзянскага перажывання маладога паэта. Так, верш «Ноч навісла над соннай зямлёй», у аснове якога абразок вялікоднай ночы, заканчваецца зваротам да беларуса:

Званы ўскрасення б'юць...
Ці чуеш брат крывіч?
Гудуць званы, гудуць...
Свабоды кліч!..
Збудзісь, крывіч!
Званы ўскрасення б'юць.[3]

У пейзажнай лірыцы Бярозка амаль скрозь выдае сваю грамадскую заангажаванасць, а пры мастацкай неспрактыкаванасці гэта іншы раз абарочваецца публіцыстычнай адкрытасцю, як у вершы «Восень», дзе плач асенняга ветру з дажджамі ў паэта асацыіруецца з плачам Маці Зямлі «на мінуўшчыны слаўнай магіле, над калыскай прадажных сыноў»[4]. Трэба зазначыць, што ўжо на пачатку творчасці Анатоль Бярозка імкнецца разнастаіць форму верша. Сярод апублікаваных ім у 1934 годзе ў тым

---

[3] Шлях моладзі. Вільня. 1934. № 4 (64). С. 1.
[4] Тамсама. № 12. С. 8.

жа маладзёжным часопісе твораў сустракаецца дасканалая монастрафа «Бліснула зор чарада» і прыстойны санет «Жаўранак», апошнія два трохрадкоўі якога, дарэчы, нясуць сацыяльны грамадскі зарад:

Дык хай яна льецца, песня ў блакіты!..
Няхай прабудзіць родныя палі,
Пацешыць тых, хто доляю прыбіты,
Затоптаны, сагнуты да зямлі,
Каб усталі волаты ў бой адкрыты
І горкіх слёз век цэлы не лілі!..[5]

У цэлым грамадзянская лірыка Анатоля Бярозкі развівалася ў агульным рэчышчы заходнебеларускай літаратуры 30-х гадоў, у якой аб'ектыўна акцэнтаваліся сацыяльныя матывы. Апазіцыйнасць беларускай інтэлігенцыі паноўнаму рэжыму даваеннай Польшчы вынікала з самой рэчаіснасці, стымулявалася палітыкай дзяржавы, скіраванай на дэнацыяналізацыю і сацыяльны прыгнёт асноўнай масы жыхароў краю. Элементамі палітыкі Польскай дзяржавы на заходнебеларускіх землях былі: кансервацыя статусу буйнога памешчыцкага землеўладання, насаджэнне асадніцтва як інструмента каланізацыі этнічна няпольскіх земляў, абарона беларускай асветы як падставы росту нацыянальнай свядомасці, кансалідацыі народа на грунце беларускай ідэі.

Аляксандр Уласаў, беларускі асветнік і грамадска-палітычны дзеяч, на жаль, яшчэ як след намі не ацэнены, у сваім апошнім лісце да Антона Луцкевіча напярэдадні вераснёўскіх падзей 1939 года злачынствам польскай улады называе асветную палітыку Польскай дзяржавы ў дачыненні да маладых пакаленняў беларусаў. Аказваецца, згодна тайнаму цыркуляру міністэрства асветы і веравызнанняў, паступіць у гімназію, атрымаць сярэднюю адукацыю мела права не больш як 5 працэнтаў беларусаў. Нацыянальная беларуская школа за 20 гадоў польскага панавання на заходнебеларускіх землях была практычна знішчана. Да 1939 года датрывала адна Віленская беларуская гімназія, заснаваная ў лютым 1919 года і ахвярна датрыманая беларускай педагагічнай элітай да 1945 года.

---

[5] Шлях моладзі. 1934. № 5. С. 1.

Сярэдзіна 30-х гадоў, час прыходу ў літаратуру М. Танка, А. Бярозкі, С. Хмары, у грамадскім жыцці Заходняй Беларусі пазначана агульным пазмрачненнем палітычнага гарызонта, далейшым збядненнем вёскі, якая цярпела ад малазямелля і лішку працоўных рук. Грамадская атмасфера ўскладнялася ад фатальнай палітычнай дыферэнцыяцыі, драблення сіл некалі адзінага нацыянальна-вызваленчага руху. Элементы дэзарыентацыі, замяшання, маральнай падбітасці ўносіліся падзеямі ў Савецкай Беларусі, дзе пачалося нечаканае, нябачна жорсткае праследаванне ўсяго беларускага. Удар гэты быў тым цяжэйшы, што на Савецкую Беларусь 20-х гадоў людзі на Захад ад польска-савецкай мяжы прывыклі глядзець як на агульны Дом беларусаў, невыпадкова на зломе 20—30-х дзесяткі тысяч заходнебеларускіх хлопцаў і дзяўчат праз зялёную граніцу памкнулі на Усход у пошуках адукацыі і працы.

Да гонару прадстаўнікоў літаратуры Заходняй Беларусі трэба сказаць, што абсалютная большасць іх у той суровай рэчаіснасці не страціла галоўных грамадскіх арыенціраў, хоць, натуральна, у паасобных не абышлося без пераацэнкі некаторых каштоўнасцяў.

Анатоль Бярозка выразна абазначаных драматычных перажыванняў у сваёй паэзіі не выявіў. Аб'ектам яго паэтычнай выявы была вёска, зямля, што ўзгадавала яго як чалавека і паэта. Не схільны да патэтыкі, гучнага выразу, а хутчэй — да роздуму, медытацыі, паэт малюе вобраз вячэрняга поля, песні, што «з грудзей набалелых па струнах вечара мкне», курганоў-аўтароў, дзе «чужыя багі і цары вякамі здабычу дзялілі». І ціха выказвае сваё прызнанне, толькі на момант узвысіўшы голас:

Хаты бедныя, цёмныя... пад вашымі стрэхамі соннымі
Сэрца маё вашай доляй жыве, вашым болем сумуе...
Вечар пад стрэхамі сніць сваю думу-тугу векавую...
З думай-песняй ад хатаў шырока-разгоннаю
Вечар, сэрца, магілы і поле зліліся у адзіны псалом —
Крывія![6]

Вера паэта абапёрта на трывалы грунт, яна арганічна злілася ў яго свядомасці з роднай зямлёй, людзьмі, чыя «чорная доля як чорны хлеб». Начная медытацыя паэта ў вершы

[6] Калоссе. 1936. Кн. 2. С. 89.

«Тысячай воч палымяных, распаленых цемрай начной» — адначасна малітва і сугестыя веры ў будучыню народа:

Ноч шапталася з ветрам... за полем шырока ўзараным
шэрыя хаты, бедныя стрэхі ў знямозе паснулі;
у стрэхі неба ўпілося ззяннем зор палымяных...
Ноч шапталася з ветрам... так ціха... не чулі
сонныя стрэхі пахілых хат, закарэлыя рукі,
бо цяжкі мазоль тых рук, як цяжкія скібы раллі;
чорная доля, як чорны хлеб... у ёрмы прынукі
доўгіх вякоў ланцугі волатаў моц упраглі.

Тысячай воч палымяных неба ўпілося ў барозны,
у ціхія хаты... у жорсткія рукі, у чорны іх хлеб і соль,
шэрыя хаты, цвёрдыя рукі — маўклівы і грозны:
гэтак ціха маўчаць умее толькі магутны боль.[7]

Вобразная атрыбутыка паэта не вызначаецца асаблівай арыгінальнасцю, але ў сутнасці — свая, адметная. Энергічная, пры роздумнасці тэксту, мускулістая рытміка робіць пластыку вобразаў выяўленча асязальнай. Галоўную думку паэт умее выказаць лаканічна-вобразна, увасобіць метафарычна:

...Чуй, сырыя грудзі зямлі, напоены потам мужыцкім
доўга кроў — гарачую чырвань цадзілі ў росквіту бель;
хаты, урослыя у чорную гразь, закарэлыя ў болі
векавою тугою набраклі ды сабраці суляць жніво
там, дзе косці нямыя бацькоў парахнеюць пад мохам.

А калі над вясною замучанай зашапоча яблыні цвет —
на галіны, на май ацярушыцца беллю;
калі ветрам у твар запахне — тады ятрацца раны,
тады будзяцца песні пра сілы і гнеў, а рукі гатовы
заўтрашні дзень адчыніць сабе сталлю.
Я малюся за гэтакі дзень богу маіх патомкаў.[8]

Сярод паэтычных здабыткаў Анатоля Бярозкі выразна дамінуюць грамадзянскія матывы, вылучаюцца вершы філасофскага зместу («Адна смерць», «Ноч пасля буры»). Ёсць у лірыцы Бярозкі і інтымныя тэксты. Асаблівай пранікнёнасцю, спавядальным настроем характарызуецца верш «Сягоння патухла тваё акно». Твор глыбока і тонка ўвасабляе суб'ектыўны свет паэта, яго інтымнае

---

[7] Калоссе. 1936. Кн. 2. С. 88.
[8] Калоссе. 1939. Кн. 2. С. 102.

перажыванне. У ім пазначана вобразная рэалія, якая звязвае паэтычнае перажыванне лірычнага героя (аўтара) з Вільняй, горадам маладосці паэта.

З пейзажнай лірыкі ў свой адзіны зборнік паэт уключыў толькі твор «Адлёт журавоў», невыпадкова ўзяты Сачанкам у анталогію. Бярозка ў ім артыстычна карыстаецца колерамі і танамі восені, каб стварыць высокапаэтычны малюнак. У вершы дамінантны арфеічны пачатак.

Вераснёвае сонца гуляе
на іх крылах — і ціха, тужліва
крыллі йграюць у ветры моў струн пералівы
над іржышчам пустым, над гаем.

Вольны покліч далёка нясецца
ў паднябесных сініх шляхах...
там, далёка дзесь, родны астаўся парог —
асталося вернае сэрца.

І лятуць, а пад імі, з нямою малітваю,
засыпаюць палі ў адзіноце...
а іх крыллі, сінню залітыя,
вераснёвае сонца залоціць.[9]

Адзінаццаты верш, якім завяршаецца адзіны зборнік Анатоля Бярозкі, здаецца, адзіны твор, напісаны паэтам паза межамі Заходняй Беларусі. Па сутнасці, гэта маленькая элегія. Паэт даў ёй назву «Эпілог». Характэрна, эпіграф, узяты да твора, што пачынаецца радком «Абяздолены мой стромы шлях», пазычаны з «Узвышша». Своеасаблівай рэмінісцэнцыяй з Язэпа Пушчы і пачынаецца зборнічак Бярозкі. Такая настройка ліры паэта сведчыць аб эстэтычнай і ідэйнай арыентацыі А. Бярозкі на паэзію ўзвышанцаў з яе ўстаноўкай на культурную нацыянальную глебу, імкненне ўзняць беларускую літаратуру да ўзроўню агульначалавечых мастацкіх здабыткаў.

Сціплыя паэтычныя набыткі Анатоля Бярозкі, яго чалавечы лёс, жыццёвыя абставіны не спрыялі рэалізацыі яго паэтычнага таленту да канца. Тым не менш у паэта назбіраецца дзесятак вершаў, здольных узбагаціць уяўленне чытачоў і спецыялістаў аб беларускай паэзіі, рэпрэзентаваць яе ў анталогіях і хрэстаматыях.

---

[9] Туга па Радзіме: Паэзія беларускай эміграцыі / Укладанне, прадмова і біяграфічныя даведкі Барыса Сачанкі. Мн., 1992. С. 618.

*Т. Фёдарцава*

*(г. Мінск)*

# ФІЛАСОФСКІ ЗМЕСТ ДУХОЎНАСЦІ СУЧАСНАГА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

## На прыкладах творчасці Н. Арсенневай, М. Сяднёва, А. Салаўя

У духоўнасці сучаснага беларускага замежжа найбольшае прызнанне па гэтым часе мае паэтычна-літаратурная дзейнасць Н. Арсенневай, М. Сяднёва, А. Салаўя, Р. Крушыны і інш. Іх філасофскі светапогляд сфарміраваўся пад уплывам вострых супярэчнасцяў між імкненнем летуценнай душы і панурай сапраўднасцю «міжбярэжжа», што нараджае сумныя, безнадзейныя думкі і фаталістычныя разважанні аб ролі чалавека на зямлі. Хто ён? Нявольнік свайго лёсу, бязлітаснага і няўхільнага ў сваёй нязменнасці, ці ўладар Сусвету?

Філасофская прадвырашальнасць, наканаваная лёсам непазбежнасць — амаль што галоўны лейтматыў іх твораў. Вядома ж, матывы тугі па Радзіме, што так былі пашыраны ў творчасці паэтаў-эмігрантаў, сцэментавалі ў адзіную сэнсавую плынь усё напісанае імі і адбіліся на стылі іх творчасці і жанравай разнастайнасці, але ў кожнага — свой падыход да паэтычнага вырашэння гэтай тэмы, свая творчая лабараторыя, сваё разуменне традыцыйнасці і наватарства.

Наталля Арсеннева першая адчула «міжбярэжны» стан свайго існавання пасля трагічнай страты Радзімы. Бо яшчэ ў 1955 годзе выдае кніжку вершаў пад назвай «Між берагамі». Як і чым жыць у прамежкавасці, нявызначанасці і драматызме свайго асабістага лёсу? — пытаецца паэтка. І сваёй творчасцю дае адказ: трэба падняцца вышэй за пакуты і нявер'е, адрозніваць вечнае ад часовага, добрае ад злога. Н. Арсеннева мужна прызнае ўсё такім, як ёсць, але імкнецца сцвердзіць вечную ісціну пра сэнс існавання, шукае разгадку сакрэта жыцця. Таму яе паэзіі цесна на зямлі, на зямной прасторы, і яна

імкнецца аж да зор. Паэтка ў вершы «Куды?» адпраўляе беларусаў у далёкую касмічную вандроўку, бо яны для яе «сыны зямлі, сыны сусвету». І ў той жа час, быццам падкрэсліваючы трагедыйнасць адчування адарванасці ад Радзімы, Арсеннева звужае зямныя абсягі дзеяння. У вершах «На моры», «А бераг далёка», «Знаю», «Зоры» і іншых усё зямное нібы сыходзіць у ваду, якая гасіць фарбы, глушыць гукі, робіць усё шэрым, нежывым, нецікавым. Такім аднастайным, маркотным, сцятым паўстае свет пасля ад'езду з Радзімы. Пра гэта добра сказана ў вершы «На моры»:

Вада вакол... вада... нідзе
нічога больш між намі й светам.
І хутка йшчэ і гэты дзень
патоне ў моры непрыкметна.

Як бачым, марыністыка — гэта яшчэ адзін надзвычай цікавы бок філасофскай паэзіі паэтаў-эмігрантаў. Пра мора, акіян, водную прастору ў кожнага з іх напісана вельмі шмат. Бо звужэнне зямной прасторы і імкненне зазірнуць у касмічныя высі якраз дзве тыя крайнасці, калі нельга быць там, дзе ты хочаш, а забыць, закрэсліць дарагое сэрцу мінулае немагчыма. Гэта яшчэ і расчараванне ў немагчымасці дасягнуць гармоніі на Зямлі, калі пануе несправядлівасць, здрада ідэалам адраджэння, калі крывадушша і зло вядуць да незлічоных маральных і фізічных стратаў. І так, што ж такое водная Стыхія? Хто яна для бесхацінцаў, беспрытульнікаў, пакутнікаў і вечных вандроўнікаў — людзей, злосным лёсам адарваных ад Радзімы? Яшчэ ў сярэднявеччы панаванне рэлігійнага светапогляду прывяло да падзелу свету на зямны і нябесны, на Рай і Пекла. Гэты сімвалічны падзел існуе і ў паэзіі: зямная рэчаіснасць і высокі палёт думак. У паэтаў-замежнікаў ёсць трэцяе сувымярэнне — гэта як бы погляд на сябе збоку, на свой «міжбярэжны стан» існавання. Водная стыхія раздзяляе іх не толькі з Радзімай, але водападзел праходзіць праз душу, дзелячы яе на дзве супрацьлегласці, якія не даюць міру і спакою ўсёй істоце. Філасофская прадвырашальнасць, наканаваная лёсам непазбежнасць быццам уздымаюцца на грэбнях хваляў акіяна, безупынна гойдаюцца ад аднаго бе-

рага да другога, але не могуць змяніць ні сваёй існасці, ні вырвацца на прасцяг з гэтага кола.

Паэты-эмігранты нібы ставяць Зямлю і Неба таксама ў «міжбярэжны стан», раздзяляючы іх воднай стыхіяй. Менавіта ёй прысвяціў Масей Сяднёў цэлую нізку вершаў. Акіян у яго паэзіі — гэта не толькі сімвал вечнасці Сусвету, але і вечнага процістаяння Зямлі і Неба, дабра і зла, і яшчэ кара нябёсаў непаслухмянай зямлі. А ён, паэт, часцінка гэтай зямлі і таксама прымае на сябе кару. Бо менавіта акіян аддаліў яго ад Радзімы і ён у роспачы звяртаецца да яе:

Спяць акіяну твайго воды,
Як сон, варочаецца ймгла.
Навошта ж, скажы, між Захадам і Усходам
вачыма сінімі ты прарасла?

Так і ў паэтавым сэрцы прарасла адвечная туга па самых святых паняццях — маці, Радзіма, Беларусь! Вось чаму гордая паводле Пушкіна стыхія ў Сяднёва — глухая, нямая, маўклівая «як маўчанне на могільніку мёртвых», і да таго ж няздатная да перамогі ў сваім бясконцым бунтарстве.

А іншым часам паэт параўноўвае свой лёс з лёсам акіяна, выказваючы такую думку, што «збалелая» душа воднай стыхіі і яго, паэтава, — гэта адзіны боль аб тым, што не здзейсніцца ў аднамомантным існаванні быцця. Пантэрамі ўздымаюцца хвалі якіяна, злуецца, аж стогне, стары, у роспачы: не, не стаць яму Зямлёй ніколі і не супакоіцца ў сваім вечным хваляванні! А паэтава душа захлынаецца болем — кара яму вечна кружыць па зямлі «адарваным лістком». Такі прысуд лёсу. І таксама, як воднай стыхіі, жыць без надзеі на зямны супакой, хіба што адвечны. Яшчэ больш захлынаецца болем паэтава душа ад думкі, што ўсё ж у акіяна ёсць надзея мо праз тысячагоддзі тысячагоддзяў здзейсніць сваю мару, а ў яго няма такой надзеі.

Масей Сяднёў падазравае акіян у крыважэрнасці, бо нават у час адпачынку на пляжы ён нібыта хоча змыць людзей сваёй хваляй:

Увесь ты дзень у самоце
каціў навалу за навалай.
Раз'юшаны, нібы хацеў
нас змыць магутнай хваляй.

І ў канцы верша паэт шчыра прызнаецца, што больш за ўсё баіцца памерці не на зямлі, а быць праглынутым халоднай акіянскай стыхіяй.

Не абышла бокам гэтую тэму і вытанчаная паэзія прыхільніка класічных формаў і шчырага паслядоўніка М. Багдановіча — Алеся Салаўя:

Плыве вадаплаў і плыве
ад смерці да смерці ў госці.
Пагібель маёй галаве
прарочыць бязлітасны хтосьці.

І кажа мне, кажа: «Глыне
цябе ненажэры прадонне.
А морскія камні на дне
спакой табе вечны адзвоняць.»

Дарэчы, верш аказаўся прароцкім. Алесь Салавей памёр у час купання ў моры ад «атаку сэрца» 22 студзеня 1978 года. Але, хаця водная стыхія паэта таксама ўзбуджаная і злосная, ён, у адрозненне ад М. Сяднёва, не баіцца стыхіі, яго «не палохае буры прастор», і ён перакананы, што нельга ўтапіць нястомную веру. А з ёй ён пачувае сябе капітанам, што кіруе «стырном вялікае моцы» і сілы і плыве праз буру да праўды і да згоды.

У цэнтры творчасці паэтаў-эмігрантаў — чалавек і яго лёс, а асноўная тэма — тэма Радзімы і нацыянальнага адраджэння. Шчыра і ўзнёсла гавораць яны пра далёкае мінулае і сучаснасць, імкнуцца зазірнуць у будучыню роднага краю. Арганічна ўплецены ў іх творы і вечныя тэмы: жыцця і смерці, прасторы і часу, узаемасувязі воднай і нябеснай стыхій, кахання і ростані. Нават ідэя творчага прызначэння ў паэтаў адна — з дапамогай дасканалых кананічных формаў далучыць беларускую літаратуру да еўрапейскай. Яны пішуць санеты, рандо, актавы, трыялеты, тэрцыны, рамансы, падкрэсліваючы гэтым паўнацэннасць, прыгажосць і мілагучнасць роднай мовы, а праз гэта і сцвярджэнне беларусаў як нацыі з высокай матэрыяльнай і духоўнай культурай.

Паэзія беларусаў-замежнікаў развівае нацыянальную філасофскую думку, чым паднімае літаратурную творчасць на больш высокую духоўную прыступку. Н. Арсеннева, М. Сяднёў і А. Салавей у сваіх вершах змаглі

стаць па-над палітыкай, засяродзіўшы свой талент на трох аспектах — мінуўшчыне, філасофскай лірыцы і тэме тугі па Радзіме. Іх медытатыўная лірыка больш заглыбленая, чым звычайная рамантычная, або, інакш кажучы, інтымная. Як неадкрыты мацярык паўстае ў іх творах душа чалавека і сам чалавек як асоба, як індывідуальнасць. Яны адмятаюць паняцце Маякоўскага аб нікчэмнасці, нулявым значэнні індывіда. І лічаць такі падыход непавагай да асобы і вершаваным радком заклікаюць беларусаў адчуць сваю годнасць, паказаць непаўторнасць і веліч беларускай мовы, гісторыі і культуры. Паэтызамежнікі папярэджваюць, што самыя страшныя страты — страты духоўнага парадку. Вось чаму так ашчадна ставяцца яны да роднага слова. Іх паэзія інтэлектуальная. Гэта паэзія думкі. Яны на справе працягваюць імкненне Максіма Багдановіча да стварэння філасофскай лірыкі, і кожны выступае наватарам. Давайце ўспомнім медытатыўную элегію Арсенневай, пошукі суцэльнасці і гармоніі М. Сяднёва, першы ў гісторыі беларускай нацыянальнай літаратуры вянок санетаў А. Салаўя. І кожны з іх выступае з роздумам аб праблемах жыцця і смерці, вечнага і часовага, дабра і зла. Але аб чым бы ні пісалі гэтыя паэты, у цэнтры кожнага іх твора — філасофская ідэя.

Імпульсіўная Н. Арсеннева, разважлівы і крыху песімістычны М. Сяднёў, самапаглыблены і вытанчаны А. Салавей — гэта паэты высокай творчай культуры. У іх творах няма механічнага перанясення палітыкі ў літаратуру, а галоўнай дзеючай асобай з'яўляюцца не правадыры і не прадстаўнікі партый ці рухаў, а проста Чалавек з яго складаным унутраным светам, яго імкненнямі і галоўнымі каштоўнасцямі, такімі, як Радзіма, яе мова і гісторыя.

Лічу, што творчасць паэтаў-замежнікаў, якія эмігрыравалі з Беларусі па розных прычынах, нават па палітычных, вартая прызнання на іх этнічнай радзіме. Тым больш, як паказвае жыццё ў выпадку з Дантэ Аліг'еры, які таксама быў адрынуты грамадствам Фларэнцыі па палітычных матывах, сапраўдная паэзія заўсёды застаецца жыць. Бо праз вякі нашы нашчадкі будуць ставіцца да палітычных варункаў сучаснасці толькі з пункту гістарычнага погляду і простай чалавечай цікавасці да іх, як

ставімся мы сёння да барацьбы ў XIII стагоддзі гібелінаў і гвельфаў у Фларэнцыі. А імя вялікага Дантэ, не прызнанага на сваёй Радзіме яго палітычнымі праціўнікамі, гісторыя паставіла ў адзін шэраг з Шэкспірам і Рафаэлем толькі дзякуючы яго таленту. А хто памятае імёны яго прыгнятальнікаў? Яны згубіліся на скрыжалях гісторыі. Таму сапраўднае, незалежна ад таго, прызнаем мы яго ці не зараз, — бессмяротнае ў часе, незалежнае ад нашых жаданняў і палітычных інтарэсаў. Паэзія ж Н. Арсенневай, М. Сяднёва і А. Салаўя высока нясе прынцыпы агульначалавечых каштоўнасцяў, таму і вартая на жыццё і вывучэнне яе намі.

*Л. Званарова*

*(г. Масква)*

# КОЛЕРАВАЯ СІМВОЛІКА Ў ПАЭЗІІ ЗІНАІДЫ ГІПІУС І НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

Нягледзячы на розніцу ва ўзросце — трыццаць гадоў, шмат што збліжае беларускую паэтэсу Наталлю Арсенневу са знакамітай рускай пісьменніцай Зінаідай Гіпіус (1869—1945). Дзяцінства, звязанае з Каўказам (Тыфліс — у Гіпіус, Баку — у Арсенневай), частыя пераезды ў раннія гады, сур'ёзная хатняя адукацыя і самаадукацыя, вопыт журналісцкай работы ў прэсе — расійскай, заходнебеларускай, а потым і антысавецкай («За свабоду» — у З. Гіпіус і «Менская (Беларуская) газэта» ў Н. Арсенневай). Перажыўшы пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР высылку з дзецьмі ў Казахстан у 1940 годзе, Н. Арсеннева ў 1944 годзе адважваецца на эміграцыю. З. Гіпіус уцякае за мяжу з мужам і двума сябрамі яшчэ ў 1920 годзе. У лютым 1920 года ў Вільні юная Н. Арсеннева магла наведаць лекцыю З. Гіпіус і Д. Мяражкоўскага, бо ў той час сям'я Арсенневых вярнулася з эвакуацыі і ў студзені 1920 года зноў жыла ў Вільні. Зінаіда і Дзмітрый Мяражкоўскія заставаліся там да сярэдзіны лютага і карысталіся вялікай папулярнасцю сярод віленскай інтэлігенцыі. «Наша агульная лекцыя, — сведчыць З. Гіпіус пра вільнюскі перыяд іх жыцця, — была прачытана ў вялізнай доўгай зале з калонамі, пры такім наплыве публікі, што выламалі шкляныя дзверы, і быў шум, і паліцмайстар прыбягаў кожную хвіліну».

Уплыў, які рабілі асоба і творчасць З. Гіпіус на сучаснікаў, прызнавалі многія. Дзевяностагадовая М. Шагінян, якая яшчэ ў дзявоцтве напісала кнігу пра паэзію З. Гіпіус, сцвярджала: «Зінаіда Гіпіус была адной з самых разумных і таленавітых жанчын, якіх я ведала ў маім доўгім жыцці». А. Блок у дзённіку адзначаў яе «адзі-

насць», а стрыманы на пахвалу Бальмонт лічыў, што менавіта яна «дае асноўныя формулы настрояў, якія распрацоўваем усе мы».

Колер у вершах Зінаіды Гіпіус і Наталлі Арсенневай нясе сур'ёзную сэнсавую нагрузку. Недарэмна колеравы эпітэт ужо сустракаецца ў назвах першых двух зборнікаў Н. Арсенневай — «Пад сінім небам» (1920—1927) і «Жоўтая восень» (1927—1937). У З. Гіпіус — п'есы «Зялёны пярсцёнак», «Макаў цвет» (1908), зборнік (у сааўтарстве) «Нябесныя словы» (апавяданні, перавыдадзеныя ў Парыжы, 1921), «Сіняя Кніга» (пецярбургскі дзённік, 1914—1917, Бялград, 1929), «Шэрае з чырвоным: дзённік 1940» («Новы часопіс», Нью-Йорк, № 33, 1953), «Чорная кніжка. Шэры блакнот» («Русская мысль», Сафія, 1921). П'еса «Зялёны пярсцёнак» была пастаўлена ў Александрынскім тэатры (1915) У. Меерхольдам, у галоўнай ролі выступіла М. Савіна. «Зялёнае» ў п'есе — знак маладосці, а «ліловае» (колер сукенкі, у якой Савіна іграла Алену Іванаўну) сімвалізуе старэйшае пакаленне.

Нярэдка колеравы эпітэт акцэнтаваны ў загалоўку (або ў першым радку верша: у Н. Арсенневай — «Люблю я сонца залатое...», «У небе палаюць чырвоныя хмары...», «Ахрысціў мяне нехта ў зялёнай дуброве...», «Залатое». У З. Гіпіус — «Зеленое, желтое и голубое», «Белая одежда», «Рыжее кружево», «Кто видел Утренюю, Белую...», «Черный серп», «Серое платьице», «Черненькому», «Зелёный цветок», «Белое», «Желтое окно». Многае ў творчасці і светапоглядзе З. Гіпіус было «відавочна» блізкім Н. Арсенневай. Знакамітыя ж рускія паэтэсы XX стагоддзя Г. Ахматава і М. Цвятаева не сталі, магчыма, для Н. Арсенневай сур'ёзнымі аўтарытэтамі, бо палічылі для сябе магчымым жыць пад уладай бальшавікоў, адмовіўшыся ад эміграцыі.

Лёгка выявіць улюбёны эпітэт З. Гіпіус — «бледный». Вось толькі некалькі прыкладаў: «И небо кажется пустым и бледным // Таким пустым и бледным... // Мне бледное небо чудес обещает...» («Песня», 1894), «Я буду в море бледною волною...» («Отрада», 1892), «...И вижу полох бледных облаков...» («Бессилие», 1893), «На бледном склоне дня» («Снежные хлопья», 1894), «...На бледном небе умирает день» («Сонет», 1894), «...свивая блед-

ный лен», «...не вьется бледный лен» («Гризельда», 1895), «Вдыхаю запах бледной тины...» («К пруду», 1895), «...читаю бледные листы...», «и я смотрю с благоговеньем на побледневшие листы» («Сентиментальное стихотворение», 1896), «Полна бесстрастья, холода и света бледнеющая высь...» («Вечерняя заря», 1897), «Спускается на землю бледный мрак» («Вечер», 1897), «Что мне делать с тайной лунной? С тайной неба бледно-синей?» («Богиня», 1902), «Долгие бледные ночи...» («Баллада», 1903), «Теряет бледные листы мой сад...» («К ней», 1905), «Не бледный халкидон — заветный камень мой...» («Овен и Стрелец», 1907), «Когда, бледнея, стынут цветы дня, я жду прозрений силы благодатной» («Не будем как солнце», 1911), «Мой путь в изгнанье дальнее, где вихри бледные сплелись...» («Протяжная песня», 1911), «Морские дали — поля бледносеребристых лилий» («За что?»).

Сустракаем эпітэт «бледны» і ў ранніх вершах Н. Арсенневай: «Нашае бледнае сонца ціхое», «Нашае сіняе, бледнае неба» («Летуценні», 1921), «дзе шчаслівых няма, дзе няма горкіх, бледных» («Ты спытайся», 1922), «Косы бледнага сонца спляліcь» («Светлы дзень загараецъ над сумнай зямлёю...», 1921), «Кроў зары бляднее...» («Зачараваны кут», 1925).

У 1909 годзе З. Гіпіус, якая падарыла маладому тады літаратару Барысу Савенкаву адзін са сваіх псеўданімаў — В. Рапшын, параіла яму назваць свой раман «Конь бледный». У вершы «Не будем как солнце» (1911), прысвечаным Савенкаву-Рапшыну, таксама з'яўляецца гэты колер, прыхаваны ў дзеепрыслоўі «бледнеющий». Пра асаблівую ўвагу З. Гіпіус да Апакаліпсісу сведчыць эпіграф, узяты ёю да верша «Белые одежды»: «Побеждающему Я дам белые одежды». Вытокі вобраза «бледного коня» і ўлюбёнага З. Гіпіус эпітэта, цесна звязанага з яе апакаліпсіснымі настроямі і прадчуваннямі напярэдадні рэвалюцыі (пасля 1911 года гэты эпітэт знікае з яе вершаў), трэба шукаць у Апакаліпсісе: «И я взглянул, и вот, конь бледный, и на нем всадник, которому имя Смерть, и ад следовал за ним, и дана ему власть над четвертой частью земли — умерщвлять мечом и голодом, и мором, и зверями земными». У гэтых словах — вобраз-сімвал

тых выпрабаванняў голадам, холадам, гвалтам, праз якія прыйдзецца прайсці Меражкоўскім у паслярэвалюцыйным Петраградзе і Арсеневай у казахстанскай высылцы.

Мы можам гаварыць пра своеасаблівы паэтычны дыялог беларускай пісьменніцы, значная частка жыцця якой прайшла ў эміграцыі (больш чвэрці стагоддзя!). Сляды гэтага дыялогу бачны ўжо ў назвах многіх вершаў Н. Арсеневай. У З. Гіпіус сустракаем вершы, якія маюць назвы: «Зеленое, желтое и голубое» (1903), «Белое» (1915), у Н. Арсеневай — «Залатое».

У 1905 годзе З. Гіпіус піша верш з незвычайнай назвай «Между» (ён прысвечаны яе блізкаму сябру, крытыку Д. Філосафаву), які сцвярджае немагчымасць выбару ў некаторых жыццёвых сітуацыях, калі ты «земле и небу равно далек», а «внизу — страданье, вверху — забавы». «Між берагамі» назаве Н. Арсенева свой галоўны зборнік, які выйшаў у ЗША (1979).

Верш Н. Арсеневай «Верце!» пераклікаецца з вершам З. Гіпіус «Свет!» (1915) — у кожным з іх гучыць гарачы заклік да сучаснікаў абаперціся душой на Бога: у Н. Арсеневай — «Чакайце ж, верце, прыйдзе Ён...», у З. Гіпіус — «Господи, господи, — нет! Вещее сердце верит... Мы под крылами твоими... Твой немеркнущий свет!»

Верш дзевятнаццацігадовай Н. Арсеневай «У вечары» (1922) прымушае ўспомніць «Песню» (1893), напісаную дваццацічатырохгадовай З. Гіпіус. Вечаровая зара выклікае ў душах маладых жанчын незразумелую тугу. З. Гіпіус прызнаецца: «Я вижу только небо с вечернею зарею... И небо кажется пустым и бледным». У Н. Арсеневай чытаем: «Смутак няясны зышоў на душу... Кленчыць, маліцца? Чаго я хачу? Летнія хмары плывуць спакваля, мглою чырвоны ўбіраючы шлях».

Чатыры разы пытае сябе лірычная гераіня верша Н. Арсеневай: «Чаго я хачу»? А адказ мы знаходзім у фінале ўсё таго ж верша З. Гіпіус «Песня»: «Мне нужно то, чего нет на свете». Толькі гэтым можна растлумачыць беспрычынную тугу гэтых дзвюх лірычных гераінь: у З. Гіпіус — «Увы, в печали безумной я умираю... Стремлюсь к тому, чего я не знаю...», у Н. Арсеневай: «Гукі і гоман нясуцца здалёк, быццам хто гора задзержаць не

ўзмог і закрычаў, застагнаў на ўвесь свет... Ці ўзяць і заплакаць, каб сцішыць душу».

У тым, чаго яна хоча, лірычная гераіня Н. Арсенневай пераконвае чытачоў у фінале верша: «Можа, хачу я таго, што ўжо маю, можа, хачу недасяжнага раю? Не, не зямных я хацела ўцех, радасцяў дробных праз слёзы і смех... Я... я б раззорыць хацела душу».

Г. Ахматава калісьці заўважыла, што колеравыя эпітэты вельмі рэдкія ў А. Пушкіна. Уважлівая да яго творчасці З. Гіпіус (нагадаем, што і Н. Арсеннева перакладала арыі з оперы «Евгений Онегин» на беларускую мову) ставілася да гэтых эпітэтаў таксама даволі асцярожна. І ўсё ж менавіта эпітэт «белый» яна двойчы выносіць у загалоўкі вершаў: «Белая одежда» (1902) і «Белое» (1915). Па нашых падліках, эпітэт «белае» разам з утворанымі ад яго прыметнікамі сустракаюцца ў 295 вершах З. Гіпіус 38 разоў, а ў 245 вершах Н. Арсенневай — 131 раз. Цікава, што паэтэсы, мінуўшы парог трыццацігоддзя, пачынаюць усё часцей утвараць ад улюбёнага эпітэта «белае» больш складаныя вызначэнні. У З. Гіпіус з'яўляецца «белоперыстость вешних пург» («Петроград», 1914), «белоперыстый туман» («Все мое», 1912), у Н. Арсенневай — «туман ручніком белатканым» («Ноч», 1933), «снежнабелы драбок аспірына» («Хворая восень», 1936), «белавокія бярозы» («Жоўтая восень», 1937), «серабрыста-белы месяца прамень» («Зорка», 1924). Безумоўна, у кожнай з паэтэс эпітэт «белы» выклікае і свае, глыбока асабістыя асацыяцыі. Для Н. Арсенневай гэта, вядома, у першую чаргу — родная Беларусь. Ледзь з'явіліся ў напісаным ужо ў ЗША вершы Н. Арсенневай «Час — не час» «белая пляма», «белы цвет», як адразу ж узнікае лірычная тэма Радзімы: «Песцяць сэрца й худыя вазоны й брукі ў белі паперкавай лускі. І ўсё чыста — бо вецер з Гудзону сяння нейкі зусім беларускі!»

Для З. Гіпіус эпітэт «белый» — напамін пра белы хітон Хрыста, белае адзенне справядліўца, псеўданім сябра, паэта Барыса Бугаёва — Андрэя Белага (яму прысвечаны верш «Шёл...» (1918). З. Гіпіус эпітэт «белый» нярэдка выкарыстоўвае ў вельмі нязвычным кантэксце: «белая звезда» (1905), «белое веселье» і «весенний ветер белый» (1907), «белое дыханье» (1918), «белый праздник»

(1915), «белые пчелы» (1917), «пушистые хлопья белые, как пчел веселых рой» (1894), «белая тишь» (1918). Такое ж нечаканае выкарыстанне яго і ў Н. Арсеньневай: «белых зор карагод» (1922), «скача месяц белы» (1924), «бялявы месяц», «на белых крылах летуцення», «белае захапленне» (1927), «звоняць белыя пчолы», «нехта белы».

Нельга не заўважыць, што і для рускай і беларускай паэтэс белы колер моцна звязаны з найважнейшымі для кожнай з іх хрысціянскімі матывамі. Менавіта таму ў вершах З. Гіпіус з'яўляюцца «радостные белые цветы» (а побач — прамы зварот: «Сердце наше, Господи, сердце знаешь ты»), «храма белые колонны», «белые врата», «Рождество, праздник детский, белый», «одежда белая», «белый хитон», «белые ступени», «саван белый», «белые лестницы», «белый гроб». А ў вершах Н. Арсенневай мы сустракаем «свечкі белыя», «белы вянок», «над дахамі, увыш узняўшы бель крылля, стаіць, усё ў агні, Трохкрыжае на старожы» (1943), «у белай рызе рабіны стаяць» (1921), «Высокі белы хорам» (1925), «зоркі далёкія, белыя» (1923—1924).

Відавочна, вытокі гэтых вобразаў-сімвалаў неабходна шукаць у біблейскай сімволіцы і ў традыцыйных славянскіх пейзажах з белакаменнымі храмамі на ўзгорках. Так, аналізуючы пейзажную лірыку С. Ясеніна, А. Марчанка адзначала: «Не менш, чым пластыка, злучае рускую царкву з рускай прыродай і каларыстычнае выражэнне: белыя сцены, свінцовае пакрыццё купалаў, жалезна-залаты крыж... У сонечным святле і белакаменныя сцены трацяць сваю цяжкакаменнасць... загараюцца чыстым белым «полымем», якое ўзмацняе гучнасць пейзажу: дзякуючы беламу «акцэнту» ён здаецца больш святочным, яркім і нават эфектным».

З. Гіпіус нарадзілася 8 лістапада 1869 года, Н. Арсеннева — 20 верасня 1903 года. Восень для кожнай з іх была глыбока сваім, родным часам года, асвечаным імем Пушкіна. Але калі ў З. Гіпіус мы сустракаем толькі чатыры вершы, звязаныя з восенню, — «Осень» (1895), «Осенью», «8 ноября», «Сентябрь», то Н. Арсеннева да восеньскіх матываў звяртаецца пастаянна: «Восень» (1920, Вільня), «Жоўтая восень», «Восень» (1921, Вільня), «Восень» (Хэлмна, 1935), «Увосені» (Хэлмна, 1934),

«З восеньскіх настрояў» (Хэлмна, 1935), «Асенняя элегія» (Равіч, 1936). Гераіня верша Гіпіус — алегорыя восені — жанчына з «пустыми глазами», якая блукае паміж «задумчивых сосен и берез золотистых» — родная сястра асенняга дня з верша Н. Арсенневай. Але яшчэ мацней гучыць пераклічка ў фінале гэтых двух вершаў, якія сцвярджаюць непазбежнасць натуральнага канца нашых зямных трывог. У З. Гіпіус чытаем: «Скользят, улетают — бесплотные — тают последние тени последних волнений, живых утомлений — пред отдыхом вечным... Пускай без видений, покорный покою, усну под землею я сном бесконечным». Н. Арсеннева піша: «Так і ў нас перасціхнуць калісьці, як лісце, парывы, змаганні, прамінуць усе праўды, папраўдзе пайрвуцца, як ніць, азірнёмся назад, на бязладныя сцені, хаценні, жаданні, ляжам з восеняй слёзнай у барознах слізкіх супачыць...»

Антон Адамовіч адным з першых заўважыў, што Н. Арсеннева пачынала свой творчы шлях як паэтка «восені», а вобраз восені заставаўся адным з цэнтральных у яе даваеннай паэзіі. Відавочна, у далейшым восеньскія матывы не знікаюць з яе паэзіі, але мінорны пачатак узмацняецца па зусім зямных прычынах — расстанне з роднай Беларуссю, высылка ў Казахстан, вымушаная эміграцыя. Н. Арсеннева, перажываючы восень на чужыне, усё часцей адчувае сябе самотным лістком, сарваным бурай з роднай галінкі («Першая восень», «Асеннія лісты»).

Паэтэса Ніна Габрыэлян нядаўна на старонках часопіса «Дружба народов» выступіла з артыкулам пра паэтаў дзённага і начнога бачання. Першы гэтую ідэю сфармуляваў Д. Меражкоўскі ў артыкуле «М. Ю. Лермонтов — поэт сверхчеловечества»: «...Сквозь вечереющий пушкинский день таинственно мерцает Лермонтов, как первая звезда. Пушкин — дневное, Лермонтов — ночное светило русской поэзии. Вся она между ними колеблется, как между двумя полюсами — созерцанием и действием». Гэтая праца Д. Меражкоўскага магла выклікаць асаблівую цікавасць Н. Арсенневай, паходжаннем з тых самых Арсенневых — генеалагічнай лініі бабулі М. Ю. Лермантава.

Ноч, вечар — улюбёная паэтычная тэма Гіпіус, у якой мы сустракаем «Стихи о луне», «Луна и туман»

(1902), «Ночью» (1904), «Черный серп» (1908), «Ночь» (1919), «Последние сны» (1912), «Сны» (1901), «Мертвая заря» (1901), «Цветы ночи» (1894), «Вечерняя заря» (1897), «Вечер» (1897). Да тэмы ночы, сноў, паўзмроку пастаянна звяртаецца і Н. Арсеннева ў вершах «Сон», «І сніцца мне» (1945), «Маладзік» (1942), «Месяц» (1935), «Вечар у Вільні», «У ночы» (1924), «Асенні вецер» (1936), «Ночныя гадзіны» (1936), «Калі скончыцца дзень» (1936), «Вячорная часіна» (1933), «Вечар», «Зімовая ноч» (1935), «Калі ноч запануе» (1921), «Ночы й думкі» (1921), «Увечары» (1922), «Увечары» (1925), «Перад ночай», «Шэпты ночы» (1922), «Вячорні абразок» (1924), «Вячорні абразок» (1936), «Вячорнаю парою» (1924), «Уначы» (1922), «Тае вечар» (1932), «Вячорная містэрыя» (1932). Нетрадыцыйную інтэрпрэтацыю Арсенневай матываў восені і ночы адзначае М. Мішчанчук, лічачы, што для паэтэсы ноч «уяўляецца разнаколернай — ад белай да цьмянай, з ледзяным ззяннем зор і разназычнай — то ціхай то гучнай».

У Н. Арсенневай чатыры аднайменныя вершы «Ноч», напісаныя ў 1925 годзе ў Хэлмне, у 1933 годзе там жа, у 1936 годзе ў Равічы і ў маі 1945 года ў Амбэргу. Самы першы з іх пераклікаецца з чатырохрадкоўем «Ночь», напісаным З. Гіпіус у снежні 1919 года ў Пецярбургу: «...Не рассветает, не рассветает... на брюхе плоском сна ползет. И все длиннее, все распухает... не рассветает! Не рассветает!» У фінале дваццацівасьмірадковага верша Н. Арсенневай нечакана з'яўляецца вобраз ночы-змяі, які напаўняе душы цьмянай трывогай: «Да сэрца людскога паволі вужакай слізкой падпаўзла, старыя забытыя болі з прадоння ўзноў узняла».

Інтуітыўную цягу пісьменніц да тэмы ночы па-свойму тлумачыць заходняя філасофія, якая стварыла класічныя пары, структурную дыхатамію, згодна з якой мужчына — гэта душа, культура, актыўнасць, сонца, дзень, бацька, форма, адзінства, а жанчына — цела, прырода, пасіўнасць, месяц, ноч, маці, матэрыя, мноства. Гэты спіс адлюстроўвае асноўныя апазіцыі патрыярхальнай сістэмы каштоўнасцей. У 1905 годзе, яшчэ не перажыўшы эміграцыю, З. Гіпіус піша пра сябе: «Я — черная вода, пенноморозная, *меж* льдяных *берегов*». Паміж двух

берагоў адчувае сябе вось ужо болей як паўстагоддзя Н. Арсеннева, якая дала выніковаму зборніку гэтую сімвалічную назву — «Між берагамі». Асаблівая ж цяга да тэмы ночы, вечара тлумачыцца, відавочна, і тым, што вечаровыя часіны для яе — самыя творчыя: «...Люблю тварыць я ўвечары!» («Часіны творчасці», 1935).

Н. Арсеннева нярэдка звяртаецца да тэмы, якую ўжо паспрабавала сродкамі паэзіі вырашыць З. Гіпіус, спрачаючыся з пазіцыяй і ацэнкамі рускай паэтэсы. Такі своеасаблівы дыялог складаюць вершы «Тринадцать» З. Гіпіус і «Дваццаць» Н. Арсеннева, «Я» (ад чужога імя) З. Гіпіус і «Я чалавек» Н. Арсенневай. Калі лірычны герой З. Гіпіус падкрэслівае свой эгаізм: «Во мне — ко мне — большая страсть: в себя гляжу, сужу да мерю...», то лірычная гераіня Н. Арсенневай прызнаецца: «І боль людскі мне сэрца кроіць, а радасць — кроў жвавей жане». І калі герой верша Гіпіус, чарговая маска, хітруючы і баючыся, падводзіць несуцяшальны вынік уласнаму жыццю: «Людей и лжи я вечный раб и на свободу не надеюсь», то ў голасе лірычнай гераіні Н. Арсенневай усё больш чуваць спавядальныя інтанацыі самой паэтэсы: «Песні я пяяла і стоячы над кручай, і там, на цёмным дне жыцця».

Ёсць у паэзіі Н. Арсенневай некалькі вершаў, у саміх назвах якіх прыхаваны намёк на аднайменныя вершы З. Гіпіус. Вершу «Когда?», напісанаму З. Гіпіус 1 сакавіка 1924 года ў Парыжы, адпавядаюць тры аднайменныя вершы Н. Арсенневай «Калі?», створаныя адпаведна ў Хэлмне ў 1932 годзе, у Менску ў 1942 і 1946 гадах. Асабліва адчувальная эмацыянальна-вобразная пераклічка з вершам Гіпіус «Когда?» у першым вершы Арсенневай «Калі?», напісаным праз восем гадоў — у 1932 годзе. У дваццаці радках паэтычнай мініяцюры кожная з паэтэс перадала сваё трывожнае веснавое светаадчуванне, якое было шмат у чым сугучным. І хаця Н. Арсеннева апісвае лясны вясновы пейзаж, а З. Гіпіус — гарадскі, на першы план у кожнай з іх выходзіць неба. У З. Гіпіус: «Каштаны веточки тонкие в мартовское небо тянут». У Н. Арсенневай: «Калі ў небе зялёным, бяззорным маладзік залаты выплывае...» І калі ў З. Гіпіус «засмеялись рои моторов», то ў Арсенневай — «складным, залівістым

хорам жабі род у лагу запявае...», у кожнай з іх з'яўляецца эпітэт «вясёлы» — «Как веселы улицы звонкие в желтой волне тумана» (Гіпіус), «расцвітае высока, вясёла светлым зданнем» (Арсеннева). У кожнай з гэтых паэтычных мініяцюр заўважаецца асаблівая ўвага аўтараў да колеру і колеравых эпітэтаў: у Гіпіус — «зажемчужилась арка серая», «в желтой волне тумана», «жемчужьтесь, стены каменные», у Арсенневай — «хустка сіняя», «белая воўна авечкаў», «неба зялёнае», «маладзік залаты», «сіняе поле». Збліжае гэтыя два вершы і фінал — прамы зварот аўтараў да вобраза неба з відавочным хрысціянскім падтэкстам. У З. Гіпіус чытаем: «Господи! Иду в неизвестное, но пусть оно будет родное. Пусть мне будет небесное такое же, как земное...» Н. Арсеннева піша: «О, тады забываецца неяк свет і ўсё на зямлі, навакола, светлым зданнем — вясёлкай шугае ў нябеснае сіняе поле, дзе смяецца яна і вітае ўсё, што ёсць, а не будзе ніколі». Зноў усплывае матыў ранняй паэзіі Гіпіус: «Мне нужно то, чего нет на свете».

Н. Арсеннева часта спрачаецца з З. Гіпіус. На яе верш «Не знаю» (1901) яна адказвае вершам «Знаю», у фінале якога сцвярджае, што чалавек дужы памяццю пра сваю Радзіму, духоўнай сувяззю з ёю: «Але знаю ўжо я, што смалою сасон — захачу — і запахне мне вецер марскі, што мы скрозь панясём сон аб родным краі!»

Свае адносіны да памяці Гіпіус выказала ў артыкуле «Зямля і свабода», і яны ў многім сугучныя з паэзіяй Арсенневай: «Не есть ли основа, корень, суть культуры, проходящей сквозь ряды поколений, — память? Живая память — это залог живой культуры. Культура всегда целостность, ткань, свитая из множества нитей, которые тянутся отовсюду, от всех сторон жизни».

Лірычны дыялог з Гіпіус працягваецца і ў вершы Арсенневай «Ён дайшоў», напісаным у маі 1946 года ў Рэгенсбургу. Яго можна разглядаць як адказ Арсенневай на верш рускай паэтэсы пад назвай «Шёл» (напісаны таксама ў маі ў 1918 годзе ў Пецярбургу, і першая яго частка прысвечана А. Беламу і А. Блоку). Для кожнай з паэтэс, якім уласціва цяга да жанру мініяцюры, гэта даволі доўгі верш: 52 радкі. У вершы «Шёл» Гіпіус па начным Пецярбургу, знявечаным кастрычніцкім пераваротам, го-

радзе, у якім пасяліліся забойцы і злодзеі, крочыць Хрыстос (адчуваецца спрэчка з паэмай «Дванаццаць», з-за якой паэтэса спыніла сяброўскія адносіны з А. Блокам). Безыменны вандроўнік — галоўны герой верша Арсеневай «Ён дайшоў». Чытачу адкрываецца пасляваенная, разбураная, спаленая Беларусь — «Свіслач... Чорны комін... Чорнай хаты рэбры...» Таксама, як і Хрыстос у вершы Гіпіус, герой верша Арсеневай (у яго вобліку таксама праглядваюцца рысы гнанага Хрыста) ідзе па зямлі ноччу, дасягаючы мэты: «...Ночай, белай, белай, ён дайшоў». Параўнаем з вершам Гіпіус: «Но сверкает ярче молний лик идущего Христа». Лірычны герой Арсеневай «ішоў, нікому не патрэбны, з той тугой, якой ужо нічым не змыць».

У дакументалістыцы Н. Арсеневай колеравы эпітэт іграе такую ж актыўную ролю, як і ў яе паэзіі. Так, у нарысе «У Казахстанскай ссылцы» (1952) амаль няма апісанняў, звязаных з колерам. Адзін раз сустракаецца слова «чорны» («чорны год»), тры разы слова «шэры» («шэры стэп», «шэрае неба», «шэрыя... ваколіцы савецкага рая»). Да гэтай групы змрачнаватых эпітэтаў можна аднесці яшчэ два — «цёмны» і «брудны» («цёмныя, брудныя вагоны», «брудная ватоўка», «цёмная зямлянка»). Гэтаму зямному пеклу супрацьстаіць чалавек, кволы, але не зламаны. Невыпадкова апошняя колеравая пляма ў эпілогу мемуарнага фрагмента — чырвоныя ногі апавядальніцы, якая, скінуўшы прамоклыя валёнкі, праз стэп, па талым снезе прабіралася да сваіх дзяцей, якія засталіся адны на доўгія два тыдні. На што можа абаперціся душой праваслаўны чалавек, каб вытрымаць такое пекла? Толькі на Бога. Так з'яўляецца ў паэзіі Арсеневай перыяду Казахстанскай высылкі матыў чыстага, сіняга неба: «Толькі вясною бывае неба такое сіняе, толькі вясною бываюць далі такія чыстыя».

У дакументальнай прозе З. Гіпіус паслярэвалюцыйных гадоў таксама з'яўляецца чорны колер. У бальшавіцкім Петраградзе Гіпіус у знак жалобы па Расіі пачынае весці дзённік у «чорных сшытках», апісваючы ў іх чорныя для яе Айчыны дні.

Асаблівая ўвага Гіпіус да сімволікі колеру ў жаночай паэзіі праявілася і ў прадмове «Вчерашнее — всегдашнее —

вечное», напісанай ёю да кнігі вершаў Марыі Шкапскай «Учарашняе», якая павінна была выйсці ў Пецярбургу ў 1917 годзе: «Женское — самая таинственная из тайн мира. В женской душе горит своя радуга: семь полос, семь бездонностей — легкость, влюбленность, образность, нежность, терпение, жертвенность, материнство — все они соединены в ней божественно-непонятным соединением». Углядаючыся ў вясёлку Ахматавай, Гіпіус адзначала яркую «оранжево-алую полосу любовной страсти» і ледзь прыкметную «фиолетовую черту» мацярынства. У Шкапскай «ни одна полоса не ослепляет нас, как оранжево-алая Ахматова, в книге «Вчерашнее», однако, есть все цвета, а фиолетовая тень — материнство не бледнее, а, может быть, гуще и глубже других».

Такім чынам, Арсенневу і Гіпіус збліжаюць творчыя пазіцыі, у аснове якіх — патрыятызм (туга па Радзіме і вера ў яе будучае адраджэнне), паслядоўнае адстойванне хрысціянскіх ідэалаў (вершаваная малітва — пастаянны жанр у творчасці беларускай і рускай пісьменніц), жорсткі антыбальшавізм. У Арсенневай гэта адчуваецца і на ўзроўні яе адносін да рэвалюцыйнага чырвонага колеру, якім так захапляліся савецкія паэты, яе сучаснікі. Паэтэса ўводзіць яго ў свае тэксты вельмі рэдка, аддаючы перавагу блізкім колерам — ружоваму, ліловаму, рыжаму.

Пасля катастрофы 1917 года для Гіпіус чырвоны колер таксама набыў злаславае — крывавае — адценне. Так, у «юбілейным» вершы, напісаным 25 кастрычніка 1917 года ў Пецярбургу, «Осенью» (са здзеклівым падзагалоўкам «Згон на рэвалюцыю»), Гіпіус піша: «Нет революции краснее нашей: на фронт — иль к стенке, одно из двух». У «Чорным сшытку» пісьменніца 16 лютага 1918 года з агідай канстатуе: «И встретила первая улыбка «свободы»: куча рвани, «красная» свора, направляющаяся в Смольный, мобилизоваться».

Сярод колеравых эпітэтаў, якімі пастаянна карыстаецца Н. Арсеннева, — «сіні», «залаты» (прычым, выкарыстоўваючы золата, як німб у іконе, паэтэса нярэдка «залоціць» ужо першыя радкі сваіх вершаў — «Сонца вяснянае ў золаце косаў», «Кроплі золата восень губляе»). «Зялёны», «жоўты» сімвалізуюць комплекс фарбаў, асабліва папулярных сярод усходнеславянскіх іканапіс-

цаў. Невыпадкова сярод вершаў Н. Арсенневай сустракаем два вершы «Вячэрні абразок», прысвечаныя іконе. Колеравая палітра позніх вершаў З. Гіпіус значна бяднейшая. У апошнія гады праваслаўную ікону ў яе жыцці адцясніла статуэтка кананізаванай у XX стагоддзі каталіцкай святой маленькай Тэрэзы з Лізье (яна стаяла ў парыжскай кватэры Мяражкоўскіх, і яны часта клалі да яе кветкі). З. Гіпіус разбіла гэтую скульптуру ў дзень смерці Д. Мяражкоўскага ў гневе, што тая дазволіла мужу памерці раней за жонку.

*Л. Савік*

*(г. Мінск)*

# ЛЁС БЕЛАРУСКАЙ ЖАНЧЫНЫ

## Творчасць А. Саковіч

Проза Аляксандры Саковіч (Іны Рытар) — апавяданні, аповесці, успаміны — успрымаецца сёння як бясцэнны, праўдзівы дакумент нашай эпохі. Іна Рытар — амаль равесніца XX стагоддзя — была сведкай і відавочцай падзей рэвалюцыі, грамадзянскай, першай і другой сусветных войнаў, сталінскіх рэпрэсій. Вымушаная пайсці ў выгнанне, яна ўжо паўстагоддзя жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі, і там пачыналася яе творчасць, цалкам прысвечаная Бацькаўшчыне, там, у Нью-Йорку, Беларускім інстытутам навукі і мастацтва была выдадзена кніга яе аповесцей і апавяданняў «У пошуках праўды» (1986), напісаны ўспаміны пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Язэпа Лёсіка, Пятра Бузука, Міхайлу Грамыку, Усевалада Ігнатоўскага, Аляксандра Цвікевіча, Мітрафана Доўнар-Запольскага і іншых таленавітых прадстаўнікоў беларускай нацыі, якіх яна асабіста добра ведала, з якімі сябравала, знаходзілася ў сваяцкіх і духоўна блізкіх адносінах.

Расказала яна ў сваіх успамінах і пра многіх актыўных дзеячаў беларускай эміграцыі ў ЗША: Зору і Вітаўта Кіпеляў, Янку Запрудніка, Аўгена Каханоўскага-Калубовіча, пра заснаванне беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Германіі (1945—1950), у лагеры перамешчаных асобаў, дзе пераважна жылі беларускія сем'і. А з такіх яе артыкулаў, як «Лістападаўцы», «Да гісторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэту», «Археалагічная экспедыцыя ў 1928 г.», «Менск у 1930—1931 гадох», паўстае яскравая карціна жыцця на Беларусі 20—30-х гадоў, раскрываецца складаны і супярэчлівы духоўны стан грамадства, якое ўступала ў перыяд панавання таталітарнага рэжыму, калі

надыходзіў пік сталінскіх рэпрэсій, пачыналася вынішчэнне цвету нацыі...

Пісьменніцкая актыўнасць Іны Рытар прыпадае на 50—80-я гады, а гэта ўжо той перыяд, калі на Беларусі творчыя таленты былі скаваны так званай тэорыяй бесканфліктнасці, метадам сацыялістычнага рэалізму, ідэалагічнымі догмамі і ўстаноўкамі кіруючай партыі. Непараўнальныя, вядома, жыццёвыя ўмовы, у якіх апынулася беларуская жанчына-эмігрантка і ў якіх існавалі яе землякі-творцы, як непараўнальныя творчыя і чалавечыя індывідуальнасці наогул. Аднак яе проза цікавая для нас перажытасцю матэрыялу, той праўдай чалавечых лёсаў і абставін, якую доўгі час нам забаронена было ведаць. У вольным свеце яна магла адкрыта і нязмушана пісаць пра тое, што жыло ў сэрцы — гады маладосці, незабыўныя страты, цяжкія выпрабаванні, якія выпалі жанчыне на радзіме і на складаных выгнанніцкіх шляхах.

У гэтым годзе Іне Рытар (па мужу Іна Каханоўская, літаратурны псеўданім — Аляксандра Саковіч) спаўняецца 90 гадоў. Яна жыве сярод землякоў у амерыканскім горадзе Кліўлендзе, які прытуліў многіх беларусаў і дзе заснавалася шматлікая беларуская калонія, паўстаў культурны цэнтр «Полацак», пабудавана беларуская праваслаўная царква. Не так даўно памёр яе муж Аўген Калубовіч (Каханоўскі, 1910—1987), вядомы дзеяч беларускай эміграцыі, таленавіты пісьменнік, аўтар многіх артыкулаў, успамінаў, кніг: «Айцы» БССР і іхны лёс», «На крыжавой дарозе», «Крокі гісторыі» і інш. У іх сям'і шчасліва спалучаліся агульныя творчыя інтарэсы, высокая нацыянальная свядомасць і гарманічныя родныя ўзаемадачыненні. Вышэйшую адукацыю Іна Рытар атрымала на Беларусі, хоць нарадзілася яна ў Адэсе, у сям'і беларусаў, якія паходзілі з мястэчка Ярэмічы, што на Наваградчыне. Бацька служыў на адэскай чыгунцы, маці выхоўвала дзяцей, якіх у сям'і было чацвёра. Пазней, у сваіх успамінах, Іна Рытар напіша пра Адэсу свайго дзяцінства: «У канцы XIX стагоддзя, толькі за 100 год свайго быцця, Адэса займала адно з першых месцаў сярод гарадоў Расійскай імперыі.

Было ў Адэсе лёгка знайсці работу і добра зарабіць. Добры заработак і прывілеі, якімі не карысталіся іншыя

месцы, вабілі да сябе людзей. Яны наплывалі са шмат якіх краёў. Дзякуючы спецыфічным умовам свайго развою, тут было жыхарства розных нацыянальнасцяў. На вуліцах Адэсы апрача моваў украінскай і расійскай можна было пачуць і іншыя мовы. Было тут вялікае мноства грэкаў, былі татары, румыны, малдаване, жыды, караімы, немцы, палякі і інш.

Вабіла да сябе Адэса і беларусаў. Шырокай хваляй крануліся і яны туды на жыццё. Беларуская інтэлігенцыя — вучыцелі, дактары, адвакаты сяліліся ў цэнтры места. Але іх было не шмат. Бальшыня была сялян. Прыязджаючы, яны ўладкоўваліся дворнікамі, вартаўнікамі. Жанчыны — хатнімі найміткамі. Але галоўная маса ішла рабіць у чыгуначныя майстэрні або на чыгунку стрэлачнікамі, сцэпшчыкамі, канцылярыстамі і інш. Дзеля таго, блізка чыгункі на ўскраіне места, пасяліліся цэлыя калоніі беларусаў. На Бліжніх Млынох, на Малдаванцы, на Сахалінчыку, на Пярэсыпе на кожным кроку можна было пачуць беларускую мову. Беларусы нат мелі сваю вулачную мянушку — лапацены...

У 1915 годзе, у часе першае сусветнае вайны, новая вялікая хваля беларусаў нахлынула на Адэсу. Гэта былі ўцекачы з Віленшчыны, Наваградчыны, Горадзеншчыны й Меншчыны... Рэвалюцыя прынесла яшчэ адну хвалю беларусаў у Адэсу. Гэта вайскоўцы беларусы, што ў часе рэвалюцыі былі на румынскім фронце. Бальшыня з іх свядомыя адраджэнцы. Іхнія ідэалы — вольная незалежная Беларусь. Акалічнасці складаліся так, што ў той час яны не маглі звярнуцца на бацькаўшчыну. Але яны шырока разгарнулі сваю нацыянальную дзейнасць сярод беларусаў Адэсы. Адэскі беларус, асабліва чыгуначнік, ніколі не губляў сувязі з бацькаўшчынай. Кожны чыгуначнік карыстаўся для сябе і сваёй сям'і дармавымі білетамі».

Любоўю да роднага кута маці надзяліла і дзяцей, пасяліла веру ў тое, што на Бацькаўшчыне, дзе карані роду, заўсёды знойдзецца душэўны спакой і прытулак. І яшчэ — з маленства ад маці, якая здолела сабраць у доме даволі багатую бібліятэку, Іне Рытар передавалася вялікая любоў да кнігі. У 6-гадовым узросце будучая пісьменніца пайшла вучыцца ў адэскую жаночую гімназію (1912), дзе

вучылася і яе старэйшая сястра Ліда. У гэты час у Адэсе актыўна вялася беларуская грамадская праца. Беларусы мелі свой клуб, бібліятэку, дзе былі кнігі Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, А. Гаруна, Ядвігіна Ш., многіх іншых пісьменнікаў, дзейнічалі тэатральная трупа і хор, ладзіліся спектаклі, канцэрты, літаратурныя вечары. Ставіліся п'есы: «Паўлінка», «Модны шляхцюк», «Чорт і баба», дэкламаваліся вершы, спявалі беларускія песні. Усё гэта звязвала з далёкай Бацькаўшчынай, аб'ядноўвала, рабіла нацыянальна свядомымі і тых беларусаў, якія нарадзіліся ў Адэсе.

Аднак у сувязі з ваеннымі, рэвалюцыйнымі падзеямі надышлі цяжкія дні і для жыхароў Адэсы. Голад, хваробы, частыя змены ўладаў прымусілі і беларусаў шукаць выйсце, ратаваць дзяцей. Былі арганізаваны дзіцячыя дамы ў прыгарадзе Адэсы Аркадыі. Выхавацелямі, настаўнікамі ў іх працавалі маладыя беларусы — студэнты і вучні старэйшых класаў гімназіі, а таксама вядомыя дзеячы беларускага адраджэння, якія на той час знаходзіліся ў гэтых краях: Пётра Ілючонак, Рыгор Козел, Сцяпан Некрашэвіч, Антон Баліцкі, кіраўніком дзіцячага дома быў прызначаны Міхайла Грамыка, беларускую літаратуру і мову для дзяцей выкладаў М. Піятуховіч, матэматыку Я. Аляхновіч, працавалі іншыя высокакваліфікаваныя выкладчыкі, выхавацелі, у тым ліку і Ліда Рытар, якая пазней стала жонкай вядомага беларускага паэта і празаіка, вучонага-геолага Міхайлы Грамыкі.

Але становішча пагаршалася з кожным днём, і многія беларусы з дзецьмі ў 1921 годзе выехалі на Беларусь. Так Іна Рытар разам з сястрой Лідай апынулася ў Мінску. Ліда ўладкавалася інспектарам дзіцячых прытулкаў, пазнаёмілася з жонкай Янкі Купалы Уладзіславай Францаўнай, якая працавала загадчыцай аднаго з дзіцячых садкоў. Купалы жылі тады пры гэтым садку, там жа меў сабе пакоі і Змітрок Бядуля. Блізкай сяброўкай Ліды была Юлія Бібіла, якая стала вядомым беларускім бібліёграфам. Яна шмат дапамагала Іне Рытар у вывучэнні беларускай мовы, літаратуры, гісторыі, часта расказвала маладой дзяўчыне пра Кастуся Каліноўскага, крэўнага ёй па маці. Іна была ўжо тады студэнткай Белпедтэхнікума, дзе вучыліся многія будучыя беларускія таленавітыя паэты і празаікі.

З 1925 года Іна Рытар становіцца студэнткай гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які зрабіў вялікі ўплыў на яе светапогляд, пакінуў дарагія ўспаміны. Тут яна спаткалася і пасябравала з «Раднёю» — так жартам называлі сябе свядомыя беларускія студэнты. У сваім асяроддзі «Радня» не баялася выказваць асабістыя погляды на палітычнае становішча Беларусі, нацыянальныя праблемы. Уваходзілі ў «Радню» як маладыя студэнты, так і старэйшыя — ветэраны першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, многія ўдзельнікі руху за незалежнасць Беларусі. Старэйшыя вымушаны былі, акрамя вучобы, яшчэ і працаваць, каб утрымліваць сем'і.

З успамінаў Іны Рытар «Да гісторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэту» мы даведваемся пра сапраўдную гісторыю яго заснавання, якая разыходзіцца з пазнейшай афіцыйнай версіяй. Пісьменніца падкрэслівае, што БДУ «быў пакліканы да жыцця ў 1921 годзе ахвярнаю працаю беларускіх грамадскіх працаўнікоў, а не бальшавіцкаю ўладаю, як гэта цяпер часта падаецца ў савецкім друку».

Кожнаму, хто цікавіўся пытаннем вышэйшае школы ў Беларусі, вядома, што краіну, вялікую абшарам і насельніцтвам, слаўную некалі як цэнтр высока развітай культуры і мастацтва, расійскі ўрад пазбавіў вышэйшай школы амаль на цэлае стагоддзе. Ад 1832 аж да 1921 года Беларусь не мела вышэйшых навучальных устаноў. Праз увесь гэты час расійскі ўрад праводзіў сістэматычную русіфікацыйную палітыку і, не зважаючы на неаднаразовыя захады, не даваў дазволу на адчыненне вышэйшай школы. Расійскія ўлады добра разумелі, што вышэйшая школа ў Беларусі магла стаць асяродкам апазіцыйнага нацыянальна-палітычнага і культурнага руху. Беларусь жа, пазбаўленая сваёй высокай школы, паступова пераўтваралася ў расійскую калонію, заняпалую культурна і эканамічна.

У 1918 годзе, адразу пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, у беларускім друку ўзнімаецца пытанне пра неабходнасць адкрыцця беларускага універсітэта ў Мінску. Былі распрацаваны і два праекты універсітэцкіх статутаў. Адзін з іх уклаў прафесар М. Доўнар-Запольскі, другі — акадэмік Карскі. Яны былі раз-

гледжаны Сакратарыятам БНР. Хоць ніводзін з гэтых праектаў і не ўдалося тады здзейсніць, бо ўраду БНР прыйшлося хутка эмігрыраваць, аднак ідэя адкрыцця універсітэта захоўвала сваю актуальнасць сярод тых беларускіх дзеячаў, якія засталіся для грамадскай працы ў Беларусі, засталіся для яе з усёй свядомасцю, што новая акупацыйная ўлада нясе тую ж нацыянальную няволю, што і былая царская. У сваёй прамове з прычыны смерці А. Бурбіса ў 1922 годзе Язэп Лёсік гэтую думку падкрэслівае выразна і без страху словамі: «Ты не дайшоў яшчэ да Абяцанае Зямлі, не дойдзе яшчэ шмат хто з нас, бо ўсе мы ў няволі нарадзіліся і мусім памерці, як тое яўрэйства, што вадзіў Майсей па пустыні...»

І хоць універсітэт быў заснаваны ў цяжкі пасляваенны час, пры амаль цалкам разбуранай (рэвалюцыяй, грамадзянскай вайной, нямецкай і белапольскай акупацыямі) гаспадарцы Беларусі, не меў адпаведнага будынка, навуковага абсталявання, студэнтам даводзілася слухаць лекцыі ў халодных, бедных аўдыторыях, аднак панаваў у студэнцкім і прафесарскім асяроддзі вялікі энтузіязм. Жыла вера ў лепшую будучыню беларускага народа, яго незалежнасць, моцна біўся пульс свежай навуковай думкі, скіраванай на развіццё беларускай мовы, вывучэнне гісторыі Беларусі, фарміраванне кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі. Выкладанне вялося на беларускай мове, працы многіх прафесараў БДУ друкаваліся не толькі ў Беларусі, але і ў Чэхіі, Германіі, Францыі, Аўстрыі, куды часта камандзіраваліся беларускія навукоўцы, асобнымі выданнямі выходзілі «Працы БДУ». (Дарэчы, зборнік такіх прац ад 1921—1932 гадоў ёсць у Нью-Йоркскай публічнай бібліятэцы, які Іна Рытар мела магчымасць перачытваць, эмігрыраваўшы ў Амерыку. — *Л. С.*) Студэнты слухалі лекцыі такіх прафесараў, як Міграфан Доўнар-Запольскі, Усевалад Ігнатоўскі, Уладзімір Пічэта, Васіль Дружчыц, Іван Замоцін, Уладзімір Перцаў і інш.

Іне Рытар пашчасціла яшчэ і ў тым, што ў свае маладыя гады яна знаходзілася ў самым цэнтры беларускага інтэлектуальнага і творчага асяродка. Жывучы ў доме Грамыкаў, затым у Лёсікаў, будучая пісьменніца часта сустракалася на правах блізкага чалавека з Янкам Купа-

лам і Уладзіславай Францаўнай, Якубам Коласам, Змітраком Бядулем, пакінула пра гэтыя сустрэчы цікавыя ўспаміны: «Мне прыгадваецца ранні цёплы вечар у садзе Грамыкаў, першае зжоўклае лісце на траве, Я. Купала, Я. Лёсік і М. Грамыка ля садовага стала... Я сядзела недалёка ад іх і чытала кніжку... Першы раз я пабачыла Я. Купалу і ягоную жонку ў 1921 годзе на калядпай ялінцы ў дзіцячым доме... Чатыры маладзенькія настаўніцы і госці, паміж якіх і я са сваёй старэйшай сястрой Лідай, зышліся ў невялікай зале. Святочна прыбраная, зала выглядала па-свойму ўтульна. Усё было гатова. Чакалі толькі Я. Купалу.

Ён прыйшоў разам са сваёй жонкай. Малыя пасаскоквалі з лаваў і цесным колам абступілі Купалу... Я глядзела на Янку Купалу ўва ўсе вочы. Бачыла светлыя мяккія валасы, акуратна расчасаныя на радок, правільныя рысы твару і ласкавую ўсмешку вачэй. Я, памятаю, падумала: «Гэта ж Купала зусім яшчэ малады». Выглядала вельмі міла і ягоная жонка. Уся нейкая ясная, яна мела тады доўгія льняныя косы, прыгожа ўкладзеныя на галаве, вельмі белую скуру твару і сінія вясёлыя вочы...

Цётка Ванда, жонка Язэпа Лёсіка, шмат апавядала мне пра свайго бацьку, нашага пісьменніка Ядвігіна Ш., і пра Янку Купалу. Гэта ейны бацька першы вычуў паэтычны талент нікому яшчэ тады невядомага юнака — Янкі Луцэвіча.

Сама Ванда Лёсік была жанчына рэдкае дабрыні. Усё, што звязана з сардэчнасцю, з людскою цеплынёю, было ў яе. Сваёй вясёласцю, жвавасцю, пачуццём гумару яна, як і Купалава жонка, адразу выклікала сімпатыю. Мо таму гэтыя дзве мілыя жанчыны вельмі сябравалі...

Я чулася вельмі шчаслівай, што такія вялікія людзі, як Янка Купала, Язэп Лёсік, Вацлаў Ластоўскі, былі маімі частымі гасцямі... Я. Купала падараваў мне «Жалейку». На тытульнай балонцы ён падпісаў: «Мілай дзяўчыне, Іне Рытар, на ўваходзіны. Шчыра адданы Янка Купала. 20.I.1930 г.»

Успамінае Іна Рытар і пра Якуба Коласа: «Мае студэнцкія гады праходзілі ў Менску ў 20-х гадах, калі Я. Колас быў на вяршыні свае літаратурнае славы і, як і Я. Купала, быў сапраўдным народным паэтам Беларусі.

Сярод нас, моладзі, ён карыстаўся вялікай павагай. Мы былі зачараваны ягонымі творамі, асабліва «Новай зямлёй» і «Сымонам-музыкам»...»

Расказвае далей Іна Рытар, як любілі студэнты наведваць сходы Інбелкульта, які пазней быў пераўтвораны ў Акадэмію навук, дзе разгортваліся дыскусіі па мове, літаратуры, гісторыі, паслухаць выступленні Я. Купалы, Я. Коласа, Я. Лёсіка, П. Бузука, С. Некрашэвіча, як на канферэнцыі па рэфармаванні беларускага правапісу яны сустракаліся з А. Цвікевічам, Ф. Аляхновічам, У. Жылкам, але найбольш з Я. Лёсікам.

Ва ўспамінах пра Я. Лёсіка, лекцыі якога ёй давялося слухаць падчас вучобы ў Белпедтэхнікуме, а па яго «Правапісу» ў 20-х гадах вучылася ўся Беларусь, Іна Рытар згадвае пра падзеі ў Беларускім універсітэце, дзе на той час працавала пасля яго заканчэння (1928): «Пачалося з прыемнага. Каля дваццаці паэтаў і пісьменнікаў — студэнтаў атрымалі персанальныя стыпендыі. Імі былі М. Зарэцкі, Я. Пушча, А. Александровіч, Т. Кляшторны, П. Трус, А. Дудар, В. Маракоў, М. Лужанін, П. Глебка, Н. Вішнеўская, К. Крапіва і інш.»

Далей Іна Рытар расказвае пра «сяброўскі шарж» у насценнай газеце, абразлівы для нацыянальнага гонару беларуса, з-за якога Міхась Зарэцкі, Андрэй Александровіч і Алесь Дудар у знак пратэсту апублікавалі «Ліст трох» і пакінулі універсітэт.

Справе гэтай афіцыйныя савецкія ўлады надалі пагрозлівую палітычную афарбоўку, склікаліся мітынгі, на якіх гучна абмяркоўвалася «антысавецкая сутнасць ліста трох», кідаліся заклікі «неабходнасці вострай барацьбы, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, з антыпралетарскімі ўчынкамі»...

Набліжаліся вынішчальныя 30-я гады, пачынаўся новы курс палітыкі камуністычнай партыі. З ім раскулачванні, калектывізацыя, абвінавачванні творчай інтэлігенцыі ў нацдэмаўшчыне, арышты, высылкі. «Афіцыйная прэса цвердзіла, што асабліва мовазнаўства сталася зброяй змагання ў руках беларускіх нацыянал-дэмакратаў. У гэтай галіне галоўным чынам на асобе Я. Лёсіка канцэнтравалася ейная ўвага. Прыгадалі яму ягоную ролю на 1-м Усебеларускім кангрэсе, дзейнасць у БНР, рэдагаванне

газеты «Вольная Беларусь», вострыя палітычныя выступы супроць маскоўскай палітыкі цэнтралізму і русіфікацыі. Уся навуковая праца, прапробленая Я. Лёсікам, абвяшчалася шкоднай...»

Шмат піша Іна Рытар у сваіх успамінах пра трагічныя падзеі 30-х гадоў, сталінскія рэпрэсіі, арышты Я. Лёсіка, М. Грамыкі, А. Цвікевіча, В. Ластоўскага, раскулачванне Лявіцкіх (Люцыю Лявіцкую — жонку Ядвігіна Ш. і яе сыноў), высылку Купалавых маці і сясцёр, спробу самагубства самога Я. Купалы, пра апошнія сустрэчы з многімі знаёмымі пісьменнікамі, вядомымі грамадскімі дзеячамі.

«...Я ўжо працавала выкладчыцай на Рабфаку пры БДУ, калі надышоў пакутлівы 1930 год, чорны год у гісторыі Беларусі. Была знішчана вялікая колькасць беларускіх навукоўцаў, пісьменнікаў, паэтаў, грамадскіх дзеячаў. Сярод беларускае грамады панавала пачуццё няпэўнасці ў заўтрашнім дні. Арыштоўваўся не толькі той, хто аднойчы знаходзіўся ў апазіцыі да камунізму ці да камуністычнай улады, але кожны, хто ўважаўся ў стане выявіць супраціў. Рыхтаваўся працэс «нацдэмаў» на Беларусі. Тых, каго пакінулі на волі, прымушалі выступаць з пакаяннымі лістамі, з асудам свае папярэдняе нацыянальнае дзейнасці, з паклёпамі на блізкіх сяброў. Відаць, пад прымусам Змітрок Бядуля напісаў раман «Язэп Крушынскі»...

Міхайлу Грамыку, майго швагра, засудзілі на ссылку. Сястра з дзецьмі паехала за ім. Абвінавачванні і пагрозы не спыняліся. Такія словы, як «ворагі СССР», «працэс над нацдэмамі», «суровая кара», «расстрэл», «высылка», не зыходзілі з балонак афіцыйнага савецкага друку...»

Асабістае жыццё Іны Рытар у тыя дні таксама было складаным, нялёгкім. У 1930 годзе яна выйшла замуж і пераехала ў Маскву, дзе працаваў муж, які скончыў тэхнічны інстытут. Перажыла першае мацярынскае гора, калі памёр яе першынец — сын Леанард. А неўзабаве нахлынула «яжоўшчына», арыштавалі мужа, абвінавацілі ў «контррэвалюцыйнай дзейнасці» і вывезлі на Калыму ў канцлагер, дзе ён і загінуў.

На руках адзінокай, безабароннай жанчыны засталася двухгадовая дачка Іна. Страх, пагроза арышту як жонкі

«ворага народа» прымусілі Іну Рытар ратавацца на Бацькаўшчыне. Яна пакідае Маскву і пераязджае ў Ярэмічы — дарагія з маленства мясціны. Але ўжо ішла другая сусветная вайна. У Ярэмічах яны некаторы час пражылі больш-менш спакойна, аднак з 1942 года, калі вёска, якая знаходзілася паблізу Налібоцкай пушчы, апынулася ў зоне партызанскага дзеяння, Іне Рытар з дачкою давялося пераехаць у Наваградак і ўладкавацца выкладчыцай ў настаўніцкай семінарыі. Так не засталося на Беларусі бацькоўскага гнязда, параскідаў лёс некалі вялікую сям'ю па свеце.

Пайшла ў выгнанне і Іна Рытар з 9-гадовай дачкою. Трапіла ў французскую зону акупацыі Германіі, у горад Бібарах, каля швейцарскай мяжы. Мясціны цудоўныя, не кранутыя вайною. Беларусаў выгнанцаў было не шмат, і ўсе яны належалі да польскага лагера. Гэта ратавала іх ад савецкай рэпатрыяцыйнай камісіі, якая з'явілася ў Бібараху і, павесіўшы на адным з цэнтральных будынкаў горада агромісты партрэт Сталіна, пачала агітацыю сярод былых савецкіх грамадзян за вяртанне на радзіму. Неаднойчы Іна Рытар была сведкай, як сілаю прымушалі ўкраінцаў, літоўцаў, рускіх ехаць у СССР, дзе часцей за ўсё яны траплялі прамым ходам у Сібір. Заставацца ў Бібараху было небяспечна, і маладая жанчына шукала магчымасці далучыцца да землякоў каля Рэгенсбурга, дзе, па чутках, быў вялікі лагер беларусаў у амерыканскай зоне акупацыі. Ёй пашчасціла туды пераехаць, і ў хуткім часе яна становіцца выкладчыцай нямецкай і англійскай моваў у беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, якая была заснавана ў 1945 годзе. Дырэктарам яе і заснавальнікам (разам з Я. Станкевічам, Аўгенам Каханоўскім) стаў Аляксандр Орса — таленавіты педагог і арганізатар, які скончыў Карлаў універсітэт у Празе. У 40-я гады ў гімназіі працавалі высокакваліфікаваныя выкладчыкі-беларусы. Амерыканскія акупацыйныя ўлады, што забяспечвалі матэрыяльны бок існавання гімназіі, ніякім чынам не ўмешваліся ў яе выхаваўча-навучальны працэс, не кантралявалі праграмы, па якіх найбольшая ўвага аддавалася вывучэнню беларускай мовы, літаратуры, гісторыі, замежным мовам. (Дарэчы, у 1994 годзе Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку выдаў

кнігу Яна Максімюка «Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945—1950)», дзе расказваецца пра дзейнасць гэтай навучальнай установы, даюцца кароткія біяграфіі яе выкладчыкаў і выхаванцаў. Кніга ілюстравана шматлікімі фотаздымкамі з асабістых архіваў дачкі Аляксандра Орсы Алы Орса-Рамана, Зоры і Вітаўта Кіпеляў, Іны Рытар-Каханоўскай, Паўла Урбана, Юлі Андрусішынай і інш.)

У пошуках сталага і спакойнага месца жыхарства многія беларусы пераязджаюць у Амерыку, дзе на пачатку 50-х гадоў пачынаюць засноўвацца першыя беларускія зямляцтвы. Нішто не стрымлівала і Іну Рытар у Германіі, тым больш што тут загінула яе адзіная дачка і ёй невыносна цяжка было хадзіць па тых сцяжынках, дзе бегала малая Іна (дзяўчынка трапіла пад колы ваеннага грузавіка).

Іна Рытар прымае беспаваротнае рашэнне: «Я дабралася да ветлых берагоў Злучаных Штатаў Амерыкі на вайсковым транспартным караблі ў травені 1950 года. Цуда? Для мяне — безумоўна. З маленства прагла я пабачыць далёкія, нязнаныя краіны. Ды ніколі, нават у сваіх лепшых летуценнях, не ўяўляла, што аднойчы здолею апынуцца за акіянам, застануся тут назаўсёды, адчую сябе роўнай сярод роўных.

Тэй парою ў Нью-Йорку існавала ўжо ладная беларуская грамада. Мы ладзілі сустрэчы, канцэрты, святкавалі свае нацыянальныя святы. Праўда, найбольш у тыя гады спраўлялі вяселлі. Жаніліся, выходзілі замуж маладыя. Яны спяшаліся ў новым краі абзавесціся роднай сям'ёю. Ішлі да шлюбу й старэйшыя, якія шмат адпакутвалі, страцілі свае сем'і. Я таксама пабралася з Аўгенам Каханоўскім. З ім пасяліліся ў Кліўлендзе, дзе пражылі шчасліва ўжо 31 год...» Тут, у Кліўлендзе, яна пачынае пісаць свае ўспаміны, аповесці, апавяданні. Згадваючы пра гэты перыяд, пісьменніца адзначае: «Я пачала пісаць яшчэ жывучы ў Нью-Йорку. Прафесар Янка Станкевіч (рэдактар «Веды») і доктар Вітаўт Тумаш (рэдактар «Запісаў») ахвотна друкавалі мае першыя спробы пяра. Яны па-сяброўску падбадзёрвалі, падтрымлівалі, надалі мне патрэбнае перакананне, што я павінна працягваць пісаць.

Нярэдка чытачы пытаюцца пра некаторыя мае апавяданні і аповесці: «Гэта вы пра сябе расказалі? Гэта аўтабіяграфія?» Не. Хоць мушу зазначыць, што аўтабіяграфічны элемент да некаторай ступені знайшоў адбітак у маіх творах. Сюжэты, у якіх б'ецца пульс і кроў рэальнага жыцця, лягчэй тварыць тады, калі сам перажыў, сам зблізку наглядаў. Свае першыя публікацыі я не падпісвала маім сапраўдным імем і прозвішчам — Іна Рытар, а псеўданімам Аляксандра Саковіч...»

Аднак яе першая публікацыя «Менск ў 1930—1931 гадох» (газ. «Раніца» 13 снежня 1944) была падпісана псеўданімам Б. Еўтух, успаміны («Беларусы ў Адэсе», «Прафесар Мітрафан Доўнар-Запольскі», «Прафесар Пётра Бузук», «Да гісторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэту»), як і мастацкія творы, падпісваліся яе вядомым літаратурным псеўданімам, артыкулы («Лістападаўцы», «На суд гісторыі», успаміны пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Язэпа Лёсіка, Міхайлу Грамыку, Аляксандра Цвікевіча) падпісаны дзявочым прозвішчам Іна Рытар, артыкул «З беларускім сэрцам, думай» падпісаны «Іна Рытар-Каханоўская». У гэтай змене прозвішчаў ляжыць своеасаблівы падтэкст. Многія эмігранты, родныя якіх заставаліся ў СССР, вымушаны былі дзеля іх бяспекі мяняць свае імёны і прозвішчы, баючыся нават перапісваецца з імі.

Як празаік Аляксандра Саковіч пачалася з апавядання «У няведам'е», якое было надрукавана ў часопісе «Конадні» (1957). Затым яе апавяданні, аповесці пачалі рэгулярна публікавацца ў эмігранцкім друку — газетах і часопісах: «Бацькаўшчына», «Беларуская моладзь», «Беларуская думка», «Баявая ўскалось», «Беларус».

Апавяданні «На Захад», «Шчаслівая», «Сама», «Кожнаму сваё», «З кім яна?», «Асірочаныя», «У завею» аб'яднаныя агульнай тэмай — жыццё на Беларусі ў 30-я гады і на пачатку другой сусветнай вайны. І хоць у іх дзейнічаюць розныя героі, аднак лёс іх аднолькава цяжкі, небяспечны. Падзеі ў гэтых апавяданнях падаюцца праз успрыманне маладых людзей, студэнтаў, часта жанчын і нават дзяцей.

Не можа зразумець малая дзяўчынка («Сама»), чаму сярод ночы ў пакоі ярка гарыць святло, у рэчах рыюцца чужыя дзядзькі, а на канапе моўчкі сядзяць тата і мама,

чаму разам з дзядзькамі пайшоў тата і мама горка плача... Не давяраюць адно аднаму закаханыя Рыма і Даніла («На Захад»), Кастусь і Марыся («З кім яна?»), бо вакол пануе падазронасць, даносы, вынішчаецца любоў да Бацькаўшчыны, яе гісторыі, славутых людзей, арыштоўваюцца нават тыя, у каго на сцяне вісіць партрэт «сярэдневяковага схаластыка Францішка Скарыны», хто цікавіцца рознымі Сапегамі — «злоснымі ворагамі пралетарыяту», «гнілой старыной», непатрэбнай камсамольцам-атэістам. Маладая дзяўчына Наталля («Шчаслівая»), арыштаваная за прыналежнасць да БНР, выпушчана з ГУЛАГу дамоў паміраць. І памірае яна шчасліваю, што пабачыла радзіму, маці і каханага чалавека, які выпадкова даведаўся, па якой прычыне яе вызвалілі з канцлагера...

Яшчэ больш складаныя, невырашальныя праблемы паўсталі перад героямі Аляксандры Сакові́ч, калі пачалася вайна. Многія з іх імкнуцца разабрацца ў сваім становішчы, зразумець, хто яны, якое месца належыць іх Бацькаўшчыне паміж ваюючымі Расіяй, Германіяй, Польшчай. Беларусь зноў апынулася на ваенных перакрыжаваннях моцных дзяржаў, зноў нішчыцца, руйнуецца яе гаспадарка, гінуць людзі. Паказальным у гэтых адносінах з'яўляецца дыялог паміж героямі апавядання «З кім яна?». Марыся дзеліцца з Кастусём сваім горам, выказвае набалелыя думкі, просіць парады, што рабіць, як жыць далей у гэтым складаным, супярэчлівым свеце: «Памятаеш, калі ў сорак трэцім годзе я прыйшла ў Нясвіж? Я прыйшла са змярцвелым сэрцам. На маіх вачох немцы спалілі жывымі ў хаце маю маці й чатырох братоў. Старэйшыя тры браты былі партызанамі. У той дзень яны прыйшлі з лесу наведаць нас. Відаць, хтось паведаміў немцам. Увечары яны акружылі хату. Выпадкам на той час я была ў суседзяў. Я бачыла праз вакно, як нашу хату абклалі саломаю, як падпалілі яе, як закалыхалася й шуганула полымя да страхі. Я ведала, што ў хаце гараць мае браты й маці. Я чула іхныя крыкі й не магла бегчы ім на дапамогу. А я любіла іх. Мы раслі сіротамі, без бацькі... Тады мне лягчэй было памерці, чымся жыць. Я нікога больш не мела. Нікога не любіла... Вось такою я прыйшла ў Нясвіж, у семінарыю. І там спаткала Ліду Макарэвіч. Бацька Ліды быў войтам.

Ейную сям'ю выбілі партызаны. Але нашае гора было адно... У семінарыі я знайшла йзноў сваю сям'ю. Аднойчы я спытала ў дырэктара, старога Дунца: чаму ён прыняў мяне ў семінарыю? «Марыся, — сказаў ён, — памятай усё жыццё, што мы з аднэй сям'і. Досыць нас дзеляць і б'юць чужынцы. Мы, беларусы, мусім ратаваць жыццё кожнага з нас».

Дзякуючы творчасці Аляксандры Саковіч упершыню ў беларускай прозе так шырока быў паказаны лёс менавіта жанчыны на складаных выгнанніцкіх шляхах, так шчымліва загучала тэма выгнання, калі паміж беларусамі-эмігрантамі і Бацькаўшчынай пралеглі чужыя землі, пралёг акіян.

Гераіні з твораў Аляксандры Саковіч паўстаюць перад намі ў розных абліччах, аднак за вобразамі дзяўчат, маладых жанчын, сямейнае мацярынскае шчасце якіх было разбурана бязлітаснымі катаклізмамі часу, бясконцымі войнамі, рэвалюцыйнымі перабудовамі, рэпрэсіямі, яскрава праглядваецца лёс самой пісьменніцы, раскрываецца духоўны свет яе сучасніц, свядомых беларусак, апантаных любоўю да Бацькаўшчыны, ідэямі нацыянальнага адраджэння, незалежнасці. Няйздзейсненымі пакуль што засталіся гэтыя ідэі, і давялося многім беларусам разам з дзецьмі ісці ў няведам'е, у чужых краінах нанова пачынаць жыццё.

У апавяданнях «Асірочаныя», «У няведам'е», «Настачка», «Петрыкаў тата», «Вяселле», «Чортава вока» пісьменніца вядзе чытача ўслед за героямі спачатку ў Германію, затым у Амерыку, дзе знайшлі прытулак, спакойны забяспечаны побыт шматлікія беларускія сем'і. У гэтых апавяданнях ужо зусім іншая танальнасць, уражанне такое, быццам чалавек, пасля доўгіх гадоў няволі, вялікай небяспекі, пастаяннай трывогі, блуканняў па пакутах ва ўласнай краіне, спыніўся нарэшце ў вольным свеце, азірнуўся вакол і пачаў ладзіць жыццё, годнае чалавека. Аднак душу вярэдзілі водгукі былога, цяжкія ўспаміны, якія і тут нараджалі праблемы, розныя непаразуменні, спрэчкі. Спрачаліся, аналізуючы жыццё свайго краю «за палякамі» і «за саветамі», падчас вайны, калі на акупаванай Беларусі людзей, асабліва вяскоўцаў, тэрарызавалі і партызаны, і немцы, і паліцыя, суперажывалі

былым вязням ГУЛАГаў, калі яны апавядалі пра бязмежныя паўночныя прасторы Расіі, калючыя драты, пакуты голаду і заўсёды настаўленыя ў спіну зняволеных стрэльбы вартавых, пра нечаканы ратунак — уцёкі праз Іран, Егіпет, Сірыю... Але за ўсім гэтым цяжкім, балючым паўставаў далёкі, затуманены гадамі воблік Бацькаўшчыны, згадвалася прыгажосць яе рэчак, азёр, лясоў, марылася пра вольную Беларусь, якая і тут, у Амерыцы, стала іх натхненнем, захавала, нягледзячы ні на што, сваё прыцягненне і заўсёды жыве ў іх апаленых бязмежнай тугою сэрцах.

Характэрна, што ў прозе Аляксандры Саковіч, як і ў паэзіі пісьменнікаў-эмігрантаў, амаль не сустракаецца грунтоўных твораў пра Амерыку, якая стала іх другой радзімай. Агульныя штрыхі, цёплыя, прыязныя словы пра вольнае, уладкаванае жыццё беларускіх зямляцтваў — у гэтым даніна ўдзячнасці і павагі да гэтай багатай краіны.

Тое, што напісана беларускімі аўтарамі ў выгнанні, і ў прыватнасці А. Саковіч, прысвечана незабыўнай Бацькаўшчыне і павінна вярнуцца на Беларусь, увайсці ў духоўны набытак новых пакаленняў людзей — змагароў за нацыянальнае адраджэнне і незалежнасць.

*Л. Юрэвіч*

*(г. Нью-Йорк)*

## МІФАЛАГІЧНЫЯ ВОБРАЗЫ

### На прыкладзе творчасці Янкі Юхнаўца

У першым беларускім міфалагічным слоўніку[1] па колькасці адведзеных яму старонак чорт займае ці не першае месца. Наогул вобраз чорта даўно цікавіць даследчыкаў нацыянальных культур. Ёсць працы пра вобраз чорта ў беларускай літаратуры, пераважна на пачатку XX стагоддзя, раскрыццё яго характару ў апісаннях М. Нікіфароўскага, Ч. Пяткевіча, Е. Ляцкага.

Як вядома, гэты персанаж паходзіць яшчэ з дахрысціянскіх часоў, пазней ён толькі ўвабраў у сябе адмоўныя рысы біблейскага д'ябла. Натуральна, змяніліся яго паводзіны, характар, нават выгляд. Якім ён прыйшоў у літаратуру нашага часу, літаратуру беларускую? Часцей за ўсё, калі маем справу з алітаратуранымі сюжэтамі, мы шукаем першапачатковы сэнс, сакральнасць тэксту. З нашым героем, здаецца, наадварот: мы больш ведаем пра яго мінулае, але ніяк не сучаснае.

Чорт першапачаткова прыйшоў у беларускую літаратуру з характарам блазна, махляра-круцяля, які ў сучаснай міфалагістыцы атрымаў назву трыкстэра. Бо якія б высокія тэмы ні закранаў міф, ён заўсёды «заземлены», нездарма ж і яго героі належаць да так званай ніжэйшай міфалогіі. І вось гэтую функцыю зазямлення якраз і выконвае трыкстэр. Усё высокае — страх перад смерцю, перад багамі можа парадзіравацца, набываць карнавальную форму. Белае становіцца чорным. Свет пярэвараттняў. Антысвет. («Адзін жыў у вадзе, пасвіў шчупакоў, лінёў ды акунёў. Быў зялёны і калматы, вельмі падобны на купу твані. Звалі яго Вадзянік. Другі жыў у лесе,

[1] Міфы Бацькаўшчыны. Мн., 1994.

пасвіў аленяў і быў падобны на аброслы мохам пень. Калі сустрэнеш, то і не адрозніш. Звалі яго Лесавік. Але быў і трэці, што жыў па хатах і пасвіў цвыркуноў. Гэта быў самы шкодны. Рожкі ў яго былі, як у козкі, зубкі, як часначок, хвосцік, як памялцо»[2].)

Міф — гэта праекцыя чалавека, яго псіхалогіі і мыслення навонкі. Таму семіётыка міфа антрапаморфная (чалавекападобная). І чалавек тут — кропка адліку. Натуральна, што і чорт набывае чалавечыя рысы, як знешнія, так і ўнутраныя: «Чорт у іх ва ўсіх не абы-хто — не то на пана, не то на папа падобен: у капелюшы, у палітоне з струкаватым каўняром. Так рызыкоўна адзеты, што — проша бачыць!»[3] Праўда, сістэма спрацоўвае і ў другі бок: на людзей, якія нечым не дагадзілі, сталі пе-рашкодай, пераносяцца рысы чорта. Вось, да прыкладу, радкі з верша А. Дудара, дзе аўтар ганьбуе былых паплечнікаў:

Страшыдлы, касьцякі з магільнікаў старых,
Што ўжо, здавалася, даўно згнілі і зніклі,
Як вострыя нажы, блiснулі,
Забойства прагныя наставіліся іклы.

Часам чорт прыходзіў са сваім еўрапейскім антуражам (вопратка, час), не забываючыся нават на ўлюбёнае нямецкае: «Прымракаваты свет прыкручанай лямпы на стале дазволіў мне адразу разглядзець толькі цёмназялёны нямецкага крою сурдут, ёмка сядзеўшы на доўгім, жылістым тулаве, высунутыя з недазволена кароткіх рукавоў цёмныя калматыя рукі з чалавечымі пальцамі і цёмнымі, кругла астрыжанымі пазногцямі на іх канцах і голыя, але аброслыя калматай шэрсцю, так што выглядалі нібы ў футраных нагавіцах, ценкія, але, відаць, моцныя ногі з нейкімі петушынымі ці індычымі лапкамі замест ступняў нагі. Чорны фрыдрыхаўскі траярогі капялюш ляжаў на каленях, а на ім адпачываў, скруціўшыся, як вужака, канец голага, ледзь апушанага хваста. Асвойтаўшыся са светам, я разгледзеў і твар. Цёмны, але не як мурынскі, даўгавіды, але не выцягнуты, пажылы і абвея-

[2] Караткевіч У. Зб. тв.: У 8 т. Мн., 1988. Т. 2. С. 472.
[3] Калюга Л. Творы. Мн., 1992. С. 397.

ны, але не паношаны, з цвёрдасцю, але не жорсткасцю ў міне, ён, зліваючыся ў барве з гладкімі, коратка абстрыжанымі валасамі на галаве, выглядаў пекнай рамкай для пары цёмна-нябесных з чарнаватымі зрэнкамі вачэй, з якіх свяціліся не то глыбокая думка, не то яшчэ глыбачэйшая журба і агромністы, шалёны, надлюдскі розум»[4].

Дзеля справядлівасці неабходна зазначыць, што воблік чорта зазнаў істотныя змены ў 20—30-х гадах XX стагоддзя, калі яму была адведзена агітацыйная антыроля. Менавіта такім ён паўстае ў «Палескіх былях»: «злы нячысцік», «чорт з рагамі, з хвастом і худы, як той хорт. Чорт — гідкі і слізкі, нібы жаба», «шальмец», «малпа дурная»[5].

Чаму так адбылося? Барацьба з «панскім бізуном і націскам рэлігіі»? А можа, таму, што беларускі чорт быў сапраўды беларускім? Таму, што чытаў «Беларусь», Змітрака Бядулю? Ці таму, што прадказваў незайздросную будучыню? Напэўна, там трэба шукаць падставы вобраза чорта-выгнанца, чорта-ізгоя.

Якая ж сутнасць чорта? Прасочым гэта на прыкладах з твораў паэта-эмігранта Янкі Юхнаўца, які цяпер жыве ў Амерыцы. Яго паэма «Калюмбы»[6] — неаміфалагічны твор, дзе рэальны персанаж Скарына суіснуе з міфам. Можа, гэта казка пра выпрабаванні героя ў пошуках чароўнага прадмета, а чорт — добры памагаты? Менавіта добры, бо як інакш пасля Коласавага «Сымона-музыкі», Бядулевага «Салаўя», «Музыкі» Багдановіча, «Страшнай музыкавай песні» Гарэцкага зразумець яго словы: «І я не ведаю, ці Музыка — Чорт, ці я Чорт ад волі Боскай». Яго шчырая гутарка са Скарынам пачалася таму, што той не збянтэжыўся, пабачыўшы капыты, не адцураўся ад ізгоя, вымушанага, як у свой час хворыя на праказу, насіць адзнаку сваёй чужасці, выкінутасці з грамадства. І чорт кажа: «Па вашаму, людзкому, я адзінокі ёсць». Развагі чорта (а гаворыць ён, «усміхаючыся добрасцяй») у «Калюмбах» можна было б укласці ў вусны героям

[4] Гарун А. Сэрцам пачуты звон. Мн., 1991. С. 257—258.
[5] Бядуля З. Зб. тв.: У 5 т. Мн., 1985. Т. 1. С. 226, 230.
[6] Юхнавец Я. Калюмбы. Нью-Йорк, 1967. С. 4.

«Крывічоў» Зарэцкага ці «Дзвюх душ» Гарэцкага — настолькі яны прасякнуты замілаваннем да сваёй гісторыі, культуры і нелюбоўю да новых, прышлых: «Музыка пра радасці вясёлыя і пра балючыя нядолі граў. І я, слухаючы, падумаў, пераканаўся па-люцыпарску: добра, што Музыкі на свеце водзяцца. Яны і для Чорта добрае». «А вось пра казкі народу свайго забыліся. У іх Боскасць і праўда людзей зямлі ўсёй; кожная рэч, жыццю прычасная, названая імём сваім і месцам».

Няхай не бянтэжыць, што чорт можа быць добрым і быць беларускім. У Гарэцкага, да прыкладу, мерцвякі, духі, што таксама належаць да ніжэйшай дэманалогіі, збіраюцца на сход, заклапочаныя лёсам роднай Беларусі.

Нарэшце можна паспрабаваць сфармуляваць праблему: свае — чужыя. (У міфалагістыцы часам яна падаецца, як чалавек — не чалавек, што звужае і спрашчае праблему.)

У літаратуры, шырэй, у кантэксце культуры чалавеку супрацьстаіць нейкая сіла. Гэта можа быць таксама чалавек-дэман, смерць («Ладдзя Роспачы» У. Караткевіча), д'ябал і г. д. Уявім сабе прыкладную дэманалагічную сістэму, якая складаецца з дзвюх катэгорый персанажаў. Да першай належаць звычайныя людзі, якія валодаюць незвычайнымі здольнасцямі (доктар Фаўст), да другой — непасрэдна дэманы (гэта і вобразы рэальных памёрлых людзей, як у Гарэцкага, і ваўкалакі, і чэрці і г. д.). Першая група — больш плыткая, размаітая, бо, згодна міфалогіі, незвычайнымі здольнасцямі валодаюць акрамя ведзьмакоў і млынары, і музыкі — валадары. Звышулады. Веды. Чалавек можа трапіць у гэтую катэгорыю і не па ўласным жаданні, калі ў яго па загаду чараўніка ўваходзіць злы дэман. «Ці не чорт тут часам падлятвае? Я так і думаю, што — ніхто інакшы — ён выносіць маё дабро! Гіну я праз людскія варагі. Згубіў мяне благі чалавек — наслаў чорта на невінаватую душу» (Лукаш Калюга).

Схема «свае — чужыя» не зусім супадае з дэманалагічнай сістэмай. Так, да «чужых» належаць дэманы і людзі іншых поглядаў, чужаземцы, псіхічна хворыя, нават проста адукаваныя. Інакш кажучы, «чужасць» вызначаецца не толькі паходжаннем ці прыналежнасцю да іншага свету, але і ўнутраным жыццём пэўнага грамадства. І стаць «чужым знутры», маргіналам, можа практычна

любы чалавек, нават калі ён раней быў сваім сярод сваіх. Для гэтага дастаткова часам проста валодаць нейкім эзатэрычным веданнем ці ўменнем, апынуцца ў надзвычайнай сітуацыі. Адрозненне схемы «свае — чужыя» ад «чалавек — нечалавек» яшчэ і ў тым, што чалавек нясе ў сабе адначасова і Боскае, і дэманічнае.

Калі падагуліць вышэйсказанае ў адносінах да чорта, можна вывесці наступнае: чорт заўсёды належыць да дэманалогіі. Але ў схеме «свае — чужыя» ён пераходзіць з адной катэгорыі ў другую ў залежнасці ад сітуацыі ці, шырэй, грамадства: ён свой і папу (у Бядулі), і Скарыне (Юхнавец), ён можа быць і «добры» і «злы».

У межах схемы «свае — чужыя» людзі і чэрці нават могуць мяняцца статусам. Так, чужынцам у сваім горадзе, у Вільні, стаўся Алхімік (імя, разам з адсутнасцю іншай характарыстыкі героя, гаворыць пра чалавека Пасведчанага) з твора Ф. Аляхновіча «Круці не круці — трэба памярці». А Чорт-1 становіцца выгнанцам у сваім, чортавым, асяроддзі.

У творы Янкі Юхнаўца «Чорт і Сталін» чорт «у суладзе неабыякавы і з людзьмі». Яму падабаецца, што людзі «раны крываточныя нясуць на суд Гісторыі пазнаць сябе... Богам створаны я. Даў крылы на зямлю зляцець постацяй несамавітай, але з голасам у казках — мяне ўсюды чуюць. З хваль жыцця падскокваю паплаўком заўважаным. Я Боскія тварэнні падцікавіў, як зло і памальнае дабро ў адну здабычу зводзіцца». А ў апавяданні, якое і называецца «Чорт», маленькі Віця пытаецца: «...а чартом і чарцякам баліць, калі іх б'юць, ці не?», нягледзячы на тое, што яго бацька, па словах маткі, «на вайне б'ецца з чарцямі, а цётка праз тых самых чарцей захварэла ды памерла».

Калі гавораць пра творчасць Янкі Юхнаўца, звычайна падкрэсліваюць яе незразумеласць, «дзікасць» (як ён сам піша: «Дзікім аставаўся я»), беручы пад увагу і змест (мова-змест, мова-сутнасць), і абалонку (мова-сувязь, мова-я). Нехта ставіцца да яго эксперыментаў як да моўнай гульні, адарванай ад рэальнай карціны моўнага свету, дзе мы знаходзім не толькі дыялектызмы, але і наватворы, неалагізмы. Гэта нібы лексічны хаос — мінулага, сучаснага, будучага, *магчымага* ў беларускай мове.

Спрэчкі вакол творчасці Янкі Юхнаўца пачаліся з першага зборніка — «Шорах моўкнасці». У газеце «Бацькаўшчына» за 31 ліпеня 1955 года была надрукавана рэцэнзія К. Рамановіча (псеўданім Р. Казака, больш вядомага як Рыгор Крушына), які залічыў паэта да «катэгорыі маdэрністых», голас якога гучыць «экстравагантна ненатуральным тэмбрам». І далей: «І гэтак скрозь ува ўсёй кнізе Я. Юхнаўца гучаць вершы як незразумелая замова паўночных шаманаў. У гэтым паэтычным хаосе, відаць, таксама ёсць эмацыянальная сіла ўздзейнічання на чытача. Напэўна, знойдуцца аматары і прыхільнікі такой паэзіі».

У палеміку ўступіў Мікола Панькоў, які напісаў артыкул «Пра незразумеласці ў творчасці Юхнаўца». Па невядомых сёння прычынах рэдакцыя артыкул адхіліла, і ён праляжаў у М. Панькова да 1995 года, калі, прадчуваючы сваю смерць, ён перадаў яго паэту, а Я. Юхнавец, у сваю чаргу, аддаў аўтару гэтых радкоў. Паколькі гэта артыкул-рэцэнзія, у якім раскрываюцца істотныя грані творчасці пісьменніка, прывядзём асноўныя яго палажэнні: «Неспакоем жыцця імкнуцца абняць ды здзейсніць «навакольную пустэчу». Сама «шорахнасць» — унутрымоўкнае жыццё, як вадаліў гэтага ж жыцця. Прываблівае прыгаство — мэта жыцця, з усялякімі згубамі, узнаўленнямі з зблытаных формаў існавання. Але ёсць Прамежак у самім Жыцці, бадай дзверы, мяжа, ад якой толькі «памяццю глядзяцца рэчы». Трэба ўнікнуць у гэту моц уяўлення паэта, і тады вам раскрыецца змест, не экстравагантны сэнс, а прысутнасць цэлае сям'і здарэнняў, прылукаў асноўнасці ўлады ды вялікомасці самога жыцця. Значнасць жыцця цяжка азначыць. Яно — утойна, як смерць. Таму Юхнавец стараецца знайсці момант да «вадаліва жыцця, пакіненага сярод пустэчы». І гэта: унікнуць ва ўзронь памяці, у зборнік жыццёвых досведаў, што можа і ўваскросіць «пакінутае сярод пустэчы», быццам унутрана мерыць усялякія жыццёвыя спады, каб бачыць, «як памяццю глядзяцца рэчы».

«Шорах моўкнасці» — вадаліў жыцця — гучыць жаданнем узнесціся бруненнем струменя да пералікаў звычайных і незвычайных здабыткаў жыцця...

Яно здаецца чытачу песімістычнай імпрэсіяй і адначасна адольваецца агульнай рэальна-сімвалічнай зразу-

меласцю ўсёй існасці людскога існавання. Усё родніцца: і «крык гандляра: Не зводзь!»; і «кліч смерці: Ідзі! Не прыходзь!» Усё ў вобразе паэта Юхнаўца злучана ў тлумачэнні ўтойнага, усярэдняга жыцця на вонкавае захаванне і дбайнасць...

Паэт турбуе сваю моўкнасць. Яна знаходзіць веру і спадзеў у памяці, якая толькі і можа натхніць, узбагаціць самую рэальнасць жыцця. Ён хоча быць у сваяцтве з ёй, бо толькі адно што магчымець выявіць чалавеку ягонае мінулае і адчуць будучае. Гэтыя ўзаемаадносіны паэт Юхнавец, бадай, поўнасцю выказаў у вершы «Вобразы з утулу акіяну». Вось некалькі радкоў з яго:

Не позна ім ламаць уздоні!
Бы даланямі на узлонь далін
бераг уздымаць і пеніцца узроняй:
нятратай пырскаў з ухопінай жарсцін.

Або некалькімі словамі:

Жыццё ясніць нат' кроплямі малымі.
Пытаешся: Ці жыць хоць шчасцямі благімі?

Гэтак скрозь увесь зборнік «Шорах моўкнасці» паэт не ўхіляецца свайго голасу: памятнай узроні, што мусіць быць і знаходзіцца і ў «прокмеці», і ў «вокмеці», і ў «сузмені», і ў «скратках». Словы звычайныя — беларускія і выразныя ў метафарычнасці, хоць для Рамановіча чамусьці яны незразумелыя.

Янка Юхнавец адчувае ды бачыць у «шчызе» (гусціні) восеньскага подзьмуху «спакметнасць» часінаў, якія пасля, у канцы твора даводзяць чытачу: «Жыцця карцівасці само жыццё збірае». Бо жыццё гэткае, зноў прыходзіцца ўторыцца словамі паэта Юхнаўца з верша «Яму жадалася»:

Збіраюцца на выган дзеці.
У карагодзе шчодра мігацяцца пяткі.
Дзядок сівы іх радасцяй абняты,
жадае небу сказаць усё:
— Мой дзень яшчэ — бы зьніч.

У вершы «Сакратава» паэт Юхнавец любіць «ціхінь мінулую» — мінуласць. Параўноўвае яе да «разьмётаў крылаў асцярожных», не інакш толькі, ды ўбожваецца

ёй: «тайніцай атулі разгаданай не імі» — інакш і не можна. У вершы «Сакратава» паэт даў арыгінальную станву сучаснасці і мінуласці. Ёсць штосьці адвечнае ў Сакратавым — нашым жыцці:

Існасці васкрос карэннямі даўгімі
забяры граніт і часлінкі душы парожняй.

І калі прыйдзецца самому паэту Юхнаўцу чытаць маю зацемку, не пачуе ад мяне рады — што і як пісаць. Я толькі хачу выказаць маю ўцешнасць, што паэт Юхнавец ухіліўся ў паэзіі сухіх фактаў рэальнай «зразумеласці», у якой, як і тут, на эміграцыі, так і там, на Беларусі, усё чытаеш пра камбайн, вечарынку, сенакос з думкай пра Сталіна або пра бярозы, крушыны. Мабыць, вельмі добра ёсць, што паэт Юхнавец не робіцца паэтамстатыстам у літаратурным Наргас-уліку. Ягоны ўзронізм вельмі карысны ў літаратуры, бо адказвае нашай беларускай нацыянальнай псіхіцы:

...дзе станьвай замкнёнай, апрычонай
цярплівасці згубленых мрой
пакінуцца вокмецяй новай,
я вечны адпуснік — жыцця няўтой.»

Шмат спрыяльнага і вялікага ў паэта ёсць, калі ён у сваёй творчасці любіць тое, што ён любіць, і што можа любіць паміж намі і жыццём напатканае. Гэтакім некалі жыў наш Максім Багдановіч, гэтакім быў і Язэп Пушча. І вядома, як сталася: Багдановіч «выратаваў» нашу родную паэзію, а Пушча «зацвердзіў» ейнае існаванне.

Нягледзячы на вонкавае адрозненне мовы Янкі Юхнаўца ад, прыкладам, Петруся Броўкі ці каго іншага, магчыма выявіць і іхнюю агульнасць. Абедзве моўныя плыні заснаваны на цэльнасці знакаў і прадугледжваюць перавагу формы над зместам. У абодвух выпадках функцыяй мовы з'яўляецца не адлюстраванне рэчаіснасці, а яе падмена, стварэнне «сюррэальнасці». Тым не менш, хаця абедзве плыні мовы аднолькава бяруць пачатак ва ўтопіі, іхнія мэты — супрацьлеглыя. Калі БССРаўская дасягаецца шляхам рэдукцыі і спрашчэння, зводзіць мову да ўзроўню мінімальнага ўсераднёвага дэнамінатара,

мова Юхнаўца прэтэндуе на універсальнасць, ахоплівае ўсё шматаблічча культуры індывідуальнага вопыту ў паэтычным сінтэзе. Гэтым мова Юхнаўца стварае духоўную апазіцыю і дзяржаве з яе сістэмай, і яе песнярам. Словатворчасць Юхнаўца не стварае свой варыянт мовы, у адрозненне, скажам, ад памкненняў Янкі Станкевіча, не засяроджваецца на дыялектызмах, як у Алеся Змагара, а набліжаецца, як думаецца, да сутнасці беларускай мовы. Бадай што мова Юхнаўца — не што іншае, як адроджаная беларуская паэтычная мова, мова ва ўтопіі.

Юхнавец-мастак, Юхнавец-скульптар і ў паэзіі стварае свой утапічны свет, што можа быць зведзены да хранатопу Саду («Адам і Ева», «Урачыстасць у Садзе», «Невядомы Бог і анёл») — працягу Эдэму («О вышыні! Нябёсныя вышыні! Мяне зямны не страшыць рогат перамогаў пад вашай цёмнай або светлай зналіцай...»). Там, у Садзе,

> Ёсць мір між пахучых кветак
> (і смутак мо' — напэўна, здарыцца),
> усмехам будзе ён,
> разгледжана, праведна ад дваіх
> (усё паміж дваіх)
> далёкая ад вачэй іншых.

Цікавай уяўляецца сувязь паміж утопіяй Юхнаўца і той народнай традыцыяй, прадметам апісання якой з'яўляецца «будучыня», дзе знітоўваюцца ў адзінае элементы казкі і элементы рэлігійнай культуры — дзве ўлюбёныя тэмы паэтавы. Як у казках, лес у вершах Юхнаўца набывае поўную семантычную аўтаномію, атрымоўвае дадатковыя значэнні (што ідзе з міфа і народнай традыцыі):

> Лес. Уваходжу ў тваю святыню.
> У шчырасці людскай.
> Кілімы з моху там.
> Утомленыя сухадолам ногі
> мякнуць моўкасцяй лясной.

Пераход прыроды ад аднаго парадку да другога моўна ствараецца, рэалізуецца ў метафары «калоны ў лесе», дзе «лес» з'яўляецца мовай, а «калоны» — прадметам апісання.

Замкавыя калоны — лес.
Ды над ім, ад пажараў, хмары
па сіняве нябёснай торуць.
Як не былі сабой уцешаныя
зводлесцяй кароткага жыцця —
днём зноў і ўночы азіраемся:
узбоччы сцежак да лясных
вядуць калон...
...Сцяной гусціліся калоны лесу.
Да іх з боем не падступіцца...
Непераможаны Чалавек у смерці
нешапотна вуснамі сцярог цішынь.

Лес ператвараецца ў іншы свет, са «званіцамі», са святарамі, а «калоны» цалкам адыходзяць у свет раслін, іншымі словамі, у семантычны абсяг «лесу» з усімі адпаведнымі канатацыямі. Тут «лес» ёсць другое царства, другая краіна — лясное царства народных казак, беларускі архетып Саду. Стаўленне да прыроды і архаічнага свету ажыццяўляецца праз моўны ўчынак — змадэляваны, выказаны словам свет з'яўляецца для аўтара рэчаіснасцю, якая, да таго ж, на цэлую вяршаліну вышэй за нашую, рэальную. Натуральна з гэтым лучыцца і тэма вандроўніцтва (тэма пошуку далёкіх, бадай што недасяжных зямель — даўняя тэма беларускай літаратуры):

З'яўлюся незнаёмым я вандроўнікам,
дзе нары пераступалі людзі
ўжо багатыя, някрыху шаноўнасцей вядомыя.
І словы чутныя скажу:
— Да вас убогім заўтра, як і сёння,
не вярнуся.

І я ваўком плятуся на чужыне,
ад болю ран не чую сваіх ног.

Шэраг твораў адлюстроўвае ўплыў на Юхнаўца асобных ідэй Ніцшэ, пра цікавасць да якога паэт неаднойчы пісаў. У прыватнасці, думкі Ніцшэ пра розныя ідэалы розных народаў, што кожны імкнецца да здзяйснення сваёй ідэі дабрыні і зла, пра свой уласны, апрычоны шлях:

Ён штодня няхай дагадваецца
мальбу да Бога, ці да чорта...
Сусед, зайздросць!
Жыві, як хочаш,
але паміж маіх пракосаў
не хадзі.

Можа, таму моватворчасць-міфатворчасць мусіць разглядацца як адзін са шляхоў да разумення твораў пісьменніка? Зрэшты, нельга сказаць, што Юхнаўцу ўвесь час спадарожнічала адно непаразуменне. Вось, да прыкладу, некалькі вытрымак з лістоў Юркі Віцьбіча да Антона Адамовіча і да самога паэта, якія сведчаць пра адваротнае[7]:

«24.7.51. Часам мяне наведвае Юхнавец. Люблю яго як паэта. Не ведаю, ці чытаў ён Апакаліпсіс, але гэтая кніга сугучна яму.

30.9.52. У мінулую нядзелю Юхнавец наведаў мяне і аж занадта хваляваўся з тае прычыны, што ёсць два Юхнаўцы — празаік і паэт. Калі першы, на ягоную думку, знойдзе сваё месца на старонках перыядычных выданняў, дык на другога рэдактары пазіраюць скоса, як на нейкага дзівоснага, як на незразумелага. Мне чамусьці здаецца, што ён мае хваляванне зусім беспадстаўнае. Сапраўды, Юхнавец як паэт не для шырокіх колаў. Між іншым, гэта трапна падкрэслена ў эпіграме:

У яго зусім другія скрыдлы,
Ён ні на кога не падобны з нас.
Руінаў моўкнасць — яго Парнас.
А куст крапівы — Азарыс.

Юхнавец з'яўляецца адзіным і разам з тым тыповым прадстаўніком сюррэалізму ў нашай эміграцыйнай паэзіі. Калі не ўсім, дык шмат каму ягоныя вобразы даюць эстэтычную насалоду.

17.4.54. А ўсё ж, нягледзячы на тыя ці іншыя недахопы, «Паэма пачатку» мацнейшая за ўсё. Можа, сам назоў штучны, аж занадта літаратарскі. Але гэткае мастацкае прозы яшчэ не бачыў ні адзін літаратурны часопіс на эміграцыі.

28.12.51. У сувязі з набіваннем на матрыцы «Шыпшыны» маю няшмат вольнага часу, але хочацца хаця б крыху напісаць наконт Вашае аповесці «Чалавек без светача». Прачытаў яе з аднаго подыху. Яна сведчыць аб тым, што як празаік стаіцё не ніжэй, а, магчыма, і вышэй за Юхнаўца-паэта. Ва ўсякім разе, гэта адзін з найлепшых празаічных твораў, які з'явіўся ў часе эміграцыі.

[7] Лісты захоўваюцца ў прыватным архіве Л. Юрэвіча.

6.1.52. Мне спадабаліся Вашыя апавяданні «Следчы Гаевіч» і «Пасля гутаркі». Першае з іх, на маю думку, мацнейшае за другое, а разам і паасобку ўзятыя, яны лепшыя за «Карнавуха» — яны не эпізадычныя і не на анекдоце пабудаваныя. Мне асабліва спадабаўся «Следчы Гаевіч» таму, што боскае ў ім перамагло д'ябальскае. Мне падабаецца таксама, што Вы знайшлі ў Гаевіча тую боскую іскру, якая не пагасла пад попелам. Добрае апавяданне.

У мяне ёсць толькі некаторыя заўвагі наконт мовы. Мне думаецца, што цалкам захоўваючы свой своеасаблівы лексікон, Вы разам з тым мусіце пазбягаць паланізмаў, якіх усе мы тут на эміграцыі набраліся ад беларусаў-заходнікаў. Мне таксама думаецца, што, цалкам захоўваючы свае стылёвыя своеасаблівасці ў сэнсе пабудовы сказаў, Вы разам з тым мусіце пазбягаць цьмянасці».

Закранутае пра паэзію — слушнае і ў дачыненні да прозы, тым больш, як любіць паўтараць сам спадар Юхнавец, «розніцы паміж паэзіяй і прозай няма». Проза паэта — гэта не толькі нізкі апавяданняў, надрукаваныя ў часопісах «Шыпшына», «Сакавік», «Конадні», «Беларуская Думка», іншых. Проза паэта — гэта таксама вялікі, на 250 старонак, рукапіс «Яно».

Аўтар «Яно», як выглядае, пераняў у Фрэйда, нягледзячы на вельмі адмоўнае стаўленне да вучэння апошняга, тэзу пра схільнасць (цягу, памкненне) **Я** да самазахавання (жыцця) і да самаруйнавання (смерці), ускладненае ўзаемаадносінамі Эраса і Танатаса, а таксама ягоны пагляд на маральную функцыю **Звыш-Я**. Можна сказаць, што героі рамана адчуваюць варожасць ад усіх трох фрэйдавых небяспечнасцей — знешняга свету, лібідо **Яно** і суровасці **Звыш-Я**. Своеасаблівымі праявамі Эраса (любові-нянавісці) і Танатаса з'яўляюцца лініі Цярэма і Міхася, да таго ж у абодвух дамінуе «інстынкт смерці». Адзін з сюжэтаў «Яно» наследуе логіку Фрэйдавай думкі пра «зняццё засцярогаў» культуры, уседазволенасці, сутыкненне адных і тых індывідуальных схільнасцяў у абставінах зняцця гэтых засцярогаў і сітуацыі тырана-дыктатара. Канфліктная схема рамана абумоўлена гэтымі ідэямі — узаемаадносінамі **Я** і **Звыш-Я**. Згодна з Фрэйдам (у працы «Я і Яно») энергія агрэсіўнасці пераходзіць ад сферы **Я** ў супрацьлеглую ёй сферу

**Звыш-Я**, выклікаючы ў **Я** маральныя імпульсы, пад ціскам якіх **Я** можа нават загінуць. У сваёй апошняй працы Фрэйд прапануе тую частку нашай псіхікі, што не супадае з нашым **Я**, назваць **Яно** — гэта тая цёмная стыхія жаданняў і памкненняў, якую мы востра адчуваем у сабе і якая актыўна супрацьстаіць розуму. **Яно** — страсці. **Я** — розум і памяркоўнасць. Для **Яно** існуе адзін прынцып — насалоды, **Я** — носьбіт прынцыпу рэальнасці. Можа, эпіграфам да рамана сталіся б словы Фрэйда: «Прырода чалавека, як у адносінах дабрыні, гэтак і ў дачыненні зла далёка пераўзыходзіць тое, што ён сам ведае ў сабе, іншымі словамі, тое, што вядома яго **Я** пры дапамозе свядомага ўспрыняцця».

Аўтар вызначае жанр «Яно» як «аповесць у начырках», але твор, сярод прататыпаў якога і былыя знаёмыя з вёскі, і Ермачэнка, і Сабаленка і іншыя, можна назваць і ўспамінамі. Рэальныя час, падзеі, месца. Але ж адкуль гэта: «Ніколі раней, як тады, ён адчуваў сваё адзіноцтва, адзіноцтва чалавека, якому застаецца толькі чагосьці спадзявацца або жыць ілюзіямі жыццёвых сноў, ці мо інакш: упрыгожваць самога сябе мрояй выпуклай і магчымай. У словах мрояў няма формы, але ёсць будучыня, што возьме ад іх сваяформная — праўдзівая сапраўднасць у душэўным хароме чалавека, без якой блудзіў бы або поўзаў, як чарвяк, у падзямеллі».

Чалавек XX стагоддзя стаіць на парозе духоўнага свету, і ў напаўсвядомасці, у снах, мроях бачыць-адчувае свайго «стража парогу» — той самы «Антыхрыст» Ніцшэ. Адсюль і зацікаўленне чортам — характэрная рыса перажывання на парозе як разуменне ўласнай незавершанасці, недасканаласці. Перажыванне свайго двайніка — гэта як дыскусія з чортам. Хто ён будзе, чалавек ці не чалавек, свой ці чужы? Ці пераможа ён, або, як Ніцшэ, дасць авалодаць сабой Арыману?

У пошуках адказаў Юхнавец задумваецца над прыродай сноў: «Што такое сны? У астралагічныя разважанні не кінуся. Я вяртаюся да будзённага, учарашняга, да моманту магчымасці неабманнага, але яно часта прыводзіць да зусім іншага. Знаходзіцца штосьці незайменнае ў азначанай частцы думання. Яно творыцца сваёй формай мастацтва, з узмоцненымі вывадамі пазбаўлення сэнсу,

або, наадварот, дадаюць сапраўдныя сцэны, выцягнутыя ўласным жыццём. Сны, хто любіць гэта чуць, — трагедыя падказная. Яна заўсёды падказвае: як ад трагедыі пачынаецца жыццё — вярнуцца да свайго бытавання». Ці ў іншым месцы: «Кожную ноч сняцца сны. Дыктуюцца нават вершы. Пакідаюцца ўрыўкі. Хвалююць раніцай. У снах я выходжу на падмосткі тэатра. Мае вобразы ўяўныя не адчуваю жывымі, а скалечаныя бязжаласлівай формай, а я люблю змест. З'яўляюцца дзікаабразныя асобы, не прывучаныя любіць чалавечай любоўю. Можа, гэта ад балючага жыцця. Нешта ёсць, што ў мінуласці фізічна не адолена, раптам вырашаецца ў падсвядомай сіле — снах».

Ёсць у вершах ды думках Янкі Юхнаўца і сум, і туга. Толькі не тая туга па радзіме, што перашкаджае бачыць, адчуваць навакольнае жыццё і часам выкарыстоўваецца ў палітычных мэтах — маўляў, з'ехалі, а цяпер шкадуюць. Няма ў яго паэзіі і дэкларацыйных патрыятычных вершаў:

... «событие» здарылася.
Чорт міфічны, горды,
скінены з нябёсаў у чорнай вопратцы,
але з аблічам белым, як у нас, людзей,
адчуў усё ад самага пачатку спаду
трагічнасцей снавацца ў Маўзалеях.
Вясёлку каляровую — боскае прыгоства летам
чорнай аркай над людзьмі зрабіў.
Вельмі хутка навучыўся
апускацца на зямлю,
чымся лётныя серафімы,
моўкна стоячыя перад Богам
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(не асудзі сурова, паэзія Айчынная:
пра Чорта ўспамінаць?!).
Ледзь крыху аддзяляюся ад твае сучаснае патрэбы.
Але прывычка ў чалавека ёсць
свайго трымацца, калі не дзейнасцяй,
дык думкай урасці ў цела і душу,
можа некаму да мяне падобнага.

Усё і прасцей, і складаней. У паэзіі Янкі Юхнаўца, якую часта параўноўваюць з паэзіяй А. Разанава, выказваючы тым самым неразуменне паэтаў, — філасофія, сусветная па глыбіні і беларуская па ментальнасці.

Філасофія не Ф. Ніцшэ ці Ж. П. Сартра, не Поля Элюара ці Эзры Паўнда. У паэта Янкі Юхнаўца філасофія Янкі Юхнаўца:

...сябе ніколі не прапаноўвай нат' да сціплага пінання
за няздольнасці ў жыцці.
Не люба прапаноўваць — разбі акно
ў сваім уласным доме.
І яно разбітае.
У яго паўзуць пачвары,
бы сказакі ад Яна Баршчэўскага.
На стол сядаюць, прычэпліваюцца да столі.
А ў мяне намеры волі
не палохацца.
Пазбаўляюся, сялю ў стадоле парожняй,
якую ад людзей сваіх купіў.
Падпалю! Страхоўку атрымаю.
Янка Юхнавец з Полаччыны пасяліўся ў сваёй душы
з пачварамі Баршчэўскага.

*З. Паўлавец*

*(г. Гомель)*

# ВОБРАЗЫ-СІМВАЛЫ Ў ТРЫЛОГІІ К. АКУЛЫ «ГАРАВАТКА»

Гэты твор займае адметнае месца ў гісторыі нашае літаратуры сваёй арыгінальнасцю, нетрадыцыйнасцю поглядаў аўтара на нашу шматпакутную гісторыю, на лёс беларускага народа, нацыянальнай інтэлігенцыі ў часы II Рэчы Паспалітай, у перыяд непрацяглага бальшавіцкага «раю» і новага нямецкага «парадку». Гэта значнае палатно, у якім аўтар разважае над злым наканаваннем беларусаў, кінутых на шалі зацятай барацьбы паміж Усходам і Захадам.

Гара Гараватка, што ляжыць у ваколіцах вёскі Літоўцы, — гэта не проста геаграфічнае ўзвышша, а Беларусь. Гараватка не толькі дае назву аднайменнай трылогіі К. Акулы, але і адухаўляецца. Яна жыве ў «мясцовых легендах і казках, глыбока ўрасла ў народную гісторыю». Гараватка заўсёды з людзьмі як дзень і ноч, як сонца і месяц. Яна жыве «рэальная па суседству і нерэальная, містычная». Гараватка, як і Беларусь, бачыла розных напаснікаў на нашай бацькаўшчыне. На грудзях Гараваткі знайшлі вечны спачын разнастайныя прыблуды, што прыходзілі сюды бог ведае адкуль. «Шведы ці французы, маскалі, немцы ці палякі — усім роўны прытулак дала беларуская зямля», у якой трухлеюць іх косці. Гараватка-Беларусь «маляўнічая і таямнічая, страшная і прынадная», яна парадніліся з «горам», «гаравацъ» і іншымі з гэтага выводнымі абазначэннямі».

Магутным сынам-волатам Гараваткі-Беларусі з'яўляецца дуб, празваны людзьмі Архіпам, што горда і ўладарна ўзнёс да неба сваю карону на ўсходнім баку гары. Ён помніць Баторага і Івана Жахлівага, Карла XII і Напалеона, паўстанцаў Каліноўскага.

Сівастагодні асілак Архіп сімвалізуе моц, няскоранасць маці-Беларусі. Ён — яе памяць, сведка шматвяковай гісторыі. Родным братам Архіпа выступае дзед Якуб, які здольны перадаць іншым цяжкую і балючую праўду гісторыі свайго краю, шматпакутнай бацькаўшчыны. Без яго раман быў бы няпоўным; як зазначае пісьменнік, «дзед быў для літоўцаў такім самым завяршэннем і прыметай, як Архіп для Гараваткі». Якуб, як і дуб Архіп, шмат зведаў, пабачыў і перажыў за свой век. Ён увасабляе недасяжную часу глыбіню народнай мудрасці, жыццёвага вопыту, нянавісці да чужынцаў. Людзі, падобныя дзеду Якубу, — правадыры, што паволі, загадкавымі шляхамі ўпэўнена вядуць моладзь да сваіх вытокаў, каранёў, нагадваюць пра згубленую славу зямлі нашай, вучаць, што датуль мы не будзем гаспадарамі, пакуль чужака не прагонім, а зямля не будзе ў руках сваіх людзей. Гэты стары гаротнік-селянін упарта кідае ў глебу зерне беларускай будучыні, перадае ў спадчыну свой вялізны скарб і веру ў тое, што «доўга так быць, як цяперака во ёсць, не будзе», сцвярджаючы, што «мы тут (на Беларусі. — *З. П.*) гаспадары ад веку. А гэтыя ўсе паны, асаднікі, папы, ксяндзы, чыноўнікі — дык гэта ж усё чужыя п'яўкі». Невыпадкова дзед Якуб адчыніў перад юнаком Януком Бахмачам таемную браму, дапамог яму зрабіць першы крок праз парог, за якім адкрылася ўсведамленне нейкага жыццёвага парадоксу вось гэтай, «крывёй і потам сваіх людзей прасякнутай зямлі», прымусіўшы задумацца і ісці наперад, шукаць адказаў на шматлікія пытанні. Злавеснымі вобразамі, што сімвалізуюць нацыянальны нігілізм, манкурцтва, з'яўляюцца «драгомішч» Лявон Шпунт і Косця Сабакевіч, якія з-за сваёй духовай паражнечы, жадання вылезці з натоўпу, узвысіцца над ім пашыраюць сярод вяскоўцаў чырвоную прапаганду. Праўда, пры гэтым названыя малойцы грашаць і сувяззю з акупацыйнымі польскімі ўладамі, дапамагаючы ім скубці сялян. Як ні дзіўна, гэтыя мясцовыя злыдні сталі апораю новай, «народнай» улады, што выклікае непаразуменне сярод вяскоўцаў: якая сама гэта ўлада, якога дабра чакаць ад басякоў-галадранцаў. І сапраўды, неўзабаве першапачатковая прынадная ўсмешка «народнае ўлады» змянілася на грымасу «цвёрдых заданняў дзяржа-

ве». Актыўнымі выканаўцамі гэтых «заданняў» з'яўляюцца ўсялякія шпунты ды сабакевічы.

Раман «Гараватка» — гэта ўдалая спроба даць адказ на пытанне: хто ж мы ёсць? «Ці мы запраўды «хамы» і парабкі, ніжэйшыя істоты, гной для росту чужынцаў, рабы паслухмяныя без нацыянальнай прошласці, свайго собскага «я», ці, наадварот, — мы — стары ў гісторыі, слаўны народ, з вялікай і пакутлівай, цяжка пройдзенай дарогай, са старой і багатай культурай, слаўнымі традыцыямі, але часова чужой брутальнай сілай на калені пастаўлены, чужымі дзержымордамі і сваімі янычарамі аплёваны?..» Гэта твор пра пастаўлены на калені, але не зломлены беларускі народ, які захаваў у сваім сэрцы годнасць і непакору, пра яе лепшых сыноў, як Антось Дзяркач, Янук Бахмач, Падгайскі, што шукаюць сродкі і шляхі барацьбы за незалежнасць роднай Беларусі.

*А. Пяткевіч*

*(г. Гродна)*

# АСВЕТНІЦКІ КІРУНАК ТВОРЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ САКРАТА ЯНОВІЧА

Асветніцкая ідэя праходзіць праз усю літаратуру Беларусі апошніх двух стагоддзяў. Жорсткія рэпрэсіі, якія цярпеў беларускі рух, моцна затармазілі развіццё нацыі, і літаратурнае слова, дзякуючы сваёй грамадскай аператыўнасці, даступнасці, заўсёды было лепшым абуджальнікам народнага духу. Літаратура, акрамя сваёй непасрэдна эстэтычнай ролі, вучыла народ бачыць сябе як нацыю, бачыць і цаніць сваю гісторыю, культуру, мову, шанаваць сваю самастойнасць. Натуральна, што асабліва інтэнсіўна (не было ідэалагічнага ціску) гэтую місію выконвала беларуская літаратура за мяжою, у тым ліку і ў Польшчы.

Сакрат Яновіч, які годна прадстаўляе тут беларускую літаратуру, — мастак глыбокі, схільны да разваг, да філасофскага асэнсавання свету і чалавека ў ім. Аднак такая асаблівасць яго таленту не перашкаджае заставацца і асветнікам, быць павучальна зарыентаваным у сваім імкненні адкрываць чытачу Беларусь, тлумачыць яе лёс, яе спадчыну. Проста беларускі пісьменнік, як правіла, не можа не быць асветнікам.

Трактоўка беларускай рэчаіснасці ў Сакрата Яновіча далёкая ад усякай ідылічнасці і вызначаецца суровай праўдзівасцю, нават жорсткасцю ацэнак і вывадаў. Гэта пазіцыя пісьменніка, але і мера ўздзеяння на чытача, якая мае глыбокі дыдактычны сэнс.

Сакрат Яновіч вядомы як празаік, які карыстаецца пераважна малой формай выказвання — абразок-мініяцюра, эсэ, паэтычная рэфлексія ў прозе. У творах паказваецца часцей жыццё паміж вёскаю і горадам, паміж традыцыйнай народнай культурай і сучаснай масавай

субкультурай, паміж селянінам-працаўніком і цяперашнім нядаўнім гараджанінам, што вельмі спяшаецца засвоіць урбаністычныя здабыткі цывілізацыі, ды пераймае найбольш знешнія, прымітыўныя іх праявы. Гэты драматычны разлом жыцця праходзіць урэшце праз асобу чалавека, які ў Сакрата Яновіча псіхалагічна дэградуе, утвараючы дзіўны маральны гібрыд — сімбіёз «расійскага халопа» і «служанкі варшаўскае пані», акрэслены аўтарам то з жалем, то з едкім сарказмам.

Адлюстроўваючы разбурэнне традыцыйных народных асноваў жыцця, пісьменнік прымушае думаць пра сённяшні шлях беларуса. Невыпадкова адна з замалёвак называецца «Занатоўкі для памяці». Там вясковая бабуля, такая па-чалавечы натуральная і простая, памерла падчас маленства героя-апавядальніка, і гэтая сітуацыя шматзначная, таксама як і заўвага аўтара пра тое, што паэзія беларускай вёскі ніколі не стваралася ў самой вёсцы.

Вядома, павучальны пачатак у мініяцюрах Сакрата Яновіча звычайна не адкрыты. Але аўтар у многіх творах зусім не цураецца такой прапаведніцкай адкрытасці. Тым больш, што жанравая форма яго апавяданняўзамалёвак свабодная, умяшчае і рысы развагі-прытчы, і лірычнага маналога, і фабульнай дзеі, урэшце, мяжуючы з эсэ. Таму апеляцыя да чытача-суразмоўцы ў творах адчувальная. І аўтарскае абурэнне і гнеў, шкадоба і смутак, а то і замілаванне «працуюць» на пропаведзь самапавагі, шанавання роду і яго здабыткаў, мацавання тых жа народных асноваў. Бывае, прарываецца ў С. Яновіча і шчымліва-лірычная споведзь аб прыгожым і адначасна знявечаным, як у замалёўцы «Беларускаму слову», што ставіцца на ўзровень малітвы. А то загучыць у пісьменніка і публіцыстычна патрабавальная нота, хаця гэта часцей ў творах буйнога жанру. Увогуле ж апавяданні — пераважна адбіткі чалавечых гісторый, якія нясуць у сабе глыбокія маральныя ўрокі, або гэта аўтарскія рэфлексіі пра тое, як трэба жыць.

У буйных творах пісьменніка — аповесцях «Сцяна», «Самасей», — дзе вядзецца цяжкая дыскусія пра жыццё як магутную сілу, што няспынна гоніць-праследуе чалавека, пра механічную сістэму гэтага жыцця ў таталітарным грамадстве, павучальны маральна-рытарычны пача-

так асабліва выяўлены ў дыялогах. Іх многа ў творах. Герой пісьменніка ўвесь час палемізуе са сваімі апанентамі, якія нярэдка — часціны яго ўласнага «я», яго двайнікі. Палеміцы спрыяюць і аўтарскія рацыянальна-дыдактычныя, часта парадаксальныя філасофскія выслоўі, што кандэнсуюць шмат якія ісціны жыцця. Увогуле ж гаворка тут вядзецца нервова-напружаная, усхваляваная, не без публіцыстычнай завостранасці і такім чынам мае немалы каэфіцыент карыснага асветніцкага дзеяння.

Арганічныя таму ў творчасці С. Яновіча кнігі пра Беларусь, яе гістарычныя шляхі, пра родны кут, дзе асветніцкая задача галоўная. У эсэ «Даліна, поўная лёсаў» (1993) яна, гэтая задача, не дэманструецца і не выглядае істотнаю. Бо перад намі падрабязная, у асноўным побытавая хроніка маленства, юнацтва аўтара, упісаная ў вобраз вяскова-местачковага асяроддзя ваенных і пасваенных гадоў. Але гэтая звычайная плынь жыцця, падсветленая аўтарскім адчуваннем, добра выяўляе і светлае, маральна здаровае, і нізкае, што назіралася ва ўмовах тагачаснай польскай дзяржавы ў правінцыйным кутку Беласточчыны. Куды вядзе чалавека, асабліва маладога, сцежка з гэтай роднай даліны? Часцей за ўсё ў горад, да якога, на думку аўтара, заўсёды цягнулася вёска. У выніку там з'яўляецца, паводле саркастычнага вызначэння пісьменніка, «тып сучаснага метыса». Аўтар эсэ «Даліна, поўная лёсаў» апелюе, урэшце, да народнай маральнасці і прымушае задумацца пра перспектывы жыцця беларускага чалавека.

Кнігі С. Яновіча «Беларусь, Беларусь» (1987) і «Тэра інкогніта Беларусь» (1993), выдадзеныя на польскай мове і адрасаваныя найперш польскаму чытачу, асабліва палітычнай і навуковай інтэлігенцыі, з'яўляюцца своеасаблівымі беларусазнаўчымі трактатамі. Але гэта не столькі навуковыя распрацоўкі, колькі палемічная публіцыстыка, якая дае вельмі багатую і аргументаваную інфармацыю пра беларускую гісторыю, асабліва пра беларуска-польскія гістарычныя і культурныя адносіны і разам з тым салідна і годна сцвярджае самастойны шлях Беларусі, яе шматлікія прыярытэты, яе духоўныя набыткі. Гэтыя кнігі — рэдкі жанр у сучаснай беларусістыцы. У іх лучацца ў адзіным цэлым гістарычныя назіранні, мемуары, палі-

тычная палеміка, культуралагічнае даследаванне, урэшце, аўтарскі голас патрыёта і інтэлігента-эрудыта, які імкнецца аднавіць ісціну пра сваю бацькаўшчыну і свой народ. Кнігі адрасаваліся і беларускаму чытачу, які на Беласточчыне чытае і па-польску, каб ён, мясцовы чытач, думаў пра свой род і свае дзяржаўныя традыцыі. С. Яновіч, заўсёды схільны да алагізмаў, парадоксаў, мудрых выслоўяў, завяршае сваю кнігу «Беларусь, Беларусь» такой сентэнцыяй: «Не намерваўся пісаць манаграфію, а толькі гаварыць пра тое, аб чым не думаем, а павінны думаць, і пра тое, чаго не ведаем, а што ведаць трэба, і пра тое, як далёкае бывае нам блізкім — а датычыць тое ўсіх у гэтай частцы зямнога шара».

Працягам згаданых кніг з'яўляецца шматлікая публіцыстыка пісьменніка, раскіданая па розных польскіх, а ў апошні час і беларускіх перыёдыках. Тут — тое ж імкненне даць недасведчанаму ці прадузятаму чытачу веды пра Беларусь, высветліць у арыгінальнай і зноў жа палемічнай аўтарскай інтэрпрэтацыі розныя сутнасці яе жыцця, перакрэсліць стэрэатыпы, якіх набралася шмат у гэтай галіне. Тут жа — рэпартажы-дзённікі С. Яновіча з паездак па Еўропе і Паўночнай Амерыцы, што друкаваліся ў тыднёвіку «Ніва». Яны, вядома ж, цікавыя пазнавальнай інфармацыяй. Але не менш цікавыя і беларусазнаўчым зместам, як гэта ні дзіўна. Бо, распавядаючы пра розныя мясціны і народы, аўтар зноў і зноў шукае там беларушчыну — беларускія традыцыі, норавы... Робіць адпаведныя аналагі, разважае, ацэньвае і такім чынам змушае чытача шукаць, думаць. Вучыць пазнаваць Беларусь.

Літаратура існуе дзеля таго, каб узбагачаць і ачышчаць душы, выхоўваць пачуццё дасканаласці. Але яна не выключае і рацыянальна-ўжытковай задачы — даваць веды, развіваць прагу да іх. Веды найперш пра вялікае і дарагое. У нашай літаратуры — пра нас саміх. Бо пытанне «Хто мы такія?» ужо больш як стагоддзе не траціць свае вастрыні. І літаратура сапраўды інтэлектуальная не можа не быць заангажаванай на гэтым пытанні. Сказанае мае прамое дачыненне да Сакрата Яновіча.

*Н. Ляонава*

*(г. Новасібірск)*

# ПЕСЕННЫ ФАЛЬКЛОР БЕЛАРУСАЎ СІБІРЫ

Беларусы разам з украінцамі і рускімі перасяленцамі з цэнтральных чарназёмных губерняў утварылі новапасяленчы пласт усходнеславянскага насельніцтва Сібіры і Далёкага Усходу. Большую частку беларускіх перасяленцаў у Сібіры далі ўсходнія губерні Беларусі — Магілёўская, Гомельская, Віцебская. У розных раёнах рэгіёна можна сустрэць беларусаў, продкі якіх прыехалі з Чарнігаўскай губерні, якая непасрэдна суседнічае з этнаграфічнай зонай Беларускага Палесся; значна радзей у Сібіры можна сустрэцца з нашчадкамі беларускіх выхадцаў з Цэнтральнай ці Заходняй Беларусі.

Беларуская дыяспара не ўтварыла ў Сібіры вялікіх арэалаў кампактнага пражывання этнасу. Характар рассялення беларусаў хутчэй за ўсё астраўны і рассеяны. Астравы — гэта асобныя сібірскія паселішчы ці невялікія групы сёлаў і вёсак, пераважная большасць насельніцтва якіх беларусы. Гэтыя паселішчы размяшчаюцца на паўночным усходзе Омскай вобласці (Знаменскі, Сядзельнікаўскі, Тарскі раёны), у паўночных і ўсходніх раёнах Новасібірскай вобласці (Кыштоўскі, Паўночны, Машкоўскі, Балотнінскі, Тагучынскі, Маслянінскі), у цэнтральных раёнах Краснаярскага краю (Дзяржынскі, Бірылюскі і інш.) і ў некаторых прылеглых да Транссібірскай магістралі раёнах Прыморскага (Чугуеўскі, Далёкарэчанскі, Чарнігаўскі) і Хабараўскага (Лазоўскі) краёў. У адрозненне ад украінцаў, якія ад чыгункі звычайна накіроўваліся на поўдзень, у стэпавыя раёны Заходняй Сібіры і Алтая, беларусы асвойвалі тэрыторыю, рухаючыся на поўнач, і менавіта на паўночных ускраінах Омскай і Новасібірскай абласцей утварылі лакальныя па-

селішчы. Большая частка беларусаў, якія прыехалі на ўсходнія землі, рассялялася па шматлікіх як старадаўніх, так і новапасяленчых вёсках і сёлах. Змяшаныя паселішчы, у якіх жывуць асобныя больш-менш шматлікія групы нашчадкаў беларусаў, сустракаюцца практычна ва ўсіх краях і абласцях Сібіры і Далёкага Усходу.

Працэсы, якія адбываюцца ў духоўнай культуры і, галоўным чынам, у традыцыйным фальклоры беларускай дыяспары, неадназначныя і рознанакіраваныя. У навуковай літаратуры сібірскія спецыялісты неаднаразова прыводзілі прыклады трансфармацыі і нават поўнай замены фальклорнай традыцыі беларусаў, якія жывуць у змяшаных паселішчах, апісвалі выпадкі пасіўнага захавання роднага фальклору ў памяці асобных беларусаў, жыхароў поліэтнічных паселішчаў, разглядалі факты ізаляванага, паралельнага бытавання некалькіх фальклорных традыцый у адным сяле, а таксама выпадкі запазычання беларускіх песень прадстаўнікамі іншых культур. У лакальных беларускіх вёсках бытаванне традыцыйнага фальклору можа набываць дастаткова ўстойлівыя формы.

Цэнтральнае месца ў музычным фальклоры беларусаў займае песенная творчасць. Песенны рэпертуар сібірскіх беларусаў даволі выразна выяўляе спецыфіку фальклорнай традыцыі метраполіі. Сумарная — запісаная ў розных рэгіёнах Сібіры і Прымор'я ад пеўчых груп і асобных выканаўцаў — калекцыя беларускіх песень дэманструе грандыёзную перавагу абрадавых песень над жанравымі сферамі неабрадавага гісторыка-стылявога пласта.

У каляндарным песенным фальклоры беларускай дыяспары Сібіры можна вылучыць чатыры сезонныя цыклы, кожны з якіх прадстаўлены шэрагам музычных з'яў. Зімовы каляндарны цыкл уключае калядкі розных тыпаў, шматлікія дзіцячыя версіі шчадровак-прыгаворак, ігравыя песні і дзейства («Казу вадзіць», «Цярэшку жаніць»). Вясновы песенны цыкл ахоплівае масленічныя песні, заклíканні вясны, валачобныя, вясновыя карагодныя, русальныя песні. Самымі яркімі з іх па сваім гукавым абліччы, несумненна, з'яўляюцца вясновыя заклічкі. У адрозненне ад рускіх вяснянак, якія часта выкрыкваюцца, выгукваюцца, заклічкі беларускіх дзяўчат-сібірачак спяваюцца гучна і працяжна.

Цыкл летніх каляндарных песень уключае купальскія, пятроўскія і жніўныя песні. Гэта самы багаты па колькасці запісаных песень і самы разнастайны па складзе і меладычных асаблівасцях цыкл беcюжэтным беларускіх абрадавых песень у Сібіры. Асеннія («восеньскі», па вызначэнні песенніц) песні спяваюцца жанчынамі пры ўборцы і апрацоўцы розных раслінных культур: «як каноплі бяруць», «як лён мнуць». Як і жніўныя песні, «восеньскі» вылучаюцца з круга каляндарных абрадавых песень сваімі напевамі, у іх пераважае песенны пачатак. І мелодыі, і паэтычныя тэксты асенніх песень, несумненна, блізкія да песеннай лірыкі неабрадавага паходжання, сезонная дапасаванасць якой суправаджае ўсе цыклы каляндарных песень.

Сямейна-абрадавы песенны цыкл беларусаў прадстаўлены ў Сібіры, галоўным чынам, вясельнымі песнямі. Разгорнутае абрадавае дзейства ў розных рэгіёнах Сібіры найчасцей называюць па-руску свадьбой, хаця многія сібірскія беларусы ведаюць, што па-беларуску гэта трэба называць вяселлем. Рэпертуар беларускага вяселля надзвычай багаты, ён уключае мноства песень, разнастайных па функцыянальна-этнаграфічных і вобразназместоўных характарыстыках. Песні рытуальна-святочнага характару каардынуюцца ўзорамі лірыка-драматычнай і карыльнай сфераў. Напевы вясельных песень поліфункцыянальныя, адзначаныя значнай інтанацыйнай абагульненасцю. Яны адлюстроўваюць не столькі эмацыянальны змест асобнай вясельнай сітуацыі, колькі характар вясельнага дзейства ў цэлым. Таму сярод вясельных напеваў цэнтральнае месца займаюць політэкставыя напевы.

Акрамя вясельнага рытуала, які з'яўляецца ядром сямейна-абрадавага пласта беларусаў, у Сібіры фіксаваліся і два другія сямейныя абрады: пахавальны і радзінны. Іх фальклорная частка прадстаўлена ў сібірскіх запісах вялікай колькасцю галашэнняў з імправізаванымі, разавымі ці ўстойлівымі, традыцыйнымі паэтычнымі тэкстамі, а таксама велічальнымі, карыльнымі і бяседнымі песнямі, якія выконваліся ў час урачыстага застолля з нагоды хрышчэння нованароджанага.

Гісторыка-стылявы план неабрадавай песеннасці беларусаў найбольш поўна прадстаўлены ў Сібіры балад-

нымі песнямі. Старадаўняя эпічная форма выканання балад у Сібіры не зафіксавана, балады тут бытуюць у некалькіх вытворных песенных формах. Сярод іх можна вылучыць баладныя песні вясновай прымеркаванасці з міфалагічнымі сюжэтнымі матывамі, баладныя песні летняй і асенняй прымеркаванасці з сямейна-бытавымі сюжэтамі з напевамі распеўнага ці танцавальнага характару.

Неабрадавых лірычных песень у рэпертуары сібірскіх беларусаў захавалася няшмат. Нават у лакальных беларускіх паселішчах. Галоўным чынам гэта любоўныя ці сямейна-бытавыя песні. «Мужчынская» тэматыка прадстаўлена невялікай колькасцю салдацкіх песенных сюжэтаў. Многія сямейныя любоўныя песні выканаўцамі вызначаюцца як вясновыя ці зімовыя, але з ніякімі рытуальнымі сітуацыямі не звязваюцца: спяваюцца як пагулянкавыя ці «пад работу, калі прадуць». У змяшаных беларуска-рускіх паселішчах аснову неабрадавага рэпертуару не толькі змяшаных, але і беларускіх пеўчых груп складаюць рускія песні, тады як беларускія вясельныя і каляндарныя песні замацоўваюцца ў пеўчай практыцы рускіх груп.

*А. Фурсава*

*(г. Новасібірск)*

# КУЛЬТ МЯДЗВЕДЗЯ Ў КАЛЯНДАРНЫХ ЗВЫЧАЯХ І АБРАДАХ

У асяроддзі этнографаў-славістаў склалася ўстойлівая думка пра тое, што ў народных перакананнях усходніх славян павер'і пра мядзведзяў, у тым ліку і пра мядзведзяў-пярэваратняў, захаваліся ў даволі абмежаваным выглядзе[1]. Тым больш цікавыя тыя нешматлікія сюжэты, якія былі зафіксаваны ў час этнаграфічных экспедыцый па Новасібірскім Прыоб'і[2] ў традыцыйных вераваннях, а таксама абрадавай практыцы беларускіх сялян. Кампактныя паселішчы беларусаў, якія выйшлі з Магілёўскай, Віцебскай, Віленскай і іншых губерняў (канец XIX — пачатак XX стагоддзя), размешчаны ў раёне балоцістых месцаў Васюгання. Паводле сучаснага адміністрацыйнага падзелу, гэта Паўночны, Кыштоўскі, часткі Венгераўскага, Куйбышаўскага раёнаў Новасібірскай вобласці.

Палявыя этнаграфічныя матэрыялы сведчаць пра захаванне ў каляндарных звычаях і абрадах мноства перажыткаў, звязаных з культам мядзведзя. Найбольш за ўсё гэта фіксуецца ў «масленічнай» абраднасці беларусаў. Масленіца, як найбольш складанае па структуры свята, уключала і пераадзяванні. Прычым пераадзеты мядзведзь нярэдка бываў цэнтральным персанажам. «То футра вывернуць, то кажух... Кажухі раней вялікія былі... На галаву надзяваюць маску мядзведжую з футравага шматка... Вочы зробяць... І вось ідзе ён на чатырох лапах. Возь-

[1] Токарев С. А. Религиозные верования славянских народов в XIX — начале XX в. М.; Л., 1957. С. 43.

[2] У аснову працы пакладзены матэрыялы Прыобскага ўсходнеславянскага этнаграфічнага атрада, арганізаванага Інстытутам археалогіі і этнаграфіі Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі ў 1990—1995 гадах, кіраўнік А. Фурсава.

муць мядзведзя на вяроўку і водзяць. Смеху было! Мядзведзя прывядуць, а ён раве, каб давалі яму... Мяшкамі назбірвалі...» — успамінае жыхарка Кыштоўскага раёна Марыя Ліфанцьеўна Астаніна (дзявочае Скарабагатава), 1911 года нараджэння.

Пераадзеты мядзведзь смяшыў людзей, скакаў, пераймаючы касалапую хаду свайго арыгінала. Паказваў жартаўнік і «мядзведжую пацеху», парадзіруючы жанчын, дзяўчат (як глядзяцца ў люстэрка, як ходзяць па ваду і г. д.). У асяроддзі сучасных пажылых людзей сустракаюцца такія, якіх пераадзетыя мядзведзі настолькі ўражвалі ў дзяцінстве, што яны да гэтага часу ўспамінаюць тое, што бачылі калісьці.

У беларускіх сем'ях, згодна са старою традыцыяй, яшчэ зусім нядаўна, да Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў, у час масленкі вадзілі жывых абучаных мядзведзяў. Мядзведзь павінен быў умець рабіць розныя каленцы, раскачвацца, кружыцца, куляцца праз галаву. «Міша», «Мішанька» рабіўся ўсеагульным улюбёнцам. Мог касалапы паказваць, як хлопцы крадуць гарох, як бабы па ваду ідуць... Складвалася ўражанне, што мядзведзь разумее чалавечую мову, пантамімна паказваючы тое, пра што яго просяць. Вось успаміны відавочца такіх «ваджэнняў»: «У масленку з мядзведзем па дамах хадзілі. Ім аплочвалі грашыма ці мукой... Прасілі мядзведзя: «Мішанька, прайдзі, як бабы на поле ідуць». Вось ён ідзе ўразвалку, паціхеньку. Яму: «А як з поля?» Ён толькі: «Раў-раў... О... о... о...» Тут усе і падохнуць са смеху!» (Клінцова Праскоўя Фёдараўна, 1915 года нараджэння, бацькі з Чарнігаўскага павета, Магілёўскай губерні, беларуска).

У цэлым сабраныя намі матэрыялы дазваляюць разглядаць перажыткі культа мядзведзя як бы ў дзвюх плоскасцях: 1. Паданні, прывязаныя да «натуральнага», жывога мядзведзя. 2. Комплекс звычаяў і абрадаў, звязаных з пераадзетым мядзведзем.

Можна меркаваць, што дакладнае табуіраванне ўсіх відаў гаспадарчай, прамысловай дзейнасці на Звеставанне на больш ранніх стадыях грамадскага развіцця, магчыма, было абумоўлена ўяўленнямі пра абуджэнне мядзведзя менавіта ў гэты дзень (прыгадаем у гэтай сувязі беларускую камаедзіцу). У канцы XIX — пачатку XX ста-

годдзя ў сялянскіх сем'ях важнасць гэтага свята падкрэслівалася прымаўкай: «На Звеставанне птушка гнязда не ўе, а дзеўка касы не пляце». І гэта невыпадкова, бо мядзведзь, «лясны гаспадар», «гаспадар звяроў» менавіта ў гэты час пачынае абуджацца і выходзіць з бярлогі. З пункту гледжання людзей традыцыйна міфалагічнай свядомасці ў забароне заплятання косаў і рытуальным хаджэнні з распушчанымі валасамі выяўляліся элементы *продуцирующей* магіі. Бо мядзведзь разглядаўся не толькі як татэм, але і носьбіт мужчынскага аплодняючага пачатку. Сучасныя тлумачэнні сялян-беларусаў у сувязі з бояззю заплятаць косы на Звеставанне — страх быць пакаранымі Богам, у чым, вядома ж, ёсць адносна позні ўплыў хрысціянскай рэлігіі.

Галоўнай задачай пераадзетага мядзведзя было пасмяшыць людзей, атрымаць ад іх узнагароду за працу... Смеху, як гэта паказана ў працах многіх вучоных, прыпісвалася асаблівая ахоўная магічная сіла, а ўзнагародай за працу было не што іншае, як жаданне сям'і адкупіцца, улітасцівіць мядзведзя-пярэваратня. Гэта тлумачыць тое народнае паданне, згодна якому адмовіць у прыёме пераадзетым мядзведзям лічылася вельмі непажаданым.

Хацелася б таксама адзначыць, што «мядзведжыя» традыцыі сібірскіх беларусаў дастаткова дакладна ідэнтыфікуюцца з вядомымі матэрыяламі па этнаграфіі беларусаў Магілёўскай, Віцебскай губерняў. У беларускім асяроддзі адносна доўга захоўвалася традыцыя мядзведзяўпацешнікаў, што ідзе ад мядзведжых камедый XIX стагоддзя. У той жа час тут, у Сібіры, была страчана частка традыцыйных абрадаў. Напрыклад, вядомая ў Беларусі «камаедзіца», якая праводзілася там напярэдадні Звеставання.

*А. Ляднёва*

*(г. Мінск)*

# НАЦЫЯНАЛЬНАЕ Ў ШМАТКУЛЬТУРНЫМ ЖЫЦЦІ БЕЛАРУСАЎ ДАЛЁКАГА ЗАМЕЖЖА

Гісторыя беларускай эміграцыі адзначае неаднаразовыя выпадкі і масавыя хвалі перасяленняў, калі беларусам прыходзілася пакідаць свае хаты і выпраўляцца ў далёкі свет па хлеб ці свабоду. Вырваны з нацыянальнага асяроддзя просты люд, сялянства гублялі сваю беларускую адметнасць, гінулі ў чужым людскім моры. Так званая старая перадваенная эміграцыя амаль уся для Бацькаўшчыны прапала — яна растварылася сярод карэннага насельніцтва або паланізавалася ці русіфікавалася ў адпаведных эміграцыйных арганізацыях. Сваіх культурна-нацыянальных арганізацый беларусы даваеннай пары, за выключэннем ЗША, не мелі, таму што ў большасці былі маласвядомымі. Можна сказаць, што доўгі час культурныя здабыткі, духоўнае багацце беларусаў працавалі на іншыя народы.

У пасляваенныя ўсё пачало мяняцца на лепшае. Адно тое, што на эміграцыю трапіла шмат беларускіх навукоўцаў, настаўнікаў, творчай інтэлігенцыі, многія з якіх атрымалі адукацыю ў вышэйшых навучальных установах Захаду, працавала на беларускую справу. У многіх абудзілася пачуццё агульнай і паўсюднай еднасці, адзінства па мове, крыві і долі.

У розных еўрапейскіх краінах, Аўстраліі, Канадзе, ЗША з'яўляецца шмат беларускіх нацыянальных і культурна-грамадскіх арганізацый, заснаваліся моцныя культурна-нацыянальныя асяродкі з вядомымі грамадска-культурнымі цэнтрамі. Беларусы далёкага замежжа разгарнулі значную культурную працу ў розных накірунках: ствараюцца навуковыя інстытуты, працуюць выдавецтвы, нацыянальная школа, наладжваюцца імпрэзы, мастацкія

выставы, фестывалі, выдаецца значная колькасць газет і часопісаў. З культурна-нацыянальнага пункту гледжання беларусы становяцца паўнавартаснымі прадстаўнікамі сваёй нацыі на чужыне.

Але, жывучы ў краінах, насельніцтва якіх складаюць прадстаўнікі многіх народаў, недастаткова весці культурную дзейнасць у межах свайго асяродка. Вельмі важна ўключыцца ў агульныя культурныя працэсы краіны, годна рэпрэзентаваць свой народ сярод іншых нацыянальнасцей і этнічных груп, прымаючы ўдзел у розных міжнародных і этнічных арганізацыях. Шматнацыянальнымі краінамі, у якіх жыве значная колькасць беларусаў, з'яўляюцца Аўстралія, Канада, ЗША. Трэба адзначыць, што кіраўніцтва гэтых краін не адразу прыйшло да разумення збалансаванай палітыкі, якая ўлічвае правы кожнага грамадзяніна безадносна да яго расавай (нацыянальнай) ці рэлігійнай прыналежнасці і дае роўныя магчымасці на захаванне і развіццё сваёй роднай мовы, культуры, на разнабаковыя сувязі з іншымі народамі. Тэорыя «плавільнага катла», якая прапагандавалася ў ЗША раней і паводле якой праз пэўны час і адпаведныя ўмовы нацыі і этнічныя групы павінны былі набыць аднароднасць, саступіла месца канцэпцыі так званага каляровага дывана, пры якой кожная нацыянальная культура мае сваё прызначэнне і робіць уплыў на развіццё агульнаамерыканскай культуры. Кангрэс ЗША штогод выдзяляе грашовыя сродкі на вывучэнне гісторыі эміграцыі, яе сучаснага становішча, гэтым самым робячы ўплыў на развіццё культуры.

Палітыка шматкультуралізму, абвешчаная прэм'ер-міністрам Канады П. Трудо ў 1971 годзе, вызначала, што «кожная этнічная група мае права захоўваць і развіваць сваю ўласную культуру і ўласныя вартасці ў агульнаканадскіх межах». Прынцып адзінства ў разнароднасці дае этнічным групам вялікія магчымасці для іх развіцця.

У Аўстраліі да другой сусветнай вайны насельніцтва амаль цалкам было прадстаўлена выхадцамі з Брытанскіх астравоў. Пасля вайны сітуацыя змянілася. У Аўстралію пацягнуліся жыхары многіх краін. У сувязі са змяненнем нацыянальнага складу насельніцтва мянялася і палітыка ўрада ў адносінах да дзейнасці нацыянальных груп. Да

пачатку 70-х гадоў аўстралійскі ўрад упарта трымаўся лініі на асіміляцыю насельніцтва неанглійскага ці неірландскага паходжання, у тым ліку і беларусаў. Але ўжо нельга было не ўлічваць той факт, што ў краіне налічвалася больш як 2 тысячы этнічных арганізацый. Уклад перасяленцаў у пасляваеннае развіццё Аўстраліі быў вельмі значным і карысным. І далей ігнараваць існаванне многіх нацыянальных груп было немагчыма. Ды і сама краіна пад наплывам еўрапейскай эміграцыі крыху «еўрапеізавалася», у грамадскім жыцці прыжыліся некаторыя элементы еўрапейскага ладу жыцця. У 1973 годзе да ўлады прыйшла лейбарысцкая партыя, і настаў новы час для эмігрантаў, якіх пачалі называць «этнікамі». Не было ўжо і гаворкі пра абмежаванні правоў нацыянальных груп. Наадварот, пачалі шмат гаварыць пра інтэграцыю і палітыку шматкультурнасці паводле канадскага ўзору. Перад беларускімі асяродкамі адкрыліся значныя магчымасці, якіх яны перад гэтым не мелі. У 1976 годзе на агульным з'ездзе этнічных груп была заснавана Аўстралійская этнічная рада, у штатах пачалі дзейнічаць Камітэты этнічных груп.

У ЗША для скаардынаванай дзейнасці па захаванні і пашырэнні культурнай спадчыны нацыянальных груп у 1956 годзе была заснавана Нацыянальная канфедэрацыя амерыканскіх этнічных груп. Беларускія арганізацыі маюць членства ў гэтай Канфедэрацыі з 1960 года. Апрача гэтага, у многіх штатах існуюць этнічныя рады, якія займаюцца пытаннямі адукацыі, культуры, сацыяльнага развіцця груп. Першая ў ЗША штатаўская этнічная рада была створана ў Нью-Джэрсі, дзе зарэгістравана звыш ста нацыянальных груп. У розныя гады ўзначальвалі Раду В. Кіпель, У. Дутко, Л. Шурак. Беларусы выбіраліся на пасады старшыняў і дарадцаў этнічных радаў і ў іншых штатах краіны.

У Канадзе амаль 40 арганізацый этнічных груп уваходзяць у Канадскую этнакультурную Раду, якая была заснавана ў 1980 годзе для абароны культурных, грамадскіх і палітычных інтарэсаў гэтых груп. Заўвагі і запыты Канадскай этнакультурнай Рады ўлічвае ўрад краіны. Інтарэсы беларускай нацыі ў гэтай арганізацыі прадстаўляе Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады, які ахоплівае 6 арганізацый.

Улады ЗША і Канады плануюць стварэнне этнічных, нацыянальных арганізацый, падтрымліваюць іх, выдаткоўваюць грошы на навукова-даследчыя працы аб этнічных групах, вырашаюць пытанні нацыянальнага выхавання моладзі. У справе адукацыі этнічныя арганізацыі дапамагаюць нядзельным школам, робяць захады перад штатавымі ўладамі аб увядзенні этнічных праграм як дапаможных у сістэму амерыканскай адукацыі. Так, група беларусаў, украінцаў і славакаў заснавала ў 1973 годзе Усходнееўрапейскую акадэмічную асацыяцыю штата Мерыленд, паставіўшы перад ёю заданне рыхтаваць нацыянальныя бібліяграфіі, прапагандаваць значэнне нацыянальных супольнасцей у сродках масавай інфармацыі, развіццё этнакультурнага цэнтра. З моманту свайго ўзнікнення Усходнееўрапейская асацыяцыя зрабіла шмат па абароне інтарэсаў амерыканцаў славянскага паходжання — славянам аддаецца большая ўвага ў тэлеперадачах, у штатавым універсітэце ўведзены курс вывучэння нацыянальных груп. Беларусы, палякі, украінцы падтрымліваюць адзін аднаго ў развіцці нацыянальных культур. Лекцыі, семінары, практычныя заняткі па гісторыі Беларусі, мове, культуры, уключаючы музыку і літаратуру, перыядычна арганізуюцца ў некаторых сярэдніх школах і каледжах.

У штаце Антарыё (Канада) з 1975 года ў сярэдніх школах уведзена вывучэнне амаль 12 моў розных этнічных груп. А з восені 1977 года ўрад краіны ўвёў вывучэнне розных моў у пачатковых школах усюды, дзе знойдзецца 15 і больш дзяцей, якія захочуць іх вывучаць. На гэтую школьную праграму было асігнавана 2 мільёны доляраў. Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады атрымаў ад Федэральнага ўрада і сродкі для выдання англамоўнага падручніка В. Пашкевіч «Беларуская мова». Вынікам дзейнасці Камітэтаў этнічных груп у Аўстраліі некаторыя мовы ўведзены ў навучальныя праграмы дзяржаўных школ. Урад фінансуе і працу суботніх школ, летніх лагераў для моладзі, іншыя культурныя мерапрыемствы.

У штаце Нью-Джэрсі пры дапамозе Этнічнай рады выдадзены даведнік і кніжка пра этнічныя групы. Беларусы разам з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў

выступілі ініцыятарамі рэстаўрацыі Статуі Свабоды, разбудовы «Абтоку слёзаў» — порта, праз які прыбывала на амерыканскую зямлю асноўная маса перасяленцаў, стварэння Амерыканскага музея эміграцыі і этнічнага цэнтра культуры ў Нью-Брансвіку. Сёння назва «Беларусь» унесена ў гранітную арнаментацыю музея і нагадвае наведнікам пра беларускіх эмігрантаў і беларускую спадчыну ў Амерыцы. Сімвалам падзякі эмігрантам за іх працу на карысць Аўстраліі з'яўляецца помнік, пабудаваны ў г. Фэрвілдзе (штат Новы Паўднёвы Уэльс) у 1977 годзе. У сцяну помніка ўмураваны эмалевы бел-чырвона-белы беларускі сцяг з Пагоняй і надпісам «Беларусь» на англійскай мове. У 1979—1982 гадах у Адэлаідзе (Паўднёвая Аўстралія) быў заснаваны дзяржаўны музей этнічных груп, дзе арганізуюцца сталыя выставы па гісторыі, геаграфіі, культуры, пасяленні эмігрантаў. З 1988 года беларускі аддзел арганізаваны ў этнічным музеі ў Канберы і гістарычным музеі штата Паўднёвая Аўстралія. Этнічныя групы супольна ажыццявілі шэраг праграм культурнага і грамадска-палітычнага зместу — святкаванне 200-годдзя ЗША, 150-годдзя Аўстраліі, 100-годдзя Канады.

Беларускія нацыянальныя арганізацыі актыўна ўдзельнічаюць у агульнанацыянальных і рэлігійных святах і фестывалях, культурных праграмах, якія ладзіць грамада іншых народаў. «Фолк фэстывал каунсіл» — амерыканская арганізацыя, якая цікавіцца захаваннем культуры і нацыянальных традыцый эмігрантаў многіх народаў, ладзіць у Нью-Йорку міжнародныя фестывалі. У 1957 годзе беларускае народнае мастацтва было прадстаўлена на гэтым фестывалі ўпершыню. У рамках шырокавядомага міжнароднага фестывалю ў Чыкага, у якім прымае ўдзел каля 50 нацыянальнасцяў, штогод з 1960 года ўдзельнічаюць суполка Згуртаванне беларусаў у штаце Ілінойс і Згуртаванне беларускай моладзі ў штаце Ілінойс. Яны пазнаёмілі амерыканскае грамадства з беларускай культурай, гісторыяй, мастацтвам, народнымі танцамі, мастацкімі вырабамі. У 1967 годзе беларусы ў Чыкагскім фестывалі ўпершыню выступілі пад назвай на роднай мове — «Беларусь», каб пакончыць з рознымі неадпаведнымі перакладамі сваёй нацыянальнай назвы на чужыя мовы. Сенсацыяй сталі дзве карты: этнічнай Беларусі і

тагачаснай БССР. Амерыканцы ўпершыню ўбачылі, якія часткі беларускай зямлі былі далучаны да суседніх краін.

Ад пачатку 70-х гадоў беларусы ўдзельнічаюць у папулярным славянскім фестывалі Пенсільванскага універсітэта, на якім БАЗА кожны год арганізуе выставу беларускага народнага мастацтва. Па ініцыятыве Этнічнай рады штата Нью-Джэрсі з 1978 года закладзена традыцыя восеньскага фестывалю нацыянальнасцяў. Над падрыхтоўкай беларускай экспазіцыі працуюць БАЗА, Беларускі кангрэсавы камітэт, згуртаванні жанчын і моладзі, мастацкія таварыствы.

Прымае ўдзел беларуская эміграцыя ў фестывалі Свабоды ў Дэтройце, якім кожны год 4 ліпеня ўрачыста адзначаецца Дзень незалежнасці ЗША. Галоўная ідэя фестывалю — падкрэсліць святасць імкнення кожнага народа да нацыянальнай свабоды, да права на самавызначэнне. Можна адзначыць і этнічны ялінкавы фестываль, які праходзіць у Музеі навукі і індустрыі ў Чыкага і ўдзел у якім з 1973 года прымае Беларускі каардынацыйны камітэт. Беларусы актыўна ўдзельнічаюць у гадавым этнічным «Балі спадчыны» (Нью-Джэрсі), інтэрнацыянальных днях у Лос-Анжэлесе, калядных і іншых мерапрыемствах. У Нью-Йорку з 1980 года існуе Рада славянскай спадчыны ў Амерыцы, з якой супрацоўнічаюць БАЗА, Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Арганізацыя беларуска-амерыканскай моладзі. Іх супольнымі намаганнямі арганізоўваліся Тыдні славянскай спадчыны з мэтай пашырэння ведаў пра славянскія культуры. У рамках Тыдня арганізоўваліся выставы, фестывалі паэзіі, канцэрты, базары, іншыя імпрэзы.

У Канадзе ў рамках шматкультурнасці праводзіцца шэраг традыцыйных фестываляў, карнавалаў, канцэртаў. Гэта — Ашаўскі народны фестываль, фестываль «Бацькаўшчына», які арганізоўвае Ашаўская рада народнага мастацтва. У праграму ўваходзіць арганізацыя нацыянальных павільёнаў, выступленні фальклорных калектываў, прыгатаванне страў нацыянальнай кухні.

У разбудове беларускага павільёна «Менск» Каравана ў Таронта прымалі ўдзел Саюз беларускай моладзі Канады, Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады, Згуртаванне беларускіх жанчын. Разумеючы, што лепшай тры-

буны для прапаганды беларускай справы няма, каардынацыйны камітэт кожны год старанна распрацоўвае экспазіцыю павільёна. Каардынацыю міжэтнічных фестываляў у Канадзе здзяйсняе Рада народных мастацтваў.

Каб падкрэсліць шматкультурнасць аўстралійскага грамадства, штогод у Аўстраліі праводзіцца Тыдзень этнічных культур, у рамках якога розныя нацыянальнасці ладзяць імпрэзы, канцэрты, арганізоўваюць выставы традыцыйных мастацкіх вырабаў. Беларусы ўдзельнічаюць у Тыднях з сярэдзіны 70-х гадоў, і заўсёды іх стэнды, выступленні вызначаюцца адметнымі рысамі. У Новым Паўднёвым Уэльсе штогод, з 1975 года, на пачатку верасня ладзіцца карнавал з мэтай узаемнага азнаямлення грамадства з культурай, звычаямі і дасягненнямі розных этнічных груп, якія жывуць у штаце. Дзеля гэтага арганізуюцца канцэрты, выставы, паказы. У 1979 годзе выстава беларускага мастацтва была арганізавана сябрамі Беларускага аб'яднання ў адным з найбольш камерцыйных цэнтраў Сіднея, але ад імя Федэральнай Рады беларускіх арганізацый, каб гэтым самым папулярызаваць агульную беларускую арганізацыю. З 1981 года маладыя беларусы Паўночнай Аўстраліі выступаюць на канцэрце юнакоў, які арганізуе камітэт этнічных груп і фальклорнае аб'яднанне штата, удала дэманструючы сваё нацыянальнае мастацтва і народную вопратку. Супрацоўніцтва з аўстралійскай арганізацыяй па справах Аб'яднаных Нацый дазволіла беларусам прымаць удзел у штогоднім «Міжнародным дыпламатычным бале». Але відавочна, што ўдзел аўстралійскіх беларусаў у агульнанацыянальных і рэлігійных святах і фестывалях больш сціплы, чым у ЗША і Канадзе. Тлумачыцца гэта колькасцю беларусаў у Аўстраліі, іх абмежаванымі магчымасцямі.

Беларускія навукоўцы пашыраюць свае даследаванні, прымаючы ўдзел у працы арганізацый амерыканскіх і канадскіх славян. У канцы 50-х і пачатку 60-х гадоў у Канадзе не раз узнікала ідэя стварэння агульнага славянскага органа для ўзаемнай інфармацыі і каардынацыі працы як вучоных-славістаў, так і славянскіх этнічных груп. Першая канферэнцыя канадскіх славян адбылася ў 1965 годзе. Быў створаны сталы міжуніверсітэцкі славянскі камітэт. Пад яго апекай кожныя два гады адбы-

ваюцца кангрэсы канадскіх славян. Асабліва ўрачыстым быў кангрэс, прысвечаны 100-годдзю Канадскай канфедэрацыі. З 1970 года канферэнцыі Канадскай асацыяцыі славістаў адбываюцца кожны год. На Атаўскай канферэнцыі (1993) працавалі дзве беларусазнаўчыя секцыі, прысвечаныя тэме «Беларуская культура і сучасная Беларусь». У 1961 годзе членам Асацыяцыі славістаў стала Згуртаванне беларусаў Канады.

Амерыканская асацыяцыя падтрымкі славяназнаўцаў заснавана ў 1948 годзе. Гэта адна з найбольш вядомых навукова-даследчых арганізацый у ЗША. Да яе належаць навуковыя ўстановы, універсітэты, інстытуты, вучоныя-славісты. Асацыяцыя засноўвалася з мэтай вывучэння славянскіх народаў, іх моў, культуры, гісторыі, эканомікі, сучаснага стану. Даклады па беларускай тэматыцы гучаць амаль на кожнай канферэнцыі. Асацыяцыя падтрымлівае вывучэнне славяназнаўства праз курсы і студыі ў вышэйшых навучальных установах, школах, прызначае стыпендыі студэнтам. Асацыяцыя мае свае выдавецтва, дзе друкуюцца манаграфіі, падручнікі, дапаможнікі.

Прыглядаючыся да культурна-нацыянальнай працы беларускай эміграцыі, заўважаеш перадусім ахвярнасць і адданасць, з якой яна праводзіцца. Думаецца, што на чужыне людзі глыбей адчуваюць і ўсведамляюць тысячы духоўных ніцяў, якімі чалавек звязаны з родным краем, моваю і звычаямі, складам і ладам жыцця. Беларусы ЗША, Канады, Аўстраліі нясуць сваю духоўную і культурную спадчыну да іншых народаў, добра выкарыстоўваючы магчымасці шматкультурнай палітыкі гэтых краін.

*Р. Жук-Грышкевіч*

*(г. Таронта)*

# ДЗЕЙНАСЦЬ КАНАДСКАЙ ДЫЯСПАРЫ

Пад словам «культура» разумеем існаванне безупыннага імкнення адзінкі грамадства да вышэйшага пад кожным поглядам узроўню чалавечнасці быцця і вынікі гэтага імкнення, асягненні.

Культура для адзінкі грамадства народа ёсць вельмі важная, бо яна служыць абароне як адзінкі, так і народа. Чым меней культурны народ, тым болей пагражае яму небяспека гібелі. Рэлігія, навука, мастацтва — усе гэтыя складнікі культуры імкнуцца захаваць грамадства, народ.

Культура народа можа развівацца нармальна толькі ў сваёй незалежнай дзяржаве, у якой урад дбае пра дабро свайго народа, пра развіццё яго культуры, пра пабольшанне шансаў яго выжыцця. Чужая ўлада не толькі тармозіць развіццё культуры, а і знішчае яе з мэтай, каб знішчыць і паняволены народ. Пры чужой уладзе і рэлігія, і навука, і мастацтва служаць знішчэнню паняволенага народа.

Ідэальна трэба, каб культура пранікала ў шырокія масы грамадства, бо ў дэмакратычным ладзе ўсё вырашаюць масы і яны без культуры пад уплывам варожых дзейнікаў могуць дзеяць на сваю гібель.

На эміграцыі беларуская культура ў моры чужой культуры, чужой мовы можа лёгка загінуць. На эміграцыі беларуская этнічная група, як і іншыя, можа захавацца і развівацца толькі ў нацыянальных арганізацыях. Канадскі ўрад не тармозіць развіцця этнічных культур, а падтрымоўвае іхняе развіццё. Ды гэтае развіццё залежыць толькі ад саміх прадстаўнікоў этнічнае групы. Канада за іх беларускую работу рабіць не будзе.

Толькі арганізаванасць этнічнай групы, у нашым выпадку — беларускай, можа супрацьдзейнічаць дэнацыяналізацыі.

Каб арганізацыя магла выконваць сваю ролю захавання і развіцця беларускай культуры за мяжой, яна павінна будавацца на трывалай глебе. Яна павінна мець нацыянальную незалежніцкую ідэалогію, яна павінна мець сваю рэлігійную падставу — сваю беларускую царкву, яна павінна мець натарыяльную базу. Ды вельмі істотная арганізацыя павінна мець ідэю на вышэйшым культурным узроўні кіруючых людзей, якія рупіліся б, працавалі б над павышэннем узроўню культуры беларускага грамадства — над захаваннем яго ад знікнення.

Беларускімі нацыянальнымі арганізацыямі ў Канадзе ёсць: Згуртаванне беларусаў Канады, заснаванае ў 1948 годзе, Задзіночанне беларускіх жанчын Канады (1965), Ка-ардынацыйны камітэт беларусаў Канады (1966), Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Канадзе (1967), Секратар рады Беларускай Народнай Рэспублікі (ад пачатку 50-х гадоў).

Беларускія нацыянальныя арганізацыі ў Канадзе базуюцца на незалежніцкай ідэалогіі, маюць сваю БАП-Царкву, маюць свой дом — Беларускі рэлігійна-грамадскі цэнтр у Таронта і лецішча — «Слуцак». Падумаўшы, у грамадстве — неабходныя ідэйныя, культурныя, дзейныя людзі.

Беларускія нацыянальныя арганізацыі ў Канадзе галоўным заданнем ставілі перад сабой нацыянальнае ўзгадаванне грамадства. Гэта: а) захаванне і развіццё роднай мовы; б) захаванне беларускіх традыцый; в) культываванне ведаў аб беларускай літаратуры; г) культываванне памяці нашай гісторыі; д) культываванне беларускага народнага мастацтва ды іншае.

Заданне гэтае выконваецца, з аднаго боку, праз штодзённую руплівасць, любоў і пашану да ўсяго свайго, беларускага, як кіраўнічых органаў арганізацыяў, гэтак і сяброў. Адбываецца гэта ў сям'і, у царкве, дзе багаслужбы чытаюцца на беларускай мове, у сваім грамадскім беларускім доме. У доме гэтым шануецца беларуская сімволіка, шануецца памяць беларускіх палітычных грамадскіх дзеячаў, як і дзеячаў культуры ад зарання тыся-

чагадовай гісторыі Беларусі — ад Рагвалода, Рагнеды, Еўфрасінні Полацкай, Францішка Скарыны да пазнейшых і нядаўніх, шануецца памяць свае гісторыі.

З другога ж боку, нацыянальнае ўзгадаванне праводзіцца праз культурную працу арганізацый.

## Асвета — школы

Дзеля пашырэння ведаў аб Беларусі ў верасні 1951 года з ініцыятывы і стараннем Вінцэнта Жука-Грышкевіча пры універсітэце Таронта быў заснаваны Лектарат беларусаведаў, які трываў два акадэмічныя гады. Выкладчыкам Лектарата быў д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Курс першага 1951/52 года абымаў 20 лекцыяў з гісторыі Беларусі ад пачатку да сённяшніх дзён. У наступным 1952/53 годзе курс беларусазнаўства складаўся таксама з 20-ці лекцыяў з гісторыі беларускай літаратуры ад Царкоўнаславяншчыны (XI—XII ст.) і Падрыхтоўчай пары (XIV—XV ст.) да Узвышанцаў: Язэпа Пушчы, Уладзіміра Дубоўкі, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы. Лектарат быў перарваны з прычыны выезду выкладчыка ў Мюнхен для арганізавання там беларускай секцыі рады «Вызваленне», цяпер «Свабода».

У шасцідзесятыя і сямідзесятыя гады пры беларускай царкве Еўфрасінні Полацкай у Таронта існавала пад кіраўніцтвам сп-ні Валянціны Пашкевіч суботняя школа для дзяцей. Для школы былі зложаныя самой настаўніцай Валянцінай Пашкевіч падручнікі: «Чытанка» (1960-я гады) і два тамы «Беларускай мовы» (1974—1978). «Чытанка» была выдадзена ў ЗША, а англамоўны падручнік «Fundamental Buelorussian» («Беларуская мова») у двух тамах выдаў Выдавецкі камітэт пры Каардынацыйным камітэце беларусаў Канады ў Таронта ў 1974 і 1978 гадах. На пачатку 80-х гадоў Валянціна Пашкевіч пачала працаваць над складаннем англа-беларускага слоўніка, які цяпер знаходзіцца ў працэсе друку.

## Нацыянальныя святы

Узгадаваўчае значэнне мае штогодняе ўрачыстае адзначанне нацыянальных святаў, як: Дзень Незалежнасці — угодкі абвешчання незалежнасці Беларускай Народнай

Рэспублікі Актам 25 сакавіка ў 1918 годзе ў Менску, ды Дзень герояў Беларусі, або, як кажуць, угодкі Слуцкага збройнага чыну. На праграму нацыянальных святаў складаюцца: багаслужбы ў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве парафіі св. Кірылы Тураўскага ў Таронта і ў царкве св. Еўфрасінні Полацкай, урачыстыя сходы ў зале Беларускага рэлігійна-грамадскага цэнтра ў Таронта з дакладамі, прывітаннямі і мастацкай праграмай. Да нацыянальных святаў адпаведна афармляецца зала Беларускага дома і звонку яго ўзнімаюцца нацыянальныя сцягі: бел-чырвона-белы беларускі і канадскі. Дзякуючы старанням Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады ад 1970 года бел-чырвона-белы сцяг на 25 сакавіка ўзвіваецца і ля Ратушы Таронта.

## Гістарычныя ўгодкі

**1.** 450-я ўгодкі беларускага друку.

Невялікую скалю з грандыёзнай выстаўкай старога беларускага друку і ўрачыстым сходам 17 верасня 1967 года ў зале Беларускага рэлігійна-грамадскага цэнтра ў Таронта беларусы Канады адзначалі 450-я ўгодкі беларускага друку і стагоддзе Канады. Аддавалі пашану памяці заснавальніка беларускага кнігадрукавання, выдатнага гуманіста, асветніка, лекара, аднаго з волатаў эпохі Адраджэння д-ра Францішка Скарыны, які 6 жніўня 1517 года надрукаваў у Празе Чэшскай першую на беларускай мове кнігу Псалтыр і гэтым даў пачатак беларускаму друку. Імпрэзу ладзіла Згуртаванне беларусаў Канады.

Выстаўка складалася з сямі выставачных гнёздаў, пamастацку размешчаных на сценах залы. Імі былі: 1. Скарына вандроўны. 2. Скарына ў Падуі. 3. Скарына сярод сучаснікаў. 4. Скарынавыя кнігі. 5. Ілюстрацыі і графічныя аздобы Скарынавых кнігаў. 6. Скарынавыя папярэднікі і паслядоўнікі. 7. Скарына ў беларускай літаратуры і прэсе.

Багатыя матэрыялы да выстаўкі ласкава пазычыў нам д-р Вітаўт Тумаш, старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, а выстаўку ў Таронта наладзілі Вінцэнт і Раіса Жук-Грышкевічы.

Урачысты сход адкрыла і вяла рэферэнт культуры Галоўнай управы ЗБК д-р Раіса Жук-Грышкевіч. Пра-

моўцамі былі высокі ўрадавец з Дэпартамента грамадзянства і іміграцыі сп. Глын П. Ален, які, перад тым як прыступіць да свае тэмы аб стагоддзі Канады, гаварыў аб 450-х угодках беларускага друку, аб Францішку Скарыну, старой беларускай культуры. Другім дакладчыкам на тэму «450-я ўгодкі беларускага друку» быў д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

**2.** Снежань, 1967 г. «50-я ўгодкі Усебеларускага кангрэсу». Дакладчык — д-р В. Жук-Грышкевіч.

**3.** 8 чэрвеня 1978 г. «Дзень Прадславы — Еўфрасінні Полацкай». Дакладчык д-р Р. Жук-Грышкевіч. Імпрэзу ладзіла Задзіночанне беларускіх жанчын Канады (ЗБЖК).

**4.** 50-я ўгодкі смерці Івана Луцкевіча і 40-я Антона Луцкевіча беларускае грамадства Канады ўрачыста адзначала акадэміяй і выстаўкай з жыцця і дзейнасці братоў Луцкевічаў у зале БР-ГЦ 29 жніўня 1969 года. Дакладчыкам быў д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч, які праз доўгія гады ведаў і супрацоўнічаў з Антонам Луцкевічам у Вільні. Імпрэзу ладзіла ЗБК.

**5.** Імпрэзу 400-х угодкаў друкарні ў Заблудаве арганізаваў 26 кастрычніка 1969 года Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Канадзе (старшыня — д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч). З ЗША быў запрошаны старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку д-р Вітаўт Тумаш, які зрабіў даклад на тэму: «Гетман Рыгор Хадкевіч — паслядоўнік Францішка Скарыны». У зале БР-ГЦ была наладжана прынагодная выстаўка.

**6.** З нагоды адкрыцця ў 1971 годзе Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны ў Лондане д-р Раіса Жук-Грышкевіч, якая была ўдзельнікам урачыстасцяў у Лондане, 31 кастрычніка 1971 года мела ў зале БР-ГЦ у Таронта даклад на тэму: «Беларуская бібліятэка на фоне мінуўшчыны, сучаснасці і будучыні». У дакладзе была і інфармацыя пра ўрачыстасці адкрыцця Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны ў Лондане.

**7.** У верасні 1972 года беларусы Канады і ЗША адзначалі на 10-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Таронта 450-я ўгодкі друку на беларускай зямлі. У 1522 годзе Францішак Скарына выдаў у Вільні «Малую пада-

рожную кніжку», а ў 1525 — «Апостала». Д-р Вітаўт Тумаш, старшыня БІНіМ у Нью-Йорку, зрабіў даклад на тэму: «450-годдзе друку на беларускай зямлі. Угодкі выхаду «Малой падарожнай кніжкі» доктара Ф. Скарыны». На слаўныя ўгодкі БІНіМ у Нью-Йорку выдаў юбілейныя скарынаўскія маркі.

**8.** 1966, 1976 і 1986 — юбілейныя гады «Нашай Нівы». Былі адпаведна адзначаны.

**9.** У 1979 годзе скарэктаваная была скандалічная на нашую некарысць памылка ў дакументах Крыніц статыстыкі Канады, у якіх ад пачатку 1930-х аж да 1979 года беларуская мова фігуравала як дыялект расейскай. Перапіска ў гэтай справе вялася з галоўным статысташынам д-рам Пітэрам Кіркгамам, у выніку якое мы атрымалі ліст, які паведамляў аб скарэктаванні памылкі.

**10.** 1000-годдзе дзяржаўнасці Беларусі беларусы Канады адзначалі 28 і 29 лістапада 1981 года ў Беларускім рэлігійна-грамадскім цэнтры ў Таронта. Падрыхтоўка да ўрачыстасцяў вялася цэлы год. Інспірацыяй былі перавыданыя Згуртаваннем беларусаў у Вялікай Брытаніі дзве юбілейныя, падпольна выданыя ў БССР паштоўкі.

У праграму свята ўваходзілі: багаслужбы ў БАПЦ; урачыстыя сходы з дакладамі: «Тысячагоддзе дзяржаўнасці Беларусі» д-ра Вінцэнта Жука-Грышкевіча, «На Дзень герояў Беларусі» сп. Міколы Ганька і «Сто год нараджэння Івана Луцкевіча» д-ра Раісы Жук-Грышкевіч; мастацкая выстаўка, у якой былі прадстаўлены працы сп. Юркі Акулы, сп-рынь Валянціны Пашкевіч, Аляксандры Протас, Івонкі Сурвілы і сп. Міколы Шуста. Паэтка Наталля Арсеннева афіцыйна адкрыла выстаўку і застольныя бяседы, арганізаваныя сп-няй Марыяй Ганька.

**11.** 500-я ўгодкі ад нараджэння доктара Францішка Скарыны беларускае грамадства Канады ўрачыста адзначала 14 верасня 1985 года вялікай выстаўкай, прысвечанай жыццю і выдавецкай працы д-ра Францішка Скарыны, урачыстым сходам з дакладам на тэму дня д-ра Раісы Жук-Грышкевіч. У заключэнні дакладчыца сказала:

«Д-р Францішак Скарына, будучы патрыётам свайго «слаўнага града Полацка» і ўсяе Беларусі, быў адначасова і грамадзянінам усяе Еўропы і меў дачыненні з такімі

асабістасцямі, як вялікім князем і каралём Жыгімонтам Казіміравічам, маскоўскім князем Васілём III Іванавічам, з Фердынандам I, каралём Аўстрыі, Чэхіі і Вугоршчыны, з каралём Даніі Гансам, з герцагам Прускім Альбрэхтам, біскупам Вільні Янам, Маскоўскім мітрапалітам Данілам.

Ягоныя зацікаўленні абымалі: тэалогію, літаратуру, права, медыцыну, батаніку, друкарства, мастацтва.

Ягоныя асягненні:

1. Даў пачатак беларускаму друку і ўсяе Усходняй Еўропы. Вагу Скарынавае піянерскае дзейнасці ў гісторыі беларускага друку падкрэслівае факт, што дзякуючы д-ру Скарыну беларускі друк на колькі дзесяцігоддзяў выперадзіў друк Маскоўшчыны (1564) ды Украіны (1574).

2. Дзякуючы Скарыну беларускі народ быў другім сярод славянскіх — пасля чэшскага, які меў друкаваную Біблію ў роднай мове.

3. У гісторыі графічнага мастацтва важная Скарынавая заслуга тая, што ён першы ў кнігах славянскага кірылічнага друку ўвёў звычай багатага іх ілюстравання гравюрамі.

4. Скарына меў велізарны ўплыў на развіццё друкарства ў Беларусі ды і ўсёй Усходняй Еўропы. Да канца XVI стагоддзя пасля заснавання Скарынам першае на беларускай зямлі друкарні ў Вільні ў 1522 годзе адна за адной паўстаюць у Беларусі іншыя сем друкарняў: Нясвіжская (1562), дзе друкаваў свае кнігі Сымон Будны, Заблудаўская гетмана Рыгора Хадкевіча (1569), Віленская Мсціслаўца, Цяпінская Цяпінскага, Віленская Гарабурды, Віленская Мамонічаў і Віленская Брацкая. Калі лічыць і Скарынавую Пражскую, дык 9 беларускіх друкарняў, з якіх выйшла да канца XVI стагоддзя болей як сто кніг, друкаваных у царкоўнаславянскай і беларускай мовах. Сярод іх такія выдатныя помнікі старога беларускага друку, як Біблія д-ра Францішка Скарыны (1517—1519), Мсціслаўцава Евангелле 1575 года ды Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года, друкаваны ў друкарні Мамонічаў.

Лікам друкарняў і надрукаваных у іх кнігаў беларускія землі ў XVI стагоддзі займалі вядучае месца сярод краёў Усходняй Еўропы. З гэтага гледзішча далёка за са-

бой пакінулі землі Маскоўшчыны, дзе да канца XVI стагоддзя выйшла толькі 18 кніг у мове царкоўнаславянскай, кніг літургічных.

5. Скарына быў не толькі першадрукаром і перакладчыкам Бібліі на беларускую мову, ён быў і пісьменнікам. Ягоныя прадмовы да кніг — гэта серыя маральнафіласофскіх разважанняў, што сталіся класікай беларускай літаратуры.

Слаўны Палачанін першы завяшчаў нам шанаваць сваю мову, горда заяўляючы, што яго «Міласцівы Бог з таго языка на свет пусціў». (Даклад надрукаваны ў «Беларускай мінуўшчыне» (№ 6, 1995) пад загалоўкам «Па слядах Францішка Скарыны».)

**12.** Да 985-х угодкаў смерці Рагнеды Рагвалодавай.

1985 год — апошні год Міжнароднага дзесяцігоддзя жанчыны. З гэтае нагоды д-р Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня Згуртавання беларусаў Канады, зрабіла 29 снежня 1985 года ў зале БР-ГЦ ў Таронта даклад на тэму: «Да 985-х угодкаў смерці Рагнеды Рагвалодавай». Быў гэта даклад і пра пачаткі гісторыі Беларусі, пра Рагвалода, Рагнеду, Ізяслава.

**13.** Тысячагоддзе хрысціянства ў Беларусі (1988) было слаўна і трывала адзначана ўзняццем манумента — Беларускага памятнага Крыжа ў прошчы паўночна-амерыканскіх пакутнікаў у Мідландзе (Канада), што называецца «Martus' Shrine in Midland, Ontario».

На трэці дзень 18-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Таронта 5 верасня 1988 года ўдзельнікі яе з Бацькаўшчыны, Аўстраліі, Еўропы, ЗША і Канады зрабілі паломніцтва ў прошчу, што каля Мідланда, якіх 200 км на поўнач ад Таронта, каб быць удзельнікамі асвячэння Крыжа — беларускага манумента, пастаўленага для адзначэння 1000 гадоў хрысціянства ў Беларусі.

Св. Літургію і багаслужбу асвячэння Крыжа адпраўляў айцец Аляксандр Надсан, апостальскі візітатар для беларусаў з Лондана, дзе ён поўніць функцыю і дырэктара Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны ў Лондане.

Узняцце і асвячэнне Беларускага Крыжа было апета паэткай Наталляй Арсенневай вершам «Крыж». У на-

ступным годзе прошча выдала беларускія малітоўныя карткі, а беларусы — паштоўку Крыжа.

У 1996 годзе да Беларускага памятнага Крыжа, з правага яго боку, быўададзены Манумент памяці пакутнікаў Беларусі, а гэта на валуне завершаным Еўфрасіннеўскім Крыжам мемарыяльная табліца «Памяці ахвяр камуністычнага тэрору ў Беларусі». Манумент памяці пакутнікаў Беларусі быў асвечаны айцом Аляксандрам Надсанам у часе 8-га паломніцтва да Беларускага Крыжа 1 чэрвеня 1996 года пры ўдзеле паломнікаў з Англіі, Беласточчыны, ЗША і Канады. Такім чынам, у Канадзе маем Беларускі памятны комплекс. Плануем выдаць яго паштоўкі.

## Літаратурныя ўгодкі

**1.** У 1952 годзе адзначаны былі 30-я ўгодкі смерці Антона Лявіцкага — Ядвігіна Ш., 20-я ўгодкі ад смерці Уладзіміра Жылкі (Вінцэнт Жук-Грышкевіч).

**2.** Першая сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, што адбылася 5—6 ліпеня 1952 года на канадскім баку вадаспаду Ніягара, была прысвечана Янку Купалу — 70-м угодкам ад ягонага нараджэння і дзесятым ад ягонае трагічнае смерці. Даклад меў д-р В. Жук-Грышкевіч на тэму: «Янка Купала як чалавек і грамадскі дзеяч».

**3.** 26 ліпеня 1952 года ва універсітэце ў Атаве ў часе летняй сесіі адбылася абарона доктарскай дысертацыі на тэму: «Лірыка Янкі Купалы». Аўтарам і абаронцам яе быў праф. В. Жук-Грышкевіч, які здаў ужо ўсе экзамены, вымаганыя універсітэтам, і дзякуючы прыняццю і абароне дысертацыі атрымаў навуковы тытул доктара філасофіі ад універсітэта ў Атаве.

**4.** 24 кастрычніка 1965 года ў зале БР-ГЦ у Таронта адбыўся ўрачысты сход, якім адзначалі мы 125-я ўгодкі ад нараджэння і 65-я ўгодкі ад смерці «бацькі беларускага адраджэння» Францішка Багушэвіча. Дакладчык — д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

**5.** Задзіночанне беларускіх жанчын Канады запрасіла д-ра В. Жука-Грышкевіча зрабіць лекцыю пра «Пачаткі беларускага адраджэння». Даклад адбыўся 14 лістапада 1965 года ў зале БР-ГЦ у Таронта.

**6.** 27 лютага 1966 года Задзіночанне беларускіх жанчын Канады ладзіла ў Беларускім рэлігійна-грамадскім цэнтры акадэмію ў гонар 50-х угодкаў ад смерці Цёткі — Алаізы Пашкевіч. Быў прачытаны даклад Валянціны Жукоўскай-Пашкевіч: «Цётка як чалавек і нацыянальна-грамадскі дзеяч».

А 110-я ўгодкі ад нараджэння і 70-я ад смерці беларускай паэткі і нацыянальна-грамадскай дзяячкі Алаізы Пашкевіч-Цёткі Галоўная ўправа ЗБК адзначала 28 верасня 1986. Дакладчыкам была старшыня ЗБК д-р Раіса Жук-Грышкевіч.

**7.** 19 студзеня 1968 года адзначаны былі 70-я ўгодкі ад нараджэння Канстанцыі Буйло. Дакладчык д-р Раіса Жук-Грышкевіч. Імпрэза Задзіночання беларускіх жанчын Канады.

**8.** Задзіночанне беларускіх жанчын Канады запрасіла сваю ганаровую сяброўку паэтку Наталлю Арсенневу на літаратурны вечар, што адбыўся 18 лютага 1969 года ў БР-ГЦ у Таронта. Даклад аб літаратурнай творчасці паэткі меў д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч, сябра Наталлі Арсенневай яшчэ з гімназічных гадоў. Паэтка гаварыла на тэму «Майму жыццю»; тэму «Чалавек у творчасці Наталлі Арсенневай» развіў маг. Алесь Грыцук. Чытанне яе паэзіі, выступленне ўкраінскага паэта Барыса Аляксандрава ды песня «Беларусь наша Маці-краіна» на словы паэткі дапаўнялі жывую і цікавую імпрэзу.

**9.** 27 верасня 1970 года Задзіночанне беларускіх жанчын Канады літаратурным вечарам адзначала 60-я ўгодкі жыцця Ларысы Геніюш. Даклад д-ра Раісы Жук-Грышкевіч. Чытанне паэзіі паэткі.

**10.** Святкаванне 80-х угодкаў ад нараджэння Максіма Багдановіча ладзіла Згуртаванне беларускіх жанчын Канады 27 лютага 1971 года. Даклад меў д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Выстаўка з васількамі.

**11.** 13 траўня 1972 года ў зале БР-ГЦ у Таронта адбыліся даклады гасцей з ЗША: «Вялікае княства Літоўскае ў святле савецкае літаратуры» — д-р Ян Запруднік; «На 90-я ўгодкі ад нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа» — праф. Антон Адамовіч.

**12.** 10-я сустрэча БПА ў 1972 годзе ў Таронта была прысвечана 90-м угодкам ад нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы і 450-м угодкам друку на беларускай зямлі.

**13.** 100 год ад нараджэння Алеся Гаруна, выдатнага беларускага паэта, палітычнага і вайсковага дзеяча, урачыста адзначалі мы паніхідай за ўпакой Ягонае Душы, застольнай бяседай і дакладам пісьменніка Кастуся Акулы. Урачыстасць адбылася 27 верасня 1987 года ў БР-ГЦ у Таронта.

**14.** 125-я ўгодкі «Мужыцкай праўды» і Дзень герояў Беларусі адзначалі мы 29 лістапада 1987 года багаслужбай і ўрачыстым сходам у зале БР-ГЦ у Таронта. Старшыня ЗБК д-р Раіса Жук-Грышкевіч зрабіла даклад на тэму: «Мужыцкая праўда» і Кастусь Каліноўскі (Да 125-х угодкаў «Мужыцкае праўды»)».

**15.** Урачыстае святкаванне 100-х угодкаў ад нараджэння Максіма Багдановіча ладзіў Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады 15 снежня 1991 года ў БР-ГЦ у Таронта. Дакладчыкам была старшыня Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады д-р Раіса Жук-Грышкевіч.

**16.** Еўфрасіння Полацкая. Ад 1992 года кастрычнік у Канадзе ёсць «Месяцам гісторыі жанчыны». Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады адзначаў «Месяцы гісторыі жанчыны» ў 1993 і 1995 гадах. Імпрэзы складаліся з некалькіх дакладаў пра беларускіх і канадскіх жанчын, ды ключавым быў даклад пра нашую славутую асветніцу, унучку полацкага князя Усяслава Чарадзея, князёўну Прадславу — св. Еўфрасінню Полацкую.

## Канферэнцыі

Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Канадзе наладзіў у красавіку 1971 года канферэнцыю ва універсітэце ў Кінгстане (Queenis University of Kingston). У часе яе прачытана было восем дакладаў. Старшынёй БІНіМ у Канадзе быў тады д-р Ян Садоўскі.

У красавіку 1975 года БІНіМ у Канадзе (старшыня сп-ня Івонка Сурвіла) у супрацоўніцтве з Славянскім аддзелам Атаўскага універсітэта і Музея чалавека арганізаваў 20—27 красавіка 1975 года Беларускі тыдзень студыяў. Музей чалавека ў супрацоўніцтве з БІНіМ у

Канадзе наладзіў у зале Атаўскага універсітэта выстаўку беларускага народнага мастацтва, адкрыццём якое 20 красавіка пачаўся Беларускі тыдзень студыяў. 25 красавіка быў літаратурны вечар Наталлі Арсенневай з удзелам паэткі. На вечары было прачытана беларусамі і ўкраінцамі некалькі дакладаў і рэцытацыя паэзіі паэткі. 26—27 красавіка адбываліся даклады ў ангельскай мове. Між імі даклад на тэму: «Беларусы ў шматкультурнай Канадзе (Захаванне роднай мовы і культуры)» Раісы Жук-Грышкевіч.

Канадская асацыяцыя славістаў у супрацоўніцтве з Асацыяцыяй навукоўцаў (Learned Society) арганізуе кожны год пры іншым універсітэце Канады навуковыя канферэнцыі. Пачынаючы з 1992 па 1995 штогод БІНіМ у Канадзе ўдзельнічаў у такіх канферэнцыях, творачы ў іх асобную Беларускую секцыю, якая давала кожны год па некалькі дакладаў.

З нагоды Міжнароднага года жанчыны Задзіночанне беларускіх жанчын Канады арганізавала 6 снежня 1975 года ў зале БР-ГЦ у Таронта канферэнцыю. На праграму яе складаліся даклады сябровак арганізацыі: сп-нь Вольгі Грыцук, Людмілы Рагулі, Івонкі Сурвілы і старшыні арганізацыі Раісы Жук-Грышкевіч. Яе даклад быў на тэму: «Беларускія жанчыны». З гэтай нагоды ў зале БР-ГЦ у Таронта была наладжана выстаўка кніг аўтарства беларускіх жанчын і выстаўка выяўленчага мастацтва прац Івонкі Сурвілы з Атавы.

Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады пры фінансавай дапамозе Канадскага федэральнага ўрада арганізаваў у Таронта дзве, у 1989 і 1991 годзе, канферэнцыі прадстаўнікоў беларускага грамадства з усяе Канады. Мэтай абедзвюх канферэнцый было ажывіць арганізацыйнае жыццё беларускага грамадства, заангажаваць да яго малодшае пакаленне, каб беларуская культура не пераставала быць інтэгральнай часткай шматкультурнай мазаікі Канады.

На першай канферэнцыі 18—19 сакавіка 1989 года ў Таронта было прачытана 5 дакладаў, а на пленарным сходзе, на якім былі і перавыбары ўправы ККБК (старшынёй была выбрана д-р Раіса Жук-Грышкевіч), было даручана нававыбранаму рэферэнту рэпрэзентацыі сп-ні

Івонцы Сурвілы даследаваць у Атаве магчымасці і эвентуальна арганізаваць фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, што і было ёю ў гэтым жа годзе выканана.

Другая канферэнцыя 4—5 траўня 1991 года ў Таронта адзначала 25-я ўгодкі Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады. На ёй было прачытана сем дакладаў.

## Удзел беларусаў у іншых канферэнцыях

10—11 чэрвеня 1967 года ў Атаўскім універсітэце адбыўся 2-гі Кангрэс канадскіх славянаў — Second National Conference on Canadian Slavs. На гэтым кангрэсе д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч зрабіў даклад на тэму: «Беларусы і канадская статыстыка» — «Belorussans and Canadian Statistics» (надрукаваны ў 2-м томе «Slavs in Canada» і ў кнізе «Жыццё Вінцэнта Жука-Грышкевіча»).

У жніўні 1966 года д-р В. Жук-Грышкевіч браў удзел у канферэнцыі «Правы і абавязкі» — «Rights and Responsibilieties», што адбылася ў Порт Эльджын, Антарыё.

У 1967 годзе Канада святкавала сваё стагоддзе. Дэпартамент грамадзянства ў супрацоўніцтве з Сакратарыятам Канады рыхтавалі выданне кнігі «The Canadian Family Tree» — «Дрэва канадскай сям'і». Д-р В. Жук-Грышкевіч падрыхтаваў для кнігі матэрыял пра беларусаў Канады. За дзесяць год для наступнага выдання «The Canadian Family Tree» матэрыял пра беларусаў Канады падрыхтавала д-р Раіса Жук-Грышкевіч.

У снежні 1968 года у Таронта адбылася канферэнцыя ў справе прававога стану культураў у Канадзе, «Thinkers Conference». Ад беларусаў браў у ёй удзел старшыня Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады ад 1980 года ёсць сябрам-заснавальнікам Канадскай этнакультурнай рады — Canadian Ethnocultural Council (CEC), і прадстаўнікі яго стала бяруць удзел у канферэнцыях CEC.

У траўні 1995 года старшыня ККБК д-р Раіса Жук-Грышкевіч брала ўдзел у 2-м Міжнародным кангрэсе беларусістаў, на якім зрабіла даклад на тэму «Дзейнасць беларускае эміграцыі ў Канадзе».

## Прэса

Ад пачатку свайго існавання (1948) да 1954 года Згуртаванне беларусаў Канады (ЗБК) выдавала газету «Беларускі эмігрант». Заснавальнікам і рэдактарам яе быў Кастусь Акула.

У студзені 1952 года групоўка «Авангард Беларусі» пад кіраўніцтвам Вінцэнта Жука-Грышкевіча выдала бюлетэнь «Бээнэравец». Гэта інфармацыя пра незалежніцкую бээнэраўскую ідэалогію — змаганне за яе. Ініцыятар і рэдактар «Бээнэраўца» — Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Ад 1963 да 1968 года ЗБК разам з БАЗАй выдавалі газету «Беларус», у якой была частка «Весткі з Канады».

На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў па сёння (1996) выходзіць у Таронта пад рэдактарствам Кастуся Акулы квартальнік «Зважай».

У 1996 годзе ЗБК пачало выдаваць квартальнік «Інфа ЗБК». У апошнія некалькі гадоў у Манрэалі выходзіць квартальнік «Прамень».

## Выдавецтва

У 1950 годзе ЗБК апублікавала брашуру старшыні Рады БНР інж. Міколы Абрамчыка ў ангельскай мове: «I accuse Kremlin of Genocide of My Nation» — «Я абвінавачваю Крэмль у генацыдзе майго народа».

У 50—60-х гадах аддзел ЗБК у Манрэалі выдаў апрацаваныя беларускім мастаком Пётрам Мірановічам дзве паштоўкі, прысвечаныя 25 сакавіка. У 1989 годзе пасля асвячэння Беларускага Крыжа ў Мідландзе Раіса Жук-Грышкевіч выдала паштоўку «Беларускі памятны Крыж». Рыхтуецца паштоўка «Беларускага памятнага комплексу».

У 60-х гадах быў заснаваны пад старшынствам сп. Кастуся Акулы клуб «Пагоня», які выдаў кнігі аўтарства Кастуся Акулы: «Гараватка», «Дзярлявая птушка», «Заўтра гэта ўчора» ў ангельскай мове і «За волю», 1991. «Змагарныя дарогі» выдала «Бацькаўшчына» ў 1962 годзе, калі яшчэ не было клуба «Пагоня».

З ініцыятывы старшыні Рады БНР д-ра Вінцэнта Жука-Грышкевіча ў 1973 годзе быў заснаваны «Фонд беларускіх падручнікаў», дзякуючы якому Выдавецкі камі-

тэт пры Каардынацыйным камітэце беларусаў Канады выдаў у 1974 і 1978 гадах два тамы англамоўнага падручніка «Fundamental Byelorussian» — «Беларуская мова» аўтарства Валянціны Пашкевіч.

На 60-я ўгодкі 25 сакавіка быў заснаваны старшынёй Рады БНР д-рам Вінцэнтам Жуком-Грышкевічам «Выдавецкі фонд успамінаў з беларускага жыцця», які ў тым жа 1978 годзе выдаў брашуру «25 сакавіка» В. Жука-Грышкевіча і карту Беларускай Народнай Рэспублікі, а ў 1993 годзе кнігу «Жыццё Вінцэнта Жука-Грышкевіча» Раісы Жук-Грышкевіч.

У 1981 годзе выйшла ў Канадзе кніга ў ангельскай мове «Гісторыя беларусаў у Канадзе» д-ра Яна Садоўскага.

Важная манаграфія «Canadians of Byelarussian Origin» V. J. Kaye выдана як адбітка з часопіса «Агляд універсітэта Атавы» ў 1960 годзе.

У друку знаходзяцца цяпер Ангельска-беларускі (Валянціны Пашкевіч) і Беларуска-ангельскі (Юркі Станкевіча) слоўнікі, якія мае выдаць універсітэт Таронта.

## Мастацтва

Задзіночанне беларускіх жанчын Канады (старшыня д-р Раіса Жук-Грышкевіч) запрапанавала беларускай мастачцы Галіне Русак з ЗША зрабіць выстаўку ейных прац. Выстаўка, якая прадстаўляла 40 прац жывапісу і мёртвай натуры, адбылася ў зале БР-ГЦ у Таронта ў лістападзе 1969 года. Мастачка пры нагодзе дала даклад на тэму «Мастак і асяроддзе». Была гэта першая выстаўка беларускага выяўленчага мастацтва ў Канадзе. І першая выстаўка Галіны Русак.

Пасля ў чэрвені 1972 і ізноў у 1974 годзе ў беларускім павільёне Таронтаўскага Каравана «Менск» адбылася арганізаваная Асацыяцыяй беларускай моладзі Канады выстаўка прац Івонкі Сурвілы з Атавы, Пётры Міра-новіча з Нью-Йорка і Віктара Жаўняровіча з Францыі.

Івонка Сурвіла, беларуская мастачка ў Канадзе, студыявала мастацтва ў Парыжы. Яна перш за ўсё партрэтыстка, малюе людскія фігуры. У сваім творстве ўжывае алейныя фарбы, акрылік, акварэлі, аловак, пяро, калаж і

аплікацыю. Ды хіба найбольшым майстрам яна ёсць ужываючы аловак. Некаторыя ейныя партрэты выкананы толькі некалькімі лініямі і апісваюць не толькі вонкавы выгляд, а і персаналь мадэлі. Так як у працах алоўкам экспрэсіўным элементам ёсць лінія, гэтак у малюнках — колер.

Другі сродак ейнае экспазіцыі гэта пяро і індыя туш. Дробнымі рыскамі пяра ўздоўж і накрыж, творачы цені і святло, яна малюе архітэктуру, людскія фігуры, партрэты. Надае ім форму, жыццё цела, пачуцці духу, як у ейным творы «Жанчына», 1972.

Сваю любоў да Бацькаўшчыны-Беларусі яна выражае ў адтварэнні гістарычных манументаў беларускай архітэктуры. Пяром і тушшу яна рэстаўруе руіны — а з імі і славу беларускае мінуўшчыны — да дзяржаўнае манументальнасці.

Выстаўка прац Івонкі Сурвілы, што была наладжана Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Канадзе ў часе 10-е сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Таронта, засведчыла, што інспірацыяй мастачкі ёсць людское аблічча, людская фігура. Твары ў ейных працах паважныя, часам слёзныя, рэдка вясёлыя. Голыя фігуры поўныя чалавечай годнасці. Калі апранутыя, вопратка надае ім характар і эмацыянальны акцэнт. Пачуццё нацыянальнай прыналежнасці і любові выражанае ў працы «Беларуска». Выстаўка гэтая, што адбылася ў Беларускім рэлігійна-грамадскім цэнтры на Ст. Кларэнс у Таронта, зарэгістравана ў кнізе «Канадскія мастакі ў выстаўках 1972—1973» (1974).

Івонка Сурвіла выканала серыю партрэтаў выдатных беларускіх жанчын: князёўны Прадславы — св. Еўфрасінні Полацкай, Алаізы Пашкевіч-Цёткі, Паўліны Мядзёлкі і 16 гімнастычных фігур Вольгі Корбут для канферэнцыі Задзіночання беларускіх жанчын у Канадзе, ладжанай з нагоды Міжнароднага года жанчыны ў снежні 1975 года. На канферэнцыі была выстаўка прац Івонкі Сурвілы, аб чым мы ўжо вышэй упаміналі.

### Фестывалі

Саюз беларускае моладзі Канады на працягу 70-х гадоў ладзіў беларускі павільён «Менск» у Таронтаўскім

Караване. Павільён «Менск» знаходзіўся ў Беларускім рэлігійна-грамадскім цэнтры.

Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Канадзе ў 70-х і 80-х гадах дзесяць разоў арганізаваў беларускі павільён у штогоднім Атаўскім фестывалі «Бацькаўшчына».

Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады кожны год, калі горад Бэры, або музей Simcoe County арганізоўвалі шматкультурныя фестывалі, а іх было пяць, браў у іх удзел, арганізуючы беларускія аддзелы, што выяўлялі беларускую культуру і гісторыю.

## Матэрыяльная культура

Беларусы — народ зарадны, калі ёсць магчымасць працы, а ў Канадзе яна была і ёсць, і яны працавалі,араблялі, ашчаджалі, куплялі сабе дамы, аўтамабілі і лецішчы. Жылі і жывуць у дастатку.

На самым пачатку 1953 года з ініцыятывы і старання Вінцэнта Жука-Грышкевіча была заснавана фінансавая пляцоўка «Byelorussian (Toronto) Credit Union Limited» — пазычковая каса, у якой можна было пазычыць грошы на ўладжванне свайго жыцця, на куплю дома, апаратуры, аўтамабіля. Гэтая каса існавала якіх дваццаць гадоў. Пасля людзі абжыліся, грошай болей не пазычалі, сяброўства ў «касе» не магло быць масавым, а вядзенне яе вымагала шмат працы людзей. Касу прыйшлося зачыніць, яна стала нерэнтабельнай.

На стагоддзе Канады, як большасць канадскіх арганізацыяў, так і беларусы рэалізавалі свой стагодні праект — купілі маёмасць — ферму, якую назвалі «Слуцак». Дом яе, што належыць да БАПЦ, намаляваны на белы колер, суседзі называюць «белы дом».

Імкненне да навукі было і ёсць. Роджаныя ў Канадзе беларусы амаль пагалоўна здабылі сярэднюю, а то і вышэйшую асвету, і гэта вельмі добра, але ў беларускім нацыянальным арганізацыйным жыцці з іх не надта вялікі толк.

У заключэнне трэба адзначыць, што ў Канаду пасля апошняй вайны прыехала вельмі мала прадстаўнікоў беларускае інтэлігенцыі. Таму ў апісанні дзейнасці паўтараюцца ўсё тыя ж прозвішчы.

На працягу амаль не паўстагоддзя рабілася шмат і нямала дасягнута. Ды напрошваецца пытанне: які след беларускае культуры ў Канадзе застанецца пасля нас за якое стагоддзе?

Застанецца Беларускі памятны комплекс у прошчы ў Мідландзе, а гэта Еўфрасіннеўскі Крыж з мемарыяльнай табліцай 1000-годдзя хрысціянства ў Беларусі і малітвай «Магутны Божа», а побач яго валун, завершаны Еўфрасіннеўскім Крыжам з мемарыяльнай табліцай «Памяці ахвяр камуністычнага тэрору ў Беларусі». А гэтак, як Беларускі памятны комплекс знаходзіцца ў прошчы паважнай інстытуцыі, якая дбае пра агульны выгляд прошчы, даглядае помнікі ўсіх народаў, дык і за сто год каля Беларускага памятнага комплексу, так як і цяпер, красаваць будуць кветкі.

Застануцца ў Дзяржаўнай і іншых бібліятэках Канады кнігі, напісаныя і выданыя беларусамі, а ў Дзяржаўным нацыянальным архіве — архіўныя матэрыялы Згуртавання беларусаў Канады, Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады і Задзіночання беларускіх жанчын Канады. Канадскія беларусісты могуць карыстацца англамоўным падручнікам «Беларуская мова» і англа-беларускім слоўнікам.

Застануцца ў кнігах «Canadian Family Tree» ды іншых, як «Who is Who in Ontario» даведкі-артыкулы пра беларусаў.

Застануцца нашчадкі другога пакалення, што будуць памятаць пра сваё беларускае паходжанне і, магчыма, вывучаць беларускую мову з англамоўнага падручніка «Fundamental Byelarussian» і карыстацца англа-беларускім слоўнікам.

Не выключана, што ў трэцім пакаленні адзавецца беларуская кроў, і яно будзе на свой лад прадаўжаць пачатую намі беларускую работу ў Канадзе. Нельга ж думаць, што на нас канчаецца свет.

Хвалі новае беларускае эміграцыі? Лепей каб іх не было. Беларусь патрабуе людзей. Эміграцыя — гэта спусканне крыві з народа, збядненне яго. Эканамічная эміграцыя шмат для развіцця беларускага жыцця, беларускае культуры ў Канадзе не зробіць. На гэта патрэбныя наяўнасць сярод беларускае этнічнае групы ідэйных, асвечаных, культурных і дзейсных, адданых беларушчыне павадыроў. Ды такія яшчэ болей патрэбныя ў Беларусі.

*Я. Запруднік*

*(г. Нью-Йорк)*

# БЕЛАРУСКІЯ МАСТАКІ НА ЧУЖЫНЕ — ВЯШЧАЛЬНІКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

На пачатак — некалькі слоў агульнага парадку.

Чалавек перад тым, як навучыўся пісаць, рысаваў. Першая форма пісьменнасці — гэта рысункі. Пра тое нам кажуць і пячоры каменнага веку, і егіпецкія іерогліфы, і штрыхі на керамічных вырабах самых ранніх пасяленцаў беларускіх земляў. Мастацкі талент выявіўся першым на грамадскім форуме. Першым ён у шмат якіх выпадках і застаўся.

Мастакі дапамагаюць нам успомніць сябе як народ, нацыю ў стагоддзях: ці то праз вобраз св. Еўфрасінні, пакінуты няведамым творцам, ці то праз святаеўфрасіннеўскі крыж Лазара Богшы, ці то праз гравюры Францішка Скарыны, ці то праз мастацкія палотны нашых сучаснікаў на гістарычную тэму. І калі нашымі днямі людзі, што жывуць далёка ад Бацькаўшчыны, даведваюцца пра вехавыя падзеі ў Менску — шэсці, дэманстрацыі, юбілейныя святкаванні, — дык часта падзеі гэтыя засякаюцца ў памяці, дзякуючы мастакоўскаму таленту. Цікава, што фаза апошняга этапа беларускага нацыянальнага адраджэння пачалася ў сярэдзіне 1980-х гадоў якраз з дзейнасці мастацкае майстроўні і першага пагрому ў красавіку 1986 года вучняў мастацкага вучылішча — удзельнікаў народнага свята гукання вясны.

Хоць першымі ідэолагамі і палітыкамі беларускага нацыянальнага адраджэння былі пісьменнікі, на некаторых этапах умацоўвання беларушчыны, уключна з цяперашнім, на пярэдняй лініі знаходзіліся мастакі. Слова і выява — чым дасі знаць мацней, чым пранікнеш глыбей у душу суродзіча, чым зацікавіш больш чужынца, каб выклікаць у яго прыхільнасць да няведамай яму краіны?

Кажуць: лепш раз пабачыць, як сто раз пачуць. Псіхолагі ўстанавілі, што з усяе інфармацыі, якую чалавек чэрпае з наваколля, семдзесят працэнтаў ён набывае праз зрок.

Для беларусаў на чужыне мастацтва выконвала падвойную ролю: яно служыла эмацыянальным лучнікам са страчанай Радзімай і адначасна сродкам інфармацыі пра яе ў чужамоўным асяроддзі, дзе часта не ставала ведання мовы, каб расказаць пра край свайго паходжання. Палітычны ж эмігрант нясе на сабе місію выкрывання таго гвалту, з прычыны якога ён пакінуў Бацькаўшчыну. А дзеля таго, што Бацькаўшчына ў новым свеце, як правіла, была амаль зусім няведамая, інфармаваць пра яе найлягчэй універсальнаю моваю мастацтва. Хопіць хораша раскласці на саматканых дзяружках народныя вышыўкі, паставіць вырабы з саломкі, дрэва, гліны, павесіць на сцяне карту Беларусі, Пагоню, сесці ў нацыянальным касцюме за пражай ці за вырабам паясоў або стаць за сталом у народным строі — і ўвага карэспандэнтаў, фатографаў, тэлерэпарцёраў, а часамі і прынагоднага палітыка, калі ён наведваў фестываль, была забяспечана. Гэта формула, якой дзесяцігоддзямі карысталіся беларусы Амерыкі, Канады, Аўстраліі і іншых краінаў пасялення. Апрача этнічных фестываляў, на якіх фігуравала беларускае народнае мастацтва, у Злучаных Штатах, як і ў іншых краінах пасялення беларусаў, стваралі і ствараюць свае палотны беларускія мастакі-прафесіяналы і мастакі-аматары.

Увага айчынных даследнікаў да ролі мастакоў і ролі народнага мастацтва ў дзейнасці беларусаў далёкага замежжа, упаасобку Злучаных Штатаў, магла б быць большай. З'явілася, праўда, некалькі матэрыялаў у часопісе «Мастацтва». Супрацоўніца часопіса спадарыня Валянціна Трыгубовіч апублікавала нядаўна артыкул пра Алега і Людмілу Махнюкоў, рыхтуе інтэрв'ю з Тамарай Стагановіч. У зборніках «Культура беларускага замежжа» змешчаныя два артыкулы. У першай кнізе Уладзімір Мамонька даў агляд «Праблемы культуры і мастацтва ў «Запісах». Але аўтар нічога не згадвае пра выяўленчае мастацтва (ды ён і не мог шмат сказаць, паколькі ў «Запісах» пра мастацтва пісалася мала). У другім зборніку змешчаны артыкул Людмілы Маленкі «Амерыкан-

скія беларусы і іх жыццё ў мастацтве (па старонках газеты «Беларус»)». Аўтарка грунтоўна азнаёміла чытача з тым, што пісаў «Беларус» пра мастакоў, мастацкія выстаўкі, фестывалі. Трэба згадаць яшчэ артыкул Вячкі Целеша пад загалоўкам «Пётра Міранові́ч і яго культурна-асветная праца ў Латвіі і Амерыцы» ў 5-м томе (1995) «Беларусікі» Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. У ёмістых кнігах Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША» і Леаніда Пранчака «Беларуская Амерыка» беларускаму выяўленчаму мастацтву прысвечана ў першай усяго адна старонка, а ў другой — ніводнай. З менскіх газет пра беларускіх мастакоў у Амерыцы падавалі крыху «Голас Радзімы» і «Звязда». Гэтак, карэспандэнтка «Звязды» Таццяна Антонава, пішучы пра плённую прафесійную дзейнасць Тамары Стагановіч і Ірэны Рагалевіч-Дутко, адзначыла: «Іх творчасць, па сутнасці, нікім не даследаваная, як з'ява вельмі цікавая і арыгінальная... Беларускасць невынішчальная і арганічная ў творчасці кожнай з памянёных мастачак» (Звязда, 9.IV.1993).

Будучым даследчыкам трэба ведаць, што эміграцыйны друк поўны ілюстраваных рэпартажаў пра ўдзел беларусаў у выстаўках ды фестывалях. Аднак усебаковага асэнсавання ролі мастацтва і мастакоў у дзейнасці беларускае эміграцыі на Захадзе яшчэ не было. Былі толькі падыходы да гэтае важнае тэмы. Тут назаву першнаперш грунтоўны агляд Раісы Жук-Грышкевіч пад загалоўкам «Выяўленчае мастацтва ў беларускіх асяродках на Захадзе» (Аўстралія, Бельгія, Канада, Францыя, Зах. Нямеччына, ЗША), апублікаваны па-англійску ў 17-й кнізе «Запісаў» Беларускага інстытута навукі і мастацтва (1983). У канцы артыкула дадзена даволі шырокая бібліяграфія (48 пазіцый), а таксама пералік галоўных выставак ад 1962 да 1976 года. У той жа кнізе «Запісаў» змешчаны таксама артыкул Уладзіміра Шыманца пад загалоўкам «Мастакі з Беларусі: парыжская школа» (пра Марка Шагала, Хаіма Суціна і інш.).

Анатоль Сабалеўскі на беларусаведнай канферэнцыі ў 1994 годзе ў дакладзе «Праблемы вывучэння культуры беларускага замежжа» слушна казаў: «Стварэнне фундаментальных працаў абагульняючага характару па культуры беларусаў, дзе ўсё будзе разглядацца ў непарыўнай

цэласці, у адзінай плыні, і падрыхтоўка асобных даследаванняў па літаратуры, мастацтве, побыце замежных суайчыннікаў — справа будучыні і, спадзяёмся, будучыні недалёкай» (Беларусіка. Мн., 1995. Т. 5. С. 6—7). Выконваючы гэтае велічнае заданне, трэба памятаць пра тую выдатную ролю, якую выканалі і далей выконваюць мастакі і народныя ўмельцы ў пашырэнні па свеце імя Беларусі і ейнай багатае культурнае спадчыны, а таксама ейнага змагання за свабоду і дзяржаўную незалежнасць.

Адным з важных раздзелаў у гісторыі дзейнасці беларускіх мастакоў у Злучаных Штатах сталіся традыцыйныя штогоднія выстаўкі, якія ўжо 23 гады адбываюцца ў горадзе Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрсі, у сакавіку пад угодкі Дня Незалежнасці Беларусі. Выстаўкі гэтыя сталіся выяўленнем вернасці замежных беларусаў ідэалу свабоды краю паходжання і іхнай наважанасці ўзгадоўваць сваё маладое пакаленне ў адпаведным духу, а таксама інфармаваць амерыканскае грамадства пра Беларусь, ейную гісторыю і ейныя праблемы.

Выстаўкі гэтыя складаюцца з экспанатаў ад беларускіх мастакоў (абразы, разьба па дрэве), умельцаў (вышыўка, ткацтва, розныя вырабы), фатографаў (мастацкая фатаграфія), з беларускіх народных вырабаў (дзяружкі, вопратка, вязанне), а таксама з прынагодных экспанатаў, прысланых з Беларусі (былі паказаныя, прыкладам, дзіцячыя выявы чарнобыльскай катастрофы).

З мастакоў у саўтрыверскіх выстаўках у розныя гады бралі ўдзел наступныя 20 асобаў (з іх 11 з фармальнай мастацкай асветай, поўнай або няпоўнай): а. Канстанцін Бандарук, а. Дзмітры Башко, Іда Батэруортс, Лідзія Каліноўская-Даніловіч, Віктар Жаўняровіч, Надзя Кудасава-Запруднік, Таццяна Майсіюк, Алег і Люда Махнюкі, Пётра Міркановіч, Міхась Наўмовіч, Ірэна Рагалевіч-Дутко, Уладзімір Раманоўскі, Галіна Русак, Аляксандр Стагановіч, Тамара Стагановіч-Кольба, Тумаш Ксеня, Зміцер Чайкоўскі, Івонка Шыманец-Сурвіла, Уладзімір Шыманец.

Творчая тэматыка на выстаўленых працах: краявіды (пераважна беларускія), флора і фауна Беларусі, архітэктура, партрэты (у тым ліку беларускія гістарычныя постаці, беларускія тыпы, іконы). Усё пераважна ў рэ-

алістычным стылі, хоць некаторыя мастакі карысталіся метадам стылізацыі, рэдка — абстракту. Тэхніка: алей, акварэль, тэмпера, графіка, літаграфія, лінагравюра, туш, аловак; разьба; дызайн (тэкстыль, плакаты, камерцыйная рэклама).

Каб уявіць сабе змест, настрой і ідэйную скіраванасць саўтрыверскіх выставак (пра якія рыхтуецца да друку альбом), падам некаторыя словы саміх мастакоў або выказванні пра іх.

**Бандарук Канстанцін (ЗША)**

«Для беларусаў, абкрадзеных са сваёй гістарычна-культурнай спадчыны, усведамленне багацця сваёй культуры патрэбнае для адраджэння нацыянальнага гонару і паўнавартаснасці. Кожны твор мастацтва, што ствараецца раскіданымі па свеце беларускімі мастакамі, узбагачае скарбніцу нашай нацыянальнай культуры. Мабыць, у нейкім мінімальным сэнсе сціплы плён і маёй працы служыць гэтай высакароднай мэце, бо маючы, прынамсі, нейкі Божы дар, як евангельскі «талент», не цалкам закапаў яго ў зямлю».

**Башко Дзмітрый (ЗША)**

«Якую ролю выконвае мастацтва ў жыцці грамады, нацыі? Магу ўявіць грамадства ці цывілізацыю, ці, урэшце, нацыю без навукі, без дзяржаўнасці, без грошай ці этыкі, скажам, але не магу ўявіць без рэлігіі і мастацтва. Лічу, гэтыя дзве адрозніваюць чалавека ад бязмоўнай істоты. Таму без рэлігіі і мастацтва няма грамады, нацыі — ёсць статак».

**Даніловіч Лідзія (Нямеччына, ЗША)**

Д-р Вітаўт Кіпель пра мастачку, першая выстаўка абразоў якое адбылася ў лагеры для перамешчаных асобаў у Рэгенсбургу ў Заходняй Нямеччыне, напрыканцы 1945 года: «Выстаўка Даніловіч-Каліноўскай зрабіла вялікае ўражанне на беларускіх юнакоў, якія арганізаваліся тады ў свае першыя скаўцкія дружыны».

**Жаўняровіч Віктар (Францыя)**

Уладзімір Шыманец: «У Парыжы ў ваколіцах не было ніводнага беларускага патрыёта, у хаце якога на ганаровым месцы не красаваўся б краявід пэндзля Жаўняровіча, поўны хараства, багацця колераў, незраўнанай

кампазіцыі, а перадусім беларускі не толькі з тэматыкі, але і душы».

Сам мастак: «Рэлігія дала культуру і цывілізацыю, а таксама законы жыцця і працы людзей. Мастацтва дае лучнасць народу. Праз мастацтва мы пазнаём нацыю, дзяржаву, рэлігію і культуру народа. А пазнанне натуры — мэта нашага быту».

**Махнюк Алег (ЗША)**

Валянціна Трыгубовіч: «Пяць іканастасаў у праваслаўных цэрквах Амерыкі зрабіў гэты слынны майстар (чатыры ў беларускіх і адзін — у расейскай). І нароўні з традыцыйным матывам вінаграднай лазы ён па-мастэрску ўводзіць у разьбяны арнамент васілёк — сімвалічную кветку роднага краю» (Мастацтва. № 5. 1996).

Мастак пра сябе: «Калі пачалі будаваць у Саўт-Рыверы царкву св. Еўфрасінні Полацкай, я рабіў праекты, планы; сваімі рукамі выкаваў царкоўны купал, рамкі да іконаў, аналоі, іканастас... Радасна на душы, калі бачыш, што твая праца некаму патрэбная».

**Махнюк Людміла (ЗША)**

«Пасля пабудовы царквы і грамадскага цэнтра ў Саўт-Рыверы пачаліся рэгулярныя мастацкія выстаўкі. Хочаш не хочаш, давялося маляваць новыя абразы кожны год. Змест маіх абразоў — гэта краявіды нашых навакольных амерыканскіх мясцінаў, успаміны з Беларусі, нацюрморты; напісала некалькі іконаў. На мой погляд, мастацтва — гэта душа. Яна перадае гледачу супакой або трывогу, часам радасць, смех, смутак, навейвае ўспаміны пра мінулае, пра далёкую Бацькаўшчыну, ейныя звычаі і легенды, перадае палітычныя і рэлігійныя пачуцці».

**Наўмовіч Міхась (Францыя)**

«Для мяне мастацтва (занятак мастацтвам) дае шмат нервовага напружання, духовы спакой і палёт думак на вышэйшыя шчыты людскіх вартасцяў. Мастацтва заўсёды выконвала і будзе выконваць вялікую ролю ў жыцці кожнага народа і кожнае нацыі. Ды, зрэшты, усё (амаль усё), што перайшло з мінулага ў бліжэйшыя пакаленні, перайшло пераважна ў форме мастацкіх твораў (архітэктуры, разьбы, малюнкаў і рукапісаў), выкананых у камені, дрэве, бронзе ды новых сінтэтычных матэрыялах, а таксама малюнках на дрэве, палатне, камені, як,

прыкладам, у пячорах Альтамура ў Гішпаніі, Ласко ў Францыі ды іншых месцах, што маюць даўнасць 25 000 і больш гадоў. Усе народы, багатыя мастацкімі творамі, пераважна архітэктурай, скульптурай і малюнкамі, маюць большую пашану ў вачах іншых народаў ды чэрпаюць вялікія эканамічныя здабыткі, звязаныя з турыстычным рухам у краіну. Таму трэба вучыць шанаваць мастацкую спадчыну, каб яна ўзбагачалася ды каб асяроддзе мастакоў мацнела і ў нас на Беларусі».

**Рагалевіч-Дутко Ірэна (ЗША)**

Галоўны арганізатар выставак. Афармляе вокладкі выданняў Беларускага інстытута навукі і мастацтва. Брала актыўны ўдзел у праводжанні этнічных фестываляў штата Нью-Джэрсі. Была адказная за мастацкую праграму трох вялікіх беларускіх фестываляў у Штатным мастацкім цэнтры ў Голмдэле (1976, 1977 і 1979 гг.).

Таццяна Антонава: «Зробленыя ёю праспекты, брашуры, каталогі, календары, розную рэкламную прадукцыю вызначаюць высокі прафесіяналізм аўтара, густ, арыгінальнасць» (Звязда. 9.IV.1993).

«Маё зацікаўленне індзейскім мастацтвам было тым большае, што цяжкая доля гэтага народа нагадвае мне гісторыю беларусаў, якіх таксама вынішчалі фізічна і духоўна, але якія прадэманстравалі сваю жывучасць, асабліва відавочную ў мастацтве».

**Русак Галіна (ЗША)**

Спадарыня Русак зацікавілася мастацтвам амерыканскіх індзейцаў пасля прыезду ў гэтую краіну ў 1949 годзе. Яна часта наведвала індзейскія пасяленні, археалагічныя мясціны і музеі. Азнаямленне з сімваламі на гаршках індзейцаў паўднёва-заходняга рэгіёна навяло ейную думку на багатыя традыцыі ейнай уласнай спадчыны. «Раней, — кажа яна, — я ніколі не звязвала гэных традыцый са сваёй мастацкай творчасцю, але пасля азнаямлення з індзейскім мастацтвам я пачала ўжываць матывы і сімволіку з беларускіх легендаў і фальклору ў сваіх творах».

**Стагановіч-Кольба Тамара (ЗША)**

«Прырода мне дае рэлігійнае адчуванне і становіць аснову майго мастацкага захаплення... Я шукаю настрояў у прыродзе. Вобразы ейныя застаюцца ў маёй памяці і адтуль выліваюцца на палотны. Прырода бязмежна бага-

тая на прыгажосць — ад вялікіх панарамаў да маленечкіх дэталяў пялёсткаў і лісткоў, і я шчаслівая быць часткаю прыроды».

**Чайкоўскі Змітра (Нямеччына)**

«Я цікавіўся іканапісам, чытаў адпаведную літаратуру аб іканапісцах, такіх, як Андрэй Рублёў, і інш. У гэтым напрамку я дасягнуў пэўных поспехаў, малюючы людзей з натуры. Я пісаў іконы на Бацькаўшчыне, а таксама на чужыне. Мае іконы можна ўбачыць у Чыкага ў беларускай праваслаўнай царкве, а таксама іканастас у Брукліне. Я быў мастаком-аматарам і займаўся мастацтвам у вольны ад клопатаў час».

**Шыманец-Сурвіла Івонка (Францыя, Канада)**

«Беларускія мастакі, як і беларускія пісьменнікі, выказваюць у сваіх творах больш глыбокую любоў да сваёй краіны, чым гэта робяць мастакі і пісьменнікі ў дачыненні да сваіх краінаў там, дзе мне давялося жыць. Гэта я спасцігла ў беларускіх публікацыях з Бацькаўшчыны. Такое ўражанне пацвердзілася ў 1992 годзе, калі я была ў Менску. Гэта адчуваецца ва ўсім тым, што твораць беларускія мастакі-эмігранты. Да іх належу і я. У сваіх творах я заўсёды старалася выказаць сваю беларускасць, любоў да страчанай краіны. Брала ўдзел у выстаўках, каб уставіць у каталог слова «Беларусь», каб сказаць свету, што Беларусь яшчэ жыве».

Ужо з прыведзеных тут слоў відаць, якія разнастайныя шляхі і зацікаўленні ў беларускіх мастакоў на чужыне, але наколькі падобныя пачуцці ў дачыненні да Беларусі, дзе ляжаць вытокі іхнае творчасці і ідэйных крытэрыяў. Вывучаючы гэтую творчасць, даследчыкі на Бацькаўшчыне ўзбагацяць гісторыю беларускага мастацтва і беларускае дыяспары, пабачаць трываласць духоўных сувязяў паміж беларусамі замежжа ды родным краем, якому ўсе мы павінны служыць сваім талентам і працай.

*Л. Мірачыцкі*

*(г. Мінск)*

## СЫН ЛІТВЫ І БЕЛАРУСІ

Ёсць у мяне край, айчына маіх думак...

*А. Міцкевіч*

У ціхім, даволі рамантычным гарадку Груздждай, што на Шаўляйшчыне, 11 мая 1997 года пачалася жыццёвая дарога Анатоля Тычыны, абаяльнага чалавека, выдатнага творцы-мастака. У мясцовай бажніцы, якая захавалася да нашых дзён і цешыць нас сваёй гатычнай узнёсласцю, яго пахрысцілі. Не споўнілася яму і годзіка, як памёр бацька — Мікалай Фёдаравіч, які служыў пісарам у гміннай управе. Абавязкі выхавання хлопчыка ляглі на плечы маці Марыі Фларыянаўны.

Дзяцінства прыпала на час бурлівых падзей першай расійскай рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, нацыянальна-вызваленчага руху літоўцаў і беларусаў. Цікавасць была да ўсяго. Шмат дзівоснага адкрывалася ў краёвых народных казках. Дапытліваму хлопчыку здавалася, што іх хараство можна было параўнаць хіба толькі з прыгажосцю вясновай майскай раніцы, калі ўзыходзячае сонца вітае жаваранак сваёй пранікнёнай песняй — гімнам, абуджаючы навакольны свет. Ад чараў дзіўных крыніц роднай прыроды і народнага жыцця рука так і цягнулася да алоўка. Узрастала імкненне да кніжных ведаў. Беларускіх чытанак у кнігарнях тады яшчэ не было. Таму цётка Флора Мацкевіч навучыла грамаце па польскіх падручніках. Якое гэта было шчасце ўмець чытаць! Апавяданне Генрыка Сянкевіча «Янка-музыкант» прачытаў самастойна. Яно напаўняла галаву загадкавымі і невясёлымі думкамі. Пасля знаёміўся з баладамі Адама Міцкевіча, якія вярталі да родных вытокаў — краёвых легендаў і паданняў. Сэрца хілілася да свайго. Шмат было радасці, калі пачаў вучыцца ў Вышэйшай пачатковай школе ў Шаўляі.

Тут упершыню пазнаёміўся з асновамі малявання. А ўлетку 1911 года нават пашчасціла прыняць удзел у сельскагаспадарчай выставе Паўночна-Заходняга краю, дзе побач з вядомымі прафесійнымі мастакамі, такімі, як М. Чурлёніс, удалося выставіць свае эцюды, мястэчковыя замалёўкі. Працы Анатоля Тычыны былі заўважаны і адзначаны дыпломам 1-й ступені. Неўзабаве пачалася першая сусветная вайна. Хвалі бежанства закінулі юнака ў глыб Расійскай імперыі. Але і там працягваў вучобу: спярша — у Пензенскім мастацкім вучылішчы (1914—1915), а затым — у Омскай мастацкай школе імя Урубеля (1918—1920). У Омску прыняў удзел у выставе Таварыства мастакоў і аматараў мастацтва (1919).

Этапным перыядам у жыцці мастака стала вяртанне на радзіму бацькоў. З 1922 года Анатоль Тычына жыве і працуе ў Мінску. Сустрэчы і сяброўства з дзеячамі беларускай культуры спрыялі творчай актыўнасці мастака. На першую Усебеларускую мастацкую выставу, якая адбылася ў 1925 годзе ў Мінску, ён прадставіў трыццаць твораў. На іх былі паказаны працоўныя будні работнікаў электрастанцыі, заводаў і фабрык, краявіды Беларусі.

Важнае значэнне для творчага станаўлення мастака мела яго праца ў Інстытуце беларускай культуры на пасадзе сакратара секцыі выяўленчага мастацтва. Тут ён вывучаў гісторыю края і народа, мастацкія традыцыі мінулага, удзельнічаў у этнаграфічных экспедыцыях па зборы народнай творчасці, рабіў замалёўкі ткацтва, вышывак і набоек, распрацоўваў новыя варыянты беларускага арнаменту.

У 20-я гады Анатоль Тычына пачаў працаваць у галіне кніжнай графікі, у якой мела вялікую патрэбу Беларускае дзяржаўнае выдавецтва. Першую сапраўдную радасць мастак адчуў ад творчага супрацоўніцтва з пісьменнікам Янкам Маўрам, калі ілюстраваў яго дзіцячую аповесць «Чалавек ідзе». Цікавым было супрацоўніцтва і з Янкам Купалам. Разам з ім мастак падарожнічаў па Палессі, дзе знаёміўся з побытам сялян, новымі з'явамі ў іх жыцці, народнай творчасцю, прыродай краю. А потым зрабіў малюнкі да яго паэмы «Над ракой Арэсай».

У даваенныя гады Анатоль Мікалаевіч быў вядомы і як выдатны майстра экслібрыса (кніжнага знака). Яго

працы экспанаваліся не толькі ў Беларусі, але і на Міжнароднай выстаўцы кніжнай графікі ў Ляйпцыгу (1927), а затым выйшлі асобным выданнем (1928). Праявіў сябе ён і здольным жывапісцам. Пра гэта яскрава сведчаць творчыя палотны «Агароды», «Квітнеючы сад», якія з поспехам экспанаваліся на тагачасных выставах.

Вялікі ўклад унёс Анатоль Тычына ў стварэнне мастацкага летапісу Мінска. У сваіх каляровых лінагравюрах ён з замілаваннем услазіў маляўнічыя куточкі беларускай сталіцы і цікавыя падзеі з яе гісторыі.

Творы мастака заслужылі шырокае прызнанне беларускай грамадскасці. Апрача рэспубліканскіх, яны экспанаваліся на мастацкіх выставах у Вільні, Коўна, суседніх краінах, а таксама ў Чэхіі, Балгарыі, Румыніі і Венгрыі, Фінляндыі і Канадзе. Таленавіты творца праявіў сябе і ўдумлівым даследчыкам зараджэння і станаўлення кніжнай графікі на беларуска-літоўскіх землях.

Сэрца мастака перастала біцца 22 снежня 1986 года.

Па традыцыі ў майскія дні ля ягонай магілкі збіраюцца родныя і блізкія, прыхільнікі таленту Анатоля Тычыны, каб аддаць даніну павагі, ушанаваць памяць. Часта бывае, што ў такую пару сюды наведваюцца ягоныя землякі з Грузджая. Яны, як правіла, прыязджаюць з парафіяльным святаром, каб адслужыць набажэнства.

На Благавешчанне 1993 года з Грудждая прыйшла вельмі цікавая і прыемная вестка: землякі Анатоля Тычыны з аказіі заканчэння падрыхтоўчых работ для адкрыцця музея-мастацкай галерэі яго імя запрашалі родных і блізкіх, а таксама ўсіх, хто зможа, прыехаць на свята. Яно было праведзена надзвычай цікава і змястоўна. У мясцовай старадаўняй святыні адбылася памінальная імша, якую пры суправаджэнні мясцовага хору і арганнай музыкі правёў ксёндз Вітаўтас Курцінайціс. Пасля імшы ксёндз і ўсе жыхары гарадка, павятовае кіраўніцтва і дэлегацыя з Мінска, на чале з жонкай мастака Зінаідай Сямёнаўнай Тычынай, госці з Шаўляя і другіх мясцін прынялі ўдзел у адкрыцці музея-мастацкай галерэі. У гэты ж дзень на будынку сярэдняй школы (дзе калісьці стаяў дом, у якім нарадзіўся будучы мастак) была адкрыта мемарыяльная табліца ў гонар Анатоля Тычыны.

# ЗМЕСТ